ЗОК-1
9734

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

…КАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ
СЕЛЬСКАЕ І ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР
Т. XIII. АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ Вып. 8.

24772

Г. П. БОНДАР

# АГРАРНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

## У сьвятле поглядаў
## МАРКСА, ЭНГЕЛЬСА і ЛЕНІНА

ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Г. П. БОНДАРЬ
**АГРАРНАЯ РЕВОЛЮЦИЯ**
в свете взглядов Маркса, Энгельса и Ленина

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR

G. P. BONDAR
**THE AGRARIAN REVOLUTION**
under the point of vien of Marks, Engels and Lenin

МЕНСК — MINSK
1929 г.

Ба48466
3ок-1
9734

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ І ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XIII. АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ Вып. 8.

24772

Г. П. БОНДАР

# АГРАРНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

**У сьвятле поглядаў**
**МАРКСА, ЭНГЕЛЬСА і ЛЕНІНА**

Б 3/48466
Бел. аддзел 1994 г.

ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Г. П. БОНДАРЬ
**АГРАРНАЯ РЕВОЛЮЦИЯ**
**в свете взглядов Маркса, Энгельса и Ленина**

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR

G. P. BONDAR
**THE AGRARIAN REVOLUTION**
**under the point of vien of Marks, Engels and Lenin**

МЕНСК — MINSK
1929 г.

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ

## ПРАДМОВА.

Навукова-Дасьледчым Інстытутам замацавана за мною тэма: «Аграрная рэвалюцыя на Беларусі», першай часткай якой і зьяўляецца дадзеная праца. Таму і разглядваць яе трэба як першы, тэарэтычны уступ да усёй тэмы, як грунт для далейшага вывучэньня канкрэтных пытаньняў, аграрнай рэвалюцыі, тады будзе зразумела і тое, чаму тут не дадзены вычэрпваючы аналіз, якога бязумоўна заслугоўвае гэтае пытаньне, асабліва апошні разьдзел, але на што зусім не прэтэндаваў аўтар.

Праца гэта складаецца з чатырох разьдзелаў. У першым разьдзеле высьвятляецца эканамічнае, сацыяльнае і палітычнае становішча сялянства пры капіталізьме і тыя фактары, якія ствараюць умовы неабходнасьці і няўхільнасьці аграрнай рэвалюцыі. У другім разьдзеле разглядваецца сялянства, як рухавая сіла рэвалюцыі і яго ўзаемаадносіны з пралетарыятам на розных гістарычных этапах. Трэці разьдзел паказвае ўсе тыя галоўныя перашкоды, якія тармазілі прагрэс земляробства і супроць якіх у першую чаргу павінны быць накіраваны ўдары аграрнай рэвалюцыі. І ўрэшце у чацьвертым разьдзеле указаны той шлях, па якім павінна пайсьці вёска пасьля пераможнай социяльнай рэвалюцыі.

Тут-жа лічу сваім прыемным абавязкам выказаць глыбокую ўдзячнасьць З. Х. Прышчэпаву, Г. І. Гарэцкаму і Г. В. Айзенбэргу, якія ласкава згадзіліся пачытаць рукапіс працы і зрабілі шэраг каштоўных заўваг.

Г. Б.

# I. Гістарычная неабходнасьць аграрнай рэвалюцыі.

1—Пры капіталізьме разьвіцьцё ў земляробстве ідзе ў тым-жа напрамку, як і ў прамысловасьці.—2—Месца сялянства ў капіталістычнай эканоміцы.—3—Дыфэрэнцыяцыя сялянства.—4—Сялянства, як соцыяльна-эканамічная катэгорыя.—5—Двоістая прырода сялянства.—6—Лёс сялянства пры капіталізьме.

1.

Сельская гаспадарка пры капіталізьме не прадстаўляе сабою такога зьявішча, якое стаяла-б зусім ізалявана ў жыцьці грамады; яе разьвіцьцё цесным чынам зьвязана з усім соцыяльна-эканамічным разьвіцьцём.

У пэрыад фэўдалізму гаспадарка прадстаўляе сабою пераважна земляробскі тып, замкнуты ў межах свайго уладаньня і з натуральным характарам свайго вытвару. Абмен тут яшчэ адсутнічае, альбо разьвіты зусім ў незначнай ступені. Адносіны паміж землеуласьнікамі і сялянамі грунтуюцца выключна на адпрацоўках і іншых натуральных павіннасьцях. Залежнасьць земляробаў ад буйных земляўласьнікаў, якія давалі для апрацоўкі невялікія кавалкі зямлі, выяўлялася у тым, што сяляне плацілі ім аброк, альбо несьлі прыгон на яго гаспадарцы і пры двары.

Будучы натуральнай, гаспадарка абшарніка была ўсё-ж такі рознастайнай, таму што ўсе гаспадарчыя патрэбы павінны былі здавальняцца уласным вытварам, альбо вытварам усяго неабходнага крапаснымі земляробамі. Але тое, што ў гаспадарцы было занята шмат рабочай сілы, дазваляла абшарніку заводзіць унутры сваёй гаспадаркі некаторае разьдзяленьне працы, прымушаючы адных займацца аднэй працай, а другіх другой. Гэткім чынам, ужо у час фэўдалізму, у зьвязку з дыфэрэнцыяцыяй працы значна разьвіваецца рамесьніцтва і хатняя прамысловасьць.

Замкнутая натуральная гаспадарка у сваім далейшым разьвіцьці пераходзіць у гаспадарку, калі вытвар для асабовага ўжываньня замяняецца вытварам на спажыўца. Тэхніка сельскай гаспадаркі разьвіваецца, лік крапасных рамесьнікаў узрастае, спэцыялізацыя працы садзейнічала росту вытворчых сіл, скапленьню лішак у руках абшарнікаў, што ў сваю чаргу прывяло да абмену.

Урэшце, пры далейшым разьвіцьці, вытвар для абмену і збыту набывае агульны характар, гаспадарка робіцца таварнай, захоплiваючы як абшарніка, так і рамесьніка і селяніна. Калі абмен адбываўся непасрэдна паміж сялянамі і рамесьнікамі, гэта быў абмен тавару на тавар. Аднак абмен для ўласных патрэб зьмяняецца купляй з мэтай перапрадажы і на гэтай ступені грамадзкага разьвіцьця, у якасьці прылады абмену зьяўляюцца грошы—гэта мерка грамадзкай вартасьці.

З зьяўленьнем грошаў хутчэй пачаў ісьці процэс разлажэньня фэўдальнай грамады. Бо грошы служаць тут ужо ня толькі прыладай, ня

толькі сродкам для абмену, але і для накапленьня. Сялянская гаспадарка павінна ўжо плаціць аброк не ў натуральнай а ў грашовай форме, і таму ўсё большую колькасьць сваіх прадуктаў павінна выносіць на рынак і тым самым уцягвацца ў сфэру таварных рыначных адносін. «Раней сялянская сям'я сама выробляла і перапрацоўвала сродкі існаваньня і сырыя матэрыялы, якія па большай частцы сама і спажывала. Гэтыя сырыя матэрыялы і сродкі існаваньня абвярнуліся зараз у тавары». [1]

Гэткім чынам, у працэсе свайго разьвіцьця, феўдальная замкнутая гаспадарка з натуральнай робіцца таварнай, рынак пашыраецца з мясцовага да сусьветнага, ідзе зьбіраньне капіталаў у руках гандляроў, гаспадарчы цэнтр пераносіцца з вёскі ў горад, сялянства прымушана плаціць усё больш і больш грашовы аброк, губляючы сваю самастойнасьць, падпарадкоўваецца, як і абшарнік, новым утвораным адносінам на капіталістычным грунце.

Абшарнік, па-колькі ужо адсутнічае прыгон у сваім імкненьні вырабіць больш сродак спажыцьця і тавараў на рынак, натыкаецца на недастатковую колькасьць вольных рабочых рук і часта на абмяжаванасьць зямлі. Гэта з аднаго боку выклікае патрэбу ў пашырэньні абшарніцкай зямлі за кошт сялянскай, шляхам скарыстаньня непадзеленай часткі абшчынных зямель, альбо шляхам высяленьня сялян, з другога боку абшарнік павялічвае эксплёатацыю так ці інакш залежных яму сялян. Наогул разьвіцьцё таварнасьці нясе з сабою самыя рознастайныя тэндэнцыі ў сельскую гаспадарку, яна цалкам становіцца на шлях капіталістычнага разьвіцьця.

«Экономіка абшарніцкай гаспадаркі, паколькі яна вядзецца не адпрацоўкамі, не прымусам надзельнага селяніна, паказвае з поўнай яснасьцю капіталістычныя рысы. Экономіка сялянскай гаспадаркі паказвае нам ізноў-такі скрозь і ўсюды чыста капіталістычныя рысы. Рост гандлёвага земляробства ідзе ў Расіі бязупынна, ня гледзячы на ўсе перашкоды, і гэта гандлёвае земляробства няўхільна ператвараецца ў капіталістычнае, хаця формы гэтага ператварэньня рознастайны і перайначваюцца па асобных раёнах». [2]

Разьвіцьцё гандлю уцягнула натуральную гаспадарку вёскі у рэчышча агульна-эканамічнага разьвіцьця і рабіла ўплыў на зьмены вытворчых адносін у сельскай гаспадарцы. Заняпад фэўдалізму быў падрыхтаваны, гэткім чынам ня толькі зьменай эканамічных адносін у горадзе, але і зьменай іх у вёсцы, дзе таксама сказалася рэвалюцыянізуючая роля капіталізму.

Чым больш сельская гаспадарка уцягваецца ў рыначны зварот, чым больш павялічваецца яе таварнасьць, тым менш яна магла заставацца на ранейшай ступені непасрэднай прадажы сваіх вырабаў вытворцам спажыўцу, тым самым яна становіцца на шлях капіталістычнага разьвіцьця. «Калі гавораць, што земляробства, у моц яго асаблівасьцяў, не падпарадкоўваюцца законам капіталістычнага разьвіцьця, дык гэта зусім няправільна. Асаблівасьці земляробства тармазяць падпарадкаваньне земляробства рынку гэта так; але тым ня менш усюды і ва ўсіх краінах ідзе бязупынна процэс росту гандлёвага земляробства». [3]

Пры значнай адлегласьці ад рынку паміж спажыўцом і вытворцам становіцца пасярэднік-гандляр, які лепш сочыць за рынкам, ён да некаторай стопні кіруе ім і карыстаецца гэтым для эксплёатацыі

[1] Маркс, Капітал, т. I, стар. 740.
[2] Ленин, т. IX, стр. 656. Аграрны вопрос в России к концу XIX века.
[3] Ленин, т. IX, стр. 653.

вытворцаў. У неўраджайныя гады, пры невялікіх грашовых прыбытках селяніну нехапае сродкаў для здавальненьня яго патрэб, яму нічога больш не застаецца рабіць, як атрымаць крэдыт праз залажэньне сваёй зямлі. Ён пападае у новую залежнасьць, пачынаецца самая горшая эксплёатацыя ліхвярным капіталам, ад якога ён можа звольніцца толькі з вялікімі цяжкасьцямі. Канчаецца гэта звычайна прадажай, альбо залажэньнем яго зямельнага вучастку. Да таго, чаго ў былыя часы не маглі зрабіць неўраджай, пажар і войны, да гэтага вядзе пры капіталізьме рынак і крызісы. Яны прыносяць з сабой для селяніна ня толькі недастачу, але могуць узяць у яго апошнюю крыніцу яго існаваньня—зямлю, зрабіць з яго пролетара. Маркс у «Капітале» разьбіраючы перагварэньні фэўдальнага вытвару у вытвар капіталістычны даказаў, што ў аснове гэтага працэсу ляжыць аддзяленьне вытворцы ад сродкаў вытвару, і што: «экспропрыацыя зямлі ў народных мас служыць грунтам капіталістычнага спосабу вытвару».[1] Гэтак прыходзіць канец незалежнасьці селяніна пры разьвіцьці капіталістычнага рынку і прамысловасьці.

«Капіталістычная прамысловасьць настолькі магутна, што яна хутка выцясьняе сялянскую хатнюю вытворчасьць для ўласнага спажыцьця і толькі капіталістычная сыстэма зносін з яе жалезнымі дарогамі, поштай і газэтамі заносіць разуменьні і прадукты гораду ў самыя глухія куткі краіны і ўводзіць, такім чынам, у працэсе капіталістычнага разьвіцьця ня толькі прыгараднае, але і ўсё наогул вясковае насельніцтва».[2]

У інтарэсах рэвізіяністаў і эсэраў было сьцьвярджаць, што капіталістычнае разьвіцьцё ня мае ніякага датычэньня да вёскі, да сельскае гаспадаркі. Разьвіцьцё ў сельскай гаспадарцы ідзе нібы-та сваім асобным шляхам не падобным да разьвіцьця прамысловасьці і не супадае з разьвіцьцём капіталізму.

Да гэтай плыні належаць самыя розныя тыпы буржуазных і дробна буржуазных вучоных. Начале іх стаялі гэткія вучоныя, як Бэрнштэйн, Давід, Гэрц, а ў Расіі—Каблукоў, Булгакоў, Кауфман і цэлы шэраг іншых тэорэтыкаў.

Асноўнымі палажэньнямі гэтага кірунку былі наступныя. Па-першае, сьцьвярджэньне, што дробная гаспадарка ў вёсцы мае усе перавагі над буйнай, дзякуючы чаму, з аднаго боку, ня могуць адбывацца тыя працэсы концэнтрацыі капіталаў, якія мы маем у прамысловасьці, а з другога боку ня можа адбывацца ўтварэньне мас сельскагаспадарчага пролетарыяту і паглыбленьне клясавых супярэчнасьцяў. Гэты кірунак адмаўляў працэс дыфэрэнцыяцыі сярод сялянства і сьцьвярджаў, што існуе асобны закон у сельскай гаспадарцы, так. зв. закон зьмяншэньня пладлівасьці глебы, які не дае магчымасьці капіталізму разьвівацца ў сельскай гаспадарцы.

Да гэтага кірунку адносяцца і прадстаўнікі праца-спажывецкай тэорыі, як Макараў, Чаянаў, Чэлінцаў і інш., якія адрываліся ад усіх сацыяльна-эканамічных зьявішч, выкліканых капіталізмам і замест спроб ахапіць вучэньнем аб організацыі поўкапіталістычных і капіталістычных гаспадарак, растучай верхавіны вёскі, якія набывалі значную вагу ў дарэвалюцыйнай гаспадарцы і разгледжаньне значнай часткі бедняцкіх гаспадарак, як соцыяльна-эканамічнага зьявішча, абумоўленага разлажэньнем сялянства на вясковую буржуазію і пролетарыят, замест усяго гэтага, яны паставілі сабе задачу па за ўся-

[1] Маркс. Капитал. т. I., стр. 761.
[2] Каутский, Аграрный вопрос, стр. 5.

кімі ўмовамі, якія вызначалі разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі дарэвалюцыйнай Расіі, утварыць такую тэорыю, якая-б дазваляла разглядваць організацыю сялянскай гаспадаркі праз прызму старых народніцкіх ідэолёгічных настрояў. Тады як самі народнікі ня бачылі працэсаў капіталізацыі вёскі і іх не разумелі. «Памылка ўсіх народнікаў выяўляецца у тым, што абмяжоўваючыся вузкім кругавідам дробнага гаспадара, яны ня бачаць буржуазнасьці тых грамадзкіх адносін, у якія ўступае селянін з ланцугоў крапацтва».[1] У Расіі гэты напрамак, як вядома зьяўляўся тэорэтычным грунтам дзеля партыі соцыял-рэвалюцыянэраў.

Марксызм сьцьвярджаў адваротнае. Ён указваў, што ў вёсцы таксама, як і ў горадзе адбываецца разьвіцьцё капіталізму з усімі выходзячымі з гэтага разьвіцьця вынікамі. Марксызм, вядома не адмаўляў асаблівасьцяў у характары разьвіцьця капіталізму ў вёсцы. «Бязумоўна,—і гэта мы лічым загадзя даказаным,—піша Каўцкі,— сельская гаспадарка не разьвіваецца па таму самаму шаблёну, як індустрыя. Яна ідзе уласнымі законамі. Але гэтым яшчэ зусім не сказана, што разьвіцьцё сельскай гаспадаркі прадстаўляе з сябе працівалегласьць разьвіцьцю індустрыі і не сумясьціма з ім. Наадварот, мы спадзяёмся даказаць, што абодвы яны ідуць да аднэй мэты. Ня трэба толькі ізаляваць іх адзін ад аднаго, а неабходна разглядваць як неразлучныя часткі аднаго і таго-ж працэсу».[2] Даказваючы і сьцьвярджаючы прымянімасьць агульных законаў капіталістычнага разьвіцьця вёскі, марксысты ніколі не адмаўлялі асаблівасьцяў уласьцівых сельскай гаспадарцы і ніколі не прапанавалі трафарэтным шляхам пераносіць і ўжываць законы разьвіцьця прамсыловасьці да сельскай гаспадаркі. Асаблівасьці сельскай гаспадаркі ў галіне тэхнікі, у галіне эканамічных узаемаадносін і ў галіне агульна-палітычнай барацьбы марксыстымі прынімаліся пад увагу, але гэта, аднак, не зачыняла і не захоўвала ад іх асноўных працэсаў разьвіцьця вёскі зьвязаных з рухам капіталізму.

Марксыцкі кірунак указваў, што разьвіцьцё капіталізму ў вёсцы прыводзіць да перамогі буйнай гаспадаркі з ростам у ёй нязьменнага капіталу параўнаўча шпарчэй чым зьменнага; што ў сельскай гаспадарцы ідзе рост наёмнай рабочай сілы; што законы таваразвароту у вёсцы тыя-ж самыя, што і ў горадзе. На грунце разьвіцьця капіталізму у вёсцы ідзе і клясавая барацьба і такім чынам сельская гаспадарка па сутнасьці ідзе тым-жа шляхам, што і горад і няўхільнасьць зьмены капіталізма соцыялізмам для вёскі дыктуецца тымі-ж самымі законамі і працівалегласьцямі капіталізму, што і ў горадзе.

Усе тыя асаблівасьці, на якія спасылаецца дробна-буржуазны кірунак, зьяўляюцца альбо рэшткамі фэўдалізму, альбо ілюзіямі за якія хаваецца буржуазная думка перад пагрозай соцыяльнай рэвалюцыі. Іх павярхоўныя, ненавуковыя падсумаваньні аднабока узятых фактаў бяз сувязі з капіталістычнай сыстэмай заклікалі селяніна і штурхалі яго на пункт погляду буржуазіі, замест таго, каб накіроўваць яго на пункт погляду рэвалюцыйнага пролетарыяту. «Тэорыя некапіталістычнай эвалюцыі земляробства у капіталістычнай грамадзе ёсьць па сутнасьці тэорыя значнай большасьці буржуазных прафэсараў, буржуазных дэмакратаў і опортуністых у рабочым руху усяго

---

[1] Ленін, том IX, стр. 441. Аграрная программа соц.-демократии в русской революции 1905—1907 годов.

[2] Каутский, Аграрный вопрос, стр. 3.

сьвету,—інакш навейшай рознавіднасьці тых-жа буржуазных дэмакратаў». [1]

Калі мы паглядзім на аграрную эвалюцыю Расіі ў другой палове XIX стагодзьдзя, дык мы убачым нясупыннае наступленьне капіталу ў сельскую гаспадарку, разьвіцьцё таварнасьці і концэнтрацыю земляробства. «Што такое наша «Вялікая» рэформа, адрэзка зямлі ў сялян, перасяленьне сялян на «пясочкі», увядзеньне пры дапамозе вайсковай сілы, расстрэлаў і экзекуцый новых зямельных распарадкаў. Гэта—першы масавы гвалт над сялянствам у інтарэсах нараджэньня капіталізму ў земляробстве. Гэта—абшарніцкая чыстка зямель для капіталізму. Што такое сталыпенскае аграрнае заканадаўства па 87 артыкулу, гэта дазвол заахвочваньня рабунку абшчын кулакамі, гэта ломка старых пазямельных адносін на карысьць горсткі заможных гаспадароў цаною хуткага разарэньня масы. Гэта другі буйны крок масавага гвалту над сялянствам у інтарэсах капіталізму. Гэта другая абшарніцкая «чыстка зямель» для капіталізму. А што такое працоўная нацыяналізацыя зямлі ў рускай рэвалюцыі. Гэта сялянская «чыстка зямель» для капіталізму». [2]

Буржуазныя эканамісты і статыстыкі прыводзілі доўгія разважаньні аб неаднальковасьці разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прамысловасьці і аб асаблівасьцях разьвіцьця першай. Але Маркс у «Капітале» указаў, што капіталізм застаў шмат розных форм землеуладаньня: феадальная, абшчынная, дзяржаўная і іншыя, і ўсе іх падпарадкаваў сабе іператварыў на свой лад усе гэтыя формы. «Тая форма зямельнай уласнасьці, якую знаходзіць зараджаючы капіталістычны спосаб вытвару, ня ёсьць адпавядаючая яму форма. Толькі ён сам утварае адпаведную яму форму, падпарадкуючы земляробства капіталу; дзякуючы чаму і фэўдальная зямельная ўласнасьць, і ўласнасьць клана, дробная сялянская ўласнасьць з пазямельнай абшчынай, як ні розны іх юрыдычныя формы, ператвараецца ў адпаведную гэтаму спосабу вытвару эканамічную форму». [3] «Капіталізм падпарадкоўваючы сабе і абшчынна-надзельнае земляўладаньне у Расіі і захватнае альбо рэгуляванае вольнай і даравой раздачай зямлі ў землеўладаньне у дэмакратычнай і крапацкай дзяржаве Сібіры альбо «далёкага захаду» Амэрыкі і паднявольнае земляўладаньне амэрыканскага поўдню, і паўфэўдальнае землеўладаньне «ісьціна-рускіх» губерняў. Працэс росту і перамогі капіталізму ва ўсіх гэтых выпадках аднальковы, але не ў аднальковай форме». [4]

Рух капіталізму і яго законы праяўляліся на ўсім разьвіцьці сельскай гаспадаркі і вызначылі соцыяльныя адносіны ў вёсцы. Разьвіцьцё гандлёвых адносін у вёсцы, зьмены характару вытворчасьці на агульна-капіталістычным грунце, разьвіцьцё эканамічных узаемаадносін паміж горадам і вёскай,—усё гэта адбываецца на агульна-капіталістычных асновах. Законы концэнтрацыі ў галіне вытворчасьці і абмену адбіваліся ў поўнай меры і прыводзілі да концэнтрацыі зямельнай уласнасьці у руках буйных зямельных уласьнікаў і буржуазнага сялянства з аднаго боку, а з другога боку—абеззямельваньне масы беднага сялянства. Разьвіцьцё сельска-гаспадарчай вытворчасьці на капіталістычным грунце прыводзіла да павялічэньня наёмнай рабочай сілы, гэтай найбольш паказальнай адзнакі капіталізацыі

[1] Ленін, т. IX, стр. 186. Новые данные о законах развития капитализа в земледелии.
[2] Ленин, т. IX, стр. 474—475.
[3] Маркс, „Капитал", т. III, ч. II, стр. 157.
[4] Ленин, т. IX, стр. 222. Новые данные о законах развития капитализма в земледелии.

[library stamp]

вёскі. Разьвіцьцё сельска-гаспадарчай вытворчасьці ішло разам з разьвіцьцём сельска-гаспадарчай тэхнікі, а значыцца і з машынізацыяй сельскай гаспадаркі.

Працэс гэты зьвязан з пераходам ад паншчыннай сыстэмы да вольнанаемнай. Зруйнаванае сялянства, бяз коняў і інвэнтару прымушае абшарнікаў замест ранейшых адпрацовак сялянскім інвэнтаром цягавай сілай пераходзіць да работы сваімі прыладамі і машынамі. Адсюль рост і пашырэньне машын у сельскай гаспадарцы, рост вытворчасьці працы, што ў сваю чаргу вядзе да чыста-капіталістычных вытворчых адносін у вёсцы. «У сельскай гаспадарцы капіталістычных краін узятых у агульным і цэлым, мы бачым зьмяншэньне—*V* і павялічэньня *С*. Вясковае насельніцтва і лік сельска-гаспадарчых рабочых зьмяншаецца ва ўсіх краінах, між тым як лік машын, ужываемых у сельскай гаспадарцы, расьце. У агульным і цэлым у адносінах да сучасных капіталістычных краін гісторыя падцьвердзіла прымянімасьць закона Маркса да земляробства». [1]

Зьвярнуўшыся да лічбовых дадзеных, якія характарызуюць эканамічнае і соцыяльнае становішча вёскі ў капіталістычных краінах у сучаснасьці мы ўбачым поўнае падмацаваньне вышэйпададзеных палажэньняў.

Ня гледзячы на тое, што абшарніцкія гаспадаркі складаюць у колькасных адносінах парўнаўча нязначны процант да проценту усіх сельскіх гаспадарак Эўропы і Амэрыкі (0,3 да 3 проц.), тым ня менш абшарнікі сканцэнтравалі ў сваіх руках вялізарныя зямельныя плошчы. Так у Францыі абшарніцкія гаспадаркі складаюць усяго 0,6 проценту ад агульнага ліку гаспадарак, альбо 19 тысяч з 5,5 мільёнаў гаспадарак—тым ня менш уладаюць 16 мільёнамі гэктараў, альбо 27 проц. усёй зямельнай тэрыторыі. У Англіі амаль уся зямля належыць лэндлёрдамі, якія жывуць здаючы яе ў арэнду. Па статыстыцы 1920 году 418 тысяч уладаньняў знаходзіліся ў арэндзе і толькі 50 тысяч вяліся самімі гаспадарамі-уласьнікамі. У Нямеччыне ў сучасных межах абшарнікі ўладаюць 26,5 проц. усёй зямлі. У Польшчы буйныя землеўласьнікі уладаюць 40 проц. усёй зямлі. У Румыніі абшарнікі ўладаюць 30,2 проц. усёй зямлі. [2] Вось якая концэнтрацыя зямельнай уласнасьці мае мейсца быць зараз у галоўнейшых капіталістычных краінах.

Возьмем такую «ідэальную краіну» з пункту погляду ворагаў марксызму ў аграрным пытаньні, як Данія, і там мы ўбачым, што: «Маса дробных гаспадарак, як і ў іншых эўропэйскіх краінах, грае незначную ролю ў агульнай суме сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Агульны лік гаспадарак з колькасьцю зямлі да 10 гэктараў складаў у 1895 годзе 72,2 проц. усяго ліку гаспадарак, зямлі-ж у іх толькі 11, 2 проц.». Дадзеныя аб жывёле, гэтай галоўнейшай галіне гаспадаркі Даніі, яшчэ больш яскрава сьведчаць аб концэнтрацыі ў земляробсьцьве. «Буйныя капіталістычныя гаспадары, якія маюць звыш 40 га зямлі, складаюць усяго 10 частку агульнага ліку гаспадароў (10,7 проц.), канцэнтрыруя ў той жа час звыш т р о х п я т ы х усёй зямлі (62,6 проц.), і амаль палову усёй жывёлы: 45,6 проц. усяго ліку коняў, 48,4 проц. усяго ліку рагатага быдла, 32,7 проц. усяго ліку авец, 44,6 проц. усяго ліку сьвіней. Калі дадаць да гэтых капіталістычных гаспадароў заможнае сялянства, г. зн. уладароў 10—40 га зямлі, дык атрымаем нямнога больш чвэрткі агульнага ліку гаспадароў

[1] Ленин, т. IX, стр. 2—3. Аграрный вопрос и марксизм.
[2] Лічбовыя дадзеныя ўзяты з штогоднікаў Камінтэрну за 1922—1923 гады.

(27 проц.), якія сконцэнтравалі дзевяць дзесятых усёй зямлі, тры чвэрткі усіх коняў, чатыры пятых усёй сумы рагатай жывёлы, сем дзесятых усяго ліку сьвіней і амаль палову усёй колькасьці хатніх птушак. Вялікая маса «вясковых гаспадароў», амаль тры чвэрткі (73 проц.) уладае менш чым па дзесяць га зямлі, складаючы ў агульным і цэлым пралетарызаваную і паўпралетарызваную масу, і адыгрывае нязначную ролю у агульнай суме земляробскай і жывёлаводнай гаспадаркі усёй краіны». [1]

Лічбы, якія прыводзіць Ленін, адносяцца да мінулага стагодзьдзя, але паглядзім, што прадстаўляе Данія ў нашы часы. Возьмем падзел зямлі паміж рознымі групамі для 1927 году і мы ўбачым, што бядняцкія гаспадаркі ад 0,5 гэктара, да 3 складаюць 21,3 проціанта ад усіх гаспадарак, а пасеўнай плошчы ў іх карыстаньні толькі 2,5 проц. Серадняцкія гаспадаркі ад 3 га да 9 складаюць 31,7 проц. ад усіх гаспадарак, а зямлі маюць 12,1 проц. Узятыя дзьве гэтыя групы разам па ліку гаспадарак займаюць 53 проц. ад усіх гаспадарак, а зямлі ў іх толькі 14,6 проц. Кулацкія гаспадаркі ад 9 да 27 га складаюць 33,4 проц. і ўладаюць 38,5 проц. усей с.-г. плошчы. Абшарніцкія гаспадаркі займаюць толькі 13,6 проц. ад усіх гаспадарак, затое зямлі ім належыць 46,9 процантаў. Як бачым у Даніі абшарнікі і кулакі сканцэнтроўвалі ў сваіх руках амаль $^9/_{10}$ усёй зямельнай тэрыторыі.

Такім чынам, асноўныя тэндэнцыі капіталізму, а іменна: концэнтрацыя ў галіне вытворчасьці і абмену, наёмная праца, выцясненьне дробнага вытвару буйным, таварнасьць і інш. характэрны ня толькі прамысловасьці ў цесным разуменьні гэтага слова, але і для сельскай гаспадаркі.

Трэба толькі адзначыць, што хуткасьць і размах гэтых тэндэнцый тут і там неаднолькавыя. У прамысловасьці тэмп тэхнічнага прагрэсу і концэнтрацыі значна хутчэйшы, чым у сельскай гаспадарцы. Для гэтага існуюць прычыны як тэхнічнага характару, гэтак і грамадзкага. Сельская гаспадарка залежыць ад пагоды, ад сэзоннага характару працы і ад стыхійных выпадкаў. Некаторае значэньне мае яшчэ і тое, што прагрэс сельска-гаспадарчай тэхнікі праяўляецца часта не ў самой сельскай гаспадарцы, а ў індустрыі, так напрыклад трактары і іншыя складаныя машыны зьяўляюцца прадуктам індустрыі.

Але калі па якіх-небудзь прычынах у земляробсьцьве ня ідзе дастатковае разьвіцьцё прадукцыйнасьці працы, калі гэты тэмп ідзе больш марудна, чым у прамысловасьці, дык з гэтага зусім няможна зрабіць вываду, што сельская гаспадарка разьвіваецца па асобных законах, што яна знаходзіцца па-за уплывам капіталістычных адносін, што яе разьвіцьцё павінна ісьці ў працівалеглым напрамку і што ўрэшце тэндэнцыя разьвіцьця грамадзкіх вытворчых сіл не распаўсюджваецца на сельскую гаспадарку.

У сапраўднасьці гаспадарчае разьвіцьцё капіталістычнай грамады адбывалася такім чынам, што калі ў якой-небудзь галіне сельскай гаспадаркі прадукцыйнасьць працы у значнай ступені павялічвалася, як гэта галіна земляробства адразу аддзялялася і рабілася самастойнай галіной прамысловасьці. Аказваецца, што сельская гаспадарка нібы-та не эвалюцыянізуе, хаця прадукцыйнасьць працы у нацыянальнай гаспадарцы павялічваецца, але павялічваецца ўжо у галінах прамысловасьці, якія вылучыліся і адпалі ад земляробства. Той, хто сьцьвярджае, што капіталізм не пранікае ў сфэру сельскай гаспадаркі, проста няхочыць зразумець і лічыцца з тым, што розныя галіны прамысло-

[1] Ленин, т. IX стр. 173.

васьці, якія раней складалі адно суцэльнае з земляробствам, зараз аддзяляюцца ад яго, адыходзяць з вёскі набываючы паступова капіталістычную форму.

Гісторыя разьвіцьця народнае гаспадаркі ў пэрыяд найбольш інтэнсіўнага росту вытворчых сіл грамады зьяўляецца гісторыяй разлажэньня сельскай гаспадаркі і аддзяленьня ад яе розных галін прамысловасьці. Яшчэ недалёк той час, калі жалезных дарог ня было і калі ня толькі дастаўка прадуктаў сельскай гаспадаркі на рынак, але і продаж хлеба былі неабходнай функцыяй сельскай гаспадаркі. «Капіталістычны спосаб вытвару даваршае разрыў таго першапачатковага сямейнага саюзу земляробства і прамысловасьці, які злучаў друг з другам юнацкі-неразьвітыя формы абодвух. Але ён утварае ў той-жа час матэрыяльныя прадпасылкі новага, вышэйшага сынтэзу,—саюзу земляробства і прамысловасьці на аснове іх антогоністычна разьвітых форм. Капіталістычны вытвар увесь час павялічвае перавагу гарадзкога насельніцтва, якое ён згрупоўвае ў буйных цэнтрах, накапляючы тым самым сілу гістарычнага руху грамады». [1] Аддзяленьне і адыход прамысловасьці ад земляробства зьяўляецца ўмовай у той жа час вынікам разьвіцьця капіталістычных адносін. Капіталізм руйнуе стары спосаб вытвару і выробляе новы, які адпавядае фактарам, які ён з сабой нясе. Капіталістычная гаспадарка ставіць сваёй задачай не атрыманьне найбольшай колькасьці прадуктаў, а атрыманьне найбольшага прыбытку на ўложаны капітал, хаця гэтая задача ня можа быць выканана, калі выраблямыя гаспадаркай прадукты ня будуць здавальняць якой-небудзь грамадзкай запатрабаванасьці.

Пасьля сказанага, можна прывесьці тыя вывады, якія зрабіў Ленін, дасьледуючы найноўшыя дадзеныя адносна разьвіцьця сельскай гаспадаркі Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі.—«Агульныя законы разьвіцьця капіталізму у земляробстве,—кажа ён,—і рознастайнасьць форм праяўленьня гэтых законаў усяго лепш вывучаць на прыкладзе Злучаных Штатаў. І гэткае вывучэньне прыводзіць да вываду, якія можна падсумаваць у наступных кароткіх палажэньнях. Ручная праца непамерна большую мае перавагу у земляробстве над машынай, у параўнаньні з прамысловасьцю. Але машына няўхільна ідзе ўперад, падымаючы тэхніку гаспадаркі, робіць яе больш буйнай, больш капіталістычнай. Машыны ўжываюць у сучасным земляробстве больш капіталістычна.

Галоўная адзнака і паказальнік капіталізма у земляробсьцьве—наёмная праца. Разьвіцьцё наёмнай працы, як і рост ужываньня машын, мы бачым ва ўсіх раёнах краіны, ва ўсіх галінах сельскае гаспадаркі. Рост ліку наёмных рабочых папяраджае рост вясковага і ўсяго насельніцтва краіны. Рост ліку фэрмераў адстае ад росту вясковага насельніцтва. Узмацняюцца і абвастраюцца клясавыя супярэчнасьці. Ідзе ўперад выцясьненьне дробнага вытвару буйным у земляробсьцьве...

Капіталізм расьце ня толькі шляхам прысьпяшэньня разьвіцьця буйных па плошчы гаспадарак у экстэнсіўных раёнах, але і шляхам утварэньня больш буйных па разьмеру вытвару, больш капіталістычных гаспадарак на больш дробных вучастках зямлі ў інтэнсіўных раёнах.

У выніку канцэнтрацыя втывару ў буйных гаспадарках на справе мацней,—выцясьненьне дробнага вытвару на справе ідзе далей і

[1] Маркс, „Капитал", т. I, стр. 485.

глыбей, чым прадстаўляюць звычайныя дадзеныя аб формах рознага разьмеру па плошчы зямлі.

Ідзе ўперад экспрапрыяцыя дробнага земляробства, няўхільна памяншаецца на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў процант уласьнікаў сярод агульнага ліку фэрмераў, якi ў сваю чаргу адстае у сваім разьвіцьці ад росту насельніцтва.

У агульным і цэлым параўнаньне аднародных дадзеных за адзін і той жа час адносна прамысловасьці і земляробства паказвае нам, пры непараўнаўча большай адсталасьці другога, значную аднолькавасьць законаў эвалюцыі, выцясьненьне дробнага вытвару і тут і там». [1]

Вось тыя вывады, якія зрабіў марксызм у пытаньні разьвіцьця капіталізму ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы.

2.

Дарэвалюцыйная гаспадарка абавязна разьвіцьцём сваіх вытворчых сіл капіталізму, пры якім кожны прадпрыемца, дзякуючы канкурэнцыі, павінен усе сваі сілы і сродкі напруджваць да найбольшага павялічэньня прадукцыйнасьці працы.

З перамогай капіталістычнага спосабу вытвару як у горадзе, гэтак і ў вёсцы усё больш павялічваецца прагавітасьць да працы ўладароў дробных прадпрыемстваў і павялічэньня эксплёатацыі мас буйнымі прадпрыемствамі. Аднак ўсё гэта разам вядзе да разьвіцьця вытворчых сіл як ў земляробсьцьве, гэтак і ў прамысловасьці. Ленін наступным чынам характарызуе пераварот, які адбыўся у сельскай гаспадарцы і яе тэхніцы у пэрыад капіталізму. «Рутыннае саматужніцтва забітых патрэбай і задушаных цёмрай сялян абвярнулася у навуковае дапасаваньне агранаміі, капіталізм парушыў векавы застой сельскай гаспадаркі, даў штуршок хуткаму разьвіцьцю вытворчых сіл грамадзкай працы.

Трохпалёўка замянілася пладазьменнай сыстэмай, палепшылася ўтрыманьне жывёлы і апрацоўка глебы, павялічыліся ўраджаі значна разьвілася спэцыялізацыя земляробства, раздзяленьне працы паміж асобнымі гаспадаркамі.

Да-капіталістычная разнастайнасьць зьмянілася ўсёпашыраючай аднастайнасьцю, саправаджэньнем тэхнічнага прагрэсу усіх асобных галін сельскай гаспадаркі.

Утварылася і пачало моцна расьці ўжываньне машын, ужываньне пары, пачынаецца ўжываньне электрычнасьці, якой прыдзецца адыграць яшчэ больш буйную ролю ў гэтай галіне вытвару, чым пары. Разьвілося ўжываньне пад'ездных дарог, мэліарацый, ужываньне штучных угнаеньняў, адпаведна з дадзенымі фізіалёгіі расьлін; пачала ўжывацца сельска-гаспадарчая бактэрыалёгія». З усіх галін народнае гаспадаркі, сельская гаспадарка была раней самай застойлівай, амаль ня рухалася з месца цэлыя стагодзьдзя пры капіталізьме ў некалькі дзесяцігодзьдзяў зрабілася аднэй з рэвалюцыйных галін сучаснага вытвару.

Але ня ўся сельская гаспадарка ішла пасьпяхова па шляху капіталістычнага прагрэсу. Таму, што усе віды капіталістычнай тэхнікі былі даступны толькі буйным гаспадаркам, дробныя-ж сялянскія гаспадаркі ў значнай ступені знаходзіліся па-за яго ўплывам.

Падыходзячы да высьвятленьня пытаньня аб месцы сялянства у капіталістычнай эканоміцы, неабходна адрозьніваць абстрактны

[1] Ленин. т. IX, стр. 259—260.

«чысты» капіталізм ад канкрэтных капіталістычных адносін. Марксызм заўсёды разглядваў людзей, рэчы і адносіны як гістарычныя катэгорыі і ў гэтым яго перавага перад клясычнай палітычнай эканоміяй. Але знайшоўшы сэнс усякага разуменьня, як гістарычнаабумоўленага, марксызм не застанаўліваўся на чыста лёгічным аналізу катэгорыі. Вынікі свайго абстрактнага аналізу ён дапасоўваў да конкрэтных грамадзкіх адносін.

У абстрактным альбо «чыстым» капіталізьме няма месца ніякім іншым соцыяльным групам, акрамя капіталістых і наёмных рабочых. Тут няма месца ні дробнаму селяніну, ні буйнаму земляўласьніку.

«Пры дапушчэньні капіталістычнага спосабу вытвару капіталіст зьяўляецца ня толькі неабходным, але і пануючым агэнтам вытвару. Наадварот, земляроб пры гэтым спосабе вытвару зьяўляецца зусім лішнім... Земляроб, гэты важны агент вытвару у вёсцы у сярэднявяковым сьвеце, у прамысловым сьвеце прадстаўляе сабою безкарысную нарасьць». [1]

Аднак буйны земляроб-абшарнік, калі ў «чыстым» капіталізьме не адыгрывае ніякай ролі, дык у канкрэтным капіталізьме ён выконвае досыць важную функцыю. Ён адрывае непасрэдных вытварцаў сялян ад неабходнай ўмовы іх працы—зямлі. Капіталістычны спосаб вытвару характарызуецца разрывам паміж непасрэдным вытварцам і сродкамі вытвару. Паколькі землеуладар у капіталістычнай грамадзе бярэ на сябе выкананьне гэтае ролі, ён зьяўляецца неабходным зьвяном буржуазнага ладу.

Адбіраючы зямельную ўласнасьць у непасрэднага вытварцы, землеуладар нібы сам увасабляе яе. «Зямельная ўласнасьць нямае ніякага датычэньня да рачаістага працэсу вытвару. Роля яе абмяжоўваецца тым, што яна перамяшчае частку выrабленай дадатковай вартасьці з кішэні капіталіста ў сваю ўласную. Тым ня менш, зямельны уласьнік адыгрывае вядомую ролю у капіталістычным працэсе вытвару, ня толькі дзякуючы таму націску, які ён аказвае на капітал, і ня проста дзякуючы таму, што буйная зямельная ўласнасьць зьяўляецца прадпасылкай і ўмовай капіталістычнага спосабу вытвару, так як яна зьяўляецца прадпасылкай і ўмовай экспропрыяцыі ўмоў працы у рабочых, але, і у асабліваcьці таму, што зямельны уласьнік выступае як пэрсоніфікацыя аднаго з існуючых умоў вытвару». [2]

Буйны землеуласьнік ужываецца ў капіталістычнай сыстэме, дзякуючы таму, што ён выконвае функцыю адрыву непасрэдных вытворцаў ад сродкаў вытвару.

У істотна іншым становішчы знаходзіцца дробны уласьнік—селянін, які ў нэтрах капіталізму існуе як астатак ранейшага спосабу вытвару. Наяўнасьць дробнай сялянскай гаспадаркі паказвае на недастатковае разьвіцьцё капіталізму і капіталістычных адносін. Але гэта зусім не азначае, што сельская гаспадарка не ўваходзіць у ўзаемаадносіны з пануючым капіталістычным сэктарам вытвару. Можа быць грамада, дзе пануе адзін спосаб вытвару, але ён яшчэ не падпарадкаваў сабе цалкам усе іншыя вытворчыя адносіны. Тое-ж самае адбываецца і ў капіталістычнай грамадзе з дробнай сялянскай гаспадаркай. «Тут перад намі выступае асаблівасьць, характэрная для грамады, у якой пануе адзін спосаб вытвару, але яшчэ ня ўсе вытворчыя адносіны канчаткова падпарадкаваны яму. Прыкладам можа служыць фікцыя, якая выяўляецца у тым, што дробны селянін ула-

[1] Маркс, „Теория прыбавочной стоимости“, т. II. стр. 149.
[2] Маркс, „Капитал“, т. III. ч. II. стр. 358.

дае сваёй маемасьцю на ленным праве. Тое-ж самае пры капіталістычным спосабе вытвару незалежны селянін».[1]

Селянін зьяўляецца не капіталістычным, у поўным разуменьні гэтага слова, а дробным вытворцай. Ён хаця і прадае свае сельска-гаспадарчыя прадукты, аднак не мае патрэбы, альбо у малой стопні ўжывае наёмную працу. Ён сам працаўнік і жыве прыбыткам не ад сваёй уласнасьці а ад уласнай працы. Яму патрэбна зямля, як сродак зарабляць сваёй працай пражыцьцё, а не як сродак атрымліваць прыбыль, альбо зямельную рэнту. Ён можа існаваць нават пры тым становішчы, калі выручка за прадукты пакідае яму, за вылікам усіх выдаткаў, заработную плату. Ён можа адмовіцца і ад прыбылі і ад пазямельнай рэнты. «Мяжой эксплёатацыі для парцэлярнага селяніна не зьяўляецца ні сярэдняя прыбыль на капітал, з аднаго боку, паколькі ён сам зьяўляецца дробным капіталістым, ні неабходнасьць рэнты з другога боку, паколькі ён зьяўляецца сам зямельным уласьнікам. Абсалютнай мяжой для яго, як для дробнага капіталіста зьяўляецца толькі заработная плата, якую ён пасьля выліку ўласна-страт уплачвае сам сабе».[2]

Селянін будзе апрацоўваць зямлю і весьці гаспадарку да таго часу пакуль цана прадукта пакрывае заработную плату, прычым разьмер гэтага заработку ён можа зьнізіць да мяжы фізычнага мінімуму. Адсюль для таго, каб дробны селянін мог апрацоўваць сваю зямлю альбо купіць, няма неабходнасьці ў тым, каб рыначная цана сельскагаспадарчага прадукту павысілася на столькі, каб прынесьці яму сяряднюю прыбыль, а тым больш звыш прыбыль у форме рэнты. Гэта адна з прычын, чаму у краінах з перавагай дробнай зямельнай уласнасьці цана хлеба ніжэй, чым у краінах з буйным капіталістычным вытварам. Працуючы пры самых неспрыяючых і дрэнных умовах селянін частку дадатковай працы аддае дарэмна грамадзе і не прыймае ўдзелу ў рэгуляваньні цэн вытвару і ў утварэньні вартасьці наогул. Па гэтаму-ж селянін на ступені простага таварнага вырабу, пры натуральным вядзеньні гаспадаркі, можа плаціць за зямлю даражэй, чым на ступені капіталістычнага вытвару.

Пры капіталізьме селянін мае жаданьне мець кавалак зямлі не таму, што яна яму дасьць зямельную рэнту ці прыбыль і не таму нават, што прыбытак зямлі аплачвае яму прыкладзеную працу, а таму каб забясьпечыць сабе некаторую эканамічную самастойнасьць і незалежнасьць. «Сельская гаспадарка вядзецца тут галоўным чынам з-за непасрэдных сродкаў існаваньня, і таму што зямля прадстаўляе для большасьці насельніцтва неабходнае поля прылажэньня яго працы і капіталу, то рэгулíруючая рыначная цана прадукта толькі пры выключных абставінах дасягае разьмераў яго вартасьці. Вартасьць-жа гэта, таму што перавага прыналежыць элементу жывое працы, будзе, наогул кажучы, вышэй цаны вытвару, хаця гэты лішак вартасьці над цаною вытвару абмяжоўваецца ў сваю чаргу тым, што ў краінах парцэлярнай гаспадаркі і не земляробскі капітал мае нізкі склад».[3] Па гэтаму за свой кавалак зямлі селянін згодзен заплаціць такія грошы, якіх ніколі не даў бы капіталіст, прымушаны плаціць заработную плату і жадаючы атрымаць акрамя таго некаторы прыбытак.

Тут жа варта караценька застанавіцца на пытаньні існаваньня катэгорыі рэнты у дробнай сялянскай сельскай гаспадарцы.

---

[1] Маркс, „Теория прибавочной стоимости“, т. I, стр. 275.
[2] Маркс, „Капитал“, т. III, ч. II, стр. 342.
[3] Маркс, „Капитал“, т. III, ч. II, стр. 342.

На раду з адрозьніваньнем капіталістычнай і дакапіталістычнай формы рэнты—адпрацовачнай, натуральнай і грашовай—Маркс адрозьніваў таксама капіталістычную рэнту ад рэнты, якая атрымліваецца з парцэлярнага сялянскага зямельнага вучастку.

Адпрацовачная натуральная і грашовая формы рэнты выражалі адносіны паміж абшарнікам і крэпаком, былі формамі не капіталістычнай рэнты. Фэўдальная рэнта выражала ня «лішак параўнаўча з сярэдняй прыбыльлю», як капіталістычная рэнта, а была «нормальнай формай дадатковай вартасьці і не аплачанай дадатковай працы, якую прыходзіцца дастаўляць уласьніку ўмоў вытвару».[1] Падобна гэтаму, рэнта з парцэлярнага вучастку не зьяўляецца капіталістычнай рэнтай.

Парцэлярная рэнта ёсьць дадатковая прыбыль, альбо дадатковы прадукт тых сялян, якія карстаюцца лепшымі вучасткамі зямлі. Акрамя таго, асаблівасьць гэтай рэнты яшчэ і у тым, што яна не зьяўляецца адасаблёнай формай дадатковай вартасьці але ідзе ў кішэню самаго селяніна—зямельнага ўласьніка. «Па сутнасьці справы самі вытворцы, сяляне павінны спажываць тут пераважную долю сельска-гаспадарчага прадукту, як непасрэдны сродак існаваньня, і толькі лішак над гэтым можа, як тавар, прымаць удзел у гандлі з гарадамі. Як-бы ні рэгулявалася тут сярэдняя рынчачная цана землябробскага прадукту, дыфэрэнцыяльная рэнта, збыткоўная частка цаны тавараў з лепшых, альбо лепш разьмешчаных зямель, відавочна, павінна існаваць тут таксама, як і пры капіталістычным спосабе вытвару. Нават у тых выпадках, калі гэта форма існуе, пры стане грамады, пры якім яшчэ наогул не разьвілася агульная рынчачная цана, існуе гэта дыфэрэнцыяльная рэнта; тады дыфэрэнцыяльная рэнта выступае ў выглядзе збыткоўнага дадатковага прадукту. Але пападае яна ў кішэню таго селяніна, праца якога рэалізуецца пры больш спрыяючых прыродных умовах».[2]

Што датычыцца абсалютнай рэнты у дробнай сялянскай гаспадарцы, дык: «Прыходзіцца ў агульным прадпалагаць, што абсалютнай рэнты не існуе, і што значыцца найгоршая зямля не прыносіць ніякай рэнты, так як абсалютная рэнта альбо дапушчае, што рэалізуецца лішак вартасьці прадукта над яго цаной вытвару, альбо дапушчае збытковую манапольную цану перавышаючую вартасьць прадукта».[3] Такім чынам сялянская гаспадарка не цалкам падпадае пад уплыў капіталістычных законаў і катэгорыі капіталістычнай прыбылі, цаны вытвару і рэнты ў чыстым выглядзе ня маюць датычэньня да дробнай таварнай гаспадаркі.

Аднак гэтым ня вычэрпваюцца ўзаемаадносіны дробнай сялянскай гаспадаркі з капіталістычным сэктарам вытвару. Калі ўплыў капіталістычных адносін на дробную сельскую гаспадарку выражаецца ў яго падвышаючай таварнасьці, дык і наадварот—дробная таварная гаспадарка робіць уплыў на капіталістычны сэктар. Дробная сельская гаспадарка уступае у таварны абмен не як капіталістычная гаспадарка, а як астатак былога спосабу вытвару, якая прыносіць сюды адносіны, якія супярэчаць капіталістычнаму спосабу вытвару. У гэтым, паміж іншым і захоўваецца сакрэт вядомай здольнасьці канкураваць дробнай гаспадаркі перад буйнай. У зьвязку з тым, што дробны селянін шукае толькі рабочай заработнай платы і не разьлічвае на прыбыль,

[1] Маркс, „Капитал", т. III. ч. II. стр. 334.
[2] Маркс, „Капитал". т. III, ч. II. стр. 341—342.
[3] Маркс, „Капитал", т. III, ч. II. стр. 342.

Бк 48466

можа весьці канкурэнцыю з буйным капіталістычным земляробствам, прадаючы здабытыя ім прадукты па больш нізкіх цэнах.

Іншымі словамі гэта азначае, што дробная сялянская гаспадарка можа перашкаджаць працэсу раўнаваньня нормы прыбылі, гэта значыць можа перашкаджаць выяўленьню ў чыстым выглядзе законаў у капіталістычнай эканоміі. Маркс кажа наступнае аб раўнаваньні нормы прыбылі,—«што гэты працэс раўнаваньня натыкаецца на больш значныя перашкоды, калі разам з капіталістычнымі прадпрыемцамі знаходзяцца і з імі цесна пераплецены шматлікія і вялікія галіны вытвару, якія вядуцца некапіталістычна (напрыклад: земляробства дробных сялян)». [1]

Мажлівасьць існаваньня дробнай сялянскай гаспадаркі, гэтага «барбарскага спосабу вытвару» разам з капіталістычным земляробствам, знаходзіцца ў тым, што селянін «зьбівае цэны» у капіталістычнага прадпрыемцы. Селянін купляе зямлю за больш высокую цану і плаціць больш высокую арэнду, селянін прадае збожжа па больш танных цэнах. Вядома, гэтая барацьба з капіталістымі за сваё існаваньне абыходзіцца не танна дробнаму селяніну. Ня гледзячы на такую вялікую здольнасьць канкураваць дробная сялянская гаспадарка няўхільна пры капіталізьме ідзе да гібелі. «Становішча сялянства зусім безнадзейна, пакуль пануе капіталізм і захаваць іх дробную ўласнасьць, як гэткую, зусім немажліва; капіталістычны буйны вытвар зруйнуе іх застарэўшую дробную гаспадарку з такой-жа лёгкасьцю, з якой цягнік чыгуначнай дарогі зруйнаваў бы іх тачку». [2]

Зусім зразумела, што дробная гаспадарка ня можа выкарыстаць усіх сродкаў сучаснай агранаміі і тэхнікі. Яна можа трымацца толькі дзякуючы напруджанасьці працы селяніна і яго сям'і да апошняй мяжы. Каб гаспадарка ня спынілася, ён павінен бязьмерна працаваць. Іменна таму, што сялянская гаспадарка, разьвіваючы ў сваіх уладароў і іх насьледнікаў вялікую прагавітасьць да працы, гэта дробная гаспадарка і можа таму на некаторы час застацца ў капіталістычнай сыстэме.

У нерацыянальнасьці мэтадаў вядзеньня гаспадаркі ляжыць галоўная прычына гібелі дробнага земляробства. Пры капіталістычным ладу усякая прыватная зямельная ўласнасьць і дробная і буйная зьяўляецца перашкодай да рацыянальнага земляробства. Буйная ўласнасьць абмяжоўвае арандатара не дае магчымасьці ўкладваць у зямлю капіталаў, бо прыбыль усё роўна пойдзе ў кішэню землеўласьніка а не арандатара. Дробная-ж зямельная ўласнасьць проста абмежавана ў сродках і ня можа ўжыць на сваёй гаспадарцы дасягненьняў навукі і тэхнікі. Акрамя гэтага недахоп коняў і інвэнтару робіць немагчымай рацыянальную апрацоўку глебы; недастатковасьць жывёлы і грошаў азначае таксама недахоп угнаеньня. Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ і нехваткі рабочай сілы, таму што чым больш практыкуецца праца за грошы тым менш аддаецца ўвагі сваёй гаспадарцы, тым больш адыходзіць працоўная сіла сям'і на заработкі часта ў час жніва, калі асабліва патрэбны працоўныя рукі ў сваёй гаспадарцы. Апрацоўка ўласнай гаспадаркі ўсё больш пакідаецца на жонку і дзяцей, а старэйшыя ідуць зарабляць.

Маркс у т. III «Капітала» у разьдзеле аб дробнай сялянскай зямельнай уласнасьці пералічвае прычыны, па якіх гэта уласнасьць павінна няўхільна загінуць. Сюды адносяцца: зьнішчэньне вясковай хатняй

---

[1] Маркс, „Капитал", т. III, ч. I. стр. 176.
[2] Энгельс, „Крестьянский вопрос", изд. 1920 г., стр. 39—40.



Б4 48466

прамысловасьці—гэты дадатак і падмога дробнай гаспадаркі; паступовае з году ў год вычарпаньне ураджайнасьці глебы у зьвязку з неатрыманьнем адпаведнага ўгнаеньня і апрацоўкі; экспропрыяцыя абшчыннай зямельнай уласнасьці з яе сенажацямі і выганамі, без чаго немагчыма трымаць жывёлу; канкурэнцыя буйнай гаспадаркі; прагрэс агранамічнай навукі, якая ўжываецца ў буйных гаспадарках, і г. д.

Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць і паступовае драбленьне гаспадарак у зьвязку з ростам насельніцтва, што у сваю чаргу значна перашкаджае рацыяналізаваньню сельска-гаспадарчага вытвару. «У той-жа меры, у якой дробіцца зямля, памяншаецца і яе ўраджайнасьць. Ужываньне машын да апрацоўкі глебы, разьдзяленьне працы, сур'ёзныя спосабы да паляпшэньня зямлі, як, напрыклад, пабудова асушыцельных каналаў і каналаў для арашэньня і інш., становіцца ўсё больш і больш немагчымым, тады як нявытворчыя выдаткі растуць у аднолькавай прапорцыі з раздрабленьнем сродкаў вытвару. І так, у той-жа меры, у якой расьце насельніцтва, а з ім павялічваецца драбленьне зямлі, падымаецца ў цане сродак вытвару—зямля, памяншаецца яе ураджайнасьць, падае земляробства і ўзрастае запазычанасьць селяніна. І тое, што было вынікам, у сваю чаргу становіцца прычынай. Кожнае пакаленьне пакідае пасьля сябе яшчэ большую запазычанасьць; кожнае пакаленьне ўступае у жыцьцё яшчэ пры больш неспрыяючых і больш цяжкіх умовах і калі селяніну ўжо немагчыма рабіць новыя пазыкі пад заклад сваёй парцэлы... дык ён прама пападае ў руку ліхвяра. Так здарылася, што селянін пад выглядам працэнтаў за гіпатэкі, якія ляжаць на зямле, пад выглядам процантаў за запазычанасьць, перадаваў капіталісту ня толькі зямельную рэнту, ня толькі прамысловую прыбыль,—словам, ня толькі ўсю чыстую выручку, але і частку заработнай платы,—і ўсё гэта на тым аснаваньні, што ён прыватны ўласьнік». [1] Іншага ў межах капіталістычнага ладу дробная гаспадарка чакаць ня можа. Акрамя гэтага, ёсьць яшчэ адна важная прычына, якая перашкаджае рацыяналізаваць селяніну сваю гаспадарку, гэта тое, што малазямельны селянін, звычайна прымушаны укладываць свой грашовы капітал не на палепшаньне культуры зямлі, а ў першую чаргу на купляньне самой зямлі. Тады як «затрата капіталу на пакупку зямлі адрывае гэты капітал ад культуры яе». [2]

Па меры разьвіцьця капіталізму і з уцягненьнем сялянскай гаспадаркі ў рыначны зварот, ідзе няўхільнае зьнішчэньне дробнага земляробства, гэтых фэадальных рэштак вытвару, заснаваных на нерацыянальным, барбарскім вядзеньні гаспадаркі.

Дробная гаспадарка выціскаецца буйнай і руйнуецца, а большая частка сялянства пралетарызуецца і падпадае пад эканамічную залежнасьць абшарнікаў і гандлёвага капіталу, і толькі верхавіна вёскі разьвіваецца, пераходзіць у вясковую буржуазію і ў сваю чаргу эксплёатуе астатняе сялянства. Гэткім чынам адбываецца працэс заняпаду і ў рэшце разарэньня дробнай сельскай гаспадаркі пабудаванай на дробнай зямельнай уласнасьці.

Такім парадкам ідзе сельска-гаспадарчая эвалюцыя ўва ўсіх капіталістычных краінах, пры чым тэмп і размах гэтага працэсу быў шпарчэйшым там, дзе магутней разьвіваўся капіталізм. Возьмем напрыклад Англію: у гэтай краіне за параўнаўча кароткі пэрыад бурнага разьвіцьця капіталізму дробная гаспадарка выціснута буйнай, лэндлёрдскай гаспадаркай, якая вядзецца з ужываньнем удаскана-

1) Маркс, „Борьба классов у Франции", стр. 108—109.
2) Маркс, „Капитал", т. III, ч. II, стр. 344.

леных машын і наёмнай працай. Асабліва відавочна працэс капіталізацыі земляробства і перамогу буйнай гаспадаркі мы можым наглядаць у Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі, дзе буйнае фэрмерства у шэрагу раёнаў, у параўнаньні з іншымі краінамі, атрымала найвышэйшае разьвіцьцё і зьяўляецца прыкладам капіталістычнага вядзеньня сельскай гаспадаркі.

Гэта яскрава даказаў Ленін і раіў нам вывучаць агульныя законы разьвіцьця капіталізму ў земляробсьцьве «на прыкладзе Злучаных Штатаў».

У іншых краінах мы можым назіраць той-жа малюнак разьвіцьця сельскай гаспадаркі толькі пры некаторых незначных асаблівасьцях і неаднолькавым тэмпе. У прыватнасьці ў дарэвалюцыйнай Беларусі рост буйнага абшарніцкага землеуладаньня, мобілізацыя зямлі ў руках невялікай гарсткі абшарнікаў, працэс расслаеньня вёскі на вясковую буржуазію з аднаго боку і распад дробных сялянскіх гаспадарак з утварэньнем кадру наёмных рабочых з другога зьяўляецца яскравым прыкладам разьвіцьця капіталізма ў земляробсьцьве і перамогі буйнай прыватна-капіталістычнай гаспадаркі над дробнай сялянскай.

Разарэньне і экспропрыяцыя вясковага насельніцтва, выгнаньне яго з зямлі, выгадна капіталізму і гарадзкой прамысловасьці, таму што гэта павялічвае рэзэрвовую армію рабочых і робіць больш таннай рабочую сілу. З адрывам вясковага насельніцтва ад зямлі скарачаецца і тая галіна вытвару, у якой яны працавалі на сябе. «Такім чынам разам з вызваленьнем вясковага насельніцтва вызваляюцца і яго былыя сродкі існаваньня. Яны ператвараюцца зараз у матэрыяльны элемент зьменнага капіталу. Апынуўшыся паміж небам і зямлёй селянін павінен купіць іх вартасьць у свайго новага пана, прамысловага капіталіста ў форме заработнай платы». [1]

Мы да гэтага часу разглядалі становішча сялянства і яго месца ў капіталістычнай эканоміцы пры ўмове нормальнага разьвіцьця капіталізму, але як вядома капіталізм разьвіваецца нераўнамерна па-першае, а па-другое капіталістычнай сыстэме уласьцівы крызісы і кан'юнктурныя хістаньні, якія значна адбіваюцца на сельскай гаспадарцы і на становішчы селяніна. Сельска-гаспадарчыя крызісы, якія выклікаюцца ростам міжнароднага капіталізму, прыводзяць да зьніжэньня прыбытковасьці і каштоўнасьці зямлі. У гэткіх выпадках капіталісты не зацікаўлены ў тым, каб вырваць зямлю з рук селяніна і самім узяцца за яе скарыстаньне. Капітал у гэтых умовах лепш лічыць пакінуць зямлю у руках дробнага вытворцы, але выцяснуць яго самаго як губку. Экспропрыяцыя селяніна пры гэтых варунках часова затрымліваецца, але залежнасьць яго ад абшарнікаў не зьмяншаецца. Селянін пры гэтым можыць згубіць свае правы уласнасьці на зямлю на карысьць абшарніка, але затое павінен апрацоўваць яе ў якасьці арандатара.

Адсюль як вынік можна сказаць, што хаця і затрымліваецца ў час сельска-гаспадарчых крызісаў, зьнішчэньне дробнага вытворцы-селяніна, у той-жа час залежнасьць яго ад капітала павялічваецца. Акрамя таго, паколькі залежнасьць гэта не непасрэдная, не прамая а ўкосная, пастолькі яна немае таго грамадзка-рэвалюцыйнага значаньня, якое існуе пры прамой залежнасьці. Хаця укосная залежнасьць сялянства ад абшарніка і не так рэвалюцыянізуе іх галавы, але ад гэтага яго эканамічны стан ніколькі не паляпшаецца. «Нават і пакідаючы зямлю у руках селяніна-уласьніка, альбо арандатара—капітал затрымлівае-

[1] Маркс, „Капитал", т. I, стр. 738.

Нацыянальная Бібліятэка Беларусі
Зок 9734-1

мага ім прыбытку, бярэ сабе частку, адпаведную рэньце і прыбылі, астаўляючы вытварцу, сваёй працай утварыўшаму гэты прыбытак, ня больш, а часам нават і менш таго, што адпавядае заработнай плаце. Па гэтаму «самастойны» дробны селянін вельмі часта зьяўляецца гэткім-жа па сутнасьці, але толькі менш сьвядомым, нявольнікам капіталу, як і фабрычны рабочы». [1]

Адноса францускага селяніна Маркс паказываў на гэта яшчэ у пачатку 50-тых гадоў. «Сялянская парцэла,—піша ён,—стала толькі прыклікай якая дае магчымасьць капіталістам забіраць з зямлі прыбыль, проценты і рэнту, ня думаючы нават аб тым, ці застанецца на долю селяніна хаця-б адна заработная плата». [2]

З экспропрыяцыяй зямлі ў непасрэднага вытварцы, з выцясьненьнем дробнай гаспадаркі і з яе заняпадам, усё большая частка працы селяніна шукае свайго скарыстаньня ў іншых мясцох, у іншых галінах народнае гаспадаркі.

Земляробства ўсё больш і больш адыходзіць на задні плян, робіцца пабочным заняткам, а галоўная ўвага накіроўваецца на падсобныя саматужныя працы. Вясковае насельніцтва, галоўным заняткам якога зьяўляецца земляробства, увесь час пры капіталізьме зьмяншаецца, значная частка яго робіцца альбо саматужнікамі, якія пры капіталізьме ідуць няўхільна да заняпаду, альбо наёмнымі рабочымі абшарніка і капіталіста. «Статыстыка ўсяго земляробскага насельніцтва паказвае нам з поўнай відавочнасьцю іменна гэтыя два працэсы пролетарызацыі на якія заўсёды указываў ортадаксальны марксызм і ад якіх гэткімі шаблённымі фразамі імкнуцца адмовіцца апортуністычныя крытыкі,—з аднаго боку, растучае абезьзямельваньне сялянства, экспропрыяцыя сельскага насельніцтва, якое бяжыць у гарады і ператвараецца з рабочых з зямлёй у рабочыя без зямлі,—з дургога боку, разьвіцьцё «дапаможных заработкаў» сялянства, г. ё. таго злучэньня земляробства з прамысловасьцю, якое адзначае першую стопню пролетарызацыі і вядзе заўсёды да большага росту патрэб (павялічэньне працоўнага дню, пашырэньне спажыцьця і інш.)». [3]

Сельская гаспадарка ў ва ўмовах капіталістычнага ладу ідзе і разьвіваецца двумя шляхамі, альбо сялянская гаспадарка накапляе капітал і пераходзіць да эксплёатацыі другіх, больш слабых сялянскіх гаспадарак, альбо ўзмацняецца і імкнецца выцісьніць другія сялянскія гаспадаркі, якія разарыўшыся прымушаны прадаваць сваю рабочую сілу ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці. Разарэньне адных сялянскіх гаспадарак і маруднае рзьвіцьцё другіх абумоўліваецца наступнымі акалічнасьцямі. Пры разьмеркаваньні гуртавога прыбытку дробнай гаспадаркі паміж нязьменным капіталам— *C* які ў дробнай гаспадарцы замяняецца проста сродкамі вытвару і паміж прадметам непасрэднага спажыцьця членаў гаспадаркі, зьмяняючымі зьменны капітал *V* (заработак), чым менш гуртавы прыбытак гаспадаркі, тым большую частку яго складаюць прадметы спажыцьця тым меншую частку складаюць сродкі вытвару. Адсюль чым больш набліжаецца гуртавы прыбытак гаспадаркі да мінімуму неабходных сродкаў існаваньня, тым менш застаецца сродкаў на папаўненьне нязьменнага капіталу ў выглядзе набыцьця машын, угнаеньня і інш. Натуральна, што ў больш слабых гаспадарках, дзякуючы няўраджаю крызісу, альбо дзякуючы недахопу сродкаў вытвару, часта адбываецца працэс праяданьня сродкаў вытва-

[1] Плеханов, „Предисловие к книге Энгельса „Крестьянский вопрос".
[2] Маркс, 18 Брюмэра Луи-Бонопарта, стр. 81.
[3] Ленин, т. IX, стр. 142. „Господа критики" в аграрном вопросе.

ру праз іх распрадажу. Гэта вядзе да разарэньня дробнай гаспадаркі, да пролетарызацыі ніжэйшых пластоў сялянства. «Адзін ужо факт узрастаючага уцяканьня ня толькі вясковых рабочых, але і сялян у гарады відавочна сьведчыць аб росьце пролетарызацыі. Але уцяканьне селяніна ў горад нямінуча папяраджае яго разарэньне. А разарэньне папяраджае бязьлітасная барацьба за сваю эканамічную самастойнасьць. І вось гэтую барацьбу выразна паказваюць дадзеныя аб ужываньні наёмнай працы, аб разьмерх «чыстых прыбыткаў», аб вялічыні спажыцьця у сялян розных тыпаў. Галоўны сродак барацьбы—«жалезная працавітасьць» і запасьлівасьць, запасьлівасьць: «ня так глядай, каб у рот, як каб у кішэню». Ня мінучы вынік барацьбы: выдзяленьне меншасьці заможных гаспадароў і ўсё большае абядненьне большасьці, няўхільны вынік барацьбы: утварэньне меншасьці капіталістычных, аснованых на наёмнай працы, гаспадарак і узрастаючая неабходнасьць для большасьці шукаць «пабочных заработкаў», гэта ёсьць ператварацца ў прамысловых—і земляробскіх наёмных рабочых». [1]

Чым больш шпарка ідзе тэхнічны прагрэс у земляробсьцьве пры капіталізьме, чым інтэнсіўней робіцца сельская гаспадарка, тым менш раўнамерна разьмяркоўваецца праца і занятгкі, якія яна дае сваім рабочым. Ужываньне машын значна памяншае лік занятых рабочых, і наогул больш інтэнсіўнае вядзеньне сельскай гаспадркі мае тэндэнцыю зьмяншаць лік рабочых сіл, патрэбных зімой, тады як летам яна патрабуе, пры апрацоўцы той жа плошчы значна больш рабочых рук. Гэта вядзе як да зьмяншэньня сталых рабочых, гэтак і да выпадковасьці ў атрыманьні працы. Такім парадкам разьвіцьцё капіталізму вядзе да зьмяншэньня занятага ў земляробсьцьве насельніцтва і ўтварае так зв. адноснае перанасяленьне. «Збыткоўнае рабочае насельніцтва ёсьць неабходны прадукт накапленьня, альбо разьвіцьця багацьця на капіталістычным грунце, гэтая перанаселенасьць у сваю чаргу становіцца рычагом капіталістычнага накапленьня і нават умовай існаваньня капіталістычнага спосабу вытвару. Яно утварае прамысловую рэзервовую армію, якой можа загадваць капітал і якая таксама абсалютна прыналежыць яму, нібы ён вырасьціў яе на свой уласны кошт». [2] Узрастаючая незабясьпечнасьць існаваньня ў мясцовасьцях, дзе земляробства зьяўлялася раней адзінай крыніцай заработкаў, павінна гнаць вясковых рабочых у горад, дзе праўда, таксама няма сталое працы, але больш усёж-ткі мажлівасьці папасьці на якую-небудзь працу і атрымаць сродкі для самага беднага існаваньня. «Бязупыннасьць руху ў гарады дапушчае, што і ў самой вёсцы нязьменна існуе захованае перанаселеньне, разьмеры якога становяцца прыкметнымі, як толькі адчыняюцца шырокія адводныя каналы» [3]

Цікава яшчэ і тое, што па гэтых «адводных каналах» цячэ з вёскі самая моцная фізычна і інтэлектуальна разьвітая частка насельніцтва. «Статыстычна, канешне, нельга устанавіць гэтай зьявы, зьвязанай з уцеканьнем з вёскі, але вядома, што сельскія гаспадары скардзяцца не на зьмяншэньне рабочых сіл наогул, а скарэй, іменна, на зьмяншэньне інтэлігэнтных рабочых сіл». [4] Каб перашкодзіць пераходу зьбядналаму сялянству у гарады, буйныя землеуласьнікі прымацоўваюць іх да зямлі, аддаючы ім у арэнду, альбо ў уласнасьць дробныя кавалкі зямлі. Гэткім чынам, буйныя землеуласьнікі ўтвараюць у

[1] Ленин, т. IX, стр. 113—114
[2] Маркс, „Капитал", т. I, стр. 623
[3] Там-жа, стр. 635.
[4] Каутский, „Аграрный вопрос", стр. 157.

вёсцы карлікавыя гаспадаркі, якія ў тэхнічных адносінах зусім адсталыя, але іх мэтаю зьяўляецца ня выраб лішкаў сродкаў спажыцьця, а лішку працоўнай сілы, якая-б заўсёды была пад рукамі буйнага абшарніка. Вядома гэткая гаспадарка аб папаўненьні свайго асноўнага капіталу і думаць ня можа, ёй тэхнічныя дасягненьні, ужываньні машын зусім не пад сілу. «Для разьвіцьця тэхнікі земляробства гарадзкі капіталізм імкнецца даць усе сродкі сучаснай навукі, але социяльнае становішча вытворцаў ён застаўляе па ранейшаму—убогімі; гарадзкой культуры ён не пераносіць сыстэматычна і пляномерна ў вёску». [1]

Пры капіталістычнай сыстэме грамадзкія адносіны складаліся так, што ва ўсіх без выключэньня краінах горад быў заўсёды крывасосам у адносінах да вёскі. Ленін аб гэтым піша так: «Аддзяленьне горада ад вёскі, працівалегласьць паміж імі і эксплёатацыя вёскі горадам—гэтыя паўсюдныя спадарожнікі разьвіваючагася капіталізму—складаюць неабходны прадукт перавагі «гандлёвага багацьця» над «багацьцем зямельным». Таму перавага гораду над вёскай (і ў эканамічным, і ў палітычным, і ў інтэлектуальным, і ва ўсіх іншых адносінах) складаюць агульнае і няўхільнае зьявішча ўсіх краін з таварным вытварам і капіталізмам». [2] Усе дасягненьні навукі і тэхнікі, усе заваёвы культуры канцэнтраваліся, галоўным чынам, у горадзе, вёска-ж і яе насельніцтва былі на заднім пляне. Горад прыцягваючы да сябе усе лепшыя сілы, найбольш энэргічных і працаздольных людзей тым самым перашкаджаў разьвіцьцю вёскі. Вёска з бегам часу прыходзіла ў заняпад, аддаючы ўсе свае сілы гораду. Горад-жа з сваёй прамысловасьцю рухаўся па шляху прагрэса, у той час як вёска па сваіх ведах і пісьменнасьці значна адставала. Расла супярэчнасьць паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай, паміж гарадзкім і вясковым насельніцтвам.

«Капіталізм вызваліў земляробства ад фэадалізму, уцягнуў яго ў гандлёвы зварот, а разам з ім і ў сусьветнае эканамічнае разьвіцьцё, вырваў яго з застою і з закарузласьці сярэднявечча і патрыярхальнасьці. Але капітал ня толькі ня зьнішчыў прыгнечанасьці, эксплёатацыі, беднасьці мас, а наадварот, ён утварае гэтыя беды у новым выглядзе і аднаўляе на «сучаснай» базе іх старыя формы. Супярэчнасьць паміж прамысловасьцю і земляробствам ня толькі ня зьнішчаны капіталізмам, а наадварот пашыраюцца і абвастраюцца ім усё больш». [3] Разрыў паміж вёскай і горадам, гэта адна з характарных асаблівасьцяў капіталізму, якая вядзе з аднаго боку да зьмяншэньня вясковага насельніцтва, а з другога боку да атупеньня вёскі, да яе выміраньне ў зьвязку з дрэннымі санітарнымі ўмовамі, дрэнным спажыцьцём і празмернай працы на сваёй невялічкай гаспадарцы. Гэткім чынам разьвіцьцё капіталізму прыводзіць ня толькі да ўсё шырэючага і шпаркага заняпаду сельскай гаспадаркі, але і да высіленьня саміх «крыніц усякага багацьця» зямлі і працоўніка.

Марксызм не адмаўляючы прагрэсыўныя ролі гарадоў у капіталістычнай грамадзе, аднак ставіць пытаньне аб зьнішчэньні працівалегласьці паміж горадам і вёскай. Зьнішчэньне гэтае сьцяны, што аддзяляе прамысловасьць ад сельскай гаспадаркі, культуры ад некультурнасьці патрэбна для таго-ж, каб усё багацьцё, сабранае народам, было даступна ўсяму працоўнаму народу, каб далучыць да культуры міль-

[1] Ленин, т. IX, стр. 35. Аграрный вопрос и марксизм.
[2] Ленин, т. II., стр. 242—243. К характеристике экономического романтизма.
[3] Ленин, т. IX, стр. 253.

ёны вясковага насельніцтва, якое, па фігуральнаму выразу Маркса, хварэе «ідэотызмам вясковага жыцьця». Асабліва магчыма і неабходна зьнішчэньне гэтае супярэчнасьці зараз, калі разьвіцьцё тэхнікі перамагае адлегласьць і спрыяе наладжваньню сувязі, якая органічна неабходна для далейшага прагрэсу як прамысловасьці, гэтак і сельскай гаспадаркі.

3.

Пасьля аналізу эканамічнага значэньня сялянства ў сыстэме капіталістычнай гаспадаркі, нам прыдзецца заняцца высьвятленьнем яго соцыяльнай прыроды.

Сялянства, калі яго разглядваць з пункту погляду эканомікі буржуазна-капіталістычнай гаспадаркі, зьяўляецца вялізарным астаткам ад дакапіталістычных форм вытвару, тым астаткам ад мінулай фэодальнай сыстэмы, які ўвесь цалкам перайшоў у капіталістычную грамаду. Калі ў фэадальна-капіталістычны пэрыад сялянства зьяўлялася адзінай клясай, якая супроцьстаіць абшарніку, дык у буржуазнай грамадзе яно прадстаўляе сабой ня клясу, а такі стан, з шэрагаў якога ўтвараюцца, выходзяць усе тры асноўныя клясы буржуазнай грамады: капіталісты, землеуладары і наёмныя рабочыя.

Ужо каля 30 гадоў таму назад, як паказаў Ленін, што сялянства як эканамічна аднароднай масы ня існуе. «Лад грамадзка-эканамічных адносін у сялянстве паказвае нам наяўнасьць усіх тых супярэчнасьцяў, якія ўласьцівы усякай таварнай гаспадарцы ўсякаму капіталізму: конкурэнцыю, барацьбу за гаспадарчую самастойнасьць, перабіваньне зямлі (купляемай і арандуемай), канцэнтраваньне вытвару ў руках меншасьці, выпіхваньне большасьці ў шэрагі пралетарыяту, эксплёатацыя яго з боку меншасьці, гандлёвым капіталам і наймам батракоў. Няма ніводнай эканамічнай зьявы у сялянстве, якая-б ня мела гэтай, спэцыфічна-уласьцівай капіталістычнаму ладу, супярэчлівай формы, якая-б не выражала барацьбы і розьні інтарэсаў не азначала плюс для адных і мінус для другіх».[1] Ленін ужо тады бачыў сапраўдныя разьмеры прорвы, якая разьдзяляла розныя эканамічныя групы сялянства. Ён ужо ў той час падлічыў усе мэтады выціскавньня дадатковай працы, якія не маглі падлічыцца статыстычна, але якія тым ня менш распаўсюджаны былі шырока ў вёсцы: высокая плата за наём коняў беднякамі, разнастайныя віды ліхвярства, нячувана высокія цэны пры «спажывецкай арэндзе», нізкая заработная плата батракоў і г. д.

Сялянства усякай краіны з капіталістычным вытварам і адносінамі выходзячымі з гэтага вытвару, заўсёды трымае ў сябе у патаёмным становішчы усе тры клясы капіталістычнай сыстэмы, і ў прыватнасьці сялянства зьяўляецца рэзэрвуарам з якога выходзіць кляса прамысловых рабочых. Паколькі сялянства зьяўляецца пастаўшчыком усіх клясаў капіталістычнай грамады, пастолькі яно трымае ў сябе шэраг соцыяльна-эканамічных перапластаваньняў, якія прадстаўляюць сабой шмат пераходных ступеняў ад аднэй капіталістычнай клясы да другой.

Соцыяльныя і політычныя запатрабаваньні, якія выходзяць з розных асноўных груп сялянства, могуць быць і бываюць рознымі і нават працівалеглымі. У зьвязку з гэтым унутры самаго сялянства назіраюцца вялікія супярэчнасьці, якія іншыя разы пашыраюцца да барацьбы асобных груп паміж сабою. Асабліва ясна вызначаюцца гэтыя

[1] Ленин. т. III. стр. 128. Развитие капитализма в России.

супярэчнасьці паміж крайнымі социяльнымі канцавосьсямі сялянскіх мас: калі ніжэйшы пласт, які вядзе спажывецкую гаспадарку, вельмі часта выступае на рынку як прадавец рабочай сілы і ў зьвязку з гэтым па псыхолёгіі набліжаецца да пролетарыяту, дык вышэйшы пласт, які вядзе таварную гаспадарку звычайна выступае на рынку, як пакупец рабочай сілы і ў выніку гэтага набліжаецца да буржуазіі.

Паклаўшы ў аснову грамадзка-вытворчы крытэры, інакш кажучы наяўнасьць той ці іншай экнамічнай залежнасьці адных пластоў сялянства ад другіх, а так сама ад іншых клясаў грамады, магчыма усё-ж такі вылучыць у вёсцы тры галоўныя эканамічныя групы, да якіх можна далучыць пераважную большасьць сялянскіх гаспадарак. Першая група гэта сяляне, якія вядуць сваю гаспадарку капіталістычна, карыстаюцца наемнай рабочай сілай і эксплёатуюць чужую працу. Гэта кулацкая верхавіна сялянства, сялянская буржуазія, якая адрозьніваецца ад гарадзкой буржуазіі сваім бытам і сваім асабовым удзелам, разам з рабочымі ў сваёй гаспадарцы. Наступная другая група вёскі—сяляне серадңякі, гаспадарка якіх вядзецца як простая таварная гаспадарка на аснове працы сваёй сям'і. У рэшце трэці пласт—сяляне пролетарызаваныя, якія ўжо не зьяўляюцца самастойнымі тавара-вытворцамі і асноўная крыніца існаваньня якіх зводзіцца да аддачы сваёй працоўнай сілы на бок.

Ясна адно, што ў рэчаіснасьці вёска налічвае паміж гэтымі асноўнымі групамі шэраг пераходных пластоў і тыпаў. Селянінам, як вядома завецца і заможны карчмар, і кулак; селянінам завецца і моцны гаспадар, які мае на сваёй гаспадарцы некалькі батракоў і атрымоўвае прыбыль ад іх працы, селянінам завецца і працоўны гаспадар, які для таго каб пракарміць і сябе і сям'ю, павінен біцца ад цёмнага да цёмнага на сваім невялікім кавалку зямлі; селянінам завецца і бедняк, які ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі і часта падзарабляе дзе-небудзь на баку; селянінам, урэшце, завецца поўбатрак, поўрабочы, для якога яго сельская гаспадарка зьяўляецца толькі падсобнай крыніцай для атрыманьня сродкаў існаваньня. Але колькі-б ня было гэтых пераходных пластоў, у агульным яны у большай ці меншай стопні маюць тэндэнцыю эканамічна наблізіцца і далучыцца да аднэй з пералічаных трох груп.

Якія-ж гэта галоўныя групы, на якія расслаіваецца сялянства пры капіталізьме? Поўны і вычэрпываючы адказ на гэтае запытаньне даў Ленін, у сваёй працы «Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі».

«Першы новы тып,—кажа ён,—вясковая буржуазія, альбо заможнае сялянства. Сюды адносяцца самастойныя гаспадары, якія вядуць гандлёвае земляробства ва ўсіх яго разнастайных формах, затым уладары гандлёва прамысловых установ, гаспадары гандлёвых прадпрыемстваў і г. д. Разьмеры гаспадаркі перавышаюць тут у большасьці выпадкаў працоўныя сілы сям'і і таму ўтварэньне кантыгэнту вясковых батракоў, а яшчэ больш падзёншчыкаў, ёсьць неабходная ўмова існаваньня заможнага сялянства. Вольныя грошы, якія атрымліваюцца у выглядзе чыстага прыбытку гэтымі сялянамі абарачваюцца альбо на гандлёвыя і ліхвярскія апэрацыі, гэтак сільна разьвітыя ў нашай вёсцы, альбо—пры спрыяючых умовах укладваюцца на купляньне зямлі, палепшаньне гаспадаркі і інш. Адным словам, гэта дробныя аграрыі».[1] «Другі новы тып—вясковы пролетарыят, кляса наёмных рабочых з надзелам, сюды уваходзіць незаможнае сялянства, у тым ліку зусім беззямельнае, але тыповым прадстаўніком рускага сельскага пролетарыяту

[1] Ленин, т. III, стр. 132. Развитие капитализма в России.

зьяўляецца батрак, падзёншчык, чарнарабочы, будаўнічы, ці іншы рабочы з надзелам. Мізэрны разьмер гаспадаркі на кавалачку зямлі і пры тым гаспадаркі, якая знаходзіцца ў поўным заняпадзе (аб чым асабліва відавочна сьведчыць здача зямлі) немажлівасьць існаваць без продажы рабочай сілы («промыслы» незаможнага селяніна) у вышэйшай ступені нізкі жыцьцёвы ўзровень—нават ніжэйшы верагодна, жыцьцёвага ўзроўню рабочага без надзелу,—вось адзначныя рысы гэтага тыпу». [1]

Да гэтага тыпу Ленін адносіць ня менш паловы ўсіх сялянскіх двароў былой Расіі, інакш кажучы, усіх бязконных і большую частку аднаконных сялян. Тып вясковага рабочага з надзелам характэран і для ўсіх іншых краін, таму што надзяленьне вясковага рабочага зямлёй рабілася часта, нават у інтарэсах саміх землеўласьнікаў. У розных дзяржавах гэты тып прымаў розныя формы у залежнасьці ад розных аграрных парадкаў, ад асобнай гісторыі аграрных адносін, аднак, як кажа Ленін, гэта не перашкаджае абагульваць іх пад адзін тып сельска-гаспадарчага пролетара.

«Прамежным зьвяном паміж гэтымі парэформенымі тыпамі «сялянства» зьяўляецца сярэдняе сялянства. Яно адрозьніваецца найменшым разьвіцьцём таварнай гаспадаркі. Самастойная земляробская праца бадай толькі ў лепшы год і пры асабліва спрыяючых умовах пакрывае ўтрыманьне гэтага сялянства і таму яно знаходзіцца ў вельмі няўстойлівым становішчы. У большасьці выпадкаў сярэдні селянін ня можа зьвесьці канцы з канцамі без таго, каб ня прыбегчы да пазык пад апрацоўкі і г. д., без таго, каб не шукаць «падсобных» пабочных заработкаў, якія складаюцца таксама часткова з продажы рабочай сілы, кожны неўраджай выкідае масы сярэдняга сялянства ў шэрагі пролетарыяту. Па сваіх грамадзкіх адносінах гэтая група хістаецца паміж вышэйшай, да якой яна імкнецца і ў якую задасца папасьць толькі нявялікай меншасьці шчасьліўцаў, і паміж ніжэйшай у якую яе сьпіхвае увесь рух грамадзкай эвалюцыі». [2]

Энгельс таксама падзяляе сялянства Захаду на тры пласты, альбо групы: дробная, сярэдняя і буйная. Гэтыя тры групы ён вызначае наступным чынам. Сярэднія і буйныя сяляне, гэта такія, якія эксплёатуюць наёмную працу, «якія ня могуць абыйсьціся без батракоў і батрачак». Што датычыцца клясавае прыналежнасьці, дык Энгельс кожны пласт характарызуе гэтак: сельска-гаспадарчы пролетарыят, гэта частка усёй рабочай клясы у цэлым. Буйныя сяляне адносяцца да буржуазіі. Да ўласна сялян адносяцца дробныя сяляне, а сярэднія знаходзяцца паміж буйнымі і дорбнымі сялянамі. Прыглядзеўшыся да вызначэньня Энгельсам розных соцыяльных тыпаў сялянства пры капіталізьме, не цяжка ўбачыць, што яны розьняцца ад Ленінскага падзелу сялянства да рэвалюцыі. Буйны селянін па Энгельсу—гэта родны брат нашага кулака, энгельсаўскі сярэдні селянін —гэта заможны селянін і ў рэшце энгельсаўскі дробны селянін —гэта ленінскі сярэдні селянін дарэвалюцыйнай Расіі. «Пад дробным селянінам,—піша Энгельс,—мы разумеем тут уласьніка, альбо арэндатара,—галоўным чынам першага,—кавалка зямлі, звычайна ня больш таго, што ён здолен апрацаваць сіламі сваёй уласнай сям'і, і ня менш таго, колькі неабходна для пракармленьня гэтай сям'і. Гэткі дробны селянін, так-сама як і дробны саматужнік, ёсьць, значыцца, працаўнік, які адрозьніваецца тым ад сучаснага пролетара, што ён яшчэ уладае сваімі

[1] Ленин, т. III, стр. 133. Развитие капитализма в России.
[2] Ленин. т. III, стр. 136.

сродкамі вытвару, значыцца, ён зьяўляецца пережыткам мінулага спосабу вытвару». [1] Як бачым, тут маецца на мэце прыблізна той пласт, які адпавядае нашаму разуменьню «серадняка». Дробны селянін,—кажа Энгельс,—«наогул зьяўляецца ня толькі самым важным з усіх сялян, але складае таксама асноўны элемент для вырашэньня ўсяго пытаньня аб адносінах рабочай партыі да сялянства». Аналёгічную характарыстыку дробнага французскага селяніна зрабіў Маркс у сваёй кніжцы «Клясавая барацьба у Францыі». Адсюль мы можам, акрамя ўстанаўленьня факту дыфэрэнцыяцыі, расслаеньня і неаднароднасьці сялянства, зрабіць і той вывад, што пры капіталізьме у агульным захоўваецца група, якая можа быць названай уласна-сялянствам. Па тэрміналёгіі Маркса і Энгельса гэта будзе дробнае сялянства, а па тэрміналёгіі Леніна—гэта будзе наш серадняк. Па сутнасьці-ж гэта адно і тое-ж, як гэта можна бачыць з пададзеных азначаньняў. Гэты сялянскі пласт характарызуецца агульнымі эканамічнымі ўмовамі і некаторымі супольнымі і палітычнымі інтарэсамі. Гэта група мае некаторую самастойнасьць у нетрах капіталістычнага ладу, але гэтая самастойнасьць грунтуецца на недаяданьні, на самоэксплёатацыі, на бедным жыцьцёвым узроўні. Гэта самастойнасьць абапіраецца на фікцыю прыватнай уласнасьці на зямлю. Гэта самастойнасьць не пазбаўляе дробнага сялянства ад яго руху па шляху занепаду, хаця і дае магчымасьць часова жаласна існаваць. «Падаткі, неўраджаі, падзелы, спадчына, працэсы гоняць аднаго селяніна за другім да ліхвяра; запазычанасьць становіцца ўсё больш агульнай зьявай і ўсё больш цяжкай для кожнага паасобку,—адным словам, наш дробны селянін, як і ўсякі іншы пережытак мінулага спосабу вытвару, няўхільна асуджан на пагібель. Ён ёсьць будучы пролетары. У якасьці гэткага ён павінен быў бы з ахвотаю адчыніць вушы для соцыялістычнай пропаганды. Але у гэтым яму пакуль яшчэ служыць перашкодай глыбока укаранёнае ў ім пачуцьцё уласнасьці». [2]

Маркс некалькі перавялічваў тэмп разлажэньня дробнага сялянства. Сялянская гаспадарка аказалася больш устойлівай, чым Маркс мог прадбачыць у свой час, але на гэта ёсьць шмат эканамічных і палітычных прычын; галоўныя з іх гэта: затрымка укладаньня капітала ў сельскую гаспадарку; ахоўныя хлебныя пошліны; замацаваньне рабочых рук у вёсцы, шляхам утварэньня дробнай зямельнай уласнасьці; урэшце, зацікаўленасьць буйнага капіталу і буйнай абшарніцкай гаспадаркі ў утварэньні палітычнае апоры ў вёсцы у асобе консэрватыўнага сялянскага насельніцтва. У асноўным жа закон капіталістычнай концэнтрацыі і цэнтралізацыі, працэс паглынаньня дробных гаспадарак буйнай, разарэньне і дыфэрэнцыяцыя сялянства, устаноўлены марксызмам застаецца непарушаным і да гэтае пары. Ленін, разьбіраючы становішча сялянства ў пэрыяд першай расейскай рэвалюцыі, вось як характарызаваў соцыяльна-эканамічныя адносіны, якія ўтвораны капіталізмам у вёсцы. «Да абшарніцкага ўціску, захаванаму, дзякуючы велікадушшу, утвараўшых і ажыцьцяўляўшых рэформу чыноўнікаў, далучыўся яшчэ уціск капіталу. Улада грошай ня толькі прыціснула, але і разьбіла сялянства: вялізарная маса няўхільна разаралася і ператваралася ў пролетараў, меншасьць вылучала кучкі нешматлікіх, але цэпкіх кулакоў і гаспадарлівых мужыкоў, якія прыгарнулі да рук сялянскую гаспадарку і сялянскія землі, складаючы кадры народжанай вясковай буржуазіі. Усё парэформеннае саракагодзьдзе ёсьць адзін суцэльны працэс гэтага раскладаньня, рассяляньваньня, працэс маруднага, балю-

[1] Энгельс, „Крестьянский вопрос", стр. 25.
[2] Энгельс, „Крестьянский вопрос", стр. 27.

чага выміраньня». [1] Пасьля усяго гэтага прыходзіцца зьдзівіцца, як перад тварам фактаў шырокай дыфэрэнцыацыі сялянства знаходзяцца яшчэ людзі як народнікі і нэонароднікі якія заяўляюць, што: «Пераважная колькасьць сялянскіх гаспадарак зьяўляецца працоўнымі, г. зн. жывучымі выключна ці амаль цалкам уласнай працай здабываючы гэткім чынам усё неабходныя для існаваньня сям'і. Наём чужой сілы, калі ён ёсьць, адносіцца да невялічкай часткі ўсяе укладваемае ў гаспадарку працы. Выключэньне складае два—да 5 процантаў усяго ліку сялянскіх гаспадарак у губэрні, якія наймаюць часовага альбо гадавога батрака». [2] Казаць гэтак могуць толькі людзі, якія ня маюць марксыцкага падыходу да рэчаіснасьці, якія цалкам знаходзяцца пад уплывам народніцкіх ілюзій, бо хіба можна сьцьвярджаць, што паміж бязконным і безпасеўным селянінам з аднаго боку і тым, у каго гэты паўпролетары знаходзіцца ў эканамічнай залежнасьці—няма прынцыповай розьніцы. А на гэтым жа замазваньні клясавае супярэчнасьці на вёсцы пабудавана ўся сялянская, праца—спажывецкая тэорыя ў расійскай сельска-гаспадарчай экономіі. Прыхільнікі гэтай плыні перавярнулі цэлыя горы статыстычнага матэрыялу каб адшукаць лічбы, якія-б маглі паказваць непасрэдную прычынную залежнасьць разьмераў сялянскай гаспадаркі ад прызвычайнага жыцьцёвага мінімуму сям'і. Але лічбы сьведчаць зусім аб адваротным. Толькі пры дапамозе марксыцкага мэтаду ўдалося высьвятліць сапраўднае становішча, якое займае сялянства пры капіталістычнай сыстэме як у эканамічных гэтак і ў палітычных адносінах.

Гэткім чынам марксызм устанаўлівае тры наступныя а с н о ў н ы я пласты вёскі, на якія яна дыфэрэнцыруецца ў пэрыяд капіталізму: 1. Вясковы пролетарыят, да якога адносіцца вясковы пролетары—батрак і бедната, гэты вясковы паўпролетарыят, 2. Дробны селянін, альбо наш дарэвалюцыйны серадняк і 3. Вясковае кулацтва і буржуазія. Пры гэтым самым важным з усіх сялян і асноўным элементам сярод усяго сялянства зьяўляецца другі тып—серадняк.

Аднак ня гледзячы на гэтую living розностайнасьць пластоў, ёсьць і адно агульнае, што яднае вялікую большасьць сялян, робіць іх адзінай масай, гэта—псыхолёгія дробнага таваравытворцы, інакш уласнасьць сродкаў працы і ўласнасьць продуктаў працы, якія імі рэалізуюцца на рынку. Рынак прадуктаў і рынак рабочай сілы, гэта тое, што адначасова аб'яднае і раз'яднае сялянства, што робіць яго «жывой дыялектычнай супярэчнасьцю».

## 4.

Дзякуючы той ролі, якую дробная землеробская гаспадарка адыгрывала ў вытворчым арганізьме, пры фэўдалізьме, сялянства было ня толькі адзіным, але і аднэй з асноўных кляс грамады. Пры фэўдалізьме сялянства зьяўлялася клясай—с а с л о ў е м. Саслоўны характар у сярэднія стагодзьдзі набывала ўсё тое, што непасрэдна зьвязана з заняткамі дадзенай асобы, напрыклад, саслоўны капітал, саслоўная ўласнасьць і г. д.

Асноўныя клясы саслоўя фэўдальнага ладу—дваранства і залежнае сялянства—зьявіліся ў выніку вядомага грамадзкага падзелу працы і былі разам з тым юрыдычнай фіксацыяй таго па-за эканамічнага прыціску, у якім выяўляліся пануючыя грамадзкія адносіны. Наданьне

[1] Ленин, т. IV, стр. 25—26. Рабочая партия и крестьянство.
[2] А. Челинцев, „Теоретические основания организации сельского хозяйства", стр. 6.

саслоўнасьці сялянству патрэбна было фэўдальнаму ладу для таго, каб узаконіць і замацаваць на доўгія часы тую ўласьцівасьць селяніна, што ён непасрэдны вытворца, працаўнік зямлі і каб зрабіць з гэтага социяльны вывад аб няволі селяніна, аб яго залежнасьці ад свайго абшарніка. Пры фэўдалізьме сялянства было адзінай клясай, па-першае дзякуючы той ролі, якую яно адыгрывала ў грамадзкім вытвару, праз агульнасьць матэрыяльных інтарэсаў і ў рэшце па моцы агульнасьці прававога ўціску і бяспраўя. У зьвязку з наданьнем саслоўнага характару крапацкае сялянства, ня гледзячы на наяўнасьць сярод яго маемаснай няроўнасьці, праўда нязначнай, заставалася усё-ж адзінай клясай. На наяўнасьць маемаснай няроўнасьці, прычына якой ляжыць у маруднасьці разьвіцьця грамадзкіх адносін, паказвае і Маркс: «Дапусьцім напрыклад, што прыгонная праца на зямельнага ўласьніка першапачаткова складала два дні ў тыдзень. Гэтыя два дні прыгоннай працы ў тыдзень, гэткім чынам, замацаваліся і зрабіліся нязьменнай вялічыней, законна ўрэгуляванай звычайным альбо пісаным правам. Але прадукцыйнасьць астатніх дзён у тыдзень, якімі можа карыстацца сам непасрэдны вытворца, ёсьць велічыня зьменная, якая неабходна разьвіваецца у працэсе яго практыкаваньня». [1]

У пэрыяд фэўдалізму і ў раньнім пачатку капіталістычнага разьвіцьця дробнае селянства, як і ўсё сялянства ўціскаецца і эксплёатуецца адзінай сілай—абшарнікам. І ў адносінах да абшарніка-фэўдала усё сялянства з усімі яго рознастайнымі соцыяльнымі групоўкамі зьяўляецца адзінай клясай, якая стаіць супраць гэтага адзінага ворагу. «Вялікая кляса дробных вясковых гаспадароў, сялян, якія складаюць зараз са сваім прыдаткам—сельска-гаспадарчымі рабочымі—пераважную большасьць усяго народу. Гэта кляса сама па сабе раскладаецца на розныя часткі. Мы бачым тут раней усяго заможных сялян, т. зв. буйных і сярэдніх сялян, якія ўладаюць больш ці менш вялікімі кавалкамі зямлі і ўжывае кожны некалькі наёмных рабочых... Далей мы бачым дробных вольных сялян... У трэцьціх мы сустракаем фэўдальна-залежных... Урэшце, сельска-гаспадарчыя рабочыя...» [2] Аднак усе гэтыя групы разам узятыя, паколькі яны працівалежаць абшарнікам, і складаюць адну вялікую клясу. Зразумела, чаму гэта так. Таму, што марксызм не бярэ ніводнай соцыяльнай групы самой па сабе, без працівастаўленьня іншым соцыяльным групоўкам дадзенага гістарычнага пэрыяду.

Пры разьвіцьці капіталізму, пры шпаркім працэсе расслаеньня вёскі, сялянства ужо больш не зьяўляецца адзіным, гэта—ужо даказана вышэй, і не зьяўляецца ні саслоўем, ні клясай. Адно толькі ў гэты час аб'яднае сялянства, гэта агульнасьць земляробскае працы. У капіталістычнай грамадзе селянін робіцца перажыткам мінулага способу вытвару, ён не прадстаўляе сабою ужо больш неабходнай соцыяльна-эканамічнай велічыні. Унутры сялянства, дзякуючы дыфэрэнцыяцыі, утвараюцца розныя пласты і яно не прадстаўляе сабою больш адзінай, аб'яднанай агульнымі інтарэсамі клясы.

«Парцэльныя, дробныя сяляне складаюць грамадзкую масу, члены якой жывуць у аднолькавых умовах, ня уваходзячы друг з другам у якія-небудзь трывалыя і складаныя адносіны. Іх способ вытвару ня толькі не ўтварае між імі сувязі, але прама-такі ізалюе іх адзін ад другога. Поля вытвару, дробны вучастак зямлі, не патрабуе для

[1] Маркс, „Капитал", т. III, ч. II, стр. 330.
[2] Энгельс, „Революция и контрреволюция в Германии", исторические работы Маркса и Энгельса, стр. 243.

сваёй апрацоўкі ні разьдзяленьня працы, ні ужываньня навукі, не патрабуе, значыцца, рознастайнага разьвіцьця, рознастайнасьці талянтаў, складанасьці грамадзкіх адносін. Кожная асобная сялянская сям'я амаль даўлее сябе, самастойна вырабляе большую частку прадметаў свайго спажыцьця і здабывае гэткім чынам свае жыцьцёвыя сродкі ў абмене з прыродай, чым у зносінах з грамадой. Кавалак зямлі, селянін і яго сем'я; разам другая парцэла, другі селянін і другая сем'я. Вядомая сума гэтых сем'яў утварае вёску, вядомая сума вёсак—дэпартамэнт. Гэткім чынам, найбольшая частка францускай нацыі складаецца шляхам простага складаньня аднайменных вялічын, накшталт таго як мяшок бульбы з асобных бульбін. Па-колькі мільёны сямей існуюць у эканамічных умовах, дзякуючы якім яны па свайму характару жыцьця, па сваіх інтарэсах і ўтварэньню адрозьніваюцца ад усіх іншых клясаў і нават варожы ім яны самі ўтвараюць клясу. Але пакольki між малазямельным сялянствам існуе толькі мясцовая сувязь пакольki падобнасьць іх інтарэсаў не ўтварае іх агульнасьці, ніякага нацыянальнага аб'яднаньня, ніякай палітычнай арганізацыі, яны ня ўтвараюць клясы». [1]

Гэткім чынам дробнае сялянства і кляса і ў той жа час не кляса. Як гэта разумець? Пры аналізе якой-небудзь клясы Маркс ясна разьмяжоўваў яе эканамічную і палітычную фізіаномію. З гэтаю мэтай ён карыстаўся нават спэцыяльнай тэрміналёгіяй, адзначаючы разуменьнем кляса «у сябе», клясу эканамічную і кляса «для сябе», клясу, як палітычную катэгорыю. Клясай «для сябе» па Марксу становіцца такая кляса, якая можа канстытуіравацца як кляса праз самастойную ідэолёгію, альбо праз самастойную партыю, якая-б адбівала і прадстаўляла інтарэсы дадзенае клясы, альбо праз аўладаньне дзяржаўнай уладай. Кляса усьвядамляе сябе, як кляса у працэсе клясавае барацьбы. Гэта можна назіраць на прыкладзе пролетарыяту. «Эканамічныя адносіны перавярнулі спачатку масу насельніцтва ў працаўнікоў. Панаваньне капіталу ўтварыла для гэтай масы некаторую агульную глебу, некаторыя агульныя інтарэсы. Гэткім чынам, гэта маса людзей ужо складае клясу ў праці валегласьць капіталу, але сабе самой яшчэ ня прадстаўляецца гэткай. Аднак у той барацьбе, якую мы ахарактарызавалі ў нямногіх сказах, маса гэта аб'яднаецца і выступае ужо як кляса, якая задаецца агульнымі мэтамі. Інтарэсы, якія яна адстаівае, становяцца клясавымі інтарэсамі». [2] Для дробнага сялянства панаваньне капіталу таксама ўтварае аднолькавае становішча і аднолькавыя у адносінах да капіталу інтарэсы. Яно становіцца таксама клясай у сябе, але няздольна стаць клясай для сябе. У разуменьні кляса «для сябе» у Маркса зьвязана з магчымасьцю вядзеньня барацьбы для канчатковай перамогі, да ўзяцьця і аўладаньня ўладай у дзяржаве. Іншымі словамі пад клясай «для сябе» Маркс разумеў прогрэсыўную клясу. Сялянства-ж у цэлым гэткім не зьяўляецца. Яно «зьяўляецца прогрэсыўным пакольki высоўвае агульна-дэмократычныя патрабаваньні, г. зн. вядзе барацьбу супроць якіх бы то ні было астаткаў сярэдня-вяковай эпохі і крапацтва, яно зьяўляецца рэакцыйным, пакольki вядзе барацьбу за захаваньне свайго становішча, як дробнай буржуазіі, імкнучыся затрымаць, павярнуць назад агульнае разьвіцьцё краіны ў буржуазным напрамку». [3]

---

[1] Маркс. 18 Брюмэра, стр. 78.
[2] Маркс. „Нищета философии", ч. II, стр. 180.
[3] Ленин. т. I, стр. 217. Что такое „друзья народа" и как они воюют против социалдеморокатов.

І так сялянства, будучы адзіным і адным з двух асноўных клясаў фэўдальнай грамады, пры капіталізьме гэткім больш не зьяўляецца. «У сучаснай грамадзе сялянства, канешне, не зьяўляецца ужо адзінай клясай. Але хто трывожыцца гэтай супярэчнасьцю, той забывае, што гэта—супярэчнасьць не выкладаньня, не дактрына, а супярэчнасьць самаго расійскага жыцьця. Гэта ня выдумка, а жывая дыялектычная супярэчнасьць. Па-колькі ў нашай вёсцы крапацкая грамада выціскаецца буржуазнай грамадой, па-столькі сялянства перастае быць клясай, распадаецца на вясковы пролетарыят і вясковую буржуазію. Паколькі захоўваюцца яшчэ крэпацкія адносіны, пастолькі сялянства працягвае яшчэ быць клясай. Толькі клясай не буржуазнай, а крэпацкай грамады».[1] У капіталістычнай грамадзе сялянства, як цэлае, не зьяўляецца клясай. Аднак калі мы маем грамаду, якая пераходзіць ад адносін фэўдальнага тыпу да вытворчых адносін капіталістычнага тыпу, пастолькі сялянства зьяўляецца ў супярэчлівым становішчы: у адносінах фэўдальных абшарнікаў яно зьяўляецца клясай, паколькі-ж яно захоплена капіталістычнымі адносінамі і раз'ядаецца імі—пастолькі яно перастае быць клясай.

5.

Такая акалічнасьць, што дробны селянін у капіталістычнай грамадзе эксплёатуецца з боку буржуазіі, і ў той жа час зьяўляецца дробным капіталістым, дробным самастойным таваравытварцам, утварае двоістасьць яго клясавае прыроды. «Пры капіталістычным спосабе вытвару незалежны селянін альбо саматужнік разрэзваецца на-двое, як уладар сродкамі вытвару,—ён зьяўляецца капіталістам, як рабочы—ён свой уласны рабочы» (Маркс).

Злучэньне-ж наёмнага рабочага і капіталіста ў аднэй асобе ёсьць бессэнсоўнасьць з пункту пагляду разьвітага капіталістычнага ладу. Таму ў гэтым выпадку дробны вытворца не зьяўляецца ні капіталістым ні наёмным рабочым. «Сродкі вытвару робяцца капіталам толькі пастолькі, паколькі яны самастойна выступаюць супроць працы, як рабочая сіла. У разглядваемым выпадку вытворца-рабочы зьяўляецца ўладаром сваіх сродкаў вытвару. Значыцца, яны не капітал таксама, як ён сам ня ёсьць наёмны рабочы».[2]

Але з другога боку, гэты вытворца ўтварае сам для сябе дадатковую вартасьць і калі ён можа сам спажываць свае прадукты працы, не аддаючы трэцяй асобе, дык у гэтым ён абавязан не сваёй працы,—кажа Маркс,—у гэтым становішчы ён нічым не адрозьніваецца ад наёмных рабочых,—а толькі той акалічнасьці, што ён уладае сродкамі вытвару. Адсюль у гэтым сэнсе дробны вытворца усё-ж адносіцца «як свой уласны капіталіст да самаго сябе як да наёмнага рабочага». Гэтая супярэчнасьць можа быць вырашана толькі дыялектычным шляхам, дынамікай самой грамадзкай рэчаіснасьці. Гэта супярэчнасьць вырашаецца тады, калі мы уявім сабе, што сялянства, як частка дробнай буржуазіі, адным сваім канцом накіроўваецца да буржуазіі, а другім да пролетарыяту. «Такі закон эканамічнага разьвіцьця, што функцыі падзяляюцца ім між рознымі асобамі і што як саматужнік, гэтак і селянін, які вядзе гаспадарку пры дапамозе сваіх уласных сродкаў вытвару, альбо мала-па-малуператвараецца ў

[1] Ленин, т. IX, стр. 275—276.
[2] Маркс, „Теория прибавочной стоимости", ч. I, стр. 275.

дробнага капіталіста, эксплёатуючага адначасова і чужую працу, альбо страчвае свае сродкі вытвару (гэта найбольш магчымы выпадак, хаця селянін намінальна і застаецца іх уласьнікам, як напрыкл. пры гіпатэчнай запазычанасьці) і ператвараецца ў наёмнага рабочага». [1]

Канешне, толькі па форме зьяўляецца дробны селянін у адзін і той-жа час і капіталістым і наёмным рабочым. Але ў тэндэнцыі разьвіцьця капіталістычнага спосабу вытвару гэта становішча правільна, бо дробны селянін яшчэ не зьяўляецца ні капіталістым, ні наёмным рабочым, ён можа стаць альбо тым, альбо другім. Калі ўзяць сялянства як нярухомае, раз і назаўсёды дадзенае, дык яно прадстаўляе сабою частку дробнай буржуазіі. Узяўшы-ж дынамічна, у тэндэнцыі свайго разьвіцьця, дык яно адным бокам набліжаецца да буржуазіі, другім—да пролетарыяту. «У тых краінах дзе разьвілася сучасная цывілізацыя, утварыўся і як дадатковая частка буржуазнай грамады, бязупынна зноў утвараецца—новы пласт дробнай буржуазіі, якая хістаецца паміж пролетарыятам і буржуазіяй. Але конкурэнцыя нязьменна спіхвае прыналежачых да гэтай клясы асоб у шэрагі пролетарыяту і яны ўжо пачынаюць прадбачыць набліжэньне таго моманту, калі з разьвіцьцём буйнай прамысловасьці яны зусім зьнішчажацца, як самастойная частка сучаснай грамады і ў гандлі, мануфактуры і земляробсьцве». [2]

Працэс дыфэрэнцыяцыі прыводзіць сялянства да выдзяленьня буйных капіталістычных сялян на адным канцавосьсі і сельска-гаспадарчых рабочых на другім. Што-ж датычыцца дробнага сялянства, якое стаіць паміж буйным, капіталістычным сялянствам і сельска-гаспадарчымі рабочымі, дык да яго працэсы расслаеньня маюць самае найбліжэйшае датычэньне. Таму і яго соцыяльная сутнасьць наскрозь двоіста і дынамічна.

Двоістасьць сялянства адбываецца ад таго, што ў капіталістычнай грамадзе яно фіксуе ў сябе ўсе уласьцівыя яму супярэчнасьці: з аднаго боку ён уласьнік, хаця невялікіх але сродкаў вытвару, з другога боку ён наёмны рабочы. Гэта дынамічная і двоістая прырода сялянства надзвычайна важнае мае значэньне і складае па сутнасьці самую галоўную частку вучэньня марксызму аб сялянстве. Таму што соцыяльна-эканамічная двоістасьць сялянства абумоўлівае і яго палітычную няўстойлівасьць і хістаньні. «Сяляне як і ўсе дробныя вытварцы, вельмі сільна страдаюць ад разьвіцьця капіталізму. Іх становішча пагоршваецца, што натуральна параждае у іх больш ці менш моцнае нездавальненьне. Яны таксама вядуць барацьбу з капіталам. Але паколькі іх барацьба мае мэту абараніць іх інтарэсы, як дробных вытвораў і дробных уласьнікаў, яна зусім чужда таго соцыяльна рэвалюцыйнага характару якім адрозьніваецца барацьба пролетарыяту. Каб сапраўды адстаяць дробны вытвар і дробную ўласнасьць, трэба было вярнуць грамаду назад, да таго часу, калі таварны вытвар яшчэ ня прывёў у сваім разьвіцьці да існаваньня капіталістычных вытворчых адносін. Але жадаць гэтага могуць толькі рэакцыянэры і паколькі дробнае селянства мае гэткія жаданьні, яно грае рэакцыйную ролю у сучаснай грамадзе». [3]

«Дробны земляроб пры капіталізьме становіцца—жадае ён гэтага ці не, заўважвае ён гэта ці не—таваравытворцам. І ў гэтым уся сутнасьць справы. Адна гэта зьмена, нават калі ён яшчэ не эксплёатуе

[1] Маркс, „Теория прибав. стоимости", стр. 276—277.
[2] Маркс и Энгельс, „Комунистический Манифест", ст. 77.
[3] Плеханов, т. XII, стр. 231.

наёмных рабочых, усё роўна робіць яго антаганістым пролетарыяту, робіць яго дробным буржуа. Ён прадае свой прадукт, пролетары прадае сваю рабочую сілу. Дробныя земляробы, ня могуць ня імкнуцца да падвышэньня цэн на земляробскія прадукты, а гэта раўнасільна іх удзелу разам з буйнымі земляробамі, у падзеле зямельнай рэнты. Іх салідарызацыя з абшарнікамі супроць астатняй грамады. Дробны земляроб па свайму клясаваму становішчу становіцца няўхільна, па меры разьвіцьця таварнага вытвару, дробным аграрыям».[1]

З той вытрымкі з «Камуністычнага Маніфэсту», якую мы ўжо прыводзілі, зусім ясна і відавочна тое, што для Маркса і Энгельса дробная буржуазія, у тым ліку і сялянства, зьяўляецца той клясай, якая хістаецца паміж буржуазіяй і пралетарыятам. Разьмер жа гэтага хістаньня вызначаецца ў наступным, агульнавядомым месьце «Маніфэсту». «Сярэднія пласты, дробныя прамыслоўцы, дробныя купцы, саматужнікі, сяляне, усе яны вядуць барацьбу супроць буржуазіі, каб адстаяць сваё існаваньне як сярэдніх пластоў. Значыцца, яны не рэвалюцыйны, а консэрватыўны. Больш таго яны рэакцыйны: яны імкнуцца павярнуць назад кола гісторыі. Калі яны рэвалюцыйны, то толькі пастолькі, паколькі яны абараняюць не сучасныя, але будучыя свае інтарэсы, паколькі яны пакідаюць свой пункт погляду і становяцца на пункт погляду пролетарыяту».[2]

Без разуменьня гэтага соцыяльна-эканамічнага дуалізму дробнай буржуазіі, у прыватнасьці сялянства, нельга зразумець ні яго політычнай сутнасьці, ні яго ролі ў буржуазна-дэмакратычнай і пролетарскай рэвалюцыі, нямагчыма ўрэшце пабудаваць правільную тактыку пролетарыяту і яго партыі ў адносінах да сялянства.

6.

З таго аналізу, які зроблен вышэй адносна эканамічнага, соцыяльнага і політычнага месца сялянства пры капіталізьме, лёгка зрабіць вывады адносна яго далейшага лёсу. Характарыстыка дробнай буржуазіі, у тым ліку і сялянства, дадзенае марксызмам, зусім ня супярэчыць таму, што чым шпарчэй будзе ісьці разьвіцьцё капіталізму у перадавых краінах, тым большая частка дробнай буржуазіі, і дробнага сялянства будзе прымушана пераходзіць у шэрагі пролетарыяту і на яго бок. Аб рэвалюцыйнай ролі дробнага сялянства, паколькі яму прадстаіць пераход у шэрагі пролетарыяту і паколькі ён абараняе несучасныя, а будучыя інтарэсы, ясна указана ў «Маніфэсьце». Дробнае селянства прыходзіць да сутычкі з буржуазным ладам. Яно пачынае весьці барацьбу з капіталізмам і нават тая заслона на яго вачох, што ён дробны самастойны таваравытварца, не перашкаджае яму бачыць свой канец, свой пераход у шэрагі пролетарыяту. І паколькі ён будучы пролетары, ён становіцца рэвалюцыйным у адносінах да капіталізму. Гісторыя дробнага сялянства пры капіталізьме, у зьвязку з яго двоістасьцю, пераварачваецца у гісторыю барацьбы гэтых двух тэндэнцый—консэрватыўнай і нават рэакцыйнай з аднаго боку і рэвалюцыйнай другога.

Якая-ж аднак пэрспэктыва барацьбы гэтых двух супярэчлівых тэндэнцый у дробным сялянстве пры капіталізьме? Пэрспэктыва гэта абумоўліваецца цалкам лёсам дробнай сялянскай гаспадаркі пры

[1] Ленин, т. IX, стр. 254.
[2] Маркс и Энгельс, „Коммунистический Манифест“, стр. 55.

капіталізьме. Іменна з гэтым лёсам і зьвязвае марксызм некаторую рэвалюцыйнасьць сялянства ў барацьбе з капіталізмам.

Намі ўжо прыведзен шэраг прычын, якія ва ўсіх капіталістычных краінах вядуць дробную гаспадарку да гібелі. Але ня толькі дробны вытворца стаіць на гэтым шляху, на шляху няўхільнага заняпаду пры капіталізьме знаходзіцца і больш заможнае сялянства. «Мы маем цьвёрдую эканамічную упэўненасьць у тым, што буйны і сярэдні[1] селянін таксама павінен нямінуча пагінуць ад канкурэнцыі капіталістычнай гаспадаркі і таннага заакеанскага вытвару збожжа— як на гэта указвае усё узрастаючая запазычанасьць і паўсюды відавочны заняпад і гэтых сялян. Супраць гэтага заняпаду мы нічога ня можым зрабіць, акрамя таго, каб раіць і тут злучэньне гаспадарак у таварыствы, сярод якіх эксплёатацыя наёмнай працы магла-б усё больш і больш памяншацца і якія-б маглі паступова стаць галінамі вялікага вытворчага нацыянальнага таварыства з роўнымі правамі і абавязкамі. Калі гэтыя сяляне разумеюць няўхільнасьць гібелі іх сучаснага спосабу вытвару і ня зробяць з гэтага неабходныя вывады, дык няхай яны ідуць да нас і нашым абавязкам будзе пасільна аблегчыць таксама і ім пераход у вышэйшую форму вытвару».[2]

Імкненьне дробнага селяніна палепшыць сваю гаспадарку шляхам павялічэньня ўкладаньняў у яе капіталаў, альбо шляхам набыцьця зямлі вядзе на справе не да гэтага, а да яшчэ большай залежнасьці дробнага селяніна да падняволеньня яго капіталам. Грошы ён можа дастаць у дробных сумах у вясковага ліхвяра, а у больш буйным разьмеры у буйнага капіталістычнага ліхвяра ў асобе іпацечнага банку, шляхам закладу зямлі. «Сяляне у большсьці выпадкаў так ацяжараны гіпатэкамі, што знаходзяцца ў такой жа залежнасьці ад ліхвяра, як арандатры ад землеўласьнікаў. У іх застаецца толькі вельмі ўбогі і дата-го-ж, дзякуючы хістаньням ураджайнасьці, зусім няпэўны заработак. Яны менш усяго могуць ўскладваць якія-небудзь надзеі на буржуазію, таму што як раз яны эксплёатуюцца буржуа—прадстаўнікамі ліхвярскага капіталу. Аднак яны у большасьці вельмі прывязаны да сваёй уласнасьці, хаця ў рэчаіснасьці яна прыналежыць ня ім, а ліхвяру».[3]

Тое-ж, што селяніну удаецца атрымліваць пазыку ў капіталіста для таго каб купіць зямлі, альбо для яе палепшаньня ўдарае па яго гаспадарцы яшчэ мацней. Яму няма магчымасьці выплутацца ня толькі з даўгоў, але і аплаціць процант па гіпатэцы, таму што: «адносна нізкаму проценту, які селянін атрымлівае тут з капіталу, які затрачаны на пакупку зямлі, на працівалеглым баку знаходзіцца высокі ліхвярскі разьмер проценту, які сам селянін павінен уплачваць іпацечнаму крэдытору».[4]

Гэткім чынам пры капіталізьме сялянства празмерна абцягнута аковамі залежнасьці і капіталістычнай прыгнечанасьці. Зямельная ўласнасьць робіць з яго ня вольнага таваравытворцу, а закаванага ў ланцугі і эксплёатуемага капіталам грамадзяніна. Яна робіць селяніна нявольнікам іпацечнаму банку, таксама як раней ён зьяўляўся даннікам фэўдала-абшарніка. Пакуль будзе існаваць капіталістычная грамада, ня будзе такой сілы, якая-б магла вызваліць дробнага селяніна ад пакут,

[1] Яшчэ раз адзначаем, што пад буйным і сярэднім сялянствам Энгельс разумее заможнае сялянства, а пад дробным разумее селяніна тыпу нашага серадняка.
[2] Энгельс „Крестьянский вопрос", стр. 41.
[3] Там-жа стр. 20.
[4] Маркс „Капитал", т. III, ч. II, стр. 348.

якія няўхільна выклікаюцца разьвіцьцём гэтай жа грамады. «Самастойны дробны селянін не забясьпечан у ўладаньні сваім кавалкам зямлі і ня волен. Як ён сам, гэтак і яго дом, яго двор, яго поле прыналежаць ліхвяру; яго існаваньне менш забясьпечана, чым існаваньне пролетара, прынамсі, хаця рэдка маючага спакойныя дні, якіх ніколі не выпадае на долю гаротнага нявольніка запазычанасьці... Забясьпечце селяніну законам непадлягаючы закладу інвэнтар, працоўную жывёлу і г. д.—вы ўсё-ж такі не пазбавіце яго ад бязвыхаднага становішча, калі ён «дабраахвотна» прадае ліхвяру сваю жывёлу і самаго сябе з душой і целам, каб атрымаць маленькае адтэрмінаваньне. ...Спроба абараніць уласнасьць дробнага селяніна, абараняе не яго волю, а толькі асаблівую форму яго нявольніцтва». [1]

Маркс, характарызуючы становішча францускага селяніна паловы мінулага стагодзьдзя, адзначае, што капіталізм ператварае сялянскую парцэлу у фікцыю, у прыладу, якая дае магчымасьць забіраць з зямлі прыбыль, проценты і рэнту, нават не клапаціўшыся аб тым, ці застанецца селяніну хаця мінімальная для пражыцьця заработная плата. «Парцэльная уласнасьць у гэтай нявольнай залежнасьці ад капіталу, да якой няўхільна прыводзіць яе гістарычнае разьвіцьцё, перавярнула масу францускай нацыі ў неякіх траглядытаў. Шаснаццаць мільёнаў сялян лічачы з жанчынамі і дзецямі жывуць у куранях, з якіх большая частка мае адно ваконца, некаторыя два, і толькі самыя раскошныя—тры. Тады як вокны для дома тое самае, што пяць пачуцьцёў для галавы. Буржуазны лад у пачатку стагодзьдзя зрабіў дзяржаву аградай узноў узьнікшага сялянскага вучастку і аздобіў апошні лаўрамі, але зараз ён перавярнуўся у вампіра, які высмоктвае кроў і мозг с сялянскага землеуладаньня, ён кідае яго ў алхімічную рэторту капіталу». [2]

Эксплёатацыя сялянства адрозьніваецца ад эксплёатацыі прамысловага пралетарыяту толькі формай. Але эксплёататар і там і тут адзін і той жа—капітал. Асобныя капіталісты эксплёатуюць асобных сялян гіпатэкамі і процантамі за пазыкі. Кляса капіталістаў эксплёатуе у цэлым сялян падаткамі. Бо падатак ёсьць крыніца жыцьця для усяго дзяржаўнага апарату: чыноўнікаў, арміі папоў і двара. Дробная сялянская ўласнасьць зьяўляецца добрай падставай, на якой трымаецца уся шматлікая махіна бюрократыі з графамі, князямі і царамі наչале.

Пасьля ўсяго гэтага, калі ўзяць разам усе пералічаныя прычыны, якія вядуць да гібелі дробную сялянскую гаспадарку і далучыць да іх агульную залежнасьць сельскай гаспадаркі ад капіталістычнай прамысловасьці, вёску ад гораду, далучыўшы эксплёатацыю селяніна капіталам усіх відаў, падаткамі і г. д., дык дробная гаспадарка акажыцца усебакова і цалкам падняволена капіталу. Капіталістычная эксплёатацыя, якая па сваіх разьмерах увесь час павялічваецца, яшчэ больш уціскае селяніна, чым нават эксплёатацыя крэпацкая, якая панавала раней. Тое разлажэньне сялянства, якое адбываецца пры капіталізьме, сьведчыць аб глыбокіх супярэчнасьць сярод сялянства і ў самой буржуазнай грамадзе. Поўная ацэнка гэтых супярэчнасьцяў няўхільна прыводзіць да бязвыхаднасьці, безнадзейнасьці і гібелі дробнага сялянства пры капіталістычнай сыстэме. Экспропрыяцыя дробнага сельска-гаспадарчага вытварцы абязьзямельваньне сялянства, яго расслаеньне і эканамічны заняпад—зьяўляюцца асновай і неабходным вынікам разьвіцьця капіталізму. «У сфэры земляробства

[1] Энгельс, „Крестьянский вопрос“, стр. 30—31.
[2] Маркс, 18 Брюмэра, стр. 81.

буйная прамысловасьць дзейнічае з вялікай рэвалюцыйнасьцю у тым сэнсе, што яна зьнішчае заслону старой грамады, селяніна і высоўвае на яго месца наёмнага рабочага. Гэткім чынам патрэба соцыяльнага перавароту і антаганізмы становяцца ў вёсцы аднолькавымі з горадам». [1]

Увесь рух гістарычнага разьвіцьця штурхаў сялянства да паўпэрызму, вялікая і цяжкая эксплёатацыя дробнага сялянства капіталам утварае у пэрспэктыве магчымасьць саюзу паміж пролетарыятам і прыгнечаным сялянствам. У барацьбе з капіталізмам з гэтым агульным ворагам гэты саюз можа быць толькі пад кіраўніцтвам пролетарыяту. Па меры разьвіцьця капіталізму інтарэсы пролетарыяту і інтарэсы сялянства пачынаюць супадаць і становяцца працівалеглымі інтарэсам буржуазіі; «інтарэсы сялян знаходзяцца ўжо ня ў згодзе, а ў супярэчнасьці з інтарэсамі буржуазіі і капітала. Яны находзяць гэткім чынам свайго натуральнага саюзьніка і правадыра ў г а р а д з к і м п р о л е т а р ы я ц е гістарычная задача якога—нізрынуцьце буржуазнага ладу». [2]

Марксызм, як бачым, не выключаў магчымасьці пераходу дробнага сялянства, у выніку яго падняволеньня капіталам, на пункт погляду пролетарыяту. Наадварот, капіталістычная эксплёатацыя дробнага сялянства ставіць гэтае сялянства ў шэрагі барацьбітоў супроць буржуазнай сыстэмы, робіць магчымым яго пераход на бок пролетарскай рэвалюцыі.

Хуткасьць гэтага пераходу зьвязана з уяўленьнем дробным сялянствам таго, што прыкованасьць яго да уласнай гаспадаркі дае магчымасьць капіталістам яшчэ больш узмацняць эксплёатацыю. Улада зямлі яго невялікі кавалак, толькі засьцілае яму вочы і перашкаджае селяніну стаць рашучым ворагам капіталістычнага ладу і пасьлядоўным спадарожнікам пролетарскага соцыялізму. Але калі «селянін расстанецца з верай у свой зямельны вучастак, заваліцца і ўся пабудаваная на сялянскім землеуладаньні дзяржаўная будоўля, і пролетарская рэвалюцыя атрымае хор, без якога яе сола ва ўсіх сялянскіх краінах пераварачваецца ў лебядзінную песьню». [3]

---

[1] Маркс, „Капитал", т. I, стр, 485.
[2] Маркс, 18 Брюмэра, стр. 81
Маркс, 18 Брюмэра, „Библиотека марксиста", вып. VII, стр. 105.

## II. Роля сялянства ў рэвалюцыі.

1. Аб рэвалюцыйных здольнасьцях сялянства і яго ролі ў рэвалюцыях. 2. Пролетарыят кіраўнік сялянства ў рэвалюцыі. 3. Тры этапы ў саюзе рабочай клясы з сялянствам. 4. Сялянства пры дыктатуры пролетарыяту.

1.

Сялянства пры капіталізьме зьяўляецца тым пластом, які па меры далейшага разьвіцьця гэтае сыстэмы, усё больш і больш траціць сваю эканамічную самастойнасьць, расслаіваецца; нязначная частка пераходзіць у вярхі, у шэрагі буржуазіі, пераважная-ж колькасьць яго скатваецца ніжэй па шляху паўпэрызму. Гэты рух ня можа быць затрыманы нічым, акрамя рэвалюцыі, акрамя правядзеньня каранных аграрных рэформ. Тут паўстае пытаньне хто здолен вызваліць сялянства з таго тупіка, у які яно загнана рухам усяго гістарычнага разьвіцьця. Хто можа спыніць яго падзеньне ў «алхімічную рэторту капітала». У капіталіст. грамадзе знаходзяцца тры асноўныя соцыяльныя сілы: буржуазія, сялянства і пролетарыят. Хто з гэтых трох пластоў павінен павесьці грамаду па шляху прогрэса, хто здолен вызваліць пераважную частку насельніцтва—сялянства з капіталістычнае няволі?

Маркс і Энгельс на аналізе рэвалюцыі 48-га году у Нямеччыне і Францыі ясна даказалі, што буржуазія няздольна правесьці аграрную рэвалюцыю да канца. Найбольшае, навошта яна здольна, гэта такое вырашэньне аграрнага пытаньня, якое было дадзена першай францускай рэвалюцыяй,—увядзеньне дробнай прыватнай зямельнай уласнасьці. «Як у першай францускай рэвалюцыі дробныя буржуа, аддадуць фэўдальныя ўладаньні селянам у выглядзе вольнай уласнасьці, т. зв. пажадаюць захаваць вясковы пролетарыят і ўтварыць дробнабуржуазную сялянскую клясу, якая павінна будзе прарабіць той жа кругаабарот абядненьня і узрастаючай запазычанасьці, у якой знаходзіцца зараз францускі селянін».[1] Больш таго, буржуазія, як дробная, гэтак і буйная ня толькі ня здольна правесьці да канца аграрную рэвалюцыю; як аб гэтым яскрава сьведчаць мінулыя рэвалюцыі, у тым ліку і вялікая расійская рэвалюцыя; але наадварот, скарыстоўваючы рэвалюцыйныя, супроцфэўдальныя настроі і сілы сялянства, каб яшчэ мацней захаваць сваё становішча. Падводзячы вынікі рэвалюцыі ў Нямеччыне, Энгельс піша: «Сялянства ў Прусіі, як і ў Аўстрыі, выкарыстала рэвалюцыю, каб вызваліцца ад усіх фэўдальных ланцугоў,—аднак, з меншай энэргіяй, чым у Аўстрыі, таму што фэўдалізм, наогул кажучы, тут ня так сурова давіў на яго. Але гэтага было досыць, каб пруская буржуазія... той-жа час абярнулася супроць сялянства, свайго старэйшага і неабходнейшага саюзьніка. Дэмакраты, ня менш буржуа запалоханы т. зв. нападзеньнямі на прыватную ўласнасьць, таксама не замарудзілі аказаць буржуазіі падтрымку, і вось пасьля трох месяцаў эмансіпацыі фэўдалізм... ізноў быў адноўлены ў крывапралітнай

[1] „Обращение ЦК к Союзу". Собрание сочинений Маркса и Энгельса т. III, стр. 505.

барацьбе, сярод ваённых экзекуцый, з дапамогаю буржуазіі, учора яшчэ антыфэўдальнай».[3] Адсюль ясна відаць, што ні буржуазія, ні яе партыі не глядзяць інакш на сялянства як толькі на сілу, пры дапамозе якой можна расчысьціць шлях для вольнага прасоўваньня ўперад капіталізму. У гэтым напрамку і скарыстоўвае буржуазія сялянства. Што-ж датычыцца вызваленьня сялянства як з-пад ярма фэўдалізму, гэтак і з-пад капіталістычнага уціску, дык буржуазія аб гэтым менш за ўсё клапаціцца.

Марксызм не адмаўляе рэвалюцыйных магчымасьцяй, якія знаходзяцца ў нетрах сялянства ва ўмовах капіталістычнай рэчаіснасьці, але-ж прызнаць гэтую рэвалюцыйнасьць да магчымасьці самастойнага выступленьня сялянства ў рэвалюцыі і да атрыманьня станоўчых вынікаў—гэтага марксызм не сьцьвярджае і гэта нават ня ў прыродзе і самаго сялянства.

Асаблівасьцю сялянскай рэвалюцыі, якая выходзіць і грунтуецца на дробнай гаспадарцы і яе эканоміцы зьяўляецца немагчымасьць для сялянства, у зьвязку з яго распыленасьцю, правесьці самастойна апошнюю фазу рэвалюцыі, палітычную рэвалюцыю. Усе вядомыя гісторыі самастойныя выступленьні сялянства заўсёды асталіся бунтамі, непераходзячы у рэвалюцыю. У ва ўсіх вядомых гісторыі аграрных рэвалюцыях палітычная ўлада ў грамадзе пераходзіла не к сялянству, а к іншай рэвалюцыйнай клясе: у буржуазных рэвалюцыях—к капіталу, у расійскай рэвалюцыі—к пролетарыяту. Раз'яднанасьць і бязупыннае расслаеньне сялянства перашкаджае яму канстытуіравацца як клясе «для сябе». Адсюль выходзяць і іншыя адмоўныя якасьці і ўласьцівасьці сялянства. Самая галоўнае гэта тое, што сялянства ня можа само прадстаўляць свае ўласныя інтарэсы. «Сяляне ня здольны абараняць свае інтарэсы ад уласнага імя ні ў парлямэнце, ні ў якім-небудзь канвэнце. Яны ня могуць прадстаўляць самі сабе яны павінны быць прадстаўлены другімі. Іх прадстаўнік павінен быць у той жа час іх панам, аўтарытэтам, узброеным неабмяжованай урадавай уладай».[2] І па другое, сялянства ня толькі ня можа адстаяць свае інтарэсы, але і ня здольна да рэвалюцыйнай ініцыятывы: «сельскагаспадарчае насельніцтва ніколі ня можа пасьпяхова пачаць самастойны рух; занадта ужо сільна рассеяна яно па абшырных прасторах і таму было-б цяжка аб'яднаць значную частку яго для сумесных дзеяньняў. Сялянства адчувае патрэбу ў ініцыятыве і штуршку з боку больш сканцэнтраванага адукаванага і рухомага насельніцтва гарадоў».[3] Тое-ж самае зазначае і Маркс адносна гэтай якасьці сялянства: «Ня гледзячы на росквіт прамысловасьці і гандлю, які раптоўна выпаў на долю Францыі, маса насельніцтва, 25 мільёнаў сялян, перажывае прыгнечанае становішча. Добрыя ураджаі апошніх гадоў зьнізілі цэны на хлеб у Францыі яшчэ больш, чым у Англіі, і становішча запазычаных, высіленых ліхвярствам і прыгнечаных падаткамі сялян далёка ня добрае. Але гісторыя апошніх трох гадоў дастаткова даказала, што гэтая кляса насельніцтва зусім няздольна да рэвалюцыйнай ініцыятывы».[4] Нават батрацтва, гэты сельска-гаспадарчы пралетарыят, у зьвязку з тым, што ён параськіданы шырока па прастору, можа прыняць толькі слабы удзел

[1] Энгельс „Революция и контрреволюция в Германии" исторические работы Маркса и Энгельса стр. 272.
[2] Маркс 18 Брюмэра стр. 78.
[3] Энгельс „Революция и контрреволюция в Германии" стр. 244.
[4] Маркс „Классовая борьба во Франции" стр. 124.

у рэвалюцыйным руху. «Расьсяеньне вясковых рабочых на вялікай плошчы зламывае сілу іх супраціўленьня, між тым як канцэнтрацыя гарадзкіх рабочых узмацняе яе». [1] «...Капіталістычны спосаб вытвару ня толькі злучае рабочых вялікімі масамі ў асобных гарадох, значна перавышаючых па вялічыне гарады фэўдальнага часу, але аб'яднае іх і ў нутры гораду ў асобных вялізарных майстэрнях; ён сам арганізуе і дысцыплініруе наёмных рабочых. Але яны ужо не зьвязаны больш з хатняй гаспадаркай прадпрыемцы. Па-за майстэрняй яны эканамічна зусім самастойныя, вольныя людзі, маючыя ўласную хатнюю гаспадарку.

Інакш, чым у гарадох, уплывае капіталістычнае разьвіцьцё ў вёсцы. Тут яно не злучае людзей, а рассейвае іх. Пры тым яно забірае з вёскі самыя здольныя, энэргічныя і інтэлегентныя элемэнты. Застаюцца самыя слабыя найбольш бездапаможныя. Разам з абязлюдзеньнем ідзе інтэлектуальнае запусьценьне вёскі». [2] З усяго гэтага ясна відаць, што пры капіталізьме, пры умове самастойнага таварнага вытвару, які не злучае сялянства, не аб'яднае, а расьсейвае яго, яно ня здольна на самастойнае выступленьне ў рэвалюцыйнай барацьбе, ня здольна давесьці да канца аграрную рэвалюцыю. Нават у пэрыяд фэўдалізму, калі сялянства супраўды яўлялася самай рэвалюцыйнай клясай грамады, яно аднак ня мела посьпехаў у сваіх выступленьнях. «Вялікія паўстаньні сярэднявякоўя выходзілі ўсе з вёскі, але у зьвязку з раздробленнасьцю сялянства і сьвязанай з гэтым грубасьці іх, яны таксама аставаліся зусім без ніякіх вынікаў». [3]

Ня гледзячы на сваю няздольнасьць да самастойнай арганізацыі і к самастойнай палітыцы, сялянства аднак прадстаўляе сабою вялікую палітычную сілу. Яно можа рабіць значны уплыў на рух рэвалюцыйных падзей нават можа рашыць канец клясавае барацьбы хаця-б адным, што яно зьяўляецца вялікай колькаснай вялічынёй. Трэба лічыцца з гэтай палітычнай сілай, трэба вывучаць яе дадатныя і адмоўныя бакі, яе інтарэсы, яе клясавыя пачуцьці і настрой. Зусім ясна, што сялянства у пэрыяд буржуазнай рэвалюцыі ў цэлым ідзе разам з буржуазіяй супроць адзінага ворага абшарніка-фэўдала. Паколькі ўсё сялянства страдала ад гнёту абшарніка, яно і ў буржуазнай рэвалюцыі выступае як адзінае цэлае, як кляса.

Больш складана стаіць справа з паводзінамі сялянства ў сацыялістычнай рэвалюцыі. Пры капіталістычным спосабе вытвару, сялянства ужо больш не зьяўляецца адзінай клясай; яно дыфэрэнцыруецца; адсюль і паводзіны кожнага з утвараемых, пры дыфэрэнцыяцыі сялянства пластоў—розныя. Буйнае сялянства, паколькі яно адносіцца да буржуазіі, само сабе вызначыла і месца у пролетарскай рэвалюцыі. Паводзіны сярэдняга сялянства,—у разуменьні Энгельса,—рознае і залежыць ад розных акалічнасьцяў месца і часу. «У тых мясцовасьцях, дзе селянін жыве сярод дробных, ён не адрозьніваецца ад іх існаваньня сваімі інтарэсамі і сваімі поглядамі; яго уласны вопыт павінен яму сказаць, колькі роўных яму сялян спусьцілася да дробных. Там жа, дзе пераважываюць сярэднія і буйныя сяляне, і вядзеньне гаспадарак патрабуе, наогул кажучы, дапамогі батракоў і батрачак, справа абстаіць зусім інакш». [4] У агульным жа сярэдні селянін таксама рэакцыённы, ён усё-ж бліжэй да буйнага, чым да дробнага

[1] Маркс „Капитал“ т. I. стр. 486.
[2] Каутский „Аграрный вопрос“ стр. 227.
[3] Маркс и Энгельс „Немецкая идеология“ стр. 235.
[4] Энгельс „Крестьянский вопрос“ стр. 40.

таму што і ён эксплёатуе чужую працу. Найбольшымі хістаньнямі ў соцыялістычнай рэвалюцыі адрозьніваецца дробнае сялянства па тэрміналёгіі Энгельса, альбо сялянства у сучасным разуменьні адпаведнае нашаму серадняку. Гэты пласт па сваёй вялікай колькасьці ў асобных краінах можа аказацца рашаючай сілай у рэвалюцыі.

Супроць фэўдала-абшарніка сялянства выступае як рэвалюцыйна-дэмакратычны пласт. У гэтым выпадку сумневацца ў яго рэвалюцыйнасьці ня трэба. Але калі гутарка ідзе аб пралетарскай рэвалюцыі, паўстае пытаньне аб яго рэвалюцыйнасьці ў сацыялістычным сэнсе слова. «З усіх клясаў, супраць стаячых зараз буржуазіі, толькі пралетарыят прадстаўляе сабою супраўдную рэвалюцыйную клясу. Усе іншыя клясы прыходзяць у заняпад і зьнішчаюцца з разьвіцьцём буйнай прамысловасьці, пралетарыят-жа іменна ёю і ўтвараецца».[1] Сярэднія-ж пласты капіталістычнай грамады, як саматужнікі, дробныя гандляры і сяляне, рэвалюцыйны пастолькі, паколькі ім прадстаіць немінучы пераход у шэрагі пралетарыяту, паколькі-ж яны імкнуцца абараніць сваё сучаснае становішча, яны рэакцыйны. Растлумачваючы гэтае места з «Камуністычнага Маніфэсту», Ленін піша: «У становучай форме мы можам і абавязаны указаць на консэрватыйнасьць дробнай буржуазіі, і т о л ь к і ў у м о ў н а й ф о р м е мы павінны указаць на яго рэвалюцыйнасьць, толькі гэткая фармуліроўка будзе ў дакладнасьці адпавядаць усяму духу вучэньня Маркса».[2] Калі марксызм кажа аб рэвалюцыйнасьці сялянства «у ўмоўнай форме» гэта можна зразумець так, што аб'ектыўныя прадпасылкі для супроць-буржуазных настрояў сярод сялянства ёсьць. Да гэтых прадпасылак адносяцца—разарэньне дробнай сялянскай гаспадаркі, усебаковая эксплёатацыя і выцясьненьне буйным капіталам. Але «умоўная рэвалюцыйнасьць» адзначае, што анцібуржуазныя настрoі не адразу і не заўсёды могуць выліцца у адчыненае выступленьне. Гэтаму перашкаджае дробна-буржуазная сутнасьць сялянства, яго імкненьне захаваць дробную уласнасьць. Сялянства заўсёды будзе хістацца паміж буржуазіяй і пралетарыятам. Яго дробна-буржуазная прырода яшчэ надта доўга і сільна будзе даваць сябе адчуваць. «Дробны селянін ёсьць будучы пролетары. У якасьці гэткага, ён павінен быў бы з ахвотаю адчыніць вушы для соцыялістычнай прапаганды. Але у гэтым яму пакуль яшчэ служыць перашкодай глыбока ўкаранёнае ў ім пачуцьцё ўласнасьці. Чым больш цяжка робіцца для яго барацьба за свой абцяжараны даўгамі кавалак зямлі, чым з большай сілай адчаяньня чапляецца ён за яго, тым больш бачыць ён у сацыял-дэмакрату, які кажа аб перадачы зямельнай уласнасьці грамадзе, гэткага-ж небясьпечнага ворага, як у ліхвяру ці адвакаце.[3]

Аднак, тое што дробнае селянства не зразу пераходзіць на бок пролетарыяту, ніколькі не кажа аб тым, што яно абавязкова павінна выступіць супраць пролетарыяту. Эксплёатацыя і ўціск дробнага сялянства буйнымі абшарнікамі і капіталам служыць дастатковым грунтам і прадпасылкай для нэўтралізацыі сялянства ў пралетарскай рэвалюцыі і для схіленьня яго на свой бок пры умелай тактыцы.

Пралетарыят у дадзеным выпадку, павінен растлумачыць дробнаму сялянству, што яго самастойная барацьба супраць капіталізму, ёсьць безсэнсоўнасьць, што вызваленьне яму прынясе ня дробная ўласнасьць, а іншы ідэал—сацыялізм і каляктыўная гаспадарка. Задача

[1] Маркс и Энгельс „Коммунистический Манифест" стр. 55.
[2] Ленинский сборник № 2, стр. 79.
„Эн гельс Крестьянский вопрос" стр. 26—27.

пралетарыяту вырваць сялянства з-пад уплыву буржуазіі, прысьпешыць яго пераход на свой бок. Пры гэтым трэба памятаць яшчэ і тое, што рэвалюцыйй пролетарыяту, без удзелу ў ёй шырокіх мас, у тым ліку і дробнай буржуазіі, быць ня можа. «Хто чакае «чыстай» сацыяльнай рэвалюцыі, той ніколі яе не дачакаецца. Той рэвалюцыянэр на словах, не разумеючы супраўднай рэвалюцыі...

Сацыялістычная рэвалюцыя ў Эўропе ня можа быць ня чым іншым, як выбухам масавае барацьбы усіх і ўсялякіх прыгнечаных і незадаволеных. Часткі дробнай буржуазіі і адсталых рабочых няўхільна будуць удзельнічаць у ёй—бяз гэтага удзелу не магчыма масавая барацьба, немагчыма ніякая рэвалюцыя—і так жа няўхільна будуць уносіць у рух свае забабоны, свае рэакцыйныя фантазіі, свае слабасьці і памылкі. Але аб'ектыўна яны будуць нападаць на капітал, і сьвядомы авангард рэвалюцыі, перадавы пралетарыят, выражаючы гэтую аб'ектыўную ісьціну разнастойнай і разнагалосай, перыстай і надворна раздраблёнай масавай барацьбы, зможа аб'яднаць і накіраваць яе заваяваць уладу... і зьдзейсьніць... нізрынуцьце буржуазіі і перамогу сацыялізму». [1]

І так пры капіталізьме, пры наяўнасьці буржуазнай уласнасьці на зямлю сялянства, асабліва яго ніжэйшыя пласты, нават ня гледзячы на тое, што яны абдураныя буржуазіяй ідуць за ёй, павінна разглядвацца, як магчымы саюзьнік пралетарыяту. У напружаны момант клясавае барацьбы буржуазія робіць спробу лёзунгамі «чыстай дэмакратыі» ўтрымаць за сабою сялянства. Справа-ж пралетарыяту, вырваць сялянства з рук буржуазіі, прымусіць сялянства ліць ваду на млын пралетарскай рэвалюцыі. «Гэтай дыалектыкі ніколі не маглі зразумець прадстаўнікі Другога Інтэрнацыяналу: пралетарыят ня можа перамагчы, не заваяваўшы на свой бок большасьці насельніцтва. Ён павінен зьністожыць уплыў буржуазіі і дробна-буржуазных згоднікаў сярод большасьці непралетарскіх працоўных мас рэвалюцыйным ажыцьцяўленьнем іх эканамічных патрэб за кошт эксплёататараў». [2] Як бачым, да Леніна гэтак не разглядвала адносін пролетарыяту і сялянства старая сацыял-дэмакратыя. Сацыялдэмакратыя зьбілася ў сваёй пазыцыі па сялянскім пытаньні на пункт погляду, які ацэньвае сялянства, як сплашную рэакцыйную масу.

Зараз-жа, з мэтаю больш яснай пастаноўкі аб рэвалюцыйных здольнасьцях сялянства, мы павінны ўявіць сабе адно пытаньне: «ці вычарпаны ужо рэвалюцыйныя магчымасьці захаваныя ў нэтрах сялянства, з прычыны пэўных умоў яго існаваньня, ці не, і калі ня вычарпаны, ці ёсьць надзея, падстава выкарыстаць гэтыя магчымасьці для пралетарскай рэвалюцыі, абярнуць сялянства гэтую эксплёатаваную большасьць з рэзэрву буржуазіі, якім яно было у час буржуазных рэвалюцый захаду і якім яно застаецца і цяпер,—у рэзэрв пралетарыяту, у яго саюзьніка? Ленінізм адказвае на гэта пытаньне пацьвярджальна, гэта ёсьць, прызнае ў шэрагах большасьці сялянства рэвалюцыйныя здольнасьці. Прызнае магчымасьць іх скарыстаньня ў інтарэсах пралетарскай дыктатуры. Гісторыя трох рэвалюцый у Расіі цалкам пацьвярджае вывады ленінізму на конт гэтага». [3] Як гэта на першы погляд ня дзіўна, але іменна капіталізм у сваёй апошняй стадыі прынёс з сабою узросшае значэньне сялянства. Так

---

[1] Ленин т. XIII, стр. 431.

[2] Ленин т. XVI, стр. 450. „Выборы в Учредительное Собрание и диктатура пролетариата.

[3] Сталін „Пытаньні ленінізму“ стар. 101.

у антыфэўдальных рэволюцыях, якія выводзяць краіны на шлях капіталістычнага разьвіцьця, сялянства зьяўляецца амаль не галоўнай масавай сілай, якая зьнішчае стары парадак у асобе фэўдальнага землеуладаньня. Далей, усе залежныя і каленіяльныя краіны у пераважнасьці селянскія, зрабіліся значным рэвалюцыйным фактарам у агульным супраць імпэрыялістычным руху, які хістае ўладу капітала. У рэшце сучасныя войны, якія вядуцца капіталістычнымі дзяржавамі, выносяцца на сваіх плячох галоўным чынам сялянствам гэтых краін. Гэтыя тры галоўныя акалічнасьці робяць сялянства аб'ектам, які ня можа быць ня ўлічан пралетарыятам у правядзеньні сацыялістычнай рэвалюцыі.

У свой час Маркс і Энгельс гаварылі аб становішчы і ролі сялянства ў пралетарскай рэвалюцыі і аб задачах пралетарыяту ў адносінах да сялянства, вызначаючы гэтую задачу як нэўтралізацыю сялянства, яны пры гэтым мелі на ўвазе пралетарскую рэвалюцыю без яе злучэньня з сялянскай. У гэтым выпадку, супраўды асноўнай задачай пралетарыяту зьяўляецца палітычная нэўтралізацыя сялянства. Маркс і Энгельс праўда выказаліся за злучэньне рэвалюцыйнага руху рабочых мас з сялянскім паўстаньнем, але гэтыя іх пагляды у зьвязку з асаблівасьцямі тагочаснага разьвіцьця не атрымалі закончанага выразу, як сыстэма тактыкі пралетарыяту ў адносінах да сялянства. Так у лісьце да Энгельса ад 16 красавіка 1856 году, разьбіраючы магчымасьць пераможнай рэвалюцыі ў Нямеччыне, Маркс пісаў: «Увесь рух спраў у Нямеччыне будзе залежыць ад магчымасьці аказаць падтрымку пралетарскай рэвалюцыі, свайго роду, другім выданьнем сялянскай вайны. Тады будзе усё добра».[1] Бязумоўна, тактыка нэўтралізацыі мае вялікае значэньне ў рэвалюцыях тых краін, дзе сялянства складае меншасьць насельніцтва, дзе рабочая кляса зьяўляецца пераважнай часткай грамады, дзе традыцыі сялянства, як уласьніка моцна заселі ў галаве.

Пытаньне аб дробным і сярэднім сялянстве, як а рэзерве пралетарыяту ў рэвалюцыйнай барацьбе і ў сацыялістычнай будоўлі Маркс і Энгельс не маглі паставіць выстарчальна. Гэта пытаньне тэарэтычна высьвятліў і практычна вырашыў вучань Маркса і Энгельса—Ленін. Аднака Маркс і Энгельс шчыльна падышлі да погляду на сялянства, як на сілу, якая можа адыграць вялікую ролю ў пралетарскай рэвалюцыі.

Што датычыцца адносін рабочае клясы да асноўных пластоў сялянства, дык яны павінны мяняцца ў руху самой рэвалюцыі, у залежнасьці ад яе этапаў і ў залежнасьці ад краін, дзе гэтыя рэвалюцыі разгортваюцца. Калі ідзе справа аб нізрынуцьці фэўдалізму і ўстанаўленьні дэмакратычнай ўлады, але без зьнішчэньня капіталістычных парадкаў і адносін, так зв. абуржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, тут пралетарыят можа заняць дзьве асноўных пазыцыі: альбо гэта будзе дэмакратычная дыктатура у саюзе з сялянствам супраць фэўдалізму, і для хутчэйшага капіталістычнага разьвіцьця дадзенай краіны, альбо гэта будзе соцыялістычная дыктатура пралетарыяту, якая скарыстоўвае сялянства і кіруе ім у мэтах нізрынуцьця улады капіталу. У краінах каленіях, дзе ўжо дастаткова вырасла рабочая кляса, у выпадку рэвалюцыі, будзе зьдзейсьнена рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура рабочай клясы і селянства. У краінах разьвітага капіталізму, у выпадку перамогі пралетарыяту, будзе ўстаноўлена

[1] Маркс и Энгельс „Письма" Моск. Раб. 1928 г. стр. 86.

сацыялістычная дыктатура рабочае клясы. Наогул нераўнамернае разьвіцьцё капіталізму выклікае featnaстайнасьць у зрэласьці асобных краін і спэцыфічныя ўмовы рэвалюцыйнага працэсу. Гэтая акалічнасьць робіць няўхільным і featнастайнасьць шляхоў і тэмпаў прыходу пралетарыяту да ўлады у сувязі з гэтым і палітыка пралетарыяту у адносінах сялянства пры розных умовах і іх зьменах, павінна быць featнай.

Так у пэрыад першай расійскай рэвалюцыі, Ленін высунуў сваю геніальную тэарэму аб палітычным саюзе рабочае клясы і сялянства для перамогі над фэўдалізмам над царскім самаўладзтвам для зьнішчэньня усіх астаткаў сярэднявякоўя ўключаючы сюды і буйнае абшарніцкае землябробства. Асноўны тэзіс Леніна быў фармуляван тады, як рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства. Адно толькі павінна быць ясна, што рэвалюцыйная барацьба ня можа быць пасьпяховай, калі яна ня будзе праходзіць у форме дыктатуры, таму што толькі гэткая барацьба будзе абапірацца на паўстаньне, на ваенную сілу, на ўзброеныя народныя масы. Гэта можа быць толькі дыктатура і таму, што правядзеньне рэформ, патрэбных зараз-жа і надалей пралетарыяту і сялянству, выклікае абурэньне з боку абшарнікаў і буржуазіі. Без дыктатуры зламіць гэта сапраціўленьне, адбіць контр-рэвалюцыйныя спробы будзе немагчыма. «Гісторыя нас вучыць, што яшчэ ніколі прыгнечаная кляса не атрымлівала і ня можа атрымаць уладу без папярэдняга пэрыаду дыктатуры, гэта ёсьць без заваяваньня палітычнай улады і гвалтоўнага спыненьня самага адважнага, дзікага, не адступаючага ні перад якім злачынствам супраціўленьня, якое эксплёататары заўсёды аказваюць. Сама буржуазія, улада якой зараз абараняецца сацыялістымі, якія выказваюцца супроць «дыктатуры наогул» і душой і целам стаячымі за «дэмакратыю наогул», атрымала сваю ўладу ў цывілізаваных краінах, дзякуючы цэламу шэрагу паўстаньняў, грамадзянскіх войнаў, гвалтоўнаму нізрынуцьцю каралёўскай улады, фэўдальных рабаўласьнікаў і падаўленьню спроб рэстаўрацыі».[1] Вось у асноўных і самых агульных рысах тыя моманты, якія павінен улічваць пролетарыят пры ўстанаўленьні сваіх узаемаадносін з сялянствам.

Усё гэта выходзіць з таго важнага факту, што рэвалюцыі наогул і ў прыватнасьці буржуазныя рэвалюцыі не зьяўляюцца рэвалюцыямі адзінага тыпу. Але што яны у галоўным падзяляюцца на рэвалюцыі без актыўнага удзелу сялян, і на буржуазна-сялянскія рэвалюцыі, дзе вялікую ролю адыгрывае сялянства. Гэта Ленін адзначыў яшчэ у пэрыад першай расійскай рэвалюцыі у сваіх спрэчках з меншавікамі, якія гэтай розьніцы не разумелі. «Усякая селянская рэвалюцыя, накіраваная супроць сярэднявякоўя пры капіталістычным характары усёй грамадзкай гаспадаркі, ёсьць буржуазная рэвалюцыя. Але не усякая буржуазная рэвалюцыя ёсьць сялянская рэвалюцыя». Далей Ленін, растлумачваючы гэтую розьніцу, кажа: «Калі-б у краіне з землябробствам, арганізаваным зусім капіталістычна, капіталісты-землеўласьнікі пры дапамозе наёмных рабочых зьдзейсьнілі аграрную рэвалюцыю, зьнішчыўшы, да прыкладу скажам, прыватную ўласнасьць на зямлю, дык гэта будзе буржуазная рэвалюцыя, але зусім не сялянская рэвалюцыя, калі-б у краіне, аграрны лад якой настолькі зросься ужо з капіталістычнай гаспадаркай наогул, што зьнішчыць гэты лад было-б немагчыма без зьнішчэньня капіталізму, адбылася рэвалюцыя, якая ставіць, ска-

[1] Ленин т. XVI, стр. 37. Тезизы и доклад о буржуазной демократии и диктатуре пролетариата.

жам, у ўлады прамысловую буржуазію на месца самадзяржаўнай буржуазіі, дык гэта была-б буржуазная рэвалюцыя, але зусім не сялянская рэвалюцыя. Іншымі словамі: магчыма буржуазная краіна без сялянства і магчыма буржуазная рэвалюцыя ў падобнай краіне без сялянства. Магчыма буржуазная рэвалюцыя ў краіне са значным сялянскім насельніцтвам, і, аднак, такая рэвалюцыя, якая зусім не зьяўляецца сялянскай рэвалюцыяй, т. зв. такая якая не рэвалюцыянізуе спэцыяльна-датычачых сялянства пазямельных адносін і не высоўвае сялянства у лік колькі-небудзь актыўных грамадзкіх сіл, якія робяць рэвалюцыю. Значыцца, агульнае марксысткае разуменьне буржуазнай рэвалюцыі, трымае вядомыя палажэньні, абавязкова дапасаваныя да усякай сялянскай рэвалюцыі ў краіне разьвіваючага капіталізму, але гэта агульнае разуменьне роўна нічога яшчэ не гаворыць аб тым, ці павінна, у сэнсе аб'ектыўнай неабходнасьці, буржуазная рэвалюцыя дадзенай краіны стаць сялянскай рэвалюцыяй, каб атрымаць поўную перамогу, ці не павінна.

Галоўнай крыніцай нявернасьці усёй тактычнай лініі Плеханава і ідучых за ім меншавікоў, у першы пэрыяд рускай рэвалюцыі заключаецца у тым, што яны зусім не разумелі гэтых суадносін між буржуазнай рэвалюцыяй наогул і сялянскай буржуазнай рэвалюцыяй». [1] Пасьля гэтага зусім відавочна тое, што тактыка пралетарыяту павінна быць рознай, у розных буржуазных рэвалюцыях.

Так у буржуазна-сялянскай рэвалюцыі задача рабоча-сялянскага блёку радыкальна адрозьніваецца ад задач гэтага-ж блёку ў сацыялістычнай рэвалюцыі. У першым выпадку пралетарыят ставіць сваёй асноўнай задачай ліквідацыю фэўдалізму, да чаго імкнецца і сялянства. Таму застаючыся гегэмонам гэтай рэвалюцыі, пралетарыяту неабавязкоў уваход у урад, таму што гэты удзел зьяўляецца пытаньнем не праграмным, а тактычным. У выпадку-ж рэвалюцыі сацыялістычнай, хаця-б і самым цесным чынам злучанай з рэвалюцыяй селянскай, рабочая кляса арганізуе ўладу пралетарскай дыктатуры.

Калі ў выпадку дэмакратычнага перавароту пралетарыят павіненісьці разам з усім сялянствам без выключэньня і кіраваць ім, а ў выпадку сацыялістычнай дыктатуры—толькі ў саюзе з пралетарыятам і паўпралетарыятам вёскі, паўстае пытаньне, дзе знайсьці мяжу, якая падзяляе адну рэвалюцыю ад другой. Марксызм, аналізуючы гэтае пытаньне, у сучасную гістарычную паласу адзначае, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, у тым ліку і буржуазна-сялянская рэвалюцыя не адмяжавана, не аддзелена кітайскай сьцяной ад рэвалюцыі сацыялістычнай, і адна можа лёгка перайсьці у другую, калі ў рабочае клясы хопіць волі і сіл на сацыялістычны пераварот. Буржуазна-дэмакратычныя зьмены ёсьць пабочны прадукт пралетарскай рэвалюцыі. Трэба зразумець адно, што суадносіны буржуазна-дэмакратычнай і пралетарскай рэвалюцыяй гэткія, што першая перарастае ў другую, другая замацоўвае справу першай і толькі сьмеласьць, энэргія і энтузіязм мас у барацьбе можа вырашыць, наколькі удасца другой перарасьці першую. «Гэроі Другога Інтэрнацыяналу цьвярдзілі і далей цьвярдзяць, што—паміж буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі з аднаго боку, і пралетарскай з другога, існуе прорва, або, у кожным выпадку, кітайскі мур аддзяляючы адну ад другой больш ці менш доўгімі інтэрваламі, у працягу якога буржуазія якая прыйшла да ўлады, разьвівае капіталізм, а пралетарыят награмаджае сілы і рыхтуецца да «рашучай» барацьбы супроць капіталізму. Інтэрвал гэты вылічаецца

[1] Ленин т. IX, стр. 538.

звычайна многімі дзесяткамі гадоў, калі ня больш. А бадай ці трэба даводзіць, што гэтая «тэорыя» кітайскага муру пазбаўлена ўсялякага навуковага сэнсу ў абстаноўцы імпэрыялізму, што яна зьяўляецца, і ня можа не зьяўляецца, толькі заслонай, якой прыкрываецца контр-рэвалюцыйная прага буржуазіі. Бадай ці трэба даводзіць, што ў абстаноўцы імпэрыялізму, цяжарнага стычкамі і войнамі, у абстаноўцы «пярэдадня сацыялістычнай рэвалюцыі», калі капіталізм «квітнеючы» ператвараецца у капіталізм «паміраючы», а рэвалюцыйны рух расьце ува ўсіх краінах сьвету, калі імпэрыялізм яднаецца з усімі без выключэньня рэакцыйнымі сіламі, аж да царызму і прыгонніцтва і гэтым самым робіць канечнай коаліцыю усіх рэвалюцыйных сіл ад пралетарскага руху на захадзе да нацыянальна-вызваленчага руху на ўсходзе, калі зваленьне перажыткаў фэўдальна-прыгонніцкіх парадкаў становіцца немагчымым без рэвалюцыйнай барацьбы з імпэрыялізмам,—бадай ці трэба даводзіць, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў больш-менш разьвітым краю павінна зьбліжацца пры такіх умовах з рэвалюцыяй пралетарскай, што першая павінна перарастаць у другую. Гісторыя рэвалюцыі ў Расіі з відавочнасьцю пацьвердзіла правільнасьць і бяспрэчнасьць гэтага палажэньня».[1] Ленін яшчэ ў пэрыяд першай рускай рэвалюцыі ўказваў на тое, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя і сацыялістычная, ёсьць два неразрыўных зьвяны аднаго ланцуга. Ён піша: «Пралетарыят павінен правесьці да канца дэмакратычны пераварот, далучаючы да сябе масу сялянства, каб зруйнаваць сілай супраціўленьня самаўладзтва і паралізаваць нястойкасьць буржуазіі. Пралетарыят павінен зрабіць сацыялістычны пераварот, далучаючы да сябе масу паўпралетарскіх элемэнтаў насяленьня, каб зламаць сілы супраціўленьня буржуазіі і паралізаваць нястойкасьць сялянства і дробнай буржуазіі».[2]

Марксызм вучыць пралетарыят не адхіленьню ад буржуазнай рэвалюцыі, не бяз удзелу да яе, а наадварот самаму энэргічнаму ўдзелу ў яе правядзеньні, у яе кіраўніцтве, за давядзеньне барацьбы да канца. Буржуазная рэвалюцыя надзвычайна карысна інтарэсам пралетарыяту і чым паўней, чым больш рашуча і пасьлядоўна будзе буржуазная рэвалюцыя, тым больш забясьпечана будзе барацьба пралетарыяту за сацыялізм. Рабочай клясе карысна тое, каб неабходныя пераўтварэньні ў буржуазна-дэмакратычным напрамку прайшлі не рэфармацыйным, а рэвалюцыйным шляхам. Таму што рэфармацыйны шлях, ёсьць шлях зацяжак і затрымак, цяжкага і маруднага атміраньня нягодных частак народнага арганізму. Рэвалюцыйны шлях, ёсьць шлях хуткіх і рашучых апэрацый, шлях непасрэднага зьнішчэньня ўсяго таго, што перашкаджае прагрэсу грамады. Буржуазіі выгадна, каб буржуазная рэвалюцыя ня ўсе астаткі старыны вычысьціла, а заставіла некаторыя з іх, іншымі словамі, каб гэта рэвалюцыя была ня зусім пасьлядоўнай і ня была рашучай і бязлітаснай. Буржуазіі больш выгадна, каб неабходныя рэформы у буржуазна дэмакратычным напрамку праводзіліся марудна, асьцярожна і не рашуча, а не шляхам рэвалюцыі; каб гэтыя рэформы не маглі закрануць тых яе ўстаноў, якімі яна даражыць; каб гэтыя рэформы не маглі выклікаць рэвалюцыйнай самадзейнасьці і ініцыятывы у простага народу, як сялянства, і асабліва рабочыя. І таму, што гэты шлях больш усяго можа ударыць па пралетарыяту і сялянству, ён няпрыемлімы для апошніх, іх шлях, шлях рашучай

[1] Сталін „Пытаньні ленінізму“ стар. 85.

[2] Ленин т. VI, стр. 345—346. Две тактики социал-демократии в демократической революции.

і пераможнай барацьбы з усім старым, што перашкаджае утварэньню новых палітычных форм.

Пытаньні ўзаемаадносін пралетарыяту і сялянства, якія былі высунуты і праверваны рухам двух расійскіх рэвалюцый, зьяўляюцца важнымі для усіх краін, дзе пралетарыят прызваны выконваць сваю гістарычную ролю правадыра працоўных мас. Іменна гэтак глядзеў Ленін на гэта і гэта ён выказаў у сваёй прамове на 3-м кангрэсе Камінтэрну. Ён сказаў, што: «з пункту погляду сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, як адзінага працэсу значаньне перажываемай Расіяй эпохі састаіць у тым, каб практычна перажыць і праверыць палітыку пралетарыяту, які трымае дзяржаўную ўладу у сваіх руках, у адносінах да дробна-буржуазнай масы».[1] Урэшце гэта правільная тактыка пралетарыяту ў адносінах да сялянства важна яшчэ і таму, што пралетарская рэвалюцыя ва ўсіх нават індустрыяльна-разьвітых краінах бязумоўна адбудзецца пры наяўнасьці і ўдзеле вялізарнага сялянскага пласта. «Амаль ва ўсіх капіталістычных краінах, за выключэньнем Англіі, існуюць яшчэ дробныя тавараvытворцы, якія складаюць звычайна ня менш паловы насельніцтва гэтых краін. Каб вызваліцца ад іх, неабходна ўжываць іншыя меры, чым у барацьбе супраць буйных землярробаў і капіталістых. Галоўнае пытаньне барацьбы—выключна ў праадаленьні гэтых соцыяльных пластоў. Іх няможна экспропрыіраваць, альбо гвалтоўна удаліць. Тут барацьба павінна весьціся інакш».[2] Вось чаму павінна дасканальна вывучацца пытаньне супрацаўніцтва пралетарыяту і сялянства ў рэвалюцыі, чаму гэтаму пытаньню марксызм надае вялікую ўвагу.

Пасьля гэтага можна сьмела сказаць, што пытаньне ўзаемаадносін рабочай клясы з сялянствам, ёсьць галоўнейшае пытаньне ў сыстэме марксызму, пасьля пытаньня дыктатуры пралетарыяту і ўзяцьця улады. Гэта задача зьяўляецца задачай усяго сусьветнага пралетарыяту, таму, што пасьля перамогі рабочае клясы буйнейшых індустрыяльных краін сьвету паўстане пытаньне аб супрацаўніцтве рабочых прамысловых краін з краінамі сялянскімі—раней паўкаленіяльнымі і каленіяльнымі. Таму, што каленіяльнае пытаньне ёсьць ня што іншае, як пытаньне узаемаадносін паміж пралетарыятам і сялянствам, паміж сусьветным горадам і сусьветнай вёскай, якая нясе цяжар уціску ў трайным разьмеры як з боку фэўдальнага, абшарніцкага землеўладаньня, так і з боку капіталістычнай эксплёатацыі і нацыянальнай прыгнечанасьці.

І так, ня гледзячы на розьніцу у эканамічным становішчы пралетарыяту і сялянства пры капіталізьме, ня гледзячы на тое, што іх інтарэсы ў некаторых момантах не супадаюць, але у зьвязку з тым, што пры капіталістычных адносінах лёс дробнага селяніна і рабочага аднолькавы, разам ім прыходзіцца цярпець ад буржуазіі, іх эксплёататар адзін і той жа—па гэтаму магчым і неабходзен іх блёк у рэвалюцыі. Тыя разыходжаньні, якія існуюць паміж сялянствам і рабочай клясай пры капіталістычнай сыстэме, павінны адступіць на задні плян, перад тымі пытаньнямі, якія маюць каранное значэньне пры вядзеньні пераможнай барацьбы з капіталізмам, за ажыцьцяўленьне сацыялістычных форм жыцьця.

Абшарнікі і капіталісты, інтарэсы якіх таксама не зьяўляюцца аднолькавымі; паміж імі ляжыць шэраг супярэчнасьцяў: напрыклад буржуазія купляе хлеб і сыравіну для сваіх фабрык у абшарнікаў,

---

[1] Ленин т. XVIII, ч. I, стр. 291. Тезисы о тактике РКП, принятые III конгрессом Коминтерна 12 июля 1921 г.

[2] Ленін т. XVIII, ч. I, стр. 300—301. Тактика Российскай Коммунистической Партии.

абшарнік купляе для сябе прадукты прамысловасьцьці—тут яны выступаюць як антаганісты. Тым ня менш, ня гледзячы на гэтыя супярэчнасьці, саюз між капіталістымі і абшарнікамі, пад кіраўніцтвам капіталістаў, асабліва ў апошнія часы, зьяўляецца той сілай супроць якой прыходзіцца весьці барацьбу рабочай клясе і працоўнаму сялянству. Абшарнікі і капіталісты ня будучы аднэй клясай, ішлі і ідуць разам у сваім наступленьні на пралетарыят і сялянства, усё больш аб'яднаюцца ў гаспадарчым жыцьці і клясавай барацьбе.

Пралетарыят і сялянства таксама не зьяўляюцца адзінай клясай, тым ня менш павінны выступаць у блёку, у саюзе супраць капіталістычнага ладу, бо толькі пры гэтых умовах можа быць забясьпечана перамога рабоча-сялянскай справы.

Вывад пасьля гэтага ўсяго можна зрабіць такі, што перамога працоўных мас, іх вызваленьне ад капіталістычных акоў магчыма толькі пры цесным саюзе, пры блёку рабочых і сялян, пры чым кіруючая роля у гэтым саюзе павінна прыналежыць пралетарыяту.

2.

Патрэбна зараз-жа караценька застанавіцца на пытаньні чаму іменна пад кіраўніцтвам пралетарыяту працоўныя сялянскія масы могуць весьці пасьпяхова барацьбу з капіталізмам. Вышэй ужо дадзены аналіз, чаму сялянства, вядучы самастойна барацьбу, ня можа дабіцца станоўчых вынікаў і ўказана, што прычына гэтага ляжыць у эканоміцы дробнага сялянскага вытвару, яго распыленасьці і замкнутасьці, у яго адсталасьці і дробна-буржуазным імкненьні.

Усе гэтыя якасьці зусім неўласьцівы рабочай клясе. У пралетарыята адсутнічае ўсякая сувязь з прыватнай уласнасьцю, ён мае толькі свае рабочыя рукі, якія і прадае капіталістычнай грамадзе. Перад сабой ён кожны час бачыць і адчувае, што ён працуе не на сябе, а на капіталіста, на гаспадара. Разам з ім працуе гэткі-ж самы рабочы, як і ён сам. Усе складаюць адзіны вялікі калектыў, аднолькава стаячых да сродкаў вытвару да разьмеркаваньня грамадзкага прадукта. Сумесная праца на адным заводзе яднае рабочых і навучае іх таму, што злучыўшы шчыльна свае пралетарскія шэрагі, можна перамагчы ворага. Акрамя усяго гэтага, сам горад і яго культура дае вялікія сродкі і магчымасьці больш вывучыць свайго ворага, шчыльней сплаціць шэрагі ў моцную армію супраць капіталістых і абшарнікаў.

Зусім у іншым становішчы знаходзіцца селянін. Ён працуе на сваёй дробнай гаспадарцы, ня маючы ніякага выпадку для большменш працяжнай сумеснай працы з другімі. Ён цалкам аддаецца інтарэсам сваёй дробнай гаспадаркі бяз ніякага клопату аб другіх, думка ў яго адна, узмацніць сваю гаспадарку і сваю ўласнасьць і перайсьці ў вышэйшы больш заможны пласт сялянскай лесьвіцы. Маючы сваю уласнасьць і бяручы стаўку на яе павялічэньне, хаця ў вялізнай большасьці—гэта безнадзейная справа, селянін набывае ў зьвязку з гэтым некаторую пашану да дробных уласьнікаў да буржуазіі. Яму не ўласьціва тая ненавісьць да багатых, якая пранізвае ўсю істоту рабочае клясы, таму і абдурыць хутчэй капіталісту селяніна, чым рабочага. Нават батракі і наёмныя рабочыя не зьяўляюцца такімі па сваёй прыродзе, як пролетары. «Нашы вясковыя рабочыя яшчэ надта моцна зьвязаны з сялянствам, над імі яшчэ вельмі пануе агульна-сялянскае ліха і таму агульна-нацыянальнага значэньня рух вясковых рабочых

ніяк ня можа атрымаць ні цяпер, ні ў бліжэйшым будучым».[1] Калі да гэтага дадаць, што гарадзкі рабочы закаляе сябе для барацьбы з капіталістым у штодзённым жыцьці, праз забастоўкі і дэманстрацыі, дык не цяжка будзе прыйсьці да вываду, што кіраўніцтву ў блёку сялян і рабочых павінна прыналежыць нікому іншаму, акрамя рабочай клясы. «Не падлягае ніякаму сумненьню, што толькі прамысловы пралетарыят здолен на беспаваротную і масавую барацьбу супраць самаўладзтва. Што толькі гэты пролетарыят здолен вынесьці на сваіх плечах такія сродкі барацьбы, як наладжваньне адчыненай дэманстрацыі, альбо пастаноўка правільна выходзячай і шырока распаўсюджваемай народнай палітычнай газэты».[2]

Пасьля гэтага ясна відаць, што пралетарыят зьяўляецца сілай больш арганізаванай, больш здольнай весьці за сабой працоўнае насельніцтва на штурм з капіталізмам, ясна і тое, што кіраўніцтва з боку пралетарыяту будзе карысным як для самой рабочай клясы, гэтак і для працоўнага сялянства.—«Ад гнёту капітала дробнае сялянства можа вызваліцца, толькі далучыўшыся да рабочага руху дапамагаючы яму ў яго барацьбе за сацыялістычны лад, за зварот зямлі, як і іншых сродкаў вытвару (фабрык, заводаў, машын і інш.), у грамадзкую ўласнасьць. Спрабаваць выратаваць сялянства абаронай дробнай гаспадаркі і дробнай уласнасьці ад націску капіталізму—азначала-б безкарысна затрымліваць грамадзкае разьвіцьцё, абманваць селяніна ілюзіяй магчымага пры капіталізьме дабрабыту, раз'яднаць працоўныя клясы, утвараючы меншасьці прывілегаванае становішча на кошт большасьці».[3]

Буржуазія ўвесь час, з мэтаю перацягнуць на свой бок сялянства абяцаючы яму «ураўніцельнасьць» абяцаючы зрабіць прырэзкі ад абшарніцкіх зямель, але гэта ня больш таго, колькі патрэбна для таго, каб забясьпечцыь селяніна, каб спыніць яго рух супроць абшарнікаў. Толькі сьвядомы пралетарыят па сапраўднаму падтрымлівае селянства ў яго барацьбе за зямлю і толькі пры дапамозе рабочай клясы сялянства можа атрымаць зямлю і пакончыць назаўсёды з абшарнікам. «Сяляне могуць, пры дапамозе пралетарыяту, скінуць з сябе усю ўладу абшарнікаў, могуць зусім пакласьці канец абшарніцкаму землеўладаньню і абшарніцка-чыноўніцкай дзяржаве. Сяляне могуць нават зьнішчыць прыватную ўласнасьць на зямлю наогул, усе такія меры прынясуць вялікую карысьць і сялянству і рабочай клясе і ўсяму народу».[4] Сялянства пры сваёй беднасьці і забітасьці моцна адчувае гнёт капіталістычнага ўціску, яно інстынктыўна адчувае патрэбу ў каранных зьменах у зямельным пытаньні. Яму патрэбна зямля і яно імкнецца накласьці на яе свае рукі, але далей гэтага у яго думка ня ідзе. Яго цемната, векавая пакорлівасьць не даюць зразумець яму палітычнага боку гэтае справы. Сялянства ня можа, падобна пролетарыяту выступіць рашуча супраць палітычнай махіны, за ўзяцьцё ўлады ў свае рукі. Яно не разумее таго, што «вызваленьне прыгнечанай клясы нематчыма ня толькі без гвалтоўнай рэвалюцыі, але і без зьнішчэньня таго апарату дзяржаўнай улады, які пануючай клясай створан».[5] «Зьдзейсьніць аграрны пераварот сялянства ня можа без зьнішчэньня старой улады, сталага войска і бюрократыі, бо усё гэта—верны аплот абшарніцкага ўладаньня, зьвязаны з ім тыся-

[1] Ленин, т. IV, стр. 27. Рабочая партия и крестьянство.
[2] Ленин т. IX, стр. 268. Аграрный вопрос в русской революции.
[3] Ленин т. IX. стр. 265.
[4] Ленин т. VII. ч. I, стр. 254. Вопрос о земле и борьба за свободу.
[5] Ленин т. XIV, ч. II, стр. 302. Государство и революция.

чамі нітак».[1] Ленін у сваёй заключнай прамове на 4-м Зьезьдзе РСДРП па аграрнаму пытаньню асаблівую ўвагу зьвяртаў на гэта, ён падкрэсьліваў, што без рашучай расправы з абшарнікамі і чыноўнікамі, без аўладаньня палітычнай уладай ня можа быць праведзены колькі-небудзь поўны аграрны пераварот. Усю дзейнасьць партыі ён прапанаваў накіраваць на растлумачэньне таго, што аграрная рэвалюцыя ёсьць пустое слова без заваяваньня ўлады рэвалюцыйным народам. «Мы павінны прама і азначана сказаць селяніну: калі ты хочаш давесьці аграрную рэвалюцыю да канца, дык ты павінен таксама давесьці і палітычную рэвалюцыю да канца; без давядзеньня да канца палітычнай рэвалюцыі ня будзе зусім, альбо ня будзе колькі-небудзь трывалай аграрнай рэвалюцыі. Бяз поўнага дэмакратычнага перавароту, бяз выбару чыноўнікаў народам, у нас будуць альбо аграрныя бунты, альбо кадэцкія аграрныя рэформы. У нас ня будзе таго, што заслугоўвала-б ужытага Плехановым вялікага слова: сялянская рэвалюцыя».[2] Для таго-ж каб гэта атрымалася патрэбна вырваць працоўнае сялянства з-пад уплыву буржуазіі, патрэбна дапамога выплутацца яму з рук капіталістых і стаць на новыя рэйкі радам з пролетарыятам. І толькі тады, калі будзе супроць саюзу абшарнікаў і капіталістаў утворан саюз рабочых і сялян пад кіраўніцтвам рабочай клясы,— толькі тады можа быць перамога над старым ладам, толькі ў гэтым выпадку будзе даведзена да канца аграрная рэвалюцыя.

Справа кіраўніцтва з боку пралетарыяту сялянскімі масамі ня ёсьць справа жаданьня рабочых быць абавязкова ўперадзі. Гэткая пастаноўка пытаньня зусім няправільная і не адпавядаючая рэчаіснасьці. Гэткі погляд зусім далёк ад марксыцкай устаноўкі ў пытаньні рабоча-сялянскага блёку. «Практыка усіх рухаў прыгнечаных мас, практыка сацыялістычнага сусьветнага руху вучыць нас, што толькі пралетарыяту дадзена магчымасьць аб'яднаць распыленыя і адсталыя пласты працоўнага і эксплёатаванага насельніцтва і павесьці яго за сабой».[3]

Марксызм сьцьвярджае і з папярэдняга ясна выходзіць, што гэтае кіраўніцтва неабходна як у інтарэсах пралетарыяту, так і тым больш у інтарэсах самых шырокіх працоўных мас сялянства. Калі-б рабочая кляса ня выканала сваёй вялікай ролі ў адносінах да сялянства, дык тады, трэба прама сказаць, зусім няўхільна справа скончылася-б перамогай не рабочых і сялян, а перамогай буржуазіі. Гэткім чынам, кіраўніцтва з боку пралетарыяту працоўным сялянствам, як у рэвалюцыі, гэтак і пасьля яе, пры будаўніцтве новых сацыялістычных форм ёсьць неабходнейшая ўмова поўнай перамогі рабоча-сялянскае справы, ёсьць галоўнейшая гарантыя правільнага руху ўсёй грамады па шляху да камунізму.

### 3.

Ленін аналізуючы буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю і роль у ёй буржуазіі прыходзіць да вываду, што буржуазія ня здольна давесьці яе да канца. Такія моманты, як ломка бюракратычна-паліцэйскага дзяржаўнага апарату, зьнішчэньне прыватнай уласнасьці на зямлю зьяўляюцца непасільнымі для капіталістых. Практыка усіх

[1] Ленин т. IX, стр. 536
[2] Ленин т. IX, стр. 400.
[3] Ленин т. XVI, стр. 45. Тезисы и доклад о буржуазной демократии и диктатуре пролетариата.

вядомых гісторыі рэвалюцыі вучыць таму, што буржуазія ня можа пайсьці разам з пралетарыятам па шляху правядзеньня гэтых караных рэформ. Вопыт 2-х расійскіх рэвалюцый вучыць таму, што буржуазія мае настойлівае імкненьне ўвайсьці ў згоду з самаўладзтвам і прымусіць сялянства пайсьці на згоду з абшарнікамі, абяцаючы яму якія-небудзь нязначныя падачкі. Ведаючы гэтую палахлівую ролю буржуазіі, яе сваекарысныя імкненьні Ленін з усёй вастратой паставіў пытаньне аб тым, хто павінен зьявіцца саюзьнікам пралетарыяту ў яго барацьбе па ачыстцы краіны ад усіх капіталістычных і дакапіталістычных сьлядоў. І пачынаючы з 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя да сваёй сьмерці Ленін сьцьвярджаў, што адзінай сілай, якая здольна дапамагчы пралетарыяту выканаць сваю ролю правадыра усіх прыгнечаных мас і прывесьці іх да вызваленьня ад эксплёататараў, зьяўляецца сялянства. Пытаньне аб саюзе рабочай клясы з сялянствам і аб кіруючай ролі пралетарыяту ў гэтым саюзе, для Леніна, было ясна з самага пачатку яго выступленьня на палітычную арэну.

Яшчэ за 23 гады да Кастрычнікавай рэвалюцыі ў сваёй брашуры «Что такое друзья народа»... Ленін вызначаючы ролю пралетарыяту, як гегемона, як верхаводцы прыгнечаных мас у іх рэволюцыйна-вызваленчай барацьбе, у іх штурме капіталізму піша, што: «Калі передавыя прадстаўнікі пралетарыяту зразумеюць ідэю навуковага сацыялізму, ідэю аб гістарычнай ролі рускага рабочага, калі гэтыя ідэі атрымаюць шырокае распаўсюджаньне і сярод рабочых утвораць моцныя арганізацыі; ператвараючы цяперашнюю разразьнёную эканамічную вайну рабочых у сьвядомую клясавую барацьбу,—тады рускі рабочы, узьняўшыся начале усіх д э м а к р а т ы ч н ы х элементаў, ськіне абсалютызм і павядзе рускі пралетарыят (разам з пралетарыятам усіх краін) простай дарогай адчыненай палітычнай барацьбы да пераможнай Камуністычнай рэвалюцыі». [1]

Зараз дзіву даешся гэткай прадбачнасьці, у якой, як у люстэрцы, адбіваецца ўвесь далейшы рэвалюцыйны рух. Ніхто ня мог прадбачыць так, асабліва амаль за чвэртку стагодзьдзя да пераможнай рэвалюцыі, калі нават левыя рэвалюцыйныя элементы глядзелі на сялянства як на суцэльную рэакцыйную масу, як гэта мог прадбачыць Ленін. Ніхто не надаваў такога вялікага значэньня саюзу пралетарыяту з сялянствам, як гэта надаваў Ленін і кіруемая ім Камуністычная Партыя.

Пытаньне саюзу пралетарыяту з сялянствам гэта ёсьць пытаньне, у якім Ленін разьвіў далей марксызм. Гэтаму пытаньню Ленін аддаваў вялікую ўвагу на працягу ўсяго свайго жыцьця. «Самым караным, самым істотным пытаньнем усёй нашай рэвалюцыі і ўсіх будучых сацыялістычных рэвалюцый, калі ўзяць іх у сусьветным маштабе наогул, гэта—адносіны рабочай клясы к сялянству. Гэта—саюз рабочай клясы з сялянствам, гэта—уменьне перадавых рабочых, якія прайшлі доўгую, цяжкую, але удзячную школу буйнай фабрыкі, уменьне іх паставіць справу так, каб прыцягнуць на свой бок масу сялян, прыдушаных капіталізмам, прыдушаных абшарнікамі, прыдушаных старой сваёй жабрацкай, убогай гаспадаркай, каб даказаць ім што толькі ў саюзе з рабочымі, якія-б цяжкасьці ня прышлося на гэтым шляху іспытаць,—а цяжкасьцяў шмат і зачыняць вочы мы на іх ня можым,—толькі ў гэтым саюзе ляжыць вызваленьне сялянства ад векавога гнёту абшарнікаў і капіталістаў. Толькі ў замацаваньні рабочых і сялян ляжыць агульнае вызваленьне чалавецтва ад такіх рэчаў, як недаўняя імпэрыялістычная вайна, ад тых дзікіх супярэч-

[1] Ленин т. 1, стр. 229.

насьцяў, якія мы бачым зараз у капіталістычным сьвеце».[1] З гых цяжкасьцяў, у якіх знаходзілася рэвалюцыя і Савецкая краіна, можна было выйсьці толькі дзякуючы таму, што ў нашай краіне быў утворан саюз рабочай клясы з сялянствам супроць саюзу абшарнікаў і капіталістаў. Сялянства ніколі не магло-б атрымаць таго, што яно атрымала у выніку рэвалюцыі, каб не падтрымлівала рабочых, таксама і рабочая кляса не дасягнула-б свайго, каб не падтрымала сялянства ў яго патрабаваньнях.

Так, выкаваўся саюз рабочых і сялян, які зрабіў лёгкай перамогу ў Кастрычнікавай рэвалюцыі, які давядзе працоўныя масы ўсяго сьвету да канчатковай перамогі.

Пасьля гэтых агульных заўваг пяройдзем да разгляду трох асноўных гістарычных этапаў у саюзе рабочай клясы з сялянствам.

* * *

П е р ш ы э т а п: с а ю з р а б о ч а й к л я с ы з у с ё й с я л я н с к а й м а с а й с у п р о ц ь м а н а р х і і, с у п р о ц ь к р а п а ц т в а, а б ш а р н і к а ў і ш л я х е ц к а - а б ш а р н і ц к а й у л а д ы. Гэты пэрыяд абымае прамежак часу ад першай расійскай рэвалюцыі, нават можна сказаць з 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя да Кастрычніка месяца 1917 году, уключаючы і Лютаўскую буржуазную рэвалюцыю. «Характэрнай рысай гэтага пэрыяду зьяўляецца вызваленьне сялянства з-пад уплыву ліберальнай буржуазіі, адыход сялянства ад кадэтаў, паварот сялянства ў бок пралетарыяту, у бок партыі бальшавікоў. Гісторыя гэтага пэрыяду ёсьць гісторыя барацьбы кадэтаў і бальшавікоў за сялянства».[2] Сялянства ў гэты час было забіта і падняволена абшарнікамі, зьвязана па руках і нагах путамі прамога і ўкоснага праяўленьня прыгону. Бліжэйшай і зразумелай задачай і іх патрабаваньнем было—разьбіць астаткі крапацкага права, рэвалюцыйным шляхам закончыць тое, што не дадзелала і не магла дакончыць буржуазная рэформа 1861 году, якая яшчэ больш падняволіла селяніна абшарніку. Рост сялянскага руху, асабліва к пэрыяду 1905 году выклікаў барацьбу палітычных партый за сялянства, за накіраваньне гэтага руху па таму ці іншаму рэчышчу.

Ленін у сваім аналізу рухавых сіл рэвалюцыі прыходзіць да таго вываду, што на палітычнай арэне вядуць барацьбу чатыры асноўныя сілы: абшарніцка-шляхецкае самаўладзтва, якое падтрымліваецца арміяй, паліцыяй і бюрократыяй, буржуазія, сялянства і рабочая кляса. Першая сіла бязумоўна рэакцыйна. Буржуазія па свойму рэвалюцыйна; яна супроць неабмежаванай улады, супроць відавочных і абмяжоўваючых разьвіцьцё капіталізму праяўленьняў фэўдалізму. яна за рэформы. Але рэвалюцыйнасьць буржуазіі мае і другі бок, а іменна; буржуазія рэвалюцыйна пастолькі, паколькі яна патрабуе папраўак існуючаму ладу, але як толькі яна ўбачыць, што на арэну выступаюць сапраўды рэвалюцыйныя сілы: пралетарыят і сялянства, буржуазія адразу-ж аказваецца ў лягеру рэакцыі, у лягэру контррэвалюцыі. Як прыклад можна прывесьці кадэтаў: у палітыцы яны за канстытуцыйную манархію, у зямельным пытаньні—за выкуп зямлі сялянствам у абшарнікаў, а ў рэвалюцыі на баку яе ворагаў. Гэта і ёсьць тое, што Ленін назваў непасьлядоўнасьцю, сваекарысьціем і палахлівасьцю буржуазіі. І як толькі яна будзе задаволена хаця крыху

[1] Ленин т. XVIII, ч. I, стр. 397—398.
[2] Сталін „Пытаньні ленінізму“ стар. 102.

ў сваіх вузкіх мэтах, як толькі будуць прыняты папраўкі да існуючага ладу, патрэбныя буржуазіі, яна задаволіцца і пяройдзе на бок самаўладзтва супроць рэвалюцыі. «Астаецца «народ» г. ёсьць пралетарыят і сялянства: пралетарыят адзін здолен ісьці надзейна да канца, бо ён ідзе значна далей дэмакратычнага перавароту. Таму пралетарыят і вядзе барацьбу за рэспубліку ў першых шэрагах з ненавісьцю адкідаючы нікчэмныя і недастойныя яго парады, лічыцца з тым, ці не адхілецца буржуазія.

Сялянства ўключае ў сябе масу поўпралетарскіх элементаў на раду з дробна-буржуазнымі. Гэта робіць яго таксама няўстойлівым, прымушае пралетарыят аб'яднацца ў строга-клясавую партыю. Але няўстойлівасьць сялянства каранным чынам адрозьніваецца ад няўстойлівасьці буржуазіі, бо сялянства ў дадзены момант зацікаўлена ня столькі у бязумоўнай ахове прыватнай уласнасьці, колькі ў атабраньні абшарніцкай зямлі, аднаго з галоўных відаў гэтай уласнасьці. Ня робячыся ад гэтага сацыялістычным, не перастаючы быць дробна-буржуазным, сялянства здольна стаць поўным і радыкальным пабочнікам дэмакратычнай рэвалюцыі. Сялянства няўхільна зробіцца гэткім, калі толькі асьвятляючы яго рух рэвалюцыйных падзей не абарвецца за надта рана здрадай буржуазіі і паражэньнем пралетарыяту. Сялянства няўхільна стане, пры указаных умовах, аплотам рэвалюцыі і рэспублікі, бо толькі зусім перамогшая рэвалюцыя зможа даць сялянству ўсё у галіне зямельных рэформ, усё тое, чаго сялянства жадае, аб чым марыць, што яму сапраўды неабходна».[1] І так, ня гледзячы на тое, што рэвалюцыя буржуазная, аднак сама буржуазія не зьяўляецца яе рухомай сілай. Яна як кляса ідзе разам з самаўладзтвам, разам з бюрократыяй і пад кіраўніцтвам лібэральна-манархічнай партыі. Сялянства займае зусім працівалеглую пазіцыю, яно становіцца на шлях рэвалюцыі, на шлях пралетарыяту і пад яго кіраўніцтва. Вось чаму буржуазія павінна будзе адыйсьці ад рэвалюцыі і чаму ня здольна давесьці дэмакратычнай рэвалюцыі да канца, як гэта здольна зрабіць сялянства разам з пралетарыятам. «Хто сапраўды разумее ролю сялянства ў пераможнай рускай рэвалюцыі, той ня здолен быў-бы казаць, што размах рэвалюцыі аслабне, калі адхіліцца буржуазія. Бо на самай справе толькі тады, пачнецца належны размах рускай рэвалюцыі, толькі тады гэта будзе сапраўды найвялікшы рэвалюцыйны размах, магчымы ў эпоху буржуазна-дэмакратычнага перавароту, калі буржуазія адхілецца і актыўным рэвалюцыянэрам выступіць маса сялянства на раду з пралетарыятам».[2]

Вывад адсюль напрашваецца толькі адзін, што посьпех буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі можа быць забясьпечаны толькі такой сілай, інтарэсы якой ляжаць у супярэчлівым становішчы з існуючым ладам, а гэткай сілай зьяўляецца рабочая кляса ў саюзе з сялянствам. У задачы пралетарыяту гэтага часу ўваходзіла: першае, падтрыманьне сялянства ў яго паўстаньні, дасягненьне разам з ім канфіскацыі абшарніцкіх зямель бяз ніякага выкупа, як гэта прапанавала буржуазія; падругое, імкненьне разам з сялянствам да поўнага палітычнага перавароту, да ўтварэньня рэспублікі, таму што без караных зьмен ня можна ўтрымаць заваёвы сялянскага паўстаньня, ня можна ўзяць зямлі ў абшарнікаў. «Мы павінны сказаць сялянству: узяўшы зямлю, ты павінен ісьці ўперад, інакш ты нямінуча будзеш разьбіт і

[1] Ленін т. VI, стр. 344. Две тактики социал-демократии в демократической революции.

[2] Там же стр. 345.

адкінут назад абшарнікамі і буйнай буржуазіяй. Нельга ўзяць зямлю і ўтрымаць яе за сабой бяз новых палітычных заваёў, без нанясеньня новага і яшчэ больш рашучага ўдару ўсёй прыватнай уласнасьці на зямлю наогул. У палітыцы як і ў ва ўсім грамадзкім жыцьці, не ісьці уперад—значыцца быць адкінутым назад. Альбо буржуазія, узмацніўшыся пасьля дэмакратычнага пераварату, адбярэ усе заваёвы рабочых і сялянскіх мас,— альбо пралетарыят і сялянская маса праб'юць сабе шлях уперэд».[1] Практычна, што павінны зрабіць рабочыя і сяляне ў гэтым выпадку, гэта ўтварэньне дэмакратычнай рэспублікі, з часовым рэвалюцыйным урадам на чале у які павінны ўвайсьці прадстаўнікі рабочых і сялян; пры паралізацыі няўстойлівасьці буржуазіі, пры выкрыцьці яе згодніцкай ролі; і зьдзейсьніць рэвалюцыйным шляхам яе запатрабаваньні. А гэта ёсьць па азначаньню Леніна—р э в а л ю ц ы й н а - д э м а к р а т ы ч н а я  д ы к т а т у р а  п р о л е т а р ы я т у  і  с я л я н с т в а.

І так, як гэта ня дзіўна, але сілай, якая павінна вынясьці на сваіх плечах буржуазную рэвалюцыю, зьяўляецца пралетарыят і сялянства, пад кіраўніцтвам першага. Буржуазія-ж ня можа зьявіцца яе кіраўніком у зьвязку з яе няўстойлівасьцю, яна павінна быць паралізавана сапраўднай рэвалюцыйнай сілай—саюзам рабочай клясы і сялянства. І разумець буржуазную рэвалюцыю, як рэвалюцыю, якая праходзіць пад кіраўніцтвам буржуазіі, ня можна, памылкова. Вось што зазначае на гэты конт Ленін: «Сотні разоў казалі мы, і паказвалі на шматлікіх заявах меншавікоў, што разумець катэгорыю «буржуазная рэвалюцыя» ў сэнсе прызнаньня за буржуазіяй верхаводзтва і кіруючай ролі ў рускай рэвалюцыі ёсьць аплюгаваньне марксызму».[2] Усё сказанае тут адносіцца да пэрыяду першай рускай рэвалюцыі, але адсюль толькі адзін крок да таго, каб перайсьці да пазьнейшых часоў да аналізу клясавых сіл, якія скаліся ў Лютаўскую рэвалюцыю 1917 году. Бо пастаноўка пытаньня, дадзеная Леніным у часы першай рэвалюцыі, калі разважаць абстрактна, можа быць амаль цалкам перанесена на Лютаўскую рэвалюцыю таму што і першая і другая рэвалюцыі былі буржуазнымі па сваіму запатрабаваньню і зьместу.

І калі некаторая частка бальшавікоў з Л. Каменевым начале, гаварылі ў красавіку месяцы 1917 г., што буржуазная рэвалюцыя не закончана і што трэба яшчэ падтрымліваць стары лёзунг, рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства, дык Ленін у сваіх лістох аб тактыцы, адказаў, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя закончана, лёзунг рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пралетарыяту і селянства ўстарэў, бо дробная буржуазія здрадзіла рэвалюцыі і ўвайшла ў згоду з буйнай, і паколькі ўлада перайшла ў рукі другой клясы—буржуазіі, пастолькі буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя завяршылася. І Ленін не раіў пераносіць правільную раней формулу да зусім новай рэчаіснасьці. «Хто кажа зараз толькі аб «рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пралетарыяту і сялянства», той адстае ад жыцьця, той у моц гэтага перайшоў на справе да дробнай буржуазіі супраць пралетарскай клясавай барацьбы таго трэба здаць у архіў «бальшавікоў» дарэвалюцыйных рэдкасьцяў.

Рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства ўжо зьдзейсьнілася, але надзвычайна арыгінальна, з шэрагам у вышэйшай стопні важных перайначваньняў. Цяпер неабходна ўявіць

[1] Ленин т. IX, стр. 393.
[2] Ленин т. VIII, стр. 58. Пролетариат и его союзник в русской революции.

сабе тую бяспрэчную ісьціну, што марксысты павінны улічваць жывое жыцьцё, точныя факты рэчаіснасьці, а не працягваць чапляцца за тэорыю учарашняга дня, якая як усякая тэорыя, у лепшым выпадку толькі намячае асноўнае, агульнае, толькі набліжаецца да ахопліваньня складанасьці жыцьця».[1] Вось як адчытаў Ленін тым, хто не зразумеў сутнасьці Лютаўскай рэвалюцыі і пэрыяду, які цягнуўся адразу-ж пасьля яе.

Для Леніна і бальшавікоў быў ясен канец буржуазна дэмакратычнай рэвалюцыі, таксама было ясна і тое, што ў асобе Саветаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў ажыцьцявілася і рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства, але з той асаблівасьцю, што яна «дабраахвотна аддала уладу буржуазіі, дабраахвотна абвярнулася ў яе прыдатак».[2] І заставацца пры гэткім становішчы на старых пазыцыях, на пазыцыях страціўшай значэньне формуле: рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пралетарыяту і сялянства, азначала падтрыманьне буржуазіі, азначала асьвятленьне рэвалюцыйным пралетарыятам і яго аўтарытэтам палітыкі буржуазіі. Выхад з гэтага становішча адзін, гэта выяўленьне контр-рэвалюцыйнай ролі часовага ураду, выяўленьня згодніцтва дробнай буржуазіі і яе ідэолёгаў.

Рабочая кляса разам з бяднейшым сялянствам пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў павінна пайсьці да ўлады, заклікаючы ўсе сялянскія масы да падтрыманьня, грунтуючыся на тых элементарных патрабаваньнях усяго сялянства; як спыненьне вайны, канфіскацыя зямлі, выбарнасьць чыноўнікаў, зьнішчэньне сталай арміі і іншых патрабаваньняў, якія не праведзены і ня могуць быць праведзены ў жыцьцё буржуазным урадам.

Ужо ў жніўні месяцы 1917 г. Ленін у артыкуле—«сяляне і рабочыя»—падагульваючы вопыт мінулага і вызначаючы шляхі на будучыню піша: «Толькі пралетарыят і сялянства могуць скінуць манархію—вось тое асноўнае, па таму часу, вызначэньне нашай клясавай палітыкі. І гэта вызначэньне было правільнае. Люты і сакавік 1917 г. лішні раз пацьвердзіў гэта.

Толькі пралетарыят, кіруючы бяднейшым сялянствам (поўпралетарыятам, як гаворыць наша праграма), можа кончыць вайну дэмакратычным мірам, залячыць яе раны, пачаць стаўшыя бязумоўна неабходнымі і неадкладнымі крокі да сацыялізму,—вось вызначэньне нашай клясавай палітыкі цяпер».[3] Іншымі словамі барацьба з царызмам, барацьба з чыноўнікамі і абшарнікамі павінна весьціся пралетарыятам у саюзе з усім сялянствам, нават з заможным. А барацьбу з буржуазіяй, у тым ліку і з заможным сялянствам, барацьбу за сацыялістычную рэвалюцыю можна надзейна весьці толькі ў саюзе пралетарыяту з батрацтвам і бяднейшым сялянствам вёскі. Так канчаецца першы пэрыяд у саюзе пралетарыяту з сялянствам.

* * *

Другі этап: саюз рабочай клясы з вясковым пралетарыятам і паўпралетарыятам супраць капіталізму,—у тым ліку і супраць вясковых кулакоў—пры нэўтралізацыі серадняка. Гэты этап ахаплівае з Кастрычніка 1917 г. да 1919 г. Капіталістычны уціск і яго

[1] Ленин т. XIV, ч. I, стр. 29. Задачи пролетариата в нашей революции.
[2] Там же стр. 30.
[3] Ленін т. XIV, ч. II, стр. 82.

абвастрэньне з разьвіцьцём імпэрыялізму—і ў выніку яго вайна, падрыхтавалі глебу для таго, каб цяжкі 1917 г. прывёў вясковую беднату да саюзу з пралетарыятам, а сярэдняе сялянства да спачуваньня і нэўтралітэту.

Абшарнік яшчэ ня быў скінуты, паўкрапацкі гнёт яшчэ ляжаў на вёсцы, капіталістычны уціск яшчэ павялічваўся, цяжар усяго гэтага больш удараў на прасьвятленьне шырокіх сялянскіх мас, больш ясным рабіў тое, што Лютаўская рэвалюцыя і часовы буржуазны ўрад ня зможа задаволіць патрэбы працоўных. Гэтыя акалічнасьці зрабілі магчымым уступіць пралетарыяту ў Кастрычнікавую рэвалюцыю, маючы за сабой падтрыманьне ў цэлым усяго сялянства. «Мы абмежаваліся ў Кастрычніку тым, што старога векавога ворага сялян, абшарніка-крэпасьніка, уласьніка латыфундый вымялі адразу. Гэта была агульна-сялянская барацьба. Тут яшчэ унутры сялянства ня было падзелу між пралетарыятам, паўпралетарыятам, бяднейшай часткай сялянства і буржуазіяй. Мы сацыялісты, ведалі, што бяз гэтай барацьбы сацыялізму няма, але мы ведалі таксама, што недастаткова нашых вед, што неабходна, каб яны праніклі ў мільёны не з прапаганды, а з уласнага вопыту гэтых мільёнаў».[1] Такі характар мела гэтае пытаньне да Кастрычніка. Аднак доўга гэта становішча заставацца не магло.

Другі бок сацыяльна-эканамічных адносін вёскі быў усё-ж яшчэ настолькі моцны, што налажыў сваю пячатку на пазыцыю беднаты і на пазыцыю серадняка, як у час самаго Кастрычніка, гэтак і пасьля яго. Вызвалены ад паўфэўдальнага гнёту абшарніка, дробны селянін, пад уплывам аднačасовага абвастрэньня капіталістычнага уціску, мог стаць саюзьнікам пралетарыяту ў нізрынуцьці буржуазіі і захваце ўлады пралетарыятам, але ён яшчэ ня мог адрашыцца ад дробнабуржуазнага ўраўніцельнага сацыялізму. І бедната ўвайшла ў пралетарскую рэвалюцыю пад сьцягам сацыялізацыі зямлі. Сярэдні-ж селянін працягваў бачыць свайго галоўнага ворага ў абшарніку, сваю галоўную задачу ў захопе зямлі ў яго і ў наладжваньні сваёй дробнай самастойнай гаспадаркі. Таму серадняк ў момант Кастрычніка мог дайсьці толькі да спачуванага нэўтралітэту ў адносінах да пралетарыяту і мог праявіць адразу-ж на другі дзень Кастрычніка усю суму уласьцівых дробнай буржуазіі хістаньняў. І сацыялізацыю зямлі ён разумеў толькі ў той частцы, у якой яна зьяўлялася чорным перадзелам абшарніцкіх зямель. Для сялян беднякоў ураўніцельнае землякарыстаньне азначала права на роўную з усімі зямлю, а у далейшым і інвэнтар, для серадпякоў яно азначала яшчэ і вызваленьне ад канкурэнтнага уціску абшарніцкай гаспадаркі, якая падлягала падзелу. Разам з тым, ураўніцельнае землякарыстаньне азначала ў разуменьні гэтага сялянства і роўнасьць усіх сялянскіх двароў на рынку. Гэта— быў па выразу Леніна сялянскі «ідэальны камунізм».

У зьвязку з гэтай асноўнай тэндэнцыяй сялянства, у дні Кастрычнікавага перавароту, пралетарыяту прышлося выступіць не з пралетарскай, а з сялянскай аграрнай праграмай. У сельскай гаспадарцы адбылася не пралетарская, а сялянская экспропрыяцыя экспропрыятараў, падзел зямлі ня толькі фэўдалаў, але і капіталістычнай сельскай гаспадаркі. Гэта ўступка і дала магчымасьць ажыцьцявіць змычку двух рэвалюцый, пралетарскай і сялянскай. Свой юрыдычны выраз гэтая ўступка атрымала ў законе сацыялізацыі зямлі, а ў палітыцы у увядзеньні прадстаўнікоў партыі сацыял-рэвалюцыянэраў у ўрад.

[1] Ленін т. XV. стр. 500—501. VI Всеросийский с'езд Советов.

Як вядома сацыялізацыя была аграрнай праграмай партыі сацыял-рэвалюцыянэраў, якая была да Кастрычнікавага перавароту і пасьля яго самым злосным ворагам пралетарскай рэвалюцыі. У сацыялізацыі зямлі іменна і адбілася гістарычна-рэакцыйная тэндэнцыя сялянскай рэвалюцыі, накіраваная ня толькі супроць капіталізму, але і супроць буйнай гаспадаркі наогул. Гэта тэндэнцыя, характэрная для дробнай самастойнай таваравытворчай гаспадаркі і знайшла свой выраз у прынцыпе ўраўніцельнага землекарыстаньня.

Паколькі ў гэты перыяд рэвалюцыі галоўным інтарэсам пралетарыяту было ўтрымаць уладу і здабыць хлеб, а праграма ураўніцельнага землекарыстаньня гэтаму патрабаваньню зусім адпавядала, пастолькі гэта праграма зьяўлялася элемэнтам сацыялістычнай рэвалюцыі. Чым зьяўлялася патрабаваньне ураўніцельнага землекарыстаньня, праграмай ці тактыкай рабочай клясы і яго партыі. «Мы адкажым на гэта,—піша Ленін,—што спроба правядзеньня мяжы паміж праграмай і тактыкай вядзе да схаластыкі і пэдантызму. Праграма вызначае агульныя адносіны рабочай клясы да другіх клясаў. Тактыка—прыватныя і часовыя адносіны». [1] У гэтым сэнсе, бязумоўна правядзеньне ураўніцельнага землекарыстаньня зьявілася тактыкай рабочай клясы ў адносінах да сялянства, з мэтаю зрабіць з яго сілу карысную для ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту.

Аднак заняпад вытворчых сіл сялянскай гаспадаркі ў час вайны і рэвалюцыі не дазволіў сялянству гаспадарча аўладаць усімі землямі, на якіх да рэвалюцыі вялася буйная сельская гаспадарка, і дасягнутая ў рэвалюцыі няпоўнае выраўненьне зямлі і тым больш інвэнтару, захавала ў сябе неўхільнасьць расслаеньня сялянства, якое асабліва ўзмацнілася, з моманту, калі зьнікла прымусовае карыстаньне жывым і мёртвым інвэнтаром праз камітэты беднаты. Акрамя гэтага, роўная зямельная норма ніколькі ня сьведчыла аб роўнасьці гаспадаркі. Рост аднаго і заняпад другога станавіліся ўсё больш няўхільнымі, разам з тым усё больш няўхільным станавіўся пераход у вёсцы да аддачы ў арэнду зямлі, наёмнай сіле і г. д.

Гэткім чынам сацыялізацыя зямлі, гэта фантазія сацыял-рэвалюцыянэраў была праверана жыцьцём і сябе не апраўдала. Таму, што ўраўніцельнае землекарыстаньне не магло затрымаць барацьбу паміж багатай і беднай часткай сялянскага насельніцтва. Барацьба тут павінна была праходзіць ня між двума клясамі ў тым выглядзе, як яны засталіся ад фэўдалізму, інкаш, ня між абшарнікамі і сялянамі, а між двума крайнімі пластамі сялянства, між кулацкай верхавінай, розным чынам эксплёатаваўшай беднату, і між гэтай самай беднатой. Вёска ўсё больш і больш адкідвала, ачышчалася ад старыны мінулага соцыяльна-эканамічнага ладу і падпадала пад уплыў тых законаў, якія характарызуюць будучую ступню грамадзкага разьвіцьця. Тая заўзятая барацьба паміж гарадзкой буржуазіяй і пралетарыятам, павінна была перанесьціся і ў вёску. Гэтаму садзейнічала тое, што ўраўніцельнасьць у кавалках зямлі, без ураўніцельнасьці, інвэнтару, жывёлу, грашох, насеньні і г. д., прыводзіла да эканамічнага росту заможнага сялянства і да абядненьня беднаты і тым больш батрацтва, якое атрымала адну голую зямлю. Канешне, каб становішча Савецкай улады было моцнае эканамічна, каб была магчымасьць з канфіскаваным і дзяржаўным інвэнтаром і сродкамі ўтварыць шырокую сетку буйных грамадзкіх гаспадарак, дык пытаньне аб сацыялістычным разьвіцьці сельскай гаспадаркі было-б вырашана адносна проста і можна было-б

[1] Ленин т. IX, стр. 382.

мінаваць доўгую паласу заядлай клясавай барацьбы ў вёсцы. Але гэтага пры тагочасных сродках зрабіць было нельга. А гэта азначала няўхільнасьць барацьбы батракоў, беднякоў і бясконных сялян з буйным гаспадаром, які ўладаў зямлёй, машынамі і прыладамі. Хлебная манзполія яшчэ больш пашырыла і паглыбіла клясавую барацьбу, таму што кулакі, меўшыя запасы хлеба, усімі сіламі супраціўляліся гэтай манаполіі, чакаючы падвышэньня цэн. Асабліва ўзмацнілася гэта супраціўленьне пры ўвядзеньні харч-развёрсткі, якая была прадыктавана неабходнасьцю трымаць хаця на галодным пайку армію і гарадзкі пралетарыят. Ленін аб гэтым піша так: «Неабходна правільнае раўнамернае разьмеркаваньне прадуктаў, каб прадуктамі народнай працы карыстаўся працоўны народ і супраць аднаго багацея, які будзе працягваць сваю жадлівую лапу да народнага дабра, трэба працівапаставіць дзесяць працоўных». [1]

Летам 1918 г. калі клясавая барацьба ў вёсцы прыняла ясныя формы і атрымала максымальны размах, калі кулакі пачалі пад кіраўніцтвам белагвардзейцаў арганізаваць паўстаньні, дык гэтыя паўстаньні выявілі ўсю супярэчнасьць і няпрымірымасьць інтарэсаў вясковай буржуазіі з інтарэсамі рабочай клясы і беднага сялянства. Гэта усё патрабавала яшчэ мацнейшага саюзу гарадзкога пралетарыяту з пралетарыятам і паўпралетарыятам вёскі пры нэўтралізацыі серадняка. Для спыненьня азьвярэлага наступленьня кулакоў на шыю пралетарскай дыктатуры і былі прадпрыняты арганізацыйныя вывады, якія выліліся ў выдадзеным дэкрэце аб арганізацыі камітэтаў беднаты. «Для тых, хто на справе бачыў мукі голаду, для тых ясна, што для таго, каб зламіць і бязьлітасна падавіць кулакоў патрэбны самыя крутыя бязлітасныя меры. Приступаючы да арганізацыі саюзаў беднаты, мы ішлі на гэта з поўнай сьвядомасьцю усёй цяжкасьці і жорсткасьці гэтай меры, таму, што толькі саюз гарадоў і вясковай беднаты і тых, хто мае запасы, але не сьпэкулюе, тых, хто хоча рашуча перамагчы цяжкасьці і дасягнуць таго, каб лішкі хлеба ішлі дзяржаве і разьмяркоўваліся між працоўнымі,—толькі такі саюз зьяўляецца адзіным сродкам гэтай барацьбы, і барацьба гэта павінна весьціся не ў праграмах і прамовах; у гэтай барацьбе з голадам павінна выявіцца, хто ідзе прамым шляхам, ня гледзячы на ўсё іспыты к сацыялізму і хто паддаецца на хітрыкі і абманы кулакоў». [2]

Ацэнку гэтаму пэрыяду з пункту погляду тэорыі навуковага сацыялізму Ленін даў у сваёй брашуры «Пралетарская рэвалюцыя і рэнегат Каўцкі». Ён піша: «Закончыўшы буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю разам з сялянствам наогул, пралетарыят Расіі перайшоў канчаткова да рэвалюцыі сацыялістычнай, калі яму ўдалося расчапіць вёску, далучыць да сябе яе пралетарыяў і паўпралетарыяў, аб'яднаць іх супраць кулакоў і буржуазіі, у тым ліку сялянскай буржуазіі. Вось калі бальшавіцкі пралетарыят сталіц і буйных прамысловых цэнтраў ня змог аб'яднаць навакол сябе вясковай беднаты супроць багатага сялянства тады гэтым была-б доказана «нязрэласьць» Расіі для сацыялістычнай рэвалюцыі, тады сялянства асталася-б «цэлым», г. зн. асталася-б пад эканамічным, палітычным і духоўным кіраўніцтвам кулакоў, багацеяў, буржуазіі, тады рэвалюцыя ня вышла-бы за межы буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі». [3] Далей у косках Ленін кажа аб тым, што ў гэтым выпадку захват улады пра-

---

[1] Ленин т. XV, стр. 91.
[2] Ленин т. XV, стр. 348.
[3] Там же, стр. 475—476.

летарыятам быў-бы гістарычна апраўданы таму, што ўсё-ж была-б даведзена да канца буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, утворана Савецкая дзяржава, наогул зроблены вялікі крок па шляху да сацыялізму і па набліжэньню сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

І так, на гэтым гістарычным этапе пралетарыят ідзе ў саюзе з бяднейшым сялянствам пры нэўтралізацыі серадняка, супроць капіталістаў гораду і вёскі. «Поступ рэвалюцыі пацьвердзіў правільнасьць нашага разважаньня. Спачатку супольна з «усім» сялянствам супроць манархіі, супроць абшарнікаў, супроць сярэднявякоўя (і паколькі рэвалюцыя застаецца буржуазнай, буржуазна-дэмакратычнай). Затым супольна з бяднейшым сялянствам, супольна з паўпралетарыятам, супольна з усімі эксплёатаванымі супроць капіталізму, у тым ліку супроць вясковых багацеяў, кулакоў, спэкулянтаў, і пасколькі рэвалюцыя становіцца сацыялістычнай. Спрабаваць паставіць штучны кітайскі мур паміж той і другой, аддзяляць іх адну другой чым колечы іншым, апрача ступені падрыхтоўкі пралетарыяту і ступені аб'яднаньня яго з вясковай беднатою, ёсьць найвялікшае скажэньне марксызму, анікчэменьне яго, замена лібералізмам».[1] Закончыўшы други этап, выканаўшы асноўную задачу пралетарскай рэвалюцыі, бальшавізм павінен быў паставіць перад сабою новую, больш складаную задачу: наладзіць правільныя ўзаемаадносіны рабочай клясы і яго вясковага сабрата з асноўнай масай сялянства, якая хісталася ў рэвалюцыі, але якая пасьля замацаваньня дыктатуры пралетарыяту падтрымлівае яе, гэта з серадняком.

* * *

Трэці этап: саюз рабочай клясы і вясковай беднаты з серадняком супроць астаткаў былой і зачаткаў новай буржуазіі вёскі і гораду. Гэты пэрыад пачынаецца пасьля 1919 году. Трэба аднак, тут-жа адзначыць, што разгар барацьбы ў мінулы этап нікольки не засланіў ад Леніна гэтую апошнюю складаную задачу, як устанаўленьня саюзу пралетарыяту і вясковай беднаты з серадняцкімі масамі вёскі.

Так яшчэ на пятым Усерасійскім Зьезьдзе Саветаў у ліпені месяцы 1918 г. Ленін заявіў: «ня толькі з сялянамі бяднейшымі, але і з сярэднім мы не змагаемся. Сяляне сярэднія жылі дзесяткі гадоў да рэвалюцыі ва ўмовах горшых, чым жыве рабочы, з гэтымі сярэднімі сялянамі мы ідзем шляхам згоды».[2] Як бачым ужо і тут, яшчэ задоўга да пастаноўкі гэтага пытаньня перад шырокай партыйнай масай і рабочай клясай, атрымала свой адбітак Ленінскае рэвалюцыйна-марксыцкае разуменьне адносін да сярэдняга сялянства. І ў сьнежні таго-ж году, на зьезьдзе зямельных аддзелаў, камітэтаў беднаты і камун Ленін больш выразна і з яснасьцю для ўсіх паставіў гэта пытаньне.

«У адносінах да сярэдняга сялянства,—кажа ён,—наша палітыка была заўсёды—саюз з ім. Яно ні ў якім разе ня вораг Савецкіх ўстаноў і ня вораг пралетарыяту, і ня вораг сацыялізму. Яно будзе, канешне, хістацца і згадзіцца перайсьці к сацыялізму, толькі тады, калі яно ўбачыць трывалы, на справе паказальны прыклад таго, што гэты

---

[1] Ленин т. XV, стр. 472.
[2] Там же стр. 350.

пераход неабходзен. Гэтага сярэдняга селяніна, канешна, ня можна перараканаць тэарэтычнымі развагамі ці агітацыйнымі прамовамі, на гэта мы не разьлічваем, але яго перараканае прыклад і еднасьць працоўнай часткі сялянства, яго перараканае саюз гэтага працоўнага сялянства з пралетарыятам, і тут мы разлічваем на доўгае, паступовае ўпэўніваньне, на шэраг пераходных мер, ажыцьцяўляючых згоду пралетарскай сацыялістычнай часткі насельніцтва, згоду камуністаў, якія вядуць рашучую барацьбу супроць капіталу ва ўсіх яго формах, згоду іх з сярэднім сялянствам».[1] Ленін, як ніхто іншы, разумеў неабходнасьць і вялікае значэньне саюзу рабочай клясы, ажыцьцяўляючай сваю дыктатуру, з большасьцю сялянскага насельніцтва з сярэднім пластом сялянства.

У першы этап пралетарскай дыктатуры, як і ў пэрыяд яе утварэньня, неабходнейшай задачай зьяўлялася задача захаваньня гэтай дыктатуры. Падтрыманьне і арганізацыя беднаты ў яе барацьбе, разам з рабочай клясай, супроць буржуазіі і кулакоў, усё гэта адсоўвала задачу наладжваньня правільных ўзаемаадносін з сярэднім сялянствам на другі плян. Але як толькі былі вырашаны першачарговыя задачы, ад якіх залежыў лёс сацыялістычнай рэвалюцыі, як толькі была расчышчана глеба ў вёсцы для ўтварэньня новых форм гаспадаркі, як толькі для гэтага была падрыхтавана апора пралетарыяту ў вёсцы ў асобе беднаты, так адразу-ж паўстала пытаньне ва ўсю велічыню аб саюзе з серадняком. Калі на папярэднім этапе была задача толькі нэўтралізаваць сярэдняе сялянства, то зараз гэта было недастаткова. «Мы ўвайшлі ў такую стадыю сацыялістычнага будаўніцтва, калі трэба выпрацаваць канкрэтна, дэталёва, на практыцы працы ў вёсцы, асноўныя правілы і ўказаньні, якімі мы павінны кіравацца для таго, каб у адносінах да сярэдняга сялянства стаць на глебу м о ц н а г а с а ю з у, каб выключыць магчымасьць тых неаднакратна здараўшых ухіленьняў і неправільнасьцяў, якія адрывалі ад нас сярэдняе сялянства, тады як на самай справе мы маглі-б разьлічваць на поўнае яго давер'е, як кіруючая Камуністычная партыя, упяршыню дапамагаўшая рускаму сялянству скінуць да канца абшарнікаў і аснаваць для яго супраўдную дэмакратыю. Гэта задача не таго тыпу, якая патрабуе бязьлітаснага хуткага падаўленьня і наступленьня. Яна ня сумненна больш складаная».[2] Вось як Ленін фармуляваў гэтую задачу ў сваёй уступнай прамове, пры адчыненьні Восьмага Зьезду Партыі ў сакавіку месяцы 1919 году.

Тут ужо рашуча падкрэсьлена неабходнасьць «моцнага саюзу» з серадняком. Гэта ўстаноўка на саюз з серадняком была цьвёрда прынята Восьмым Зьездам Партыі і зафіксавана ў праграме, як нярухомая аснова партыйнай палітыкі на вёсцы. «У адносінах да сярэдняга сялянства,—гаворыцца ў програме,—палітыка Камуністычнай партыі састаіць у паступовым і плянамерным ўцягненьні яго ў працу сацыялістычнага будаўніцтва. Партыя ставіць сваёй задачай аддзяліць яго ад кулакоў, прыцягваць яго на бок рабочай клясы ўважлівымі адносінамі да яго патрэб, змагаючыся з яго адсталасьцю мерамі ідэйнага ўплыву, а ніяк ня мерамі падаўленьня, імкнучыся ва ўсіх выпадках, дзе закрануты яго жыцьцёвыя інтарэсы, да практычнай згоды з ім, ідучы на ўступкі яму ў азначэньні спосабаў сацыялістычных ператварэньняў».

У час грамадзянскай вайны гэты саюз насіў рысы чыста ваенна-палітычнага характару. У гэты прамежак часу форма гэтага саюзу

[1] Ленин т. XV, стр. 554.
[2] Ленин т. XVI, стр. 94—95.

была простай. За атрыманую сялянамі зямлю і за падтрыманьне яго ў барацьбе з буйным землеўладаньнем, яно павінна было даць пралетарыяту прадукты неабходныя для гораду, для ўтрыманьня арміі пры яе барацьбе з ворагамі, якія абкружалі жалезным абручом рэспубліку Саветаў.

Пасьля таго, як была скончана грамадзянская вайна і Рэспубліка Пралетарскай Дыктатуры перайшла да мірнага будаўніцтва, выявіўся шэраг цяжкасьцяў, якія абумоўлены мінулай эканамічнай палітыкай. Трэба было паставіць ва ўсю шырыню пытаньне аб зьнішчэньні гэтых цяжкасьцяў і недахопаў праз новую форму згоды з сялянствам, праз пераход на глебу цьвёрдага эканамічнага саюзу з гэтым сялянствам. А гэта ў сваю чаргу патрабавала прыстасаваньня сацыялістычнай эканомікі да эканомікі больш двух дзесяткаў мільёнаў двароў дробных таваравытворцаў, якія шукалі выхаду на рынак для прадажы і абмену сваіх прадуктаў на прадукты прамысловасьці. Задавальненьне гэтага імкненьня сялянства, разьвязаньне таваразвароту, які ўрэшце можа прывесьці і прывёў да ўзьняцьця, заняпаўшых у час імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, вытворчых сіл і склаў сутнасьць новай эканамічнай палітыкі. «Мы не павінны старацца захаваць што-небудзь, а павінны гаварыць праміком, што сялянства формай адносін, якія ў нас наладзіліся, недавольна, што яно гэтай формы суадносін ня хоча і далей так існаваць ня будзе. Гэта бясспрэчна. Гэта воля яго выразілася вызначальна. Гэта воля калёсальных мас працоўнага насельніцтва. Мы з гэтым павінны лічыцца і мы досыць цьвярозыя палітыкі, каб гаварыць проста: давайце пераглядваць». [1]

Ня гледзячы на тое, што партыя паставіла пытаньне аб тым, каб перагледзіць утоварныя ўзаемаадносіны з асноўнай масай сялянства, аднак сваіх адносін да вясковай беднаты і батрацтва ніколькі не парушыла. Апорай пралетарскай дыктатуры зьяўляецца рабочая кляса ў горадзе і пралетарыят і паўпралетарыят у вёсцы, таму што інтарэсы і імкненьні гэтых пластоў цалкам супадаюць. Вядома тое, што каб капіталістычнае разьвіцьцё вёскі расслаіла яе на два пласты: заможную верхавіну кулакоў з аднаго боку і на беднату і вясковы пралетарыят з другога, дык тады, пры апоры на апошні пласт, пралетарыяту ня трэба-б было наладжваць саюз з серадняком таму, што яго ня было-бы, і задача пабудовы сацыялістычнай гаспадаркі была-б значна прасьцейшай. Гэта канешне ні ў малай меры не адзначае, што і пры гэтым выпадку да сацыялізму можна перайсьці лёгка і бяз ніякіх крокаў да заваяваньня дробнай буржуазіі на бок пралетарыяту, аднак працяг гэтага пэрыяду быў-бы значна карацейшы. Але калі гэтага няма, а ёсьць ў наяўнасьці вялікі і пераважны па сваёй колькасьці пласт сярэдняга сялянства, дык пры гэтых умовах пралетарыят разам з вясковай беднатой павінен заключыць доўгую згоду, саюз з гэтым серадняком. Саюз гэты ідзе на ўступкі серадняку, гэтым самым крыху зьменшыцца хуткасьць руху па шляху да сацыялізму, але гэтыя ўступкі і згода на задавальненьня некаторых патрэб серадняка, не павінны парушаць моцы дыктатуры пралетарыяту. У руках пралетарскай дзяржавы павінна застацца кіруючая роля і камандныя вышыні ў асобе нацыяналізаванай зямлі, прамысловасьці, транспарту, манаполіі гандлю і інш.

І так гэты саюз пралетарыяту і беднаты з серадняком на грунце новай эканамічнай палітыкі ёсьць неабходная ступень для ўзьняцьця

[1] Ленин т. XVIII, ч. I стр. 127.

вытворчых сіл народнай гаспадаркі, для яе аднаўленьня, а потым далейшага разьвіцьця і перакансструкцыі на новых пачатках. Дасягнуць гэтага можна толькі тады, калі ўся маса працоўнага насельніцтва возьмецца за гэтую справу. Ленін вось што кажа на конт гэтага: «Злучыцца з сялянскай масай з радавым працоўным сялянствам, і пачаць рухацца ўперад нязьмерна, бяз конца марудней, чым мы марылі, але затое так, што супраўды будзе рухацца ўся маса з намі. Тады прысьпяшэньне гэтага руху ў свой час наступіць такое аб якім мы зараз і марыць ня можым». [1] Але зараз-жа паўстае пытаньне, ці патрэбны былі гэтыя ўступкі, якія былі зроблены сярэдняму сялянству і ці не зьяўляюцца яны выпадковымі і нявольнымі? Ленінізм дае адказ на гэта запытаньне так, што гэтыя тактычныя ўступкі патрэбны. Яны неабходны для таго, каб замацаваць паміж рабочай клясай і асноўным пластом працоўнага вясковага насельніцтва саюз. Бо бяз гэтага саюзу марыць аб перамозе ў нашай краіне сацыялізму—ня можна, утапічна, а таксама ня можна было-б утрымаць дыктатуру рабочай клясы. І таму: «вышэйшы прынцып дыктатуры пралетарыяту—гэта захаваньне саюзу пралетарыяту з сялянствам, каб пралетарыят мог утрымаць кіруючую ролю і дзяржаўную ўладу». [2]

«Пралетарыят, як кіруючая, як пануючая кляса, павінен умець накіраваць палітыку так, каб рашыць у першую чаргу самую неадкладную, самую «хворую» задачу. Неадкладней за ўсё зараз меры, здольныя ўзьняць вытворчыя сілы сялянскай гаспадаркі неўзабаве. Толькі праз гэта можна дабіцца і палепшаньня становішча рабочых, і ўмацаваньня саюзу рабочых з сялянствам, умацаваньня дыктатуры пралетарыяту». [3]

Як бачым, саюз рабочай клясы з сялянствам не зьяўляецца сталым раз і на заўсёды дадзеным і з бязьзьменным зьместам, а зьяўляецца такім-жа рухомым, дынамічным, такім-жа дыялектычным, як і само жыцьцё. Таму нязьменных і сталых адносін пралетарыяту з сялянствам быць так-сама ня можа. На кожнай фазе свайго разьвіцьця гэты саюз павінен мець свой спэцыяльны, канкрэтны зьмест, які адпавядаў-бы дадзеным палітычным і эканамічным умовам. Асноўнае-ж, чым павінен кіравацца пралетарыят у гэтым саюзе, гэта зьнішчэньне эвалюцыйным шляхам сялянства, як клясу мінулых эпох і мінулых форм вытвару і абвярненьня яго ў частку сацыялістычнай бясклясавай грамады, якая ўладае і адзінай плянавай гаспадаркай.

4.

Правільнасьць руху па сацыялістычнаму шляху сучаснай грамады забясьпечана тым, што ў уладзе стаіць рабочая кляса, што моцна трымаецца яе рэвалюцыйная дыктатура, яе адзінаўладзтва. Калі ў буржуазна-сялянскай рэвалюцыі гэгемонія пралетарыяту не адзначае ў той жа час яго дыктатуры, дык у рэвалюцыі сацыялістычнай, нават зьвязанай з сялянскай супроць фэўдалізму, гэгамонія пралетарыяту цалкам і поўнасьцю павінна азначаць дыктатуру. Альбо гэта так, тады рэвалюцыя будзе даведзена да пераможнага канца, калі-ж гэта ня так, дык рэвалюцыі цяжка будзе трымацца пад націскам контррэвалюцыйных сіл, яна можа быць імі зьнішчана і можа быць адноўлены стары буржуазны парадак.

[1] Ленин т. XVIII, ч. II, стр. 27.
[2] Ленин т. XVIII, ч. I, стр. 306.
[3] Там-же, стр. 197.

Пры сацыялістычнай дыктатуры, а такая можа быць дыктатурай пралетарыяту, ужо ня можа быць гутаркі аб падзелу ўлады паміж пралетарыятам і рэвалюцыйнымі элементамі дробнай буржуазіі. Гутарка ў гэтым выпадку можаісьці толькі аб кіраўніцтве з боку пралетарыяту дробна-буржуазным сялянствам ў справе пабудовы ім з індывідуальнай гаспадаркі, гаспадаркі грамадзкай, сацыялістычнай. У гэты пэрыяд гісторыі, як і ў барацьбе з абшарнікамі і капіталістымі, так і ў справе сацыялістычнага будаўніцтва сялянства ўдзельнічае пад кіраўніцтвам пралетарыяту, асноўнай мэтай якога зьяўляецца ўтварэньне адзінай пляновай грамадзкай гаспадаркі і зьнішчэньне кляс.

Агульнае значаньне дыктатуры пралетарыяту складаецца з таго, што яна ёсьць зброя падаўленьня эксплёататараў, зброя, якая сурова б'е ўсіх тых, хто хоча парушыць яе і спрабаваць аднавіць панаваньне эксплёататараў, але ў той-жа час, дыктатура пралетарыяту азначае тое, што рабочая кляса, як адзіная прагрэсыўная кляса грамады, павінна зьявіцца асноўнай сілай эканамічнага ператварэньня грамады, ператварэньня яе эканамічных адносін на сацыялістычны лад. «Дыктатура пралетарыяту ня ёсьць канец клясавай барацьбы, але ёсьць працяг яе ў новых формах. Дыктатура пралетарыяту ёсьць клясавая барацьба перамогшага і ўзяўшага ў свае рукі палітычную ўладу пралетарыяту, супроць пераможнай, але ня зьнішчанай, ня зьнікшай буржуазіі, якая не пакінула чыніць супраціўленьне, нават узмацніла яго. Дыктатура пралетарыяту ёсьць асобная форма клясавага саюзу паміж пралетарыятам, авангардам працоўных, і шматлікімі непралетарскімі пластамі працоўных (дробная буржуазія, дробныя гаспадарчыкі, сялянства, інтэлегенцыя і г. д.) або большасьцю іх, саюзу супроць капіталу, саюзу ў мэтах канчатковага нізрынуцьця капіталу, канчатковага прыдушэньня супраціўленьня буржуазіі і спроб рэстаўрацыі з яе боку, саюзу ў мэтах канчатковага стварэньня і замацаваньня сацыялізму. Гэта—асобнага віду саюз, які складаецца ў асобных абставінах, іменна ў абставінах шалёнай грамадзянскай вайны; гэта саюз цьвёрдых прыхільнікаў сацыялізму з тымі саюзьнікамі, што яшчэ вагаюцца, часамі з «нэўтральнымі» (тады са згоды аб барацьбе саюз робіцца згодай аб нэўтралітэту), саюз паміж неаднолькавымі эканамічна, палітычна, сацыяльна, духоўна—клясамі». [1]

«Навуковае разуменьне дыктатуры пралетарыяту абазначае ня што іншае, як уладу, якая нічым не абмежавана, ніякімі законамі, ніякімі абсалютна правіламі ня сьціснута і якая непасрэдна на гвалт абапіраецца». [2] «Дыктатура пралетарыяту... ня ёсьць толькі гвалт над эксплёататарамі і нават не галоўным чынам гвалт. Эканамічнай асновай гэтага рэвалюцыйнага гвалту, зарукай яго жыцьцёвасьці і посьпеху зьяўляецца тое, што пралетарыят прадстаўляе і ажыцьцяўляе больш дасканалую грамадзкую арганізацыю працы ў параўнаньні з капіталізмам. У гэтым сутнасьць. У гэтым крыніцы сілы і зарука няўхільнай поўнай перамогі капіталізму». [3] «Галоўная сутнасьць дыктатуры ў арганізаванасьці, дысцыплінаванасьці перадавога атраду працоўных, яго авангарду, яго адзінага кіраўніка—пралетарыяту, яго мэта—ўтварыць сацыялізм, зьністожыць падзел грамадзтва на клясы, зрабіць усіх сяброў грамады працоўнымі,

---

[1] Ленин т. XVI, стр. 240—241.
[2] Ленин т. XVII, стр. 361.
[3] Ленин т. XVI, стр. 247—248.

адабраць грунт для ўсялякай эксплёатацыі чалавека чалавекам. Гэтую мэту нельга ажыцьцявіць адразу, яна патрабуе даволі значнага пераходнага часу ад капіталізма да сацыялізму,—і таму, што пераарганізацыя вытворчасьці справа цяжкая і таму, што патрэбны час для грунтоўных зьмен ва ўсіх галінах жыцьця, і таму што вялізарная сіла прызвычаянасьці да дробна-буржуазнага і буржуазнага гаспадараньня можа быць пераможана толькі шляхам доўгай, упартай барацьбы. Дзеля гэтага Маркс і гаворыць пра цэлы пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, як пра пэрыад пераходу ад капіталізма да сацыялізма».[1]

«Дыктатура пралетарыяту, калі перакласьці гэты лацінскі, навуковы, гістарычна-філёзофскі выраз на больш простую мову, абазначае вось што: толькі пэўная кляса, менавіта гарадзкія, фабрычна-завадзкія, прамысловыя рабочыя, здольны кіраваць усёй масай працоўных і эксплёатаваных ў барацьбе за зваленьня ярма капіталу, у час самага зваленьня, у барацьбе за ўтрыманьне і замацаваньне перамогі, у справе будаваньня новага сацыялістычнага грамадзкага ладу, ва ўсёй барацьбе за поўнае зьнішчэньне клясаў».[2] «Дыктатура пралетарыяту ёсьць упартая барацьба, крывавая і бязкроўная, гвалтоўная і мірная, ваенная і гаспадарчая, пэдагагічная і адміністратарская, супраць сіл і традыцый старога грамадзтва. Сіла прывычкі мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў—самая страшэнная сіла».[3]

Вядома, выканаць усе гэтыя заданьні якія стаяць прад дыктатурай пралетарыяту ў кароткі тэрмін ні ў якім разе не магчыма. Для гэтага патрэбна перажыць цэлую гістарычную эпоху ўпартай барацьбы, невялікіх адступленьняў, перамог і паражэньняў. Пэрыяд гэты патрэбен ня толькі для таго, каб утварыць належныя эканамічныя ўмовы для пасьпяховага руху сацыялізму, але і для таго, каб перарабіць псыхалёгію ўсіх мас, каб можна было забясьпечыць і з боку людзкога матэрыялу патрэбны элемент, для гэтага будаўніцтва. Недарэмна Маркс, зьвяртаючыся да пралетарыяту, сказаў: «вы павінны перажыць 15—20—50 г. грамадзкіх і міжнародных войнаў ня толькі для таго, каб зьмяніць адносіны, але і для таго, каб зьмяніць самых сябе і зрабіць сябе здольнымі да палітычнага панаваньня». Працягваючы далей думку Маркса, Ленін гаворыць, што пры дыктатуры пралетарыяту прыдзецца перавыхоўваць мільёны сялян і дробных гаспадарчыкаў цэлыя сотні тысяч служачых, чыноўнікаў, буржуазных інталегентаў, падначаліць іх усіх пралетарскай дзяржаве і пралетарскаму кіраўніцтву, каб перамагаць у іх буржуазныя прывычкі і традыцыі. Усю гэтую спадчыну мінулага, капіталістычнага ладу, якая выходзіць з дробнай вытворчасьці, з адносін былой эканомікі пралетарыяту ў час яго дыктатуры прыдзецца перарабляць, зьнішчаць шляхам доўгай, упартай, асьцярожнай арганізацыйнай выхаваўчай працы.

Намі наўмысна пададзена тут адразу некалькі вытрымак з твораў Леніна, дзеля таго, што ніхто з такой яснасьцю і прастатою ня вызначыў значаньня дыктатуры пралетарыяту, як гэта зрабіў гэніальны правадыр працоўнага чалавецтва. У гэтых вытрымках яскрава сказана аб задачах пралетарскай дыктатуры ў момант яе ўзьнікненьня, так і вызначаны далейшыя задачы зьвязаныя з ператварэньнем капіталістычнай грамады ў сацыялістычную.

Якія асноўныя рысы дыктатуры пралетарыяту можна вывесьці з пададзеных намі азначэньняў?

---

[1] Ленин т. XVI, стр. 226—227.
[2] Ленин т. XVI, стр. 248.
[3] Ленин т. XVII, стр. 136.

Па першае. У адносінах да буржуазіі. У адносінах да эксплёататараў, якія імкнуцца аднавіць сваё панаваньне над працоўнымі, роля пралетарыяту зводзіцца да падаўленьня гэтых пластоў, да бязлітаснага зьнішчэньня рэвалюцыйнымі мерамі, да прыдушэньня ўсякіх спроб рэстаўрацыі старых парадкаў. Па-другое. У адносінах да працоўных мас, да дробнай буржуазіі у тым ліку і да сялянства, роля дыктатуры пралетарыяту зводзіцца да кіраўніцтва імі, да нэўтралізацыі, да прыцягненьня на свой бок пластоў, якія хістаюцца ў рэвалюцыі, да наладжваньня з асноўнымі масамі селянства саюзу, да прыцягненьня ўсіх гэтых мас у справу сацыялістычнага будаўніцтва выхоўваючы ў іх патрэбную для гэтага будаўніцтва—ідэалёгію. І па трэцяе. Дыктатура пралетарыяту, праз скарыстаньне дзяржаўнай палітычнай улады, павінна зьнішчыць падзел грамады на клясы, і падрыхтаваць пераход чалавецтва ў грамаду бяз кляс і дзяржавы, да камунізму.

Усе гэтыя бакі, узятыя разам і складаюць разуменьне дыктатуры пралетарыяту. Ні адзін з гэтых бакоў узятых паасобку ня можа прадставіць сабою правільнага разуменьня дыктатуры пралетарыяту. «Памыляюцца тыя таварышы, якія гавораць, што паняцьце дыктатуры пралетарыяту вычэрпваецца паняцьцем гвалту. Дыктатура пралетарыяту ёсьць ня толькі г в а л т, але і к і р а ў н і ц т в а працоўнымі масамі не пралетарскіх клясаў, але і б у д а ў н і ц т в а сацыялістычнай гаспадаркі, вышэйшае па тыпу, чым гаспадарка капіталістычная. Дыктатура пралетарыяту ёсьць: 1) неабмяжаваны законам гвалт у а д н о с і н а х д а к а п і т а л і с т ы х і а б ш а р н і к а ў; 2) кіраўніцтва пралетарыяту ў а д н о с і н а х д а с я л я н с т в а; 3) будаўніцтва сацыялізму ў а д н о с і н а х д а ў с я е г р а м а д ы. Ніводнага з гэтых трох бакоў дыктатуры ня можна выключыць, не перакруціўшы паняцьця дыктатуры пралетарыяту».[1]

Такім чынам, пралетарыят пасьля аўладаньня ўладай і ўстанаўленьня сваёй дыктатуры не спыняе клясавай барацьбы за ажыцьцяўленьне сацыялізму, вядзе яе, але формы гэтай барацьбы зусім іншыя. Ды гэта зусім і зразумела, таму што пралетарыят цяпер ужо мае справу з перамогшай ў адчыненай барацьбе клясай капіталістаў з аднаго боку, і дробнай буржуазіяй, якую ня можна зьнішчыць гвалтам з другога. Для пралетарыяту, як пануючай клясы, галоўнай задачай становіцца зараз вызначэньне і ажыцьцяўленьне тых мер, якія патрэбны для кіраўніцтва сялянствам для моцнага саюзу з ім з мэтаю накіраваньня яго дробнай гаспадаркі па шляху таварыскіх форм земляробства.

Дыктатура рабочай клясы, арганізаваная як дзяржаўная ўлада, адносіцца па рознаму да розных пластоў грамады, да розных груп. І ясна, было-б няправільна, каб дыктатура пралетарыяту адносілася аднолькава да ўсіх гэтых пластоў і груп і вяла адну і тую-ж палітыку і знаходзілася ў аднолькавых адносінах з гэтымі living рознымі пластамі. Зараз мы мусім разгледзіць адносіны дыктатуры пралетарыяту да розных пластоў сялянства, разабраўшы спачатку прыроду сацыяльных груп сялянства пры дыктатуры пралетарыяту.

Для таго, каб больш правільна падыйсьці да клясаўтваральных азнак і да аднясеньня той ці іншай групы сялянства да адпаведнай клясы, мы прывядзем клясычнае азначаньне клясы, дадзенае Леніным. Вось гэта азначэньне: «Клясамі называюцца вялікія групы людзей, якія адрозьніваюцца па іх месцу ў гістарычна пэўнай сыстэме грамадзкага вытвару па іх адносінах (большай часткай замацаваных і аформленых у законах) да сродкаў вытвару, па іх ролі ў грамадзкай арга-

[1] Сталін „Пытаньні ленінізму" стар. 264.

нізацыі працы, а значыцца, па спосабах атрыманьня і разьмерах той долі грамадзкага багацьця, якой яны распалагаюць. Клясы—гэта такія групы людзей, з якіх адна можа сабе прысвайваць працу другой, дзякуючы розьніцы іх месца у пэўным укладзе грамадзкай гаспадаркі». [1]

Калі мы возьмем гэтыя клясаўтваральныя азнакі і разгледзім сацыяльныя групы вёскі зараз пры дыктатуры пралетарыяту і па іх месцу у нашай сыстэме грамадзкага вытвару, па іх адносінах да сродкаў вытвару, па спосабу атрыманьня сваёй долі грамадзкага багацьця і ў адносінах да іншых груп людзей у нашай Савецкай грамадзе, дык атрымаем наступнае. Кулак, як эксплёатуючы чужую працу і па іншых азнаках, бязумоўна павінен быць аднесены да буржуазіі. Батрак, які ня мае ўласных сродкаў вытвару і жыве за кошт прадажы сваёй рабочай сілы бясспрэчна можа быць аднесены да пралетарыяту. Застаецца бедняк і серадняк. Раней чым аднесьці іх да той ці іншай клясы мы умовімся, што мы пад гэтымі двума групамі сялянства разумеем. Спачатку застановімся на серадняку.

«Сярэдні селянін, той, які не эксплёатуе і сам не падпадае пад эксплёатацыю, які жыве дробнай гаспадаркай, сваёй працай». [2] Гэта кароткая, але надзвычайна яснае азначаньне Леніна, серадняка, абымае сабою ўсе клясаўтваральныя азнакі гэтай сацыяльнай групы сялянства. Гэта дробныя гаспадары і ў адносінах да сродкаў вытвару, яны ўласьнікі. Іх спосаб атрыманьня сваёй долі грамадзкага багацьця—свая ўласная праца. Разьмер гэтай долі ў асноўным адпавядае гэтай уласнай працы на сваёй невялікай гаспадарцы. І, як гаворыць азначэньне Леніна, яны не эксплёатуюць чужой працы самі, але разам з тым і не эксплёатуюцца другімі. І так, паколькі гэты дробны селянін у асноўным жыве (у асноўным таму, што на справе ў жыцьці ёсьць некаторыя выключэньні) уласнай працай на ўласнай гаспадарцы, ён застаецца серадняком, бо асноўным, што вызначае яго клясавую прыроду, як дробнага самастойнага гаспадара, застаецца сказанае вышэй Ленiным.

Што-ж датычыцца бедняка, дык трэба сказаць адно, што Ленін на працягу ўсяго свайго жыцьця называў гэтую групу сялянства паўпралетарыятам. Ён ясна выдзяляў беднату з астатніх мас сялянства не як ўласьніка сродкаў вытвару, не як дробнага гаспадара, а іменна як паўпралетара, хаця ўласьнікам невялічкага кавалка зямлі і нязначнай маемасьці ён быў—і застаецца. Характэрным для бедняка застаецца тое, што ён на раду са сваёй працай на сваёй мізэрнай гаспадарцы жыве працай па найму. А гэта азначае, што ён у сучасны момант, альбо эксплёатуецца вясковай і гарадзкой буржуазіяй, альбо працуе хаця-б сэзонна на дзяржаўных прадпрыёмствах. І важна тое, што для беднаты гэтая праца па найму зьяўляецца галоўнай крыніцай сродкаў існаваньня, а яго ўласная гаспадарка зьяўляецца ня больш як падсобнай да гэтай асноўнай. Гэткім чынам, бедната атрымлівае асноўную сваю долю багацьця праз прадажу сваёй працоўнай сілы, тады як у серадняка галоўнай крыніцай існаваньня зьяўляецца праца ў сваёй гаспадарцы. Вось тое асноўнае, чым адрозьніваецца бедната ад сераднякоў.

Клясаўтвараючай азнакай для бедняка зьяўляецца, у першую чаргу, праца па найму і толькі другараднай азнакай зьяўляецца праца на сваёй гаспадарцы. У гэтым уся сутнасьць клясавай прыроды бедняка. Як бачым ён займае сярэдняе месца паміж пралетарыятам і серадняцкімі масамі вёскі. Па гэтаму ён і завецца паўпралетарыям. Бедняк ня можа быць пастаўлены як у палітычным, гэтак і ў эканаміч-

[1] Ленин т. XVI, стр. 249.
[2] Там же стр. 179.

ным сэнсе разам з серадняком. Ён больш па свайму клясаваму становішчу набліжаецца да пралетарыяту.

Адсюль зразумела і тое, што калі мы гаворым аб наяўнасьці ў нас зараз пры дыктатуры пралетарыяту двух асноўных клясаў пралетарыяту і сялянства, дык пад апошнім трэба разумець не сялянства ўсё разам узятае, а іменна яго серадняцкі пласт, які складае у нас зараз пераважную большасьць усяго вясковага насельніцтва. Пасьля ўсяго гэтага зусім зразумела чаму пры пралетарскай дыктатуры бедната зьяўляецца яе апорай ў вёсцы, а серадняк саюзьнікам. «Палітыка рабоча-сялянскага ўраду і Камуністычнай партыі павінна весьціся і надалей у гэтым духу згоды пралетарыяту і вясковай беднаты з сярэднім сялянствам». [1] Іменна ня згода пралетарыяту з вясковай беднатой і сярэднім сялянствам, а згода пралетарыяту і вясковай беднаты з сярэднім сялянствам, як асобнай клясай,—гэта трэба зразумець. Ленін глядзеў іменна на сярэдняе селянства як на асобную клясу, з якой пралетарыят павінен заключыць цесны саюз.

Сярэдняе сялянства, як асобная кляса, вырасла за час ваеннага камунізму, калі з аднаго боку ў яго ўлілася значная частка беднаты, а з другога некаторая частка заможнага дарэвалюцыйнага сялянства. Акрамя гэтага, павялічваецца гэты пласт сялянства яшчэ і таму, што рэвалюцыяй зьнішчаны ўмовы яго вымываньня і разарэньня пад націскам абшарніцкай і капіталістычнай эксплёатацыі. Зьнішчаны умовы, пры якіх значная частка сярэдняга сялянства пралетарызавалася, а другая меншая пераходзіла ў вярхі капіталістычнай грамады. Ленін наступным чынам характарызаваў яшчэ ў 1921 годзе асераднячваньне вёскі ў пэрыяд ваеннага камунізму. «Спачатку становішча было такое, што мы бачылі націск ўсяго сялянства супраць улады абшарнікаў. Супраць абшарнікаў ішлі аднолькава і бядняк і кулакі, хаця, зразумела, з рознымі намерамі: кулакі ішлі з мэтаю адабраць зямлю ад абшарнікаў і разьвіць на ёй сваю гаспадарку. Вось тады і выявіліся паміж кулакамі і беднатой розныя інтарэсы і імкненьні. Бедната беспасрэдна гэты пераход зямлі ад абшарнікаў магла скарыстаць вельмі мала, бо у яе ня было для гэтага ні матэрыялаў, ні зброі. І вось мы бачым, што бедната арганізуецца, каб не даць кулакам захапіць адабраныя землі. Савецкая ўлада дапамагае ўзьнікшым камітэтам беднаты у нас і камнезаможам на Украіне. Што-ж атрымалася ў выніку. У выніку атрымалася, што пераважным элемэнтам у вёсцы зьявіліся сераднякі. Мы гэта ведаем са статыстыкі, а ўсякі, хто жыве ў вёсцы, ведае гэта са сваіх назіраньняў. Менш стала крайнасьцяў у бок кулацтва, менш у бок убогства, і большасьць насельніцтва пачала набліжацца да серадняцкага. Калі нам трэба падняць вытворчасьць нашай сельскай гаспадаркі, дык мы павінны лічыцца, у першую чаргу, з серадняком... Значыць, зьмена у палітыцы у адносінах да сялянства тлумачыцца тым, што зьмянілася становішча самаго сялянства. Вёска стала больш серадняцкай і для ўздыму вытворчых сіл мы павінны з гэтым лічыцца». [2] Так вырасла другая сіла на раду з пралетарыятам і вясковай беднатой—серадняк, які складае пераважную колькасьць вясковага насельніцтва. Гэта і ёсьць,—кажа Ленін ў сваёй прамове на зьезьдзе транспартных рабочых у сакавіку 1821 году,—самастойная кляса—тая кляса, якая пасьля зьнішчэньня, выгнаньня абшарнікаў і капіталістаў, застаецца адзінай клясай, здольнай супрацьстаяць пралетарыяту.

На трэцім кангрэсе Камінтэрну Ленін ў сваіх тэзісах піша аб гэтых двух клясах так: «Унутранае палітычнае становішча Савецкай Расіі

[1] Ленин т. XVI, стр. 161.
[2] Там-же т. XVIII, ч. I, стр. 181.

вызначаецца тым, што тут мы бачым у першы раз ва усусьветнай гісторыі існаваньня, на працягу цэлага шэрагу гадоў толькі двух кляс: пралетарыяту, які выхаван дзесяцігодзьдзямі вельмі маладой, але усё-ж сучаснай буйнай машыннай прамысловасьцю, і дробнага сялянства, якое складае вялізарную большасьць насельніцтва». [2] Адсюль саюз паміж пралетарыятам і сялянствам, паміж сацыялістычнай эканомікай і эканомікай сялянскай, ня можа разумецца інакш, як саюз пралетарыяту з гэтай большасьцю дробнага сялянства, з серадняком, які зьяўляецца пры дыктатуры пралетарыяту другой клясай, якая супроць стаіць пралетарыяту. І толькі разумеючы сялянства так, як яго разумеў Ленін, дыктатура пралетарыяту можа узяць правільны курс у эканоміцы і палітыцы у адносінах да яго паасобных сацыяльных груп. Пасьля аналізу і ўяўленьня сялянства як масы, якая складаецца з розных па свайму месцу ў сучаснай Савецкай грамадзе пластоў, мы пяройдзем да значэньня пралетарскай дыктатуры ў адносінах да працоўнага сялянства беднякоў і сераднякоў.

Па меры свайго замацаваньня, дыктатура пралетарыяту, вядзе палітыку сталага і бязупыннага пертварэньня капіталістычных форм, палітычнага і гаспадарчага жыцьця, у формы сацыялістычныя. З ростам моцы Савецкага ладу, як формы дыктатуры пралетарыяту, цэнтр цяжару ўсё больш і больш пераносіцца са справы непасрэднага прыдушэньня эксплёататараў, і астаткаў варожых рабочай клясы, на справу эканамічнага пертварэньня грамады, на мірную арганізацыйную працу, на справу будаўніцтва новых сацыялістычных форм гаспадаркі. Па гэтаму шляху, дыктатура пралетарыяту і вядзе усё дробнае сялянства. Тое сялянства, якое дзякуючы векавой забітасьці і адсталасьці, дзякуючы сваёй цемнаце і малай сьвядомасьці, ня прывыкла да новых калектыўных форм і ў зьвязку з гэтым, пры некаторых цяжкіх умовах, можа хістацца ў бок буржуазіі. З гэтымі хістаньнямі, з гэтымі ўхіламі, якія выцякаюць з двоістай прыроды сялянства, пралетарская дыктатура вядома павінна весьці барацьбу. Але асноўным сродкам прыцягнуць сялянства на свой бок павінен зьяўляцца сродак перавярненьня яго дробнай гаспадаркі ў тварыскую буйную гаспадарку, перавыхаваньня яго дробна-буржуазнай псыхалёгіі. Сялянская дробная, нерацыянальная гаспадарка, пры дапамозе дыктатуры пралетарыяту павінна будзе пертварыцца, праз сыстэму вытворчай каапэрацыі, у вышэйшую форму, буйную форму, больш культурную форму гаспадаркі. Гэты працэс будзе ісьці не праз выцясьненьне, альбо праз зьнішчэньне сялянскай дробнай вытворчасьці, а шляхам паступовага і рашучага яго пертварэньня і падняцьця, пры дапамозе сацыялістычнай дзяржавы, на больш высокую ступень гаспадараньня.

Саюз рабочай клясы з асноўнай масай сялянства патрэбен імення для таго, каб наблізіць сялянства да рабочай клясы, перавыхаваць яго, перарабіць яго псыхалёгію індывідуалістага, пераапрацаваць яго ў духу калектывізму і падрыхтаваць, гэткім чынам, ліквідацыю і зьнішчэньне клясаў на базе сацыялістычнага грамадзтва. Як перарабіць селяніна? Яго можна перарабіць перш за ўсё і галоўным чынам на базе новай тэхнікі, на базе калектыўнай працы. «Справа перапрацоўкі дробнага земляроба, перапрацоўкі ўсёй яго псыхалёгіі і навыкаў, ёсьць справа, якая патрабуе пакаленьняў. Вырашыць гэтае пытаньне ў адносінах дробнага земляроба, аздаравіць, так сказаць, усю яго псыхалёгію, можа толькі матэрыяльная база, тэхніка, ужываньне трактароў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрафікацыя

[1] Ленін, XVIII, стр 290.

ў масавым масштабе. Вось што каранным чынам і з вялізарнай хуткасьцю перарабіла-б дробнага земляроба. Калі я кажу, што патрэбны пакаленьні, гэта не азначае, што патрэбны стагодзьдзі. Вы добра разумееце, што дастаць трактары, машыны і электрафікаваць вялікую краіну,—такая справа можа, ва ўсякім выпадку, вылічацца ня менш, чым дзесяцігодзьдзямі». [1]

Тут як бачым Ленін даў указаньні ня толькі аб тым, як трэба перавыхоўваць селяніна, але разам з тым узьняў пытаньне індустрыялізацыі краіны, як неабходнага шляху для больш хуткай перапрацоўкі дробнага сялянства і яго псыхалёгіі. А вось што гаворыць Ленін у другім месцы: «Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагу грамадзкай, каляктыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай, арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае дзяржаўную ўладу, сапраўды давядзе селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу». [2] Вось як забясьпечваецца сапраўднае, трывалае прыцягненьне мільённых мас сялянства на бок рабочай клясы, на бок сацыялізму.

Калі сутнасьць капіталістычнай грамады зводзіцца да падзелу яе на клясы, да кіраўніцтва і дыктатуры у гэтай грамадзе гэтай буржуазіі, якая забясьпечвае за сабой усе матэрыяльныя і духоўныя перавагі, якая мае манапольнае права, як на сродкі вытвару, так і на дзяржаўную ўладу і манаполію на адукацыю, на навуку, дык зусім іншыя намеры мае дыктатура пралетарыяту. Задачай апошняй зьяўляецца перамаганьне клясавай розьніцы, зьнішчэньне гэтых клясаў шляхам перавыхаваньня шырокіх народных мас; для гэтага рабочая кляса скарыстоўвае ўсе сродкі і ўсю магутную сілу сваёй дзяржаўнай ўлады. Грунтам гэтай перапрацоўкі зьяўляецца перарабленьне эканамічных адносін грамады, разьвіцьцё і накіраваньне гэтай грамады па шляху да сацыялізму. Дыктатура пралетарыяту ужывае ўсе магчымыя матэрыяльныя і духоўныя сродкі, каб перавыхаваць усю масу насельніцтва і ў першую чаргу свайго саюзьніка па барацьбе з абшарнікамі і капіталістымі—дробнае селянства.

Марксызм цалкам стаіць на пункту погляду таго, што дробнае сялянства зьяўляецца сумяшчальным фактарам у сацыялістычным будаўніцтве, што магчым яго пераход на бок пралетарскай дыктатуры, хаця для гэтага пераходу і патрэбны некаторыя матэрыяльныя афяры, па словах Энгельса, з боку пралетарыяту, на карысьць сялянства, іншымі словамі, тое, што зараз у нас і робіцца. «Мы стаім,—піша Энгельс—на баку дробнага сялянства; мы будзем рабіць усё магчымае, каб яму лягчэй было жыць, каб лягчэй было перайсьці да таварыства, у выпадку, калі яно на гэта адважыцца. У тым выпадку, калі яно, яшчэ ня будзе мець адвагі прыняць гэтую пастанову, мы пастараемся даць яму больш часу падумаць аб гэтым сваім кавалку. Мы будзем паступаць так ня толькі таму, што лічым магчымым пераход на наш бок самастойна працуючага дробнага селяніна, а таксама і на падставе непасрэдных партыйных інтарэсаў. Чым больш будзе лік сялян, якім мы недамо спусьціцца да пралетараў і якіх мы прыцягнем на свой бок яшчэ селянамі, тым хутчэй і лягчэй адбудзецца грамадзкае ператварэньне. Нам было-б бескарысна чакаць з гэтым ператварэньнем таго часу, калі капіталістычная вытворчасьць усюды разаўецца да сваіх

[1] Ленин т. XVIII, ч. I, стр. 128.
[2] Там-же, т. XVI. стр. 392.

скрайніх вынікаў, калі і апошні дробны рамесьнік і апошні дробны селянін стануцца ахвярамі буйнай капіталістычнай вытворчасьці. Матэрыяльныя афяры, якія прыдзецца прынесьці ў гэтым сэнсе у інтарэсах сялян з грамадзкіх сродкаў, з пункту погляду капіталістычнай эканомікі, могуць паказацца выкінутымі грашыма, а тым часам, гэта— нязвычайна карыснае ўжываньне капіталу, таму што яны захаваюць, быць можа, у дзесяць разоў большую суму пры выдатках на грамадзкае ператварэньне ў яго цэлым. У гэтым сэнсе мы можам, значыцца, быць вельмі шчодрымі ў адносінах да сялян». [1]

І так, задачай дыктатуры пралетарыяту ў адносінах да сялянства, як і да ўсёй грамады у цэлым, перавыхаваньне яго на сацыялістычны лад, падцягваньне яго эканамічнага і культурнага ўзроўню, праз утварэньне новых, вышэйшых форм эканамічных адносін. Да таго узроўню, на якім знаходзіцца самы перадавы пласт рабочай клясы. Па меры перапрацоўкі шырокіх пластоў сялянства, па меры іх перавыхаваньня, на базе каапэраваньня і калектывізацыі, яны будуць у эканамічным і палітычным жыцьці ўсё больш і больш ураўнівацца з пралетарыятам і паступова станавіцца аднолькавымі членамі сацыялістычнай грамады.

Перарабіўшы сваю прыроду, сялянства будзе зрастацца з рабочай клясай, яго ўласьцівасьці, як дробнага вытворцы, будуць зьнішчацца, і дыктатура пралетарыяту, як асобнай клясы—паступова будзе адміраць. І пралетарыят з сялянствам рухам жыцьця ўвойдзе ў адзіную плянавую сацыялістычную гаспадарку, зьліецца ў адзінай сацыялістычнай працоўнай грамадзе.

Для таго-ж, каб дайсьці да гэтага пэрыяду і да гэтай мэты, зараз неабходна сталая і цьвёрдая палітыка, якая-б рашуча накіроўвала грамадзкае разьвіцьцё па шляху да гэтай мэты. А такая палітыка, на дадзенай ступені разьвіцьця, можа быць забясьпечана толькі дыктатурай пралетарыяту, якая абапіраецца на беднату і знаходзіцца ў цесным саюзе з пераважнай большасьцю працоўнага сялянства.

---

[1] Энгельс „Крестьянский вопрос" стр. 39.

# Разьвязаньне вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы.

1. Прыватная ўласнасьць зьяўляецца тормазам прагрэсу ў землеробсьцьтве. 2. Права ўласнасьці—як фактар прысвайваньня рэнты. 3. Абшчына перашкаджае разьвіцьцю сельскай гаспадаркі. 4. Нацыяналізацыя зямлі. 5. Як вырашыла аграрнае пытаньне сацыялістычная рэвалюцыя ў нашай краіне.

I.

На працягу доўгіх стагодзьдзяў існуе прыватная уласнасьць на зямлю. І гэта яе доўгачаснае існаваньне дае магчымасьць буржуазным эканамістам гаварыць аб тым, быццам уласнасьць не падлягае закону эвалюцыі, які пануе ў матэрыяльных і інтэлектуальных зьявах. Гэта сьцьвярджэньне прызнае, што ўласнасьць на зямлю, ёсьць лёгічная катэгорыя, якая мае адзіную нязьменную форму—форму капіталу, пад якім разумеецца ўсякая ўласнасьць, здольная прыносіць яе ўладару прыбытак. Прызнаньне ў гэткім разуменьні ўласнасьці робіцца абаронцамі сацыяльных несправядлівасьцяў, для таго, каб даказаць, што і капітал таксама адвечан. Каб даказаць яго несьмяротнасьць буржуазныя тэарэтыкі сьцьвярджаюць, што капітал ня мае пачатку, ня можа мець і канца. І тым самым яны імкнуцца лішні раз сказаць, што і капіталістычная сыстэма ў цэлым павінна быць прызнана як зьява няўмірушчая.

Але гэтае сьцьвярджэньне ёсьць ня больш, як падман з мэтаю абароны капіталістычнага ладу, у рэчаіснасьці-ж мы назіраем зусім іншае. Зямельная ўласнасьць спачатку знаходзілася ў агульным уладаньні ўсяго племя. З распадам рода, альба клана матрыархальныя і патрыархальныя сем'і, яна абвярнулася ў калектыўную ўласнасьць. І толькі тады, калі ў сваю чаргу распадае патрыархальная сям'я і ўсе яе часткі, якія жывуць супольна, аддзяляюцца, каб утварыць столькі асобных сем'яў,—калектыўная ўласнасьць урэшце робіцца індывідуальнай ўласнасьцю. Што-ж датычыцца рухомай ўласнасьці, дык яна яшчэ хутчэй праходзіць усе этапы свайго разьвіцьця.

Форма уласнасьці, адпаведная слову капітал, пачынае набываць грамадзкае значэньне толькі разам з разьвіцьцём таварнага вытвару. Гэта параўнаўча нядаўнае зьяўленьне капіталістычнай формы уласнасьці служыць лепшым доказам таго, што апошняя не зьяўляецца нязьменнай, а што яна як і зьявы іншага грамадзкага парадку эвалюцыянізуецца і праходзіць праз шэраг розных форм, якія выцякаюць адна з другой. Характэрная для сучаснай грамады форма ўласнасьці ў выглядзе капіталу ня існавала ў папярэдніх грамадзкіх формах прынамсі як ўсеабхопліваючы і пануючы факт. Таму што ўмовай для існаваньня гэтай формы уласнасьці зьяўляецца эксплёатацыя вольнага вытварцы, у якога штодзённа адбіраецца утвараемая ім вартасьць. Самым неабвяржымым чынам гэта даказаў ня хто іншы, як сам Маркс. Ён даказаў, што існаваньне капіталу трымаецца на таварным вытвару, інакш кажучы на вытвару, пры якім рабочы вырабляе не для свайго

ўласнага спажыцьця, не на свайго фэўдала-гаспадара, а на рынак. Пры папярэдніх грамадзкіх фармацыях таксама існавала купля-прадажа, але там быў толькі абмен лішкамі, якія заставаліся ад свайго непасрэднага спажыцьця. У гэтых грамадзтвах эксплёатаваўся вытворца-крэпак,—альбо нявольнік, але ўласьнік меў адносна яго некаторыя абавязкі, напрыклад, ён карміў свайго нявольніка нават і тады, калі ён не працаваў. А капіталіст вызвален і ад гэтага абавязку, усклаўшы гэты клопат на плечы самаго формальна вольнага вытворцы.

Капіталістыя не саромяюцца заявіць аб тым, што яны прынялі на сябе ролю барацьбітоў за чалавечую волю, прызнаючы, што ніба-та яны вызвалілі крапакоў і нявольнікаў. Але яны зусім ня хочуць клапаціцца аб вызваленьні вытворцы, закабаленьне якога ім дае неабходную ўмову для вызваленьня сябе ад усіх абавязкаў у адносінах да рабочага. Толькі пры наяўнасьці капіталістычнай формы уласнасьці, уласьнік можа цалкам скарыстаць неабмяжаванае права прыватнай ўласнасьці. Гэткая форма уласнасьці існуе ў сучаснай капіталістычнай грамадзе.

Як бачым, нават павярхоўны агляд паказвае, што формы уласнасьці не зьяўляюцца раз і назаўсёды дадзенымі. Наадварот, яны знаходзяцца ў становішчы бязупыннага ператварэньня. Сьцьвярджаць пасьля гэтага, што ў мінулым уласнасьць заставалася заўсёды аднолькавай, што яна не праходзіла шэрагу форм, раней, чымся набыла форму капіталу, які ў сваю чаргу таксама павінен зьнікнуць і ачысьціць месца новым формам,—сьцьвярджаць гэта—значыцца не разумець дыялектыкі жыцьця альбо знарок абараняць палажэньні несумясьцімыя з рэчаіснасьцю, але карысныя існуючаму капіталістычнаму ладу.

Тая форма прыватнай ўласнасьці, пры якой зямля можа, як і іншы тавар, падлягаць прадажы і набыцьцю за грошы, найбольш поўнае сваё разьвіцьцё атрымала толькі пры капіталізьме. Капіталістычная сыстэма, пры сваём разьвіцьці ўносіць у дакапіталістычныя формы землеўладаньня і землекарыстаньня свае карэнныя зьмены, свой зьмест гэтай уласнасьці. У выніку гэтага ў капіталістычных дзяржавах утвараецца дзьве асноўныя формы ўласнасьці на зямлю: альбо гэта капіталістычная прыватная ўласнасьць на зямлю, манапольнае права на яе, якое дае магчымасьць зямельнаму ўласьніку атрымліваць з яе прыбытак не маючы ніякага датычэньня да яе апрацоўкі, альбо гэта дробная прыватная ўласнасьць селяніна, якая патрэбна яму для свайго вытвару, грунтуецца на ўласнай працы і ў першую чаргу патрэбна як неабходны сродак існаваньня. Але на раду з гэтымі асноўнымі формамі ўласнасьці, асабліва там, дзе астаткі фэўдалізма трымаюцца моцна існуюць яшчэ спэцыфічныя фэўдальна-капіталістычныя формы уладаньня зямлёй. Спыняцца на іх не варта, таму што ў сваёй тэндэнцыі яны імкнуцца прыняць выгляд аднэй з двух асноўных форм уласнасьці пры капіталістычнай грамадзе.

Разгледзім зараз дзьве асноўныя формы прыватнай ўласнасьці: парцэлярную і буйную, пры якой землеўласьнік, непасрэдна не зьвязаны з вытворчасьцю, з пункту погляду магчымасьці пры існаваньні гэтай ўласнасьці разьвіцьця вытворчых сіл у земляробсьцьве.

Тая форма прыватнай ўласнасьці на зямлю, якая ўстанавілася ў пэрыяд разьвітага капіталізму бязспрэчна зьяўляецца вялікай перашкодай ў разьвіцьці земляробства. Але не падлягае ніякаму сумненьню той факт, што на вядомай ступені эканамічнага разьвіцьця прыватная ўласнасьць на зямлю, асабліва сялянская прыватная ўласнасьць зьяўляецца аднэй з галоўнейшых умоў разьвіцьця вытворчых сіл сялянскай гаспадаркі.

Як прыклад гэтаму можна прывесьці прыватную зямельную ўласнасьць устаноўленую вялікай францускай рэвалюцыяй, якая бязумоўна была вялікім крокам уперад ў параўнаньні з былым фэўдальным землеўладаньнем. Прыклад гэтага з расійскага жыцьця можна прывесьці уведзеную Сталыпіным прыватную ўласнасьць на сялянскія землі, яна таксама садзейнічала прагрэсу ў сэнсе ўзмацненьня вытворчых магчымасьцяў у параўнаньні з адміраючай у той час абшчынай.

Маркс у разьдзеле—іздольная гаспадарка і сялянская парцэлярная ўласнасьць, пісаў наступнае адносна прагрэсыўных ўласьцівасьцяў дробнай прыватнай зямельнай ўласнасьці: «Вольная ўласнасьць селяніна, які сам вядзе гаспадарку, відавочна ёсьць самая нармальная форма зямельнай ўласнасьці для дробнага вытвару, так зв. для таго спосабу вытвару, пры якім уладаньне зямлёй зьяўляецца ўмоўнай уласнасьцю працаўніка на прадукт яго ўласнай працы, і пры якім, ці будзе земляроб вольным уласьнікам альбо васалам, ён ва ўсякім выпадку павінен, незалежна, разам са сваёй сям'ёй, вырабляць сродкі свайго існаваньня, як адасоблены рабочы. Уласнасьць на зямлю таксама неабходна для поўнага разьвіцьця гэтага спосабу вытвару, як уласнасьць на інструмэнты, для вольнага разьвіцьця рамесьніцкага вытвару. Яна ўтварае тут базіс для разьвіцьця асабовай самастойнасьці. Яна—неабходны пераходны пункт для разьвіцьця самаго земляробства». [1]

Але гэткай прыватная ўласнасьць зьяўляецца толькі ў самым пачатку капіталістычнага разьвіцьця. З разьвіцьцём-жа прамысловасьці, з захватам зямлі буйнымі землеўласьнікамі, і пры канкурэнцыі буйнай гаспадаркі, аснованай на капіталістычных пачатках, гэтая ўласнасьць з прысутнай ёй прагрэсыўнай ўласьцівасьцю—гіне. На ступені разьвітага капіталізму, прыватная ўласнасьць на кавалак зямлі ўжо больш не зьяўляецца пажаданай формай з пункту погляду далейшага прагрэсу. «Парцэлярная ўласнасьць па сваёй прыродзе выключае: разьвіцьцё грамадзкіх вытворчых сіл працы, грамадзкія формы працы, грамадзкую канцэнтрацыю капіталаў, жывёлагадоўлі ў буйным масштабе, узрастаючае ўжываньне навукі». [2] «Гэты спосаб вытвару дапушчае раздрабленьне зямлі і астатніх сродкаў вытвару. Ён выключае, як канцэнтрацыю гэтых апошніх, так і каапэрацыю, разьдзяленьне працы ўнутры аднаго і таго-ж вытворчага працэсу, грамадзкае панаваньне над прыродай і грамадзкае рэгуляваньне яе, вольнае разьвіцьцё грамадзкіх вытворчых сіл. Ён сумясьцім толькі з вузкімі традыцыйнымі межамі вытвару і грамады... Але на вядомым узроўню разьвіцьця ён сам ўтварае матэрыяльныя сродкі для свайго зьнішчэньня. З гэтага моманту ў нетрах грамады пачынаюць варушыцца сілы і пал, якія адчуваюць сябе скованымі гэтым спосабам вытвару. Апошні павінен быць зьнішчаны і ён зьнішчаецца... Прыватная ўласнасьць, здабытая асабовай працай, якая трымаецца, так сказаць, на натуральным зрастаньні незалежнага рабочага з умовамі яго працы, выцясьняецца капіталістычнай прыватнай ўласнасьцю, якая трымаецца на эксплёатацыі чужой, хаця фармальна і вольнай працы». [3] Вось гістарычная дыялектыка прыватнай ўласнасьці на зямлю.

Галоўная супярэчнасьць прыватнай уласнасьці на зямлю складаецца з таго, што яна будучы карыснай з пункту погляду ўзьняцьця вытворчых сіл у земляробсьцьве у дакапіталістычны і ў самым пачатку капіталістычнага часу, пасьля робіцца непатрэбнай. У пэрыяд

[1] Маркс „Капитал“ т. III, ч. II, стр. 343-344.
[2] Там-же.
[3] Там-же „Капитал“ т. I, стр. 755.

разьвітага капіталізму прыватная уласнасьць на зямлю робіцца путамі, якія зьвязваюць прагрэс земляробства. Таму, прыватную ўласнасьць, яе адносную карыснасьць і шкоднасьць трэба разглядваць у сувязі з іншымі формамі вытвару ўсёй грамады, і як зьяву гістарычнага парадку. «Апраўданьне зямельнай ўласнасьці—як і ўсякіх іншых формаў уласнасьці, адпавядаючых пэўнаму спосабу вытвару—заключаецца ў тым, што сам спосаб вытвару, а значыцца і выцякаючыя з яго адносіны вытвару і абмена, прадстаўляе гістарычную прахадзячую неабходнасьць. Праўда, як мы ўбачым далей, зямельная ўласнасьць адрозьніваецца ад астатніх відаў уласнасьці тым, што на вядомым узроўні разьвіцьця яна прадстаўляецца непатрэбнай—і шкоднай, нават з пункту погляду капіталістычнага спосабу разьвіцьця». [1]

Прыватная ўласнасьць на зямлю выклікае сабою дарэмную трату грошаў, якія непасрэдна ня ідуць на ўзьняцьцё вытворчых сіл, а трацяцца на набыцьцё зямлі. Тая сума грошай, якая-б магла пайсьці непасрэдна на вытворчыя патрэбы, у зьвязку з тым, што зямля набывае тут рухомую форму, як звычайны тавар, яна пастулае у кішэню землеўласьніка. Для кожнага новага пакаленьня зямля выступае як новая патрэбная рэч, на набыцьцё якой патрэбны капітальныя ўкладаньні грошаў. І таму, паколькі гэта ёсьць лішняя трата капіталу, гэтая зьява ўступае ў супярэчнасьць з разьвітай капіталістычнай эканомікай. «Капітал, які трацяцца самім зямельным уласьнікам на пакупку зямлі, зьяўляецца для яго прымяненьнем капіталу, які прыносіць проценты, ён тым ня менш ня мае нічога агульнага з капіталам, які затрачаны на самае земляробства. Ён не складае элементу ні функцыянуючага ў земляробстве асноўнага, ні зваротнага капіталу; насупроць, ён толькі дастаўляе пакупцу тытул на атрыманьне штогодняй рэнты, але ня мае абсалютна ніякага датычэньня да вытвару гэтай рэнты. Запраўды пакупец зямлі аддае капітал як раз таму, хто прадае зямлю, і прадавец адмаўляецца за гэта ад сваёй уласнасьці на зямлю. Значыцца, як капітал пакупца гэты капітал ужо ня існуе, у пакупца яго ўжо няма; значыцца, ён адносіцца да таго капіталу, які тым ці іншым чынам можна было укласьці ў самую зямлю». [2]

Па меры далейшага разьвіцьця капіталістычнай сыстэмы, норма прыбылі, а разам з ёй і разьмер проценту, па колькі ён рэгулюецца нормай прыбылі—зьніжаецца, а таму з гэтага выходзіць, што цана зямлі, якая ёсьць нішто іншае як капіталізаваная зямельная рэнта, увесь час расьце; гэта ў сваю чаргу прыводзіць да таго, што усё большая частка грамадзкага капіталу ідзе на набыцьцё зямельнай ўласнасьці. І з бегам часу капітал, які трацяцца на набыцьцё зямлі, значна перавышае тыя выдаткі, якія ідуць непасрэдна на ўзьняцьце вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы. Цана зямлі, гэты непатрэбны элемент для вытворчасьці, можа ўзьняцца да такой вышыні, што вытворчасць ў земляробства стане немагчымай. Грошы якія трацяцца на пакупку зямлі прадстаўляюць у рэчаіснасьці капітал толькі ў сябе, як усякая сума вартасьці на грунце капіталістычнага спосабу вытвару прадстаўляе капітал у сябе, патэнцыяльны капітал. За зямлю ўплачваецца вядомая сума грошаў як за іншы купляемы тавар. Яна у сябе капітал, таму што яна можа быць абвярнута ў капітал. Ад таго ўжываньня, якое пакупец дасьць атрыманым ім грашам, зале-

[1] Маркс „Капитал“ т III, ч. II, стр. 162—163.
[2] Там-же стр. 345.

жыць, ці абвернецца яна ў супраўдны капітал, ці не. Для пакупца гэтыя грошы ня могуць функцыянаваць як капітал—падробна усякім іншым грашам, якія ім канчаткова страчаны. У яго разьліках яны фігуруюць для яго як капітал, які прыносіць проценты, таму што прыбытак які атрымліваецца ў выглядзе рэнты з зямлі вылічваецца ім як процант на грошы, якія яму каштавала купля зямлі. Ён можа рэалізаваць іх, як капітал, толькі праз перапрадажу зямлі. Але тады другі, новы пакупец пападае ў гэткае-ж становішча, у якім быў першы, і ніякімі перамяшчэньнямі з рук у рукі затрачаныя гэткім чынам грошы ня могуць перавярнуцца ў супраўдны капітал для таго, хто іх затрачвае. «Гэткім чынам, затрата грашовага капіталу на пакупку зямлі ня ёсьць прылажэньне земляробскага капіталу, яна зьяўляецца скарачэньнем таго капіталу, якім маглі-б распалагаць дробныя сяляне ў сфэры самаго вытвару. Яна памяншае разьмер іх сродкаў вытвару і таму звужае эканамічны базіс аднаўлёнага вытвару. Яна падпарадкоўвае дробнага селяніна ліхвяру, так як у гэтай сфэры уласна-крэдыт наогул сустракаецца рэдка. Яна зьяўляецца тормазам для земляробства нават у тым выпадку, калі гэта купля утвараецца буйнымі абшарніцкімі гаспадаркамі. У рэчаіснасьці яна супярэча капіталістычнаму спосабу вытвару». [1].

Адсюль зусім ясна відаць, што прыватная ўласнасьць і зьвязаная з ёй купля зямлі ёсьць найвялікшае ліха для разьвіцьця сельскай гаспадаркі і ўсёй народнай гаспадаркі ў цэлым.

Досыць сказаць адно, што тыя невялікія скапленьні, якія пры сваім паўгалодным існаваньні робіць селянін, у значнай сваёй ступені рэалізуюцца пры пакупцы зямлі. Па той лічбе, якую прыводзіць Маслоў у сваёй кніжцы «Аграрный вопрос в России» відаць, што калёсальныя грошы трацілiся на пакупку зямлі, так за 30 гадоў з 1862 па 1892 г. сялянствам куплена зямлі—на суму каля 440 мільёнаў рублёў. Яшчэ большыя разьмеры прымае гэта лічба ў апошнія дзесяцігодзьдзі. Напрыклад, за апошнія дзесяць гадоў з 1906 па 1916 г. праз адзін толькі Сялянскі Пазямельны банк было куплена зямлі на 1.272 мільлёнаў рублёў. А колькі было продаж, якія не прайшлі праз банк, і таму ня былі нідзе зарэгістраваны. Каб усё гэта было падлічана, дык атрымалася-б вялізарная сума грошаў, якія трацілiся безсэнсоўна, якія ня прымалі ўдзелу ў падняцьці вытворчых сіл краіны. Бо затрата капітала на пакупку зямлі не дазваляе укласьці гэты капітал на яе культуру. І гэта ўсё дзякуючы існаваньню прыватнай ўласнасьці на зямлю.

Пры панаваньні форм прыватнай зямельнай уласнасьці, яе ўладары імкнуцца як мага больш атрымаць ад яе карысьці і па магчымасьці менш затрачваць капіталу на аднаўленьне яе пладлівасьці. Тут поўная аналёгія з прамысловым капіталам, які таксама імкнецца выцісNuць усе сокі з рабочага, астаўляючы яго ў становішчы паўгалоднага існаваньня. «Усякі прагрэс у капіталістычным земляробстве—ёсьць прагрэс, ня толькі ў мастацтве падвяргаць рабочага абрабаваньню, але разам з тым і ў мастацтве абрабаваньня глебы, усякі прагрэс у часовым павышэньні яе ўрадлівасьці ёсьць у той жа час прагрэс у руйнаваньні сталых крыніц гэтых урадлівасьцяў» [2].

Як буйная, так і дробная форма прыватнай уласнасьці на зямлю выступаюць як перашкода ў разьвіцьці вытворчых сіл ў сельскай гаспадарцы. Буйная зямельная ўласнасьць выступае як перашкода,

[1] Маркс „Капитал" т. III. ч. II, стр. 346—347.
[2] Маркс „Капитал" т. I, стр. 486—487.

таму, што абмяжоўвае капіталіста арэндатара ў ужываньні капіталу, які ўрэшце ідзе не яму, а ўласьніку зямлі; дробная таму, што пры ёй гаспадарка ня можа ўжываць дасягненьні навукі, што ёй не пад сілу карыстаньне машынамі і іншымі дасягненьнямі сельска-гаспадарчай тэхнікі. «Пры абедзьвюх формах на месца сьвядомага рацыянальнага вырабу зямлі як агульнай адвечнай ўласнасьці, неадчужанай умовы існаваньня і аднаўленага вытвару для шэрагу пакаленьняў людзей, якія зьмяняюцца, выступае эксплёатацыя і марнатраўства сіл зямлі (не кажучы ужо аб тым, што эксплёатацыя ставіцца ў залежнасьць не ад дасягнутага грамадой узроўню разьвіцьця, а ад выпадковых, неаднолькавых акалічнасьцяў асобных вытворцаў). Пры дробнай уласнасьці гэта адбываецца ад недахопу сродкаў і ведаў, неабходных для ўжываньня грамадзкай вытворчай сілы працы, пры буйнай уласнасьці—у выніку эксплёатацыі гэтых сродкаў для магчыма хутчэйшага абагашчэньня арандатараў і ўласьнікаў» [1].

Тая мяжа і перашкода, якую кладзе ўсякая прыватная ўласнасьць на зямлю, якая зьяўляецца тормазам вытворчасьці і рацыянальнага вырабу, якая не дае магчымасьці захаваць і палепшыць ураджайнасьці глебы—разьвіваецца ў тым і другім выпадку прыватнай ўласнасьці, толькі формы іх розьняцца між сабою. Буйная зямельная ўласнасьць, якая вядзецца на капіталістычных пачатках, для таго каб вытрымаць канкурэнцыю сваей прадукцыі з той прадукцыяй, якая вырабляецца дробнымі сялянскімі гаспадаркамі, павінна плаціць самыя незначныя стаўкі сваім рабочым, трымаць іх на поўгалодным жыцьцёвым узроўні. Тая-ж дробная зямельная ўласнасьць, гаспадарка на якой вядзецца індывідуальнай працай селяніна, каб даць магчымасьць праіснаваць яму і яго сям'е, павінна ўзяць у яго столькі, што ён часта спускаецца па сваіх жыцьцёвых сродках ніжэй узроўню земляробскага рабочага. Ён самаэксплёатуе сябе часта горш, як эксплёатуецца батрак, альбо сельска-гаспадарчы рабочы—абшарнікам. Пры чым ізаляваная праца, адсутнасьць сувязі з другімі пластамі грамады, мізэрнасьць сродкаў прыводзіць да заняпаду гаспадаркі, да цемнаты і забітасьці яе гаспадара.

«Калі дробная зямельная ўласнасьць утварае клясу барбараў, якая напалову стаіць па-за грамадой, якая аб'яднае ў сабе усю грубасьць першабытных грамадзкіх форм з усімі пакутамі і усёй беднасьцю цывілізаваных краін, дык буйная зямельная ўласнасьць падрывае рабочую сілу ў той апошняй галіне, у якой захоўваецца яе прымітыўная энэргія і ў якой яна абярагаецца як рэзэрвны фонд для адраджэньня жыцьцёвай сілы нацыі: у самай вёсцы. Буйная прамысловасьць і прамысловае вядзеньне буйнага земляробства дзейнічаюць рука аб руку. Калі першапачаткова яны адрозьніваюцца тым, што першая высільвае і руйнуе больш рабочую сілу, а значыцца прыродную сілу чалавека, між тым як другая больш непасрэдна прыродную сілу зямлі. Дык пазьней, з рухам разьвіцьця, яны падаюць друг другу руку: прамысловая сыстэма і ў вёсцы высільвае рабочага, а прамысловасьць і гандаль ў сваю чаргу ўтварае для земляробства сродак высільваньня глебы» [2]. Гэткім чынам прыватная ўласнасьць як на сродкі прамысловасьці, гэтак і на зямлю, з разьвіцьцём капіталізму пачынаюць дзейнічаць разам, і аднолькава робяцца шкоднымі і непатрэбнымі з народна-гаспадарчага

[1] Маркс „Капитал" т. III, ч. II, стр. 349.
[2] Там-же т. III. ч. II. стр. 350.

пункту погляду. Прыватная ўласнасьць на зямлю уваходзіць у супярэчнасьць з разьвіцьцём вытворчых сіл. Яна падрывае зямлю і рабочага—гэтыя галоўнейшыя крыніцы ўсякага багацьця. Таму зьнішчэньне прыватнай уласнасьці прыводзіць да магутнага разгортваньня вытворчых магчымасьцяў грамады, да рацыянальнай апрацоўкі і скарыстаньня глебы да хуткага руху па шляху прагрэса ўсёй грамадзкай гаспадаркі.

2

Зямельная буржуазія, у руках якой знаходзіцца значная колькасьць зямлі, зусім не ставіць сваёй задачай абароны інтарэсаў масы насельніцтва і разьвіцьця народнай гаспадаркі. Галоўнай і адзінай мэтай, да якой яна імкнецца—гэта павялічэньне прыбытковасьці ўласнай зямлі, павялічэньне атрымліваемай зямельнай рэнты. Тады як гэта павялічэньне заўсёды стаіць у супярэчнасьці з імкненьнем шырокіх працоўных мас народу і часта знаходзіцца ў супярэчнасьці з інтарэсамі разьвіцьця народнай гаспадаркі.

Яскравым прыкладам служыць досыць вядомы факт, як ірляндзкія землеўласьнікі, выціскаючы апошнія сокі з арэндатараў, ня толькі разарылі краіну, але і разагналі насельніцтва. Зразумела, яны імкнуліся павялічыць прыбыткі са сваёй зямлі і павялічыць іх са шкодай да ўсяго астатняга насельніцтва і гаспадарчага разьвіцьця краіны. Маркс аб гэтым піша так: «Тое, што выплачвае дробны селянін у выглядзе арэнднай платы зямельнаму ўласьніку, найчасьцей паглынае ня толькі частку яго прыбылі, гэта значыць яго ўласнай дадатковай працы, на якую ён мае права як уладар сваіх уласных прылад працы, але і частку той нармальнай заработнай платы, якую ён атрымаў-бы пры іншых умовах за гэткую колькасьць працы. Акрамя таго зямельны ўласьнік, які тут зусім нічога ня робіць для паляпшэньня глебы, экспропрыіруе ў яго яго невялічкі капітал, які арэндатар далучае да зямлі ў большай частцы сваёй уласнай працай—экспропрыіруя таксама як зрабіў-бы ліхвяр пры аналёгічных умовах».[1]

Буйныя земляўласьнікі былой Расіі, якія здавалі зямлю сялянам у арэнду па падвышаных цэнах, таксама разаралі сялян і разам з тым высілівалі глебу, дзякуючы дрэннай апрацоўцы і адсутнасьці клопату аб палепшаньні яе ўрадлівасьці.

Арэндная плата якая ўзымаецца землеўласьнікамі ўвесь час расьце, пры чым аднэй з галоўных прычын, якія застаўляюць арандатараў сялян павялічваць арэндную плату зьяўляецца недахоп зямлі, зямельны голад і недахватак сродкаў існаваньня атрымліваемых непасрэдна з сваёй гаспадаркі. У зьвязку з тым, што арэндатар аддае землеўласьніку ў выглядзе арэнднай платы знаную частку сваіх прадуктаў, якія атрымлівае з арэндуемага кавалку зямлі, ён зразумела ня можа займацца палепшаньнем сельска-гаспадарчай прадукцыі, таму што гэтымі сродкамі ён прымушан аплачваць земляўласьніку арэнду. Гэткім чынам, арэнда дробных земляробскіх гаспадарак вядзе не да падвышэньня іх дабрабыту, не да палепшаньня тэхнікі і культуры зямлі, а да непрадукцыйнай траты працы без належных сродкаў вытвару, без скарыстаньня тэхнічнага прагрэсу ў земляробстве.

Тое, што паміж капіталам і зямлёю стаіць землеўласьнік, зьяўляецца галоўнейшай прадпасылкай ўтварэньня і прысваеньня зямель-

[1] Маркс „Капитал" т. III, ч. II, стр 166.

най рэнты. Прыватная ўласнасьць на зямлю і таварна-грашовы зварот з яго асноўнымі законамі вартасьці служыць базісам гэтага способу вытвару... «І так, прадпасылка капіталістычнага способу вытвару такая: сапраўдныя земляробы ёсьць наёмныя рабочыя, якія атрымліваюць работу ад капіталіста, арандатара, які вядзе сельскую гаспадарку як асобную галіну эксплёатацыі капітала, як прылажэньне свайго капіталу да асобнай сфэры вытвару. У вызначаныя тэрміны, напрыклад, штогодна, гэты капіталістычны фэрмэр уплачвае зямельнаму ўласьніку, уласьніку эксплёатуемай ім зямлі, дагаворам вызначаную суму грошаў (зусім так-жа, як заемшчык грашовага капіталу—вызначаны процант) за дазвол прымяняць свой капітал у гэтай асобнай сфэры вытвару. Гэта грашовая сума называецца зямельнай рэнтай, усё роўна, ці яна ўплачваецца з воранай зямлі, будаўнічага вучастку, руднікоў, рыбных ловель, лясоў і г. д. Яна уплачваецца на працягу ўсяго часу, на які зямельны ўласьнік па ўмове пазычыў, здаў зямлю арандатару. Значыцца зямельная рэнта тут ёсьць тая эканамічная форма, у якой зямельная ўласнасьць эканамічна рэалізуецца, дастаўляе вартасьць».[1] Арыгінальная асаблівасьць зямельнай рэнты заключаецца толькі ў тым, што «разам з умовамі, пры якіх земляробскія прадукты разьвіваюцца ў вартасьці (тавары), і разам з умовамі рэалізацыі іх вартасьцей, разьвіваецца і сіла зямельнай уласнасьці прысваіваць сабе ўсё узрастаючую долю гэтых утвараемых без яе садзейнічаньня вартасьцей, усё узрастаючая доля дадатковай вартасьці абвяртаецца ў зямельную рэнту».[2]

Зямельная рэнта, ёсьць тая частка дадатковай вартасьці, якая астаецца за вылічэньнем сярэдняй прыбылі на ўкладзены ў гаспадарку капітал. Практычна, зямельнай рэнтай называецца ўсё тое, што плаціць арэндатар землеўласьніку ў форме грашовай альбо прадуктамі за апрацоўваемую зямлю. З якіх-бы частак не складалася-б гэтая дань, з якіх-бы крыніц яна ня выходзіла, для яе ўласна з зямельнай рэнтай агульна тое, што манапольнае права на кавалак зямлі дае магчымасьць зямельнаму ўласьніку браць гэтую дань, накладваць кантрыбуцыю. Акрамя гэтага дань гэта, як і ўласна рэнта зьяўляецца фактарам які вызначае цану зямлі.

Лішак, які атрымліваецца паміж дадатковай вартасьцю і сярэдняй прыбыльлю, манаполія зямельнай уласнасьці дае магчымасьць землеўласьніку прысвайваць сабе, пры чым цана зямлі дапамагае замацоўваць дасягнутую вышыню рэнты.

Кожны землеўласьнік аддае арандатару зямлю на вядомы, вызначаны тэрмін, і пасьля таго, як ён пройдзе, зямля пераходзіць з усімі зробленнымі палепшаньнямі ізноў у поўнае скарыстаньне землеўласьніка. Гэта ёсьць адна з асноўных прычын, чаму з разьвіцьцём капіталізму зямельныя ўласьнікі імкнуцца скараціць тэрмін арэнды, каб тым самым атрымаць у сваю ўласнасьць яшчэ не скарыстаныя цалкам тыя палепшаньні, якія ўтвораны арандатарам-капіталістым. «Пры заключэньні новай умовы аб арэндзе зямельны ўласьнік далучае да ўласна зямельнай рэнты процант на капітал, далучаны да зямлі,—усё роўна, ці здае ён цяпер зямлю таму фэрмеру, які ўтварыў палепшаньні, альбо якому-небудзь іншаму. Гэткім чынам яго рэнта разбракае; альбо калі ён мае намер прадаць зямлю—цяпер аказваецца павышанная яе вартасьць. Ён прадае ня проста зямлю, але палепшаную зямлю, далучаны да зямлі капітал, які яму нічога не

[1] Маркс „Капитал" т. III, ч II, стр. 158.
[2] Там-же стр. 180.

каштаваў. Гэта адна з таямніц—зусім астаўляючы ў баку рух уласна-зямельнай рэнты—якая прысьпяшае абагачваньне зямельных уласнікаў, сталае павялічэньне іх рэнты і ўзрастаньне грашовай вартасьці іх зямель, разам з рухам эканамічнага разьвіцьця. Такім чынам зямельныя ўласьнікі прыбіраюць у свае рукі вынік грамадзкага разьвіцьця, які атрымліваюць без усякага садзейнічаньня з іх боку». [1]

Адсюль зусім зразумела тое, што рэнта зьяўляецца вялічэзнай перашкодай рацыянальнага земляробства. Яна паслабляе імпульс да ўдасканаленьня сельска-гаспадарчай тэхнікі і апрацоўкі глебы, яна перакачвае сродкі з рук непасрэднага земляроба, якія можна было-б скарыстаць у гаспадарцы, у рукі зямляўласьніка. Адсюль капіталіст-арандатар утварае толькі тыя палепшаньні, якія ён мяркуе сам цалкам скарыстаць на працягу тэрміна арэнды. Такія-ж вялікія мерапрыемствы, як мэліарацыя, раскарчоўка лесу пад сенажаць, альбо пахаць і інш., якія могуць каранным чынам палепшыць глебу цэлага раёну, ня могуць быць зроблены капіталістым, таму што вклады гэтага палепшаньня ўрэшце прыдзецца атрымаць не яму, а землеўласьніку.

Наогул прыватная ўласнасьць на зямлю ёсьць вялікі тормаз тэхнічнага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы. Яна не дапушчае ўтварыць радыкальныя зьмены, яна зьяўляецца перашкодай, якая не дапушчае ўжываньне машын, чаму дапамагае пры капіталізьме яшчэ і таннасьць рабочых рук, асабліва ў сельскай гаспадарцы. І калі разглядваць прагрэс земляробства, як рост нязьменнай часткі капіталу ў параўнаньні з зьменнай, а марксызм толькі так і разглядвае, дык выходзіць, што прыватная ўласнасьць на зямлю зьяўляецца з гэтага пункту погляду вялікай перашкодай.

Як ужо можна заўважыць з папярэдняга у зьвязку з зямельнай манаполіяй, земляўласьнік мае магчымасьць атрымліваць як дыфэрэнцыяльную, гэтак і абсалютную зямельную рэнту. «Дыфэрэнцыяльную рэнту адбірае землеўласьнік на грунце яго права ўласьнасьці ў фэрмера і так як дыфэрэнцыяльная рэнта ёсьць лішак прыбылі звыш нармальнай, сярэдняй, прыбылі на капітал, і таму што свабода канкурэнцыі ў сэнсе свабоды ўкладаньня капіталу ў сельскай гаспадарцы і земляробстве ёсьць, дык зямляўласьнік заўсёды знойдзе фэрмера, які задаволіцца сярэдняй прыбыльлю і аддаюшчага яму, зямляўласьніку, звышпрыбыль. Прыватная ўласнасьць на зямлю не ўтварае дыфэрэнцыяльнай рэнты, а толькі перакладвае яе з рук фэрмера ў рукі землеўласьніка. Ці абмяжоўваецца гэтым уплыў прыватнай зямельнай уласнасьці? Ці можна прадпалажыць, што землеўласьнік дарэмна дазволіць фэрмеру эксплёатаваць тую горшую і горш усіх распаложаную зямлю, якая дае толькі сярэднюю прыбыль—на капітал? Канешне не. Землеўладаньне ёсьць манаполія і на грунце гэтай манаполіі землеўласьнік патрабуе платы з фэрмера і за тую зямлю. Гэта плата будзе абсалютнай рэнтай, якая не стаіць ні ў якай сувязі з рознай вытворчасьцю розных затрат капіталу і якая выцякае з прыватнай уласнасьці на зямлю» [2] Адсюль ясна выходзіць, што манапольная ўласнасьць дае права землеўласьніку прысвайваць абсалютную рэнту, а таксама зямельная ўласнасьць улаўлівае і дыфэрэнцыяльную рэнту, інакш тую дадатковую прыбыль, якую захапіў-бы і пакуль не канчаецца тэрмін арэнды, захватвае арандатар. Такім

---

[1] Маркс „Капитал" т. III. ч. II, стр. 160.
[2] Ленин т. IX, ст. 60–61.

чынам бачым, што: «прысваеньне рэнты ёсьць эканамічная форма рэалізацыі зямельнай уласнасьці і што зямельная рэнта ў сваю чаргу дапушчае зямельную уласнасьць».[1]

Адсюль, у пэрыяд капіталістычнага таварнага вытвару грунтам эксплёатацыі зьяўляецца прыватная уласнасьць на сродкі вытвару і на зямлю. Земляроб, хаця па форме і зьяўляецца вольным, не абавязан ніякімі прыгонамі, але па сутнасьці ён залежыць ад землеўласьніка і абавязан яму плаціць зямельную рэнту. Больш яскрава гэта відаць пры арэнднай сыстэме. Арандатар павінен плаціць зямельнаму ўласьніку плату за дазвол апрацоўваць яго зямлю, пры чым плата гэта землеўласьнікам увесь час павялічваецца.

Гэткім чынам земляробы-арандатары, а такімі могуць быць як капіталісты, гэтак і дробныя сяляне, у кожнай краіне аддаюць вялікія сумы грошаў землеўласьнікам, замест таго каб гэтыя грошы затраціць на палепшаньне сельскае гаспадаркі. Акрамя адабраньня вялікіх грошай землеўласьнікамі, якія-маглі быць скарыстаны на павялічэньне вытворчасьці гаспадаркі паралізуецца таксама і стымул для ўзьняцьця гэтых вытворчых сіл. Бо тая дадатковая прыбыль, якую можа атрымаць земляроб, калі ён паляпшае тэхніку свайго прадпрыемства вышэй сярэдняга ўзроўню, пападае не яму, а землеўласьніку, у выглядзе рэнты. Арандатару не прадстаўляецца гэткім чынам ні якай карысьці затрачваць капітал на якія-небудзь палепшаньні, таму што прыбытак пасьля перазаключэньня арэнднай умовы пападзе не яму, а манапалісту-зямляўласьніку.

Ня лепш абстаіць справа, калі дробны зямляўласьнік сам вядзе сваю гаспадарку. Таму што і ў гэтым выпадку прыватная ўласнасьць затрымлівае тэхнічнае разьвіцьцё, хаця ў крыху іншых формах, больш скрыта. Пры недастатковасьці сродкаў на вядзеньне гаспадаркі, пры пакупцы зямлі і дробны землеўласьнік са сваёй уласнай гаспадаркі з году ў год уплачвае зямельную рэнту ў выглядзе іпацечных процантаў банку альбо ліхвярам, якія зьяўляюцца пры гэтых умовах сапраўднымі зямляўласьнікамі.

Тая дадатковая прыбыль, якая пры капіталістычнай сыстэме гаспадаркі служыць магутным стымулам для тэхнічнага разьвіцьця і прамысловасьці, у сельскай гаспадарцы—ня толькі пры арэнднай сыстэме, але і пры самастойным вядзеньні гаспадаркі на сваім уласным кавалку зямлі,—забіраецца землеўласьнікамі ў выглядзе зямельнай рэнты, а таму прыватная ўласнасьць на зямлю, зьяўляецца вялікім тормазам у разьвіцьці земляробства, нават з пункту погляду капіталістычнай эканомікі. Прыватная уласнасьць дзейнічае затрымліваючым чынам на тэхнічны прагрэс у сельскай гаспадарцы.

Прагрэс сельска-гаспадарчай тэхнікі хутка ідзе ўперад, навуковыя дасьледаваньні ў земляробсьцьве пры іх ужываньні маглі-б узьняць на значную ступень вытворчасьць працы ў гэтай галіне. Але гэтыя дасягненьні навукі і тэхнікі надзвычайна марудна пранікаюць у сельскую гаспадарку і гэта ўсё дзякуючы эканамічным умовам утвораным капіталізмам. Толькі дзякуючы прыватнай ўласнасьці на зямлю разам з наёмнай працай ўсё больш і больш павялічваецца тэхнічная адсталасьць у сельскай гаспадарцы.

Пры капіталістычным спосабе вытвару, грунтам якога зьяўляецца прыватная уласнасьць на сродкі вытвару, ня можна дасягнуць максымума прадукцыйнасьці працы, якая адпавядала-б вышыні тэхнікі ў дадзенай галіне. Гэта палажэньне асабліва мае месца ў сельскай

[1] Маркс „Капитал“ т. III, ч. II, стр. 174.

гаспадарцы. І ня толькі таму, што адсюль выкачваецца, дзякуючы прыватнай уласнасьці, капітал, што зьнішчаецца стымул для палепшаньняў, а і таму, што прыватная ўласнасьць на зямлю перашкаджае пашырэньню кожнага прадпрыемства да тых разьмераў, якія патрабуюцца для поўнага скарыстаньня складаных сельска-гаспадарчых машын і інвэнтару.

У сельскай гаспадарцы зямля зьяўляецца галоўным сродкам вытвару і яе ў большасьці землякробаў не хапае для рацыянальнага вядзеньня гаспадаркі на дадзенай ступені грамадзкага разьвіцьця. Палепшаньне гаспадаркі, шляхам пашырэньня апрацоўваемай тэрыторыі натыкаецца на загароду, якой зьяўляецца прыватная уласнасьць на зямлю. Пашырэньне гэта магчыма толькі на грунце вялікай канкурэнтнай барацьбы, на грунце заняпаду, разарэньня і выцясьненьня дробных землякробаў больш слабых, якія ня могуць вытрымаць у гэтай барацьбе. Экспропрыяцыя дробных самастойных вытворцаў буйнымі прыводзіць да таго, што на адным канцавосьсі разьвіваецца галеча і беднасьць, а на другім, дзякуючы канцэнтрацыі і цэнтралізацыі сродкаў вытвару, утвараецца кучка багацеяў уласьнікаў, якія і карыстаюцца ўсімі матэрыяльнымі і духоўнымі сродкамі здабытымі ўсёй грамадой. Але разам з ростам магнатаў, якія прысвайваюць плады капіталістычнага разьвіцьця, расьце армія рабочых, якая ўтвараецца капіталістычным спосабам вытвару, незадаволеная існуючымі адносінамі. Працоўнае селянства, закаванае ланцугамі прыватнай ўласнасьці на зямлю, імкнецца шляхам аграрнай рэвалюцыі разарваць гэтыя перашкоды грамадзкага разьвіцьця.

Дасягнуты ўзровень грамадзкага разьвіцьця становіцца ў супярэчнасьць з існуючымі формамі вытворчых адносін. «Манаполія капітала становіцца аковамі таго способу вытвару, які разам з ёй і дзякуючы ёй дасягнуў росквіту. Цэнтралізацыя сродкаў вытвару і аграмаджаньне працы дасягаюць узроўня, пры якім яны становяцца не сумясьцімымі з іх капіталістычнай абалонкай. Апошняя разрываецца. Б'е час капіталістычнай прыватнай уласнасьці. Экспропрыятараў экспропрыіруюць».[1] Вось у чым гістарычная дыалектыка прыватнай уласнасьці на сродкі вытвару, у тым ліку і на зямлю.

## 3

Пытаньне аб абшчынным землеўладаньні ў літаратуры займала шмат месца і выклікала не мала спрэчак адносна сацыяльнага значэньня абшчыны і адносна яе значаньня для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Гэта і ня дзіўна, калі сказаць, што каля 80 процантаў усіх сялянскіх зямель былой царскай Расіі знаходзілася ў абшчынным уладаньні. Пры гэтым распаўсюджаньні абшчыннага землеўладаньня ў царскай Расіі вядома вельмі важна было вырашыць яе значаньне для агульнага гаспадарчага разьвіцьця краіны.

Шмат выказвалася за абшчыну і супроць яе, пры чым у большасьці выпадкаў пытаньне аб абшчыне разглядвалася незалежна ад таго, у якой стадыі гаспадарчага разьвіцьця абшчыннае землеўладаньне зьяўляецца карысным для разьвіцьця вытворчых сіл, у якой шкоднай, затрымліваючай гэтае разьвіцьцё. Абаронцы абшчыны катэгарычна абараняли яе незалежна ад гаспадарчых умоў і знаходзілі, што яна разьвіваецца, народнікі сьцьвярджалі нават і тое, што

[1] Маркс „Капитал“ т. I, стр. 756.

абшчына зьяўляецца гарантыяй ад пролетарызацыі сялянства і іншых праяў капіталізму ў вёсцы.

У гэты час марксысты указвалі на тое, што абшчыннае землеўладаньне, як і наогул уласнасьць на зямлю, затрымлівае рост вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы, тармазіць яе прагрэс. Раней чым застанавіцца на абшчыне, як на перашкодзе грамадзкага разьвіцьця, варта паказаць тую ацэнку, якую даў Маркс расійскай абшчыне.

У сваіх лістох да В. Засуліч, чарнавыя нататкі якіх зьмешчаны у першым томе «Архіву Маркса і Энгельса», заснавацелі навуковага камунізму даюць ясную ацэнку і вызначаюць далейшы лёс абшчыны. Разгледзім спачатку ўсё тое, што сказана Марксам за абшчыну і пры якіх умовах ён дапускаў яе існаваньне, а потым тое, што зьяўляецца прычынай яе заняпаду.

У першым чарнавым лісьце Маркс піша аб тым што: «тэарэтычна, руская «вясковая абшчына» можа захаваць сваю глебу, разьвіваючы сваю базу—агульную ўласнасьць на зямлю—і адхіляючы пачатак прыватнай уласнасьці, які яна ў сябе таксама ўключае; яна можа стаць непасрэдным адыходным пунктам эканамічнага ладу, да якога імкнецца сучасная грамада; яна можа зажыць новым жыцьцём, адмаўляючыся ад думкі аб самагубстве, яна можа аўладаць пладамі, якімі капіталістычны вытвар абагаціў чалавецтва, без пераходу праз капіталістычны лад,—лад, які, з пункту погляду толькі яго магчымай працяжнасьці, зойме так мала месца ў гісторыі грамады». [1].

Далей Маркс, зазначаючы аб тым, што ўсе існаваўшыя абшчыны ў зьвязку з разьвіцьцём капіталізму прышлі да поўнага разлажэньня, аб рускай абшчыне піша так: «Адна яна захавалася ў Эўропе ў шырокім, нацыянальным маштабе. Адна яна знаходзіцца гэткім чынам, у гістарычным асяродзішчы ў якім яе сучасьнік — капіталістычны вытвар—прадстаўляе ёй умовы калектыўнай працы. Яна мае магчымасьць прысвайваць сабе ўсе дадатныя дасягненьні капіталістычнага ладу, не праходзячы праз яе Каудынскія цясьніны». [2] Кажучы аб спрыяючых прасторавых і глебавых умовах вядзеньня сельскай гаспадаркі пры ўжываньні машын, пры арганізацыі яе ў шырокіх разьмерах, пры належнай увазе з боку ўсёй грамады Маркс заключае, што абшчына можа ў гэткім выпадку захавацца, як крыніца адраджэньня. «Лепшым доказам таго, што гэткае разьвіцьцё «вясковай абшчыны» адпавядае напрамку гістарычнага працэсу нашага часу, служыць ракавы крызіс, які перажывае капіталістычны вытвар у эўрапэйскіх і амэрыканскіх краінах, у якіх ён найбольш разросься,—крызіс, які кончыцца яго выцясьненьнем, зьвярненьнем сучаснай грамады к вышэйшай форме найбольш архаічнага тыпу,—калектыўнаму вытвару і калектыўнаму прысвайваньню». [3]

У трэцім чарнавіку ліста Маркс піша што: «дуалізм уласьцівы строю вясковай абшчыны можа яе адушаўляць магутным жыцьцём. Вызвалены ад моцных, але цесных уз кроўнага радзтва, яна атрымлівае моцны грунт у агульнай уласнасьці на зямлю і ў грамадзкіх адносінах з яе выцякаючых, і ў той-жа час дом і яго двор, які зьяўляецца выключным уладаньнем індывідуальнай сям'і, парцэлярная гаспадарка і прыватнае прысвайваньне яе пладоў садзейнічае разьвіцьцю асобы, разьвіцьцю несумясьцімых з ладам больш старых абшчын. Але ня менш відавоч-

[1] „Архив Марка и Энгельса“ кн. I, стр. 276.
[2] Там-же.
[3] Там-же.

на,—працягвае Маркс,—што з бегам часу, той-жа дуалізм можа абвярнуцца ў зярно разлажэньня... Яе ўраджоны дуалізм дапушчае альтэрнатыву: альбо пачатак уласнасьці возьме ў ёй верх над пачаткам калектыўным, альбо-ж апошняе возьме верх над першым. Усё залежыць ад гістарычнага асяродзішча, у якім яна знаходзіцца». [1]

Вось усё тое дадатнае, што сказана Марксам аб тэарэтычна-магчымым шляху эвалюцыі абшчыны, аб яе магчымасьці ўхіліцца ад разлажэньня пры далейшым разьвіцьці капіталізму ў Расіі. Але тут жа трэба дадаць, што Маркс казаў аб дадатных бакох абшчыны ў значнай сьцепені таму, каб не дэмаралізаваць у той час рэвалюцыйны рух у Расіі, прадстаўнікі якога як раз ускладалі вялікія надзеі на абшчыну.

Але «спусьцімся з вышынь чыстай тэорыі ў расійскую рэчаіснасьць» і разьбярэм пры якіх умовах дапушчалі Маркс і Энгельс не капіталістычны шлях разьвіцьця рускай абшчыны.

Энгельс у сваім адказе на ліст Ткачова, які ўскладваў ня менш надзей на абшчыну, чым усе народнікі, піша: «Руская абшчына даўно ўжо перажыла час свайго росквіту і па усёй верагоднасьці ідзе да разлажэньня. Аднак існуе неабвяржымая магчымасьць яе пераходу ў вышэйшую форму сужыцьця, калі яна толькі захаваецца да тае пары, калі акалічнасьці дазволяць такі пераход, і калі яна акажацца здольнай да разьвіцьця ў тым сэнсе, што сяляне стануць апрацоўваць зямлю не падворна, а ўсім «мірам»; тады рускія сяляне пяройдуць прама да вышэйшай формы, мінуючы прамежную стадыю буржуазнай дробнай уласнасьці. Але гэта можа адбыцца толькі ў тым выпадку, калі пралетарыят Заходняй Эўропы зьдзейсьціць пераможную рэвалюцыю яшчэ да канчатковага разлажэньня рускай абшчыны і тым забясьпеча патрэбныя для ўказанага пераходу умовы—ў асаблівасьці матэрыяльныя сродкі, якія патрабуюцца рускаму селяніну для падобнага каран-нога перавароту ва ўсёй яго гаспадарчай сыстэме». [2]

Як бачым, Энгельс, канстатуючы разлажэньне рускай абшчыны аднак тут жа прыводзіць першую ўмову пры якой яна магла-б разьвівацца далей, гэта сацыялістычны пераварот на захадзе. Гэтую ўмову Маркс высоўваў і ў прадмове да рускага выданьня «Камуністычнага маніфэсту», зьвязваючы магчымасьць рэвалюцыі абшчыны з рускай рэвалюцыяй і рабочай рэвалюцыяй на Захадзе. Гэта Маркс паўтарае і ў чарнавіку ліста да В. Засуліч. «Спэцыяльныя дасьледаваньні,—піша Маркс,—якія я зрабіў і матэрыялы для якіх я пачарпаў з першакрыніц, упэўнілі мяне, што гэта абшчына зьяўляецца пунктам апоры грамадзкага адраджэньня Расіі. Але для таго, каб яна магла функцыяніраваць, як гэткая, патрэбна было-б раней за ўсё зьнішчыць тлетворныя ўплывы, якія сьціскаюць яе з усіх бакоў, а затым забясьпечыць ёй умовы самастойнага разьвіцьця». [3] Тут ужо Маркс з усёй яснасьцю выстаўляе другую ўмову разьвіцьця абшчыны—гэта—рэвалюцыя ў Расіі, каб зьнішчыць абсалютызм і яго руйнуючы ўплыў на разлажэньне абшчыны. «Каб захаваць рускую абшчыну, патрэбна руская рэвалюцыя». [4]

Трэцяй ўмовай, якая разлагае абшчыну і якую патрэбна было-б зьнішчыць, каб магла яна разьвівацца далей, Маркс знаходзіць унутры самой абшчыны. У другім чарнавіку ён гаворыць, што абшчыне пагражае сама капіталістычная сыстэма, пранікаьне элементаў капіталізму ў самую абшчыну. Першае, што разлагае абшчыну і што знаходзіцца

[1] „Архив Маркса и Энгельса", кн. I, стр. 284—285.
[2] Там-же, стр. 267.
[3] Там-же, стр. 286.
[4] Там-же, стр. 279.

ўнутры яе, гэта прыватная уласнасьць на будоўлю, сад і г. д... Тут у самой абшчыне мы бачым дуалізм і супярэчнасьці: з аднаго боку прыватная уласнасьць у апрацоўцы, інвэнтару і інш. і з другога боку агульная ўласнасьць на зямлю: «кожны селянін, падобна дробнаму заходняму селяніну, апрацоўвае сваё поле за свой уласны кошт. Абшчыннае землеўладаньне, парцэлярная апрацоўка зямлі—гэта камбінацыя, карысная у эпохі больш далёкія—становіцца небясьпечнай у наш час. З аднаго боку, рухомая маемасьць, элемент, які адыгрывае усё больш і больш важную ролю у самым земляробсьцтве, усё магутней дыфэрэнцыруе маемаснае становішча сяброў абшчыны, і выклікае ў ёй, асабліва пад фіскальным націскам дзяржавы, барацьбу інтарэсаў; з другога боку траціцца эканамічная перавага абшчыннага землеўладаньня, як грунт каапэрацыйнай і складанай гаспадаркі». [1]

І так, для захаваньня і далейшага разьвіцьця абшчыны мінуючы прахаджэньне праз капіталістычныя формы вытвару Маркс і Энгельс паставілі тры асноўныя ўмовы, гэта: сацыялістычны пераварот на Захадзе, рэвалюцыя ў самой Расіі, і зьнішчэньне элементаў разлажэньня ў самой абшчыне. А таму, што ні адна з гэтых умоў ня мела месца ў жыцьці, можна сьмела думаць, што Маркс і Энгельс ня мелі ніякіх ілюзій на конт магчымасьці захаваньня абшчыны і яе разьвіцьця. Перамога-ж супярэчнасьцяў унутры вясковай абшчыны магла адбыцца толькі ў тым выпадку, калі-б злучыліся расійская рэвалюцыя з рэвалюцыяй на Захадзе.

Тое-ж што капіталізм у Расіі пранікаў і ўплываў на усе формы грамады, у тым ліку і на абшчыну, не дапушчала магчымасьці заключаць, што абшчына не падпадзе пад гэты уплыў, а што яна будзе разьвівацца. Бо каб мець магчымасьць разьвівацца: «трэба раней ўсяго жыць, і нельга захоўваць ад сябе, што ў цяперашні час жыцьцё «вясковай абшчыны» знаходзіцца ў небясьпецы». [2] І гэта зусім зразумела, бо Расія, як і іншыя краіны Захаду, пачала разьвіваць капіталістычную прамысловасьць, а разьвіцьцё прамысловасьці патрабавала рынку рабочай сілы, які мог папоўніцца ў значнай сьцепені за кошт разлажэньня сельскай гаспадаркі, за кошт у першую чаргу абшчыны.

У лісьце ад 22-га верасьня 1892 году да Нікалая О-на Энгельс піша, што капіталізм: «нясумненна выкліча каранную аграрную рэвалюцыю,—я разумею рэвалюцыю ва ўмовах землеўладаньня, якая зруйнуе і абшарніка, і мужыка, і заменіць іх новай клясай буйных землеўладароў, вышаўшых з вясковых кулакоў альбо з гарадзкіх мяшчан-спэкулянтаў». З гэтага лісту відаць, што для Энгельса быў ясным канец абшчыны і адкінута ўсякая думка аб яе магчымасьці некапіталістычнага разьвіцьця.

Маркс, зазначаючы, што ўсюды абшчына ўступіла месца прыватнай ўласнасьці на зямлю, падкрэсьлівае, што і ў Расіі яна ня можа не паддацца таму-ж закону.

У канцы другога чарнавіка лісту да Засуліч, Маркс ясна ўказвае, што абшчына ёсьць тормаз разьвіцьця грамадзкіх вытворчых сіл і што яна павінна з рухам капіталізму загінуць. «Пакідаючы ў баку ўсякае больш менш тэарэтычнае пытаньне, няма патрэбы казаць вам, што ў цяперашні час самаму існаваньню рускай абшчыны пагражае небясьпека з боку ўзгадніўшыхся паміж сабою моцных інтарэсаў. Вядомы род капіталізму, узгадаваны за кошт сялян пры дапамозе дзяржавы, супроцьстаіць абшчыне; ён зацікаўлены ў тым, каб яе раздавіць.

[1] „Архив Маркса и Энгельса“, стр. 281—282.
[2] Там-же, стр. 277.

У інтарэсах абшарнікаў таксама ўтварыць з больш менш заможных сялян сярэднюю сельска-гаспадарчую клясу і абярнуць бедных землиробаў, г. зн. большасьць, у простых наёмных рабочых,—канешна, з мэтаю забясьпечыць сябе таннай працай. Да і як можа з імі весьці барацьбу абшчына, раздаўленая вымагацельствам дзяржавы, абрабаваная гандлярамі, эксплёатаваная абшарнікамі, падкапваемая ўнутры ліхвярамі». [1]

Разбор усяго высказанага Марксам і Энгельсам аб становішчы і далейшым лёсе абшчыны дае нам магчымасьць зрабіць вывад, што допускаючы тэарэтычную магчымасьць, пры патрэбных для гэтага умовах, эвалюцыі абшчыны па некапіталістычнаму шляху, заснавальнікі марксызму надзвычайна тонка ўлічвалі элементы яе ўнутранога разлажэньня. Для іх было ясна, што раз Расія ўступіла на шлях капіталістычнага разьвіцьця, дык яна павінна была прайсьці стадыю руйнаваньня абшчыны. Вось агульны вывад, які можна зрабіць пасьля ўсяго вышэйсказанага аб абшчыне.

Ленін ў сваёй кніжцы «Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі» выказаў думку зусім аналёгічную ўсяму выказанаму Марксам і Энгельсам аб рускай абшчыне. «Лад грамадзка-эканамічных адносін,—піша ён,—у сялянстве (землиробскім і абшчынным) паказвае нам наяўнасьць усіх тых супярэчнасьцяў, якія ўласьцівы ўсякай таварнай гаспадарцы і ўсякаму капіталізму: канкурэнцыю, барацьбу за гаспадарчую самастойнасьць, перазахват зямлі, канцэнтрацыю вытвару ў руках меншасьці, выпіханьне большасьці ў шэрагі пралетарыяту, эксплёатацыю яго з боку меншасьці гандлёвым капіталам і наймам батракоў. Няма ні воднай эканамічнай зьявы ў сялянства, якая ня мела-б гэтай, спэцыфічна-ўласьцівай капіталістычнаму ладу, супярэчлівай формы, гэта значыць якая-б не выражала барацьбы і розьні інтарэсаў, не азначала-б плюс для адных і мінус для другіх...

Іменна гэтыя супярэчнасьці і паказваюць нам відавочна і не абвяржыма, што лад эканамічных адносін у «абшчыннай» вёсцы, зусім не прадстаўляе з сябе асобнага укладу, а звычайны дробна-буржуазны ўклад. На перакор тэорыям, якія панавалі ў нас апошнія паўвека, рускае абшчыннае сялянства—не антаганіст капіталу, а насупроць самы глыбокі і самы моцны яго грунт. Самы глыбокі,—таму што іменна тут, далёка ад якіх бы то ні было «штучных» уплываў і ня гледзячы на ўстановы, якія абмяжоўваюць разьвіцьцё капіталізму, мы бачым сталае ўтварэньне элементаў капіталізму ўнутры «абшчыны». Самы моцны,—таму што на землиробсьцьве наогул і на сялянстве ў асаблівасьці цягацеюць з найбольшай сілай традыцыі старыны, традыцыі патрыархальнага быту, а ў зьвязку з гэтым пераўтвараўчая роля капіталізму праяўляецца тут з найвялікшай маруднасьцю і паступовасьцю». [2] Гэткім чынам абшчына, як прававы і гаспадарчы арганізм, з разьвіцьцём капіталізму павінна прыйсьці да заняпаду. Да гэтага вываду прыходзіць марксызм, ужываючы пры аналізу абшчыны дыялектычны падыход.

Мы разглядзелі сацыяльна эканамічныя прычыны, якія вядуць да разлажэньня абшчыны, зараз застановімся на абшчыне як на перашкодзе прагрэсу сельскай гаспадаркі.

Абшчыннае зямляўладаньне і зямлякарыстаньне не зьяўляецца той сталай формай, у якую ўліваюцца гаспадарчыя адносіны сялян пры якіх ўгодна ўмовах. Яна ўзьнікае пры пэўных ўмовах і праходзіць розныя зьмены разам са зьменаю гэтых умоў. Так, пры экстэнсіўным

[1] „Архив Маркса и Энгельса" стр. 282.
[2] Ленин, т. III., стр. 128—129. Развитие капитализма в Росии.

жывёлаводчым напрамку гаспадаркі абшчына мае адны формы, пры інтэнсіўным зусім іншыя. У далейшым сваім разьвіцьці абшчына мае месца і зьяўляецца больш карыснай формай землекарыстаньня пры трохпалёвай сыстэме у сельскай гаспадарцы. Пры далейшай жа інтэнсіфікацыі, яна ня толькі не зьяўляецца карыснай, але і шкоднай. Таму што разьвіцьцё вытворчых сіл землеробскага насельніцтва ўкладвае зусім іншы зьмест у абшчыну.

У дадзеным выпадку абшчына, як прававы і гаспадарчы інстытут, толькі пагаршае становішча саміх абшчыньнікаў і абвастрае эканамічныя ўзаемаадносіны. Гэта выклікаецца дыфэрэнцыяцыяй у самой абшчыне, абагаценьне адных і абядненьне другіх, лішкам працоўных сіл, якім не даецца права выхаду з абшчыны, падвышэньнем арэндных цэн і г. д. Хаця існаваньне абшчыны, нават пры становішчы яе гніеньня і разлажэньня, усё-ж карысна для дзяржавы і землеўласьнікаў, таму што пры ёй лягчэй зьбіраць падаткі і іншыя паслугі, не маючы справы з кожным селянінам паасобку, а з усім сялянствам разам праз іх зямельнае грамадзтва.

Аднак крызіс, які быў выражэньнем канфлікту паміж разьвіцьцём вытворчых сіл і паўкрапацкімі вытворчымі адносінамі, ломка капіталізмам аджыўшай сябе экстэнсіўнай гаспадаркі ў значнай большасьці раёнаў Расіі, прыводзіла і да зьнішчэньня абшчыны, як аднэй з галоўных перашкод у разьвіцьці земляробства. Бо разьвіцьцё вытворчых сіл патрабавала пераходу да інтэнсіўнай гаспадаркі, тады як: «абшчыны, альбо нават іх астаткі, дзе яны захаваліся, зараз звычайна перашкаджаюць прагрэсу сельскай гаспадаркі». [1]

Як вядома, галоўнай умовай нармальнага разьвіцьця гаспадарчай сыстэмы зьяўляецца пашыраны аднаўлены вытвар, але гэты аднаўлены вытвар у малай сьцепені магчым пры экстэнсіўнай гаспадарцы, г. зн. бяз павышэньня вытворчасьці той жа плошчы зямлі,—вось гэта і патрабавала агульнай зьмены гаспадарчага ўкладу вёскі, яе капіталізацыі.

Пасьпяховае разьвіцьцё ў Расіі прамысловага капіталізму хутка ўцягнула ў капіталістычны кругазварот і сельскую гаспадарку. Чыгуначныя шляхі зносін зьвязалі вёску з ўнутраным і замежным рынкам і тым самым стымулявалі капіталістычны пераварот у земляробсьцьве. І супраўды з разьвіцьцём індустрыі, у сельскай гаспадарцы зьявілася тэндэнцыя да капіталістычнай інтэнсіфікацыі. Памалу пачало пракладваць сабе шлях травасеяньне, асабліва ў Заходніх раёнах ў тым ліку і ў Беларусі. Пашыраюцца пасевы тэхнічных культур, як бульба, караньплоды і інш; што давала сыравіну для браварных, вінакураных і цукравых заводаў.

Але акрамя абшарніцкай эксплёатацыі, інтэнсіфікацыя ўпіралася ў вытворчыя адносіны, якія склаліся да гэтага часу ў вёсцы на грунце экстэнсіўнай гаспадаркі. Яна ўпіралася раней за ўсё у абшчынныя адносіны, якія прымусовым севазваротам дапатопным укладам у апрацоўцы глебы, частыя перадзелы зямлі, урэшце празпалосіцца і дробнапалосіца, дальнязямельлем і наогул недастатковай землеўпарадкаванасьцю перашкаджалі гаспадарчай ініцыятыве вясковай буржуазіі і тым самым тармазілі разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Адсюль узьнікала аб'ектыўная неабходнасьць рэвалюцыйнай ломкі абшчыны і замацаваньня зямлі ў прыватную ўласнасьць. «Старая саслоўная абшчына, прымацаваньне сялян да зямлі, руціна паўкрапацкай вёскі прышлі ў самую войструю супярэчнасьць з новымі гаспадарчымі ўмо-

[1] Каутский „Аграрный вопрос", стр. 241.

вамі. Дыялектыка гісторыі зрабіла тое, што сялянства, якое ў іншых краінах пры колькі-небудзь ўпарадачным (з пункту погляду патрабаваньняў капіталізму) зямельным ладзе зьяўляецца апорай парадку,— у Расіі выступіла ў час рэвалюцыі з самымі руйнуючымі патрабаваньнямі нават да канфіскацыі абшарніцкіх зямель і нацыяналізацыі зямлі... Капіталізм ужо беспаваротна падарваў усе асновы старога аграрнага ладу ў Расіі. Ён ня можа разьвівацца далей, не ламаючы гэтага ладу. і ён зламае яго нямінуча і няўхільна; няма такой сілы на зямле, якая-б магла перашкодзіць гэтаму. Але гэты лад можа быць зломаны па абшарніцку, альбо па сялянску, для рашчысткі шляху абшарніцкаму, альбо сялянскаму капіталізму». [1]

Рашчыстка шляху для капіталізму практычна ў Расіі вылілася ў рэформу Сталыпіна, калі ўжо царскаму ўраду ня можна было абапірацца на старыя формы землеўладаньня, ён прымушан быў, па выразу Леніна, «з ліхарадачнай хуткасьцю» руйнаваць сярэднявяковыя формы і адшукаць свайму парадку новую апору ў вёсцы у выглядзе дробнай вясковай буржуазіі.

Перад Расіяй разглядваемага часу адчыняўся толькі адзін шлях— шлях капіталістычнага разьвіцьця, але формы гэтага шляху маглі быць дваякімі. Буржуазнае разьвіцьцё Расіі магло пайсьці раней за ўсё шляхам магутнай аграрнай рэвалюцыі, якая ўтваралася-б сялянствам пад кіраўніцтвам пралетарыяту і якая-б ачысьціла прыгонныя парадкі ў вёсцы, але гэта разьвіцьцё магло пайсьці і па шляху рэформ, па шляху ўтварэньня з фэўдальных латыфундый, дробнай капіталістычнай гаспадаркі.

На гэты апошні шлях і стаў царызм, каб падкласьці пад расхістаны рэвалюцыяй буржуазна-абшарніцкі лад новую клясавую базу. Утварэньне капіталістычнага фэрмерства пачынаецца, з аднаго боку шляхам драбленьня абшарніцкіх латыфундый праз прадажу зямлі дробным капіталістычным гаспадаркам, а з другога боку па шляху экспрапрыяцыі вясковай буржуазіяй надзельнага землеўладаньня асноўнай сялянскай масы. Першай задачы дапамагаў сялянскі зямельны банк, якому ўрад перадаў частку казенных і удзельных зямель і які купляў зямлі, а потым перапрадаваў вясковай буржуазіі. Другой задачай служыла зьнішчэньне абшчыны і перадача зямлі ў прыватную ўласнасьць выдзел вясковай буржуазіі на хутары і атрубы. «Сталыпенская «чыстка» ляжыць бязумоўна па лініі прагрэсыўнага капіталістычнага разьвіцьця, але толькі прыстасавана гэта цалкам да інтарэсаў абшарнікаў: няхай багатыя сяляне ў тры дарагі заплоцяць «сялянскаму» (чытай: абшарніцкаму) банку,—мы за гэта дамо ім волю рабаваць абшчыну, гвалтоўна экспрапрыіраваць масу, акругляць свае вучасткі, высяляць сялянскую беднату, падрываць самыя асновы жыцьця цэлых вёсак, утвараць, чаго-б гэта ні каштавала, ня гледзячы ні на што, грэбуючы гаспадаркай і жыцьцём якога ўгодна ліку «ісконных» надзельных землябробаў, утвараць новыя адрубныя вучасткі, грунт новага капіталістычнага землябробства». [2]

Гэткім чынам сталыпенская рэформа, супярэчлівая сама па сабе развязала на некаторы час вытворчыя сілы, адчыніла шлях для больш пасьпяховай капіталізацыі вёскі, але ёй ня толькі ня зьнішчаны існаваўшыя ў вёсцы супярэчнасьці, але яшчэ больш абвастрыліся.

Разлажэньне абшчыны і замацаваньне зямлі ў прыватную ўласнасьць утварылі досыць складаныя працэсы, якія пачыналі адбывацца

---

[1] Ленин т. XI. стр. 17. Новая аграрная политика.
[2] Там-же, т. IX стр. 475.

ў вёсцы. Ішла шпаркім тэмпам пралетарызацыя вялізарнай масы сялянскага насельніцтва з аднаго боку і з другога расла кучка вясковай буржуазіі.

І так, разьвіцьцё капіталізму у цэлым, разьвіцьцё капіталістычнага фэрмерства, працэс пралетарызацыі сялянскай гаспадаркі—усё гэта разам і прывяло да разьдзелу абшчынных зямель, да гібелі самой абшчыны. Гэта-ж самая капіталізацыя вёскі абвастрала барацьбу паміж вясковай беднатой і вясковай буржуазіяй, паміж усім сялянствам і абшарнікамі, і выклікала рост рэвалюцыйных выступленьняў сялянства, выклікала выбух аграрнай рэвалюцыі, якая-б карэнным чынам зьмяніла адносіны ў вёсцы і разьвязала вытворчыя сілы ў сельскай гаспадарцы.

4

Першым і галоўным патрабаваньнем сялянства, якое датычыцца права на зямлю, зьяўляецца нацыяналізацыя. Хаця нацыяналізацыя зямлі і сумясьціма з панаваньнем буржуазіі, тым ня менш яна зьяўляецца асноўнай прадпасылкай максымальнага разьвіцьця вытворчых сіл у земляробсьцьве і таму прадстаўляе вялічэзны крок уперад у параўнаньні з капіталістычнай прыватнай уласнасьцю на зямлю. Гэтым абумоўлена і тое, чаму нацыяналізацыю сродкаў вытвару, у тым ліку і зямлю, пралетарыят разглядвае, як сваё праграмнае патрабаваньне, інакш патрабаваньне цесна зьвязанае з ажыцьцяўленьнем сацыялізму. «Прамысловыя рабочыя могуць вызваліць сябе толькі ў тым выпадку, калі абвернуць капіталы буржуазіі, гэта зв. сырыя матэрыялы, машыны, прылады і спажывецкія прыпасы, неабходныя для вытвару, у грамадзкую ўласнасьць г. зв. у сваю агульна скарыстоўваемую уласнасьць. Так сама і сельска гаспадарчыя рабочыя могуць вызваліць сябе з вялікай беднасьці толькі ў тым выпадку, калі раней за ўсё зямля, якая зьяўляецца галоўным аб'ектам іх працы, будзе ўзята з прыватнага ўладаньня буйных сялян і яшчэ больш буйных фэўдалаў і абярнута ў грамадзкую ўласнасьць, супольна апрацоўваемую каапэратывамі сельска-гаспадарчых рабочых».[1] «Усе папярэднія пралетарыяту клясы, дасягаючы панаваньня, імкнуліся ўмацаваць ужо здабытае імі грамадзкае становішча, становячы ўсю грамаду ва ўмовы, найбольш спрыяючыя іх абагашчэньню.

Пралетарыят жа можа аўладаць грамадзкімі вытворчымі сіламі толькі тады, калі зьнішчыць свой уласны, а разам з тым і ўсе сучасныя спосабы набыцьця маемасьці. Пралетарыям няма чаго замацоўваць яны павінны насупраць руйнаваць усе існуючыя спосабы прыватнага абагашчэньня і прыватнага забесьпячэньня».[2] Тут мы бачым зусім ясную ўстаноўку Маркса і Энгельса на неабходнасьць нацыяналізацыі ўсіх сродкаў вытвару. Вось чаму ніякіх сур'ёзных разыходжаньняў адносна нацыяналізацыі зямлі ў сялянства і пралетарыяту не магло ўзьнікнуць. Тым ня менш, гэта яшчэ не адзначае, што як пралетарыят, гэта і сялянства ўкладаюць у разуменьне «нацыяналізацыі зямлі» аднолькавы зьмест. Пытаньне гэта надзвычайна сур'ёзнае таму мы яго разгледзім з належнай увагай і паўнатою.

У пяршыню больш менш поўна абгаварвалася пытаньне аб калектыўнай уласнасьці на зямлю на Лазанскім, Брусельскім і Базельскім кангрэсах Першага Інтэрнацыяналу. У дыскусіі выявіліся тры пункты погляду: вучняў Маркса, пруданістаў і бяльгійца дэ-Папа. Непасрэднага

[1] Энгельс „Крестьянская вайна в Германии", стр. 21.
[2] Маркс и Энгельс „Коммунистический манифест", стр. 56.

ўдзелу ў дыскусіі Маркс не прымаў, але бязумоўна ўкосны ўплыў на рух дыскусіі аказваў, аб гэтым сьведчыць адзін дакумэнт напісаны яго рукой аб «нацыяналізацыі зямлі» зьмешчаны ў першым нумары часопісі «Воинствующий материалист» за 1924 год.

Прынятая Брусельскім кангрэсам рэзалюцыя ня была вытрымана да канца ў марксыцкім духу. У ёй гаварылася прыблізна наступнае: Бяручы пад увагу, што патрабаваньне вытвару і ўжываньне вядомых законаў агранаміі выклікаюць пераход да буйнай земляробскай гаспадаркі і робіць неабходным ужываньне машын і калектыўнай арганізацыі сельска-гаспадарчай працы; што ў адпаведнасьці з гэтым, праца ў сельскай гаспадарцы і зямельная ўласнасьць павінны быць пастаўлены у тыя-ж умовы, што і ў горнай справе. Кангрэс лічыць, што канчатковае разьвіцьцё сучаснай грамады зробіць сацыяльнай неабходнасьцю абвярненьня зямлі ў калектыўную ўласнасьць і аддачу земляробскім таварыствам.

Як бачым з гэтай рэзалюцыі, што пытаньне нацыяналізацыі зямлі на гэтым кангрэсе пастаўлена ня зусім дасканальна і выстарчальна. Гэта нявыстарчальнасьць была і ў прамове дэ-Папа—аднага з дакладчыкаў па пытаньню зямельнай уласнасьці, ён ня выказаўся ясна за нацыяналізацыю. Ён дапушчаў самыя рознастайныя формы ажыцьцяўленьня калектыўнай уласнасьці на зямлю.

У сваім адрыўку «Нацыяналізацыя зямлі» адказваючы яму Маркс пісаў: «На інтэрнацыянальным кангрэсе ў Бруселі у 1868 годзе адзін з маіх сяброў сказаў: «дробная прыватная ўласнасьць асужана навукай, а буйная прыватная ўласнасьць справядлівасьцю. Застаецца, гэткім чынам, толькі адна альтэрнатыва: зямля павінна стаць уласнасьцю вясковых асацыяцый альбо ўласнасьцю ўсёй нацыі. Будучае вырашыць гэтае пытаньне». Я-ж наадварот кажу: будучае вырашыць, што зямля можа быць толькі нацыянальнай уласнасьцю. Аддача зямлі ў рукі асацыяцыі вясковых рабочых, азначае аддачу ўсёй грамады выключна аднэй клясе вытворцаў. Нацыяналізацыя зямлі ўтворыць поўную перамену ў адносінах паміж працай і капіталам і ўрэшце зусім зьнішчыць капіталістычны вытвар, як прамысловы гэтак і земляробскі. Толькі тады зьнікнуць клясавая розьніца і прывілеі, разам з эканамічным грунтам, ад якога яны паходзюць і грамада абвернецца ў асацыяцыі вольных вытварцаў. Жыцьцё-працай другіх зробіцца справай мінулага. Ня будзе больш існаваць ўрад і дзяржава». [1] З гэтай вытрымкі мы бачым розьніцу ў пастаноўцы пытаньня на Брусельскім кангрэсе і ў Маркса.

У Маркса сказана зусім ясна і выстарчальна, што зямля павінна перайсьці ва ўласнасьць дзяржавы, а ў дэ-Папы земля павінна перайсьці альбо ў рукі дзяржавы, альбо ў рукі вясковых асацыяцый. Маркс ў сваім адрыўку аб «Нацыяналізацыі зямлі» ня проста ставіць пытаньне аб перадачы зямлі ў рукі дзяржавы, але дае аналіз і тых вынікаў да якіх можа прывесьці нацыяналізацыя зямлі. Ён зазначае, што калі-б зямля была перададзена дробнымі кавалкамі асобным людзям, альбо працоўным таварыствам пры уладзе, якая складалася-б з сярэдніх клясаў, у гэтым выпадку магла-б разьвіцца вялікая канкурэнцыя паміж імі, прывяла-б да росту рэнты і прынясла-б новыя выгады людзям, якія жывуць за кошт клясы вытварцаў. Тады як нацыяналізацыя зямлі, пры ўладзе ў руках пралетарыяту, прынясе з сабою новыя вышэйшыя формы сужыцьця паміж людзьмі.

[1] Маркс „Нацыяналізацыя зямлі“ „Воинствующий материалист“ № 1, за 1924 г. стр. 164.

Зусім зразумела, што вывад Маркса аб кіруючай ролі пралетарыяту ў аграрнай рэвалюцыі мае вялікае значэньне і ў нашу эпоху. Бо нацыяналізацыя зямлі можа быць першым этапам сацыялістычнай рэвалюцыі, што экспропрыяцыю экспропрыятараў лягчэй пачаць з адабраньня ў іх зямельнай уласнасьці. «Удар нанесены зямельнай уласнасьці, аблегчыць няўхільныя далейшыя ўдары уласнасьці наогул»...[1] Акрамя таго, лягчэй пачаць з экспропрыяцыі зямельнай уласнасьці яшчэ і таму, што яна супярэчыць ня толькі разьвіцьцю сацыялістычных форм, але і буржуазнаму спосабу вытвару.

Аднак, ня гледзячы на тое, што прыватная уласнасьць на зямлю супярэчыць разьвіцьцю капіталістычнага ладу, усё-ж буржуазія ня здольна правесьці нацыяналізацыі зямлі, бо яна сама зьяўляецца ўласьнікам сродкаў вытвару. «Па гэтаму радыкальны буржуа, падышоўшы бачком да зьнішчэньня ўсіх іншых падаткаў, тэарэтычна прыходзіць да адмаўленьня прыватнай зямельнай уласнасьці, якую ён жадаў-бы ў форме дзяржаўнай зрабіць уласнасьцю клясы буржуазіі, капіталу. На практыцы яму аднак не хапае сьмеласьці, таму, што нападзеньне на адну форму ўласнасьці форму прыватнай ўласьнасьці на ўмовы працы было-б вельмі небясьпечна і для другой формы. Акрамя таго буржуа сам абзавёўся зямлёю».[2]

Зусім відавочна, што нацыяналізацыю зямлі ў жыцьцё павінен правесьці пралетарыят і што сацыяльная рэвалюцыя павінна пачынацца з самых асноў, іншымі славамі, з зямельнай уласнасьці. «Я ўсё больш і больш ўпэўніваюся ў тым, што зараз справа толькі ў тым, каб укараніць гэтую ўпэўненасьць у голавы ангельскай рабочай клясы—што яна ніколі ня будзе мець магчымасьці зрабіць у самой Англіі рашучы крок уперад, пакуль не парве канчаткова з палітыкай пануючых клясаў у ірляндскім пытаньні... Першая ўмова вызваленьня пралетарыяту ў Англіі ёсьць нізрынуцьцё ангельскай зямельнай олігархіі, але, пакуль гэта олігархія захоўвае за сабою моцную пазыцыю ў Ірляндыі, нельга зламаць яе магутнасьці ў самой Англіі. Але толькі ірляндскі народ возьме справу ў свае рукі, як толькі ён стане заканадаўцай і кіраўніком сваёй краіны і дасягне аўтаноміі,—зьнішчэньне зямельнай арыстакратыі (па большай частцы гэта тыя-ж людзі, што і ангельскія лэндлёрды) адбудзецца непараўнаўча лягчэй, чым тут, таму што для Ірляндыі гэта ня толькі эканамічнае пытаньне, але ў той жа час і нацыянальнае».[3]

І так Маркс бачыў у нацыяналізацыі зямлі мерапрыемства, якое можа, пры вядомых гістарычных умовах, зьявіцца першым этапам сацыялістычнай рэвалюцыі. Прызнаньне-ж тэарэтычна акта нацыяналізацыі зямлі як магчымага буржуазнага мерапрыемства, бязумоўна ніколі не супярэчыла таму, што буржуазія няздольна правесьці да канца гэта мерапрыемства, бо пры яго правядзеньні ня можа быць не закранута і прыватная ўласнасьць на іншыя сродкі вытвару, якія знаходзяцца ў руках капіталістаў.

Тэарэтычнае разуменьне нацыяналізацыі цесна зьвязана з тэорыяй рэнты, інакш з тым прыбыткам, які атрымліваюць у капіталістычнай грамадзе землеўласьнікі. Марксызм ўстанаўлівае два віды рэнты: дыфэрэнцыяльную і абсалютную. Дыфэрэнцыяльная ёсьць вынік абмяжаванасьці зямлі незалежна ад таго, ці існуе прыватная ўласнасьць на зямлю ці не. Яна атрымліваецца дзякуючы розьніцы ва ўраджайнасьці

[1] Ленин, т. IX, стр. 680.
[2] Маркс „Теория прибавочной стоимости", т. II, стр. 149.
[3] Маркс—Письмо к Кугельману от 29 ноября 1869 г., стр. 223.

зямлі, яе адлегласьці ад рынку і вытворчасьці дадатковых укладаў капіталу ў зямлю. Гэта ёсьць розьніца паміж індывідуальнай цаной вытвару і вышэйшай цаной вытвару. Дыфэрэнцыяльная рэнта ўтвараецца і пры капіталістычным земляробстве, нават пры поўнай адмене прыватнай ўласнасьці на зямлю. Пры чым пры існаваньні зямельнай ўласнасьці гэты від рэнты атрымлівае землеўласьнік. Пры адмене прыватнай уласнасьці на зямлю, гэтую рэнту атрымлівае дзяржава.

Абсалютная рэнта выцякае ад манапольнай уласнасьці на зямлю. Яна дае магчымасьць прадаваць прадукты земляробства не па вышэйшай цане вытвару, а па больш высокай індывідуальнай вартасьці прадукта. Бо ня гледзячы на тое, што цана вытвару вызначаецца сярэдняй прыбыльлю на капітал, абсалютная рэнта не дазваляе гэта зрабіць ў земляробстве. Манапольна замацоўваючы больш высокую, чым сярэдняя, індывідуальную вартасьць. Індывідуальная-ж вартасьць земляробскага прадукта вышэй сярэдняй таму, што ў земляробстве тэхніка ніжэй чым у прамысловасьці, і ў складзе капіталу большая доля зьменнага, у параўнаньні з нязьменным.

З гэтага відаць, што дыфэрэнцыяльная рэнта ўласьціва ўсякаму капіталістычнаму земляробству, а абсалютная толькі там, дзе існуе прыватная ўласнасьць на зямлю. «Дыфэрэнцыяльная рэнта ўзьнікае з капіталістычнага характару вытвару, а ня з прыватнай уласнасьці на зямлю; яна ня зьнікла-бы, калі-б зямля была абвешчана ўласнасьцю дзяржавы,—як гэтага жадаюць прыхільнікі зямельнай рэформы,— пры захаваньні капіталістычнага вытвару у сельскай гаспадарцы; яна пападала-б толькі тады не ў распараджэньне асобных прыватных пэрсон, а ў рукі дзяржавы. Абсалютная рэнта ўзьнікае з прыватнай ўласнасьці на зямлю і з той супярэчнасьці, у якой інтарэсы зямельнага ўласьніка знаходзяцца з інтарэсамі ўсёй грамады. Нацыяналізацыя зямлі дала-б магчымасьць зьнішчыць яе і тым самым панізіць цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты на суму гэтай рэнты».[1] «І так, пытаньне нацыяналізацыі зямлі ў капіталістычнай грамадзе рашчапляецца на дзьве, істотна розныя часткі: на пытаньне аб дыфэрэнцыяльнай і абсалютнай рэнце. Нацыяналізацыя мяняе ўладыра першай і падрывае самае існаваньне другой. Нацыяналізацыя ёсьць, значыцца, з аднаго боку прыватная рэформа ў межах капіталізму (перамена ўладара аднэй часткі дадатковай вартасьці), а з другога боку, адмена манаполіі, якая абмяжоўвае ўсё разьвіцьцё капіталізму наогул».[2] Вось чаму тэарэтычна зусім магчыма сумяшчэньне капіталістычнага вытвару з адсутнасьцю прыватнай уласнасьці на зямлю, у гэтым выпадку абсалютнай рэнты зусім ня было-б, а дыфэрэнцыяльная даставалася буржуазнай дзяржаве. Але толькі тэарэтычна, бо на справе правядзеньне нацыяналізацыі зямлі зусім не пад сілу і не па душы буржуазіі.

Як разумее нацыяналізацыю зямлі сялянства і яго ідэолёгі? Сялянства, пакутваючы адвеку пад уціскам абшарнікаў, ня зьвязвае нацыяналізацыю зямлі з якімі небудзь далейшымі пэрспэктывамі ўсяго насельніцтва. У яго ёсьць толькі адно імкненьне адабраць зямлю ў абшарнікаў, замацаваць яе за сабой, пашырыць дробнае зямляўладаньне, зрабіць зямлю ўласнасьцю народу. «Селяніну малюецца толькі пераход абшарніцкіх латыфундый ў яго рукі; селянін апранае мутную ідэю адзінства ўсіх сялян, як масы у гэтай барацьбе ў словы аб народнай уласнасьці на зямлю. Селянінам кіруе інстынкт гаспадара, якому перашкаджае бясконцае раздрабленьне сучасных форм сярэднявяко-

[1] Каутский „Аграрный вопрос“, стр. 56.
[2] Ленин, т. IX, стр. 494.

вага землеўладаньня і немагчымасьць наладзіць апрацоўку зямлі зусім ўласьціва «гаспадарскім» запатрабаваньням, калі ўся гэта сярэднявяковая перыстасьць землеўладаньня захоўваецца. Эканамічная неабходнасьць зьнішчыць абшарніцкае землеўладаньне, зьнішчыць таксама і «тут» надзельнае землеўладаньне, вось якія адмоўныя разуменьні вычэрпваюць сялянскую ідэю нацыяналізацыі. Якія формы землеўладаньня акажуцца неабходнымі пазьней для абнаўленьня дробнай гаспадаркі пераварыўшай, так сказаць, абшарніцкія латыфундыі,—аб гэтым селянін ня думае». [1]

Галоўнае патрабаваньне, як мы бачым, у сялянства зводзіцца да таго, каб падзяліць абшарніцкія землі, замацаваць дробную гаспадарку, правесьці ўраўніцельнае землекарыстаньне. Гэтую так зв. народніцкую сацыялізацыю зямлі. Сялянства і яго ідэолёгі зусім ня бачаць, што гэтыя запатрабаваньні вядуць да тых жа самых капіталістычных форм ў сельскай гаспадарцы. Бо чым вальней гаспадарка ад зямельнай цеснаты, ад абшарніцкага ўціску, ад націску сярэднявяковых адносін, тым хутчэй яна будзе разьвівацца ў капіталістычным напрамку.

Сялянская зямельная буржуазія, у моц таго, што дыфэрэнцыяльная зямельная рэнта з нацыяналізацыяй зямлі не забіраецца (хаця ў выглядзе падаткаў яе дзяржава магла-б таксама забраць), імкнецца вытлумачыць нацыяналізацыю, як пераходную стадыю да разьдзелу зямлі ў прыватную ўласнасьць.

У выпадку, калі рэвалюцыя не перарасьце рамкі буржуазна-дэмакратычнага перавароту, нацыяналізацыя зямель можа зьявіцца пераходнай ступенькай да разьдзелу, да перадачы зямлі ва ўласнасьць сялянства. Ленін аб гэтым пісаў так: «калі глядзець на нацыяналізацыю, як на меру ўсё больш выпаўнімую ў эпоху буржуазнай рэвалюцыі, дык гэткі погляд, нямінуча вядзе да дапушчэньня таго, што нацыяналізацыя можа аказацца простым пераходам да разьдзелу. Вольнай эканамічнай патрэбай, якая прымушае масу сялянства дабівацца нацыяналізацыі, зьяўляецца неабходнасьць каранным чынам абнавіць усе старыя адносіны землеўладаньня, «ачысьціць» ўсе землі, прыстасаваць іх занова да новай фэрмерскай гаспадаркі. Раз гэта так, дык ясна, што дапасавальныя фэрмеры, якія абнавілі ўсё землеўладаньне, могуць патрабаваць замацаваньня гэтых новых зямельных распарадкаў, г. зн. абвярненьне арэндаваных імі ў дзяржавы вучасткаў у ўласнасьць... Мы выводзім нацыяналізацыю не з абстрактных меркаваньняў, а з канкрэтнага падліку канкрэтных інтарэсаў канкрэтнай эпохі. І зразумела, сьмешна было-б лічыць «ідыялістымі» масу дробных гаспадароў, сьмешна было-б марыць, што яныastановяцца перад разьдзелам, раз гэтага патрабуюць іх інтарэсы». [2] Імкненьне з боку заможнага сялянства замацаваць новыя адносіны, адпаведныя патрабаваньням капіталізму, можа выклікаць разьдзел зямлі, нават пасьля рэвалюцыйнай нацыяналізацыі. Бо сялянства імкнецца пад сьцягам нацыяналізацыі ўтварыць «сялянскую чыстку зямель для капіталізма». Таму што без «чысткі» сярэднявяковых зямельных адносін ня можа адбыцца буржуазны пераварот ў земляробстве, бо капітал павінен утварыць новыя ўмовы для разьвіцьця вольнага гандлёвага земляробства, для вольнага капіталістычнага разьвіцьця гаспадаркі.

Гэтым і тлумачыцца тое, чаму самым балючым пытаньнем сялянства былі абшарніцкія латыфундыі, чаму супроць іх у першую чаргу

[1] Ленин, т. IX, стр. 490.
[2] Там-же, т. IX. стр. 514.

і былі накіраваны удары сялянскага руху. Вось як аб гэтым піша Ленін: «Цьвіком аграрнай барацьбы у нашай рэвалюцыі зьяўляюцца крапацкія латыфундыі. Сялянская барацьба за зямлю ёсьць раней усяго і больш усяго барацьба за зьнішчэньне гэтых латыфундый. Зьнішчэньне іх і поўны пераход у рукі сялянства ляжыць нясумненна па лініі капіталістычнай эвалюцыі рускай сельскай гаспадаркі. Такі шлях гэтай эвалюцыі азначаў бы найбольш хуткае разьвіцьцё капіталізму пры абвярненьні вольнага сялянства у фэрмерства». [1]

Паколькі найбольш глыбокая і радыкальная чыстка зямлі ідзе праз нацыяналізацыю, пастолькі нацыяналізацыя ёсьць іменна ўмова найхутчэйшага капіталістычнага прагрэсу ў земляробстве. Таму што яна ёсьць фактар зьнішчэньня прыватнай уласнасьці на зямлю пры максымальным уцягненьні зямлі ў гандлёвы таваразварот. «Пры вольнай арэндзе зямлі ў дзяржавы (а да гэтага зводзіцца сутнасьць нацыяналізацыі ў буржуазнай грамадзе) зямля больш уцягваецца ў гандлёвы зварот, чым пры панаваньні прыватнай зямельнай уласнасьці. Свабода прылажэньня капіталу к зямле, свабода канкурэнцыі ў земляробстве значна большая пры вольнай арэндзе, чым пры прыватнай уласнасьці». [2]

І так як бачым, Ленін прытрымліваўся таго погляду што нацыяналізацыя зямлі можа быць высунута, як асноўны лёзунг буржуазна-дэмакратычнай і ў прыватнасьці буржуазна-сялянскай рэвалюцыі. «Адносіць нацыяналізацыю зямлі да эпохі высока разьвітага капіталізму,—пісаў Ленін,—значыцца адмаўляць яе, як меру буржуазнага прагрэсу. А гэткае адмаўленьне прама супярэчыць эканамічнай тэорыі». [3]

Ленін адказваючы Плеханаву, які не дапускаў і выключаў магчымасьць нацыяналізацыі зямлі, як патрабаваньне буржуазна-дэмакратычнай сялянскай рэвалюцыі пісаў аб тым, што нацыяналізацыя не зьяўляецца завяршэньнем буржуазна-капіталістычнага разьвіцьця. «Эканамічнае значэньне нацыяналізацыі зусім ня ў тым, дзе яго сплош-ды радам шукаюць. Не ў барацьбе з буржуазнымі адносінамі стаіць яна (нацыяналізацыя—самая пасьлядоўная буржуазная мера, як даўно паказаў Маркс), а ў барацьбе з фэадальнымі адносінамі. Перыстасьць сярэднявяковага землеўладаньня тармазіць гаспадарчае разьвіцьцё; саслоўныя рамкі перашкаджаюць гандлёваму звароту; неадпаведнасьць старога землеўладаньня і новай гаспадаркі ўтварае войстрыя супярэчнасьці; абшарнікі дзякуючы латыфундыям зацягваюць існаваньне адпрацовак; сяляне запёрты быццам ў гэтто, у надзельнае землеўладаньне, рамкі якога жыцьцё ламае на кожным кроку. Нацыяналізацыя зьмятае ўсе сярэднявяковыя адносіны ў зямляўладаньні да шчэнту. Зьнішчае ўсе штучныя перагародкі на зямле, робіць зямлю супраўды вольнай... Зямля становіцца вольнай для г а с п а д а р а, [4] для таго, хто сапраўды хоча і м о ж а апрацоўваць яе так, як гэтага патрабуюць сучасныя ўмовы гаспадаркі наогул і сусьветнага рынку ў прыватнасьці. Нацыяналізацыі прысьпешыла-б сьмерць крапацтва і разьвіцьцё чыста буржуазнага фермерства на вольнай ад усякага сярэднявякоўя зямле». [5] Зьнішчэньне сярэднявяковых ланцугоў, якія скоўвалі разьвіцьцё народнай гаспадаркі Ленін бачыў толькі ў нацыяналізацыі, якая дапаможа рашуча парваць з усім мінулым у галіне зямельных адносін. Вось чаму Ленін выступаў супроць тых, хто

[1] Ленин, т. IX., стр. 456.
[2] Там-же, стр. 659.
[3] Там-же, стр. 511—512.
[4] (а не для селянина-бедняка—Г. Б).
[5] Ленин, т. IX., стр. 657—658.

імкнуўся сьцьвярджаць, што нацыяналізацыя магчыма толькі на высокай ступені разьвіцьця капіталістычнай гаспадаркі і што яна ня можа быць мерапрыемствам накіраваным супроць сярэднявякоўя.

«Сярод марксістаў,—піша Ленін,—часта сустракаецца той погляд, што нацыяналізацыя ажыцьцявіма толькі на высокай ступені разьвіцьця капіталізму, калі ён ужо зусім падрыхтуе ўмовы «аддзяленьне земляробаў ад земляробства» (праз дапамогу арэнды і гіпатэк). Дапушчаюць, што буйнае капіталістычнае земляробства павінна ўжо скласцца, раней чым ажыцьцявіцца нацыяналізацыя зямлі, якая адсякае рэнту і не закранае гаспадарчага арганізму. Ці правідловы гэты погляд? Тэарэтычна ён ня можа быць угрунтаваны, прамымі спасылкамі на Маркса ня можа быць падтрыманы, дадзеныя вопыту хутчэй гавораць супроць яго.

Тэарэтычна нацыяналізацыя прадстаўляе з сябе «ідэальна» чыстае разьвіцьцё капіталізму ў земляробстве. Іншая справа пытаньне аб тым ці часта ажыцьцявіма ў гісторыі гэткае складаньне ўмоў і гэткія суадносіны сіл якія дапускаюць нацыяналізацыю ў капіталістычнай грамадзе. Але яна зьяўляецца ня толькі вынікам а таксама і ўмовай хуткага разьвіцьця капіталізму. Думаць што, нацыяналізацыя магчыма толькі пры вельмі высокім разьвіцьці капіталізма ў земляробстве— значыць, бадай, адмаўляць нацыяналізацыю, як меру буржуазнага прагрэсу, бо высокае разьвіцьцё земляробскага капіталізму ўсюды паставіла ўжо на чаргу (і паставіць няўхільна ў свой час ў новых краінах) сацыялізацыю земляробскага вытвару, сацыялістычны пераварот». [1]

Пасьля ўсяго сказанага аб разуменьні нацыяналізацыі можна зрабіць адзін асноўны вывад, што трэба адрозьніваць нацыяналізацыю зямлі, як патрабаваньне буржуазна-сялянскай рэвалюцыі—мэта якой, разьвязаньне вытворчых сіл для пасьпяховага разьвіцьця капіталістычных зямельных адносін, ад яе аграмаджаньня, па аналёгіі фабрык і руднікоў, як аднаго з патрабаваньняў пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі. Нацыяналізацыя зямлі ўзятая сама па сабе, без падліку іншых палітычных і эканамічных умоў, нічога яшчэ не гаворыць. У тым выпадку, калі палітычная ўлада пасьля рэвалюцыі застаецца ў руках буржуазіі, дык нацыяналізацыя зямлі ў гэты момант зьявілася-б ня больш, як мастом для пераходу к разьдзелу і замацаваньню прыватнай зямельнай уласнасьці, для ўтварэньня гаспадаркі на чыста капіталістычных пачатках. Калі супадае буржуазная рэвалюцыя з пралетарска-сацыялістычнай, у гэтым выпадку нацыяналізацыя зямлі можа зьявіцца тым шляхам па якім пралетарыят павядзе сялянства к сацыялізму, к наладжваньню адзінай плянавай грамадзкай гаспадаркі. Як бачым нацыяналізацыя зямлі мае два погляды: адзін накіраваны да капіталізму, другі да камунізму.

З пункту погляду разьвіцьця капіталізму, нацыяналізацыя зьяўляецца яго падставай, але ў той жа час нацыяналізацыя ўтварае больш спрыяючыя ўмовы, больш гібкія ў сэнсе пераходу да сацыялізму. Пры дыктатуры пралетарыяту, пры палітыцы рабочай клясы, якая бярэ курс на аграмаджаньне ўсіх сродкаў вытвару «і нацыяналізацыя зямлі ў аграрнай праграме набывае іншую пастаноўку. Іменна: нацыяналізацыя зямлі ёсьць ня толькі апошняе слова буржуазнай рэвалюцыі, але і крок да сацыялізму». [2] Узяўшы ўладу ў свае рукі, пралетарыят супроцьставіць капіталістычнай прыватнай уласнасьці сацыялістычныя

[1] Ленин, т. IX, стр. 510–511.
[2] Там-же, стр. 726.

формы ўладаньня зямлёй. Вось чаму ўзмацненьне і пашырэньне сацыялістычнага спосабу вытвару ў народнай гаспадарцы ёсьць неабходная ўмова для пераходу сялянства ад індывідуальнай капіталістычнай гаспадаркі да грамадзкай сацыялістычнай.

5.

Разьвіцьцё сацыяльных супярэчнасьцяў у горадзе і вёсцы дасягнула сваёй вышэйшай ступені ў 1917 годзе. Вайна і тыя цяжкасьці, якія яна выклікала, узмацнілі і паглыбілі гэтыя супярэчнасьці. Вырашэньне іх магчыма было шукаць у вёсцы толькі праз нізрынуцьце абшарніцка-буржуазнай улады, шляхам перадачы зямлі сялянам і ўстанаўленьня Савецкай ўлады.

Стыхійны масавы рух сялянства пайшоў іменна шляхам барацьбы за зямлю. Увесь час пасьля лютаўскай рэвалюцыі прадстаўляў з сябе малюнак масавага сялянскага руху, які адчынена выступаў супроць абшарнікаў. Ня было літэральна ні воднай мясцовасьці адкуль не прыходзілі-б зьвесткі аб захваце сялянствам зямлі, аб руйнаваньні абшарніцкіх маенткаў, безадкладны захват зямлі вось быў лёзунг, які ня толькі быў выкінуты бальшавікамі з метаю ліквідацыі абшарніцкага ладу, але і сялянскімі масамі, якія ажыцьцяўлялі сваё адвечнае імкненьне і мару да зямлі.

Часовым буржуазным урадам вырашаліся пытаньні аб тым, як прымірыць спрэчкі паміж сялянствам і абшарнікамі, пытаньні аб арэндзе і іншыя, у той час як мільённыя масы сялянства магутным уздымам захоплівалі абшарніцкія землі і зьнішчалі абшарніцкі лад у вёсцы.

Партыя бальшавікоў паставіла правільна дыягноз тым падзеям, якія разгортваліся ў вёсцы, і на сваёй канфэрэнцыі ў красавіку месяцы 1917 г. наступным чынам фармулявала сваю палітыку ў гэты пэрыяд на вёсцы: «Існаваньне абшарніцкага зямляўладаньня ў Расіі,— гаворыцца у гэтай рэзалюцыі, ёсьць матэрыяльны аплот улады фэўдалаў абшарнікаў і грунт магчымага аднаўленьня манархіі. Гэта земле-ўладаньне няўхільна асуджае пераважную масу насельніцтва Расіі— сялянства—на жабрацтва, кабалу і забітасьць, а ўсю краіну на адсталасьць ва ўсіх галінах жыцьця. Сялянскае землеўладаньне ў Расіі як надзельнае (абшчыннае і падворнае), так і прыватнае (арэндаваныя і купчыя землі), зьнізу да верху ўдоўж і ўперак акутана старымі паўкрапацкімі сувязямі і адносінамі падзелам сялян на разрады, як спадчына часоў прыгоннага права, празпалосіцай і г. д. Неабходнасьць зламаць усе гэтыя застарэўшыя і шкодныя перагародкі, неабходнасьць разгарадзіць зямлю, перабудаваць усе адносіны землеўладаньня і земляробства па новаму, дапасавана да новых умоў усерасійскай і сусьветнай гаспадаркі, складае матэрыяльны грунт імкненьня ў сялянства да нацыяналізацыі ўсіх зямель дзяржавы».

І супраўды, аграрная рэвалюцыя у гэты час усемі сіламі імкнулася зламаць старыя перашкоды ў выглядзе абшарніцкага ладу і сялянства стыхійна імкнулася да нацыяналізацыі ўсіх зямель. Прыхадзіўшыя зьвесткі казалі аб тым, што сялянства прыступіла да разьдзелу паміж сабою абшарніцкіх зямель і маенткаў. Яно рвала путы старых буржуазна-абшарніцкіх парадкаў. Эсэраўска-меншавіцкі часовы ўрад адмовіўся ад сваёй праграмы, спалохаўся масавага рэвалюцыйнага сялянскага руху і імкнуўся яго падавіць. У сваёй дэклярацыі ад 25 верасьня ён казаў: «Непасрэднае навядзеньне парадкаў у зямельных адносінах павінна быць ускладзена на зямельныя камітэты, але без парушэньня існуючых форм землеўладаньня». Гэткім чынам часовы ўрад выступіў

у абарону існуючых форм зямляўладаньня за захаваньне і непарушэньне прыватнай уласнасьці на зямлю.

Аднак часовы ўрад ня мог прадбачыць, што ўсе папярэднія супярэчнасьці, якія выявіліся з вялізарнай сілай у 1917 г. маглі быць вырашаны толькі рашучымі мерапрыемствамі, якія-б маглі задаволіць інтарэсы рабочых і сялян. Іншы шлях азначаў па сутнасьці барацьбу з няўхільнымі законамі гістарычнага разьвіцьця, што прывяло-б да нямінучай няўдачы.

Адна партыя бальшавікоў правільна ацаніла імкненьні шматмільённых працоўных мас і ў той жа рэзалюцыі, вытрымку з якой мы ўжо прыводзілі, запісала: «Партыя пралетарыяту ўсемі сіламі вядзе барацьбу за неадкладную і поўную канфіскацыю ўсіх абшарніцкіх зямель у Расіі, а таксама удзельных, царкоўных, габінэцкіх і іншых. Партыя рашуча выступае за безадкладны пераход усіх зямель у рукі сялянства, арганізаванага ў саветы сялянскіх дэпутатаў, альбо ў іншыя супраўды—і цалкам дэмакратычна абраныя і зусім незалежныя ад абшарнікаў і чыноўнікаў органы мясцовага самакіраваньня. Партыя пралетарыяту патрабуе нацыяналізацыі ўсіх зямель у дзяржаве. Азначаная перадача права ўласнасьці ўсей зямлі ў рукі дзяржавы, нацыялізацыя, перадае права разьмеркаваньня зямлі ў рукі мясцовых дэмократычных устаноў. Партыя павінна рашуча весьці барацьбу як супроць часовага ўраду, які вуснамі Шынгарова і калектыўнымі сваімі выступленьнямі навязваў сялянам—«дабраахвотную згоду з абшарнікамі»... так і супроць тых, дробнабуржуазных хістаньняў большасьці народнікаў, меншавікоў і эсэраў, якія раюць сялянам не браць усёй зямлі да ўстаноўчага збору. Партыя раіць сялянам браць землі організавана, пры гэтым недапушчаючы псаваньня маемасьці і імкуцца да павялічэньня вытвару».

Вось лінія партыі бальшавікоў у гэты пэрыад. Яна поўнасьцю і цалкам апраўдвалася ўсім рухам рэвалюцыйнай барацьбы і заваёвамі, якія мелі і рабілі рабочыя і сяляне. Часовы ўрад, які па сутнасьці вёў барацьбу з рабочымі і сялянамі, толькі прысьпешыў гэтым свой канец. Палітыка-ж партыі бальшавікоў імкнулася аб'яднаць сялянства на грунце асноўнага пытаньня вёскі—на пытаньні зямлі. Гэта дапамагала партыі бальшавікоў зрабіцца правадыром сялянскіх мас. У той жа красавіцкай рэзалюцыі гаворыцца: «у залежнасьці ад таго, ці ўдасца гарадзкому пралетарыяту павесьці за сабою вясковы і далучыць к яму масу паўпралетараў вёскі, альбо гэта маса пойдзе за сялянскай буржуазіяй, якая імкнецца к саюзу з Гучковым, Мілюковым, капіталістымі, абшарнікамі і контррэвалюцыянэрамі наогул,—у залежнасьці ад гэтага вызначаецца лёс і ісход рускай рэвалюцыі, паколькі пралетарская рэвалюцыя, якая распачалася у Эўропе, не акажа на наш бок непасрэднага ўплыву».

І так, партыя пралетарыяту як у гэты пэрыад, так і ва ўсе апошнія гады, вядзе за сабою сялянства. Кастрычнікавая рэвалюцыя зьявілася вынікам перамогі пралетарыяту і сялянства над абшарніцка буржуазным ладам і дала магчымасьць у першую чаргу вырашыць асноўнае пытаньне рэвалюцыі, пытаньне аб зямле.

Адразу-ж пасьля Кастрычнікавага перавароту быў выдадзен гістарычны дэкрэт, які радыкальна вырашаў зямельнае пытаньне. Першыя два пункты дэкрэту гаварылі, што: «Абшарніцкая ўласнасьць на зямлю адмяняецца незабаўна, без усякага выкупу. Абшарніцкія маёнткі, таксама, як усе землі ўдзельныя, манастырскія, царкоўныя, з усім жывым і мёртвым інвэнтаром, сядзібнымі будынкамі і ўсемі прыналежнасьцямі перахадзяць у распараджэньне валасных зямель-

ных камітэтаў і павятовых саветаў сялянскіх дэпутатаў, аж да ўстаноўчага збору».[1] Гэты дэкрэт, як мы бачым, назаўсёды ліквідаваў абшарніцкую ўласнасьць на зямлю.

«Трэба думаць,—кажа Ленін на другім зьезьдзе Саветаў 26-га кастрычніка 1917 г.,—што рэвалюцыя даказала і паказала, наколькі важна, што пытаньне аб зямле было пастаўлена ясна. Выбух узброенага паўстаньня другой Кастрычнікавай рэвалюцыі ясна даказвае, што зямля павінна быць перададзена ў рукі сялян. Праступленьне рабіў бы той урад, які скінуты, і згодніцкія партыі меншавікоў і эсэраў, якія пад рознымі повадамі адцягвалі вырашэньне зямельнага пытаньня і тым самым прывялі краіну да заняпаду і да сялянскага паўстаньня. Хлусьнёй і палахлівым падманам раздаюцца іх словы аб пагромах і анархіі ў вёсцы... Выклікаўшы паўстаньне ён пачаў крычаць аб пагромах і анархіі, якія сам-жа выклікаў. Ён хацеў задушыць яго жалезам і крывёю, але сам быў зьмецяны ўзброеным паўстаньнем рэвалюцыйных салдат, матросаў і рабочых. Урад рабоча-сялянскай рэвалюцыі ў першую чаргу павінен вырашыць пытаньне аб зямле,—пытаньне, якое можа ўціхамірыць і задаволіць вялізарныя масы сялянскай беднаты».[2]

У выніку першага дэкрэту сялянства атрымала каля 60 мільёнаў гэктараў абшарніцкай зямлі, каля $3\frac{1}{2}$ мільёнаў царкоўнай і каля 140 мільёнаў гэктараў, якія складалі казенныя землі. Плата за арэнду, ад якой вызваліліся сяляне, складала каля 450 мільёнаў рублёў у год. Гэткім чынам, першы перыяд рэвалюцыі рашыў раней усяго пытаньне аб зямельнай уласнасьці і аб ліквідацыі абшарніцкага ладу. Фактычна зямля паступіла ў разьдзел сялянству.

Ворагі бальшавікоў убачылі ў гэтым факце здраду асноўнай лініі марксыцкіх поглядаў на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Яны заяўлялі, што бальшавікі, атрымаўшы уладу ў свае рукі, ня толькі не забаранялі буйную ўласнасьць, і буйную сельскую гаспадарку, але наадварот аддалі яе ў разьдзел дробным вытворцам—сялянам. На гэта Ленін адказвае так: «Наогул кажучы, падтрыманьне дробнай уласнасьці рэакцыённа, бо яна накіроўваецца супроць буйнай капіталістычнай гаспадаркі, затрымліваючы, значыцца, грамадзкае разьвіцьцё, зацямняе і згладжвае клясавую барацьбу. У дадзеным-жа выпадку мы хочым падтрымаць дробную ўласнасьць імення ня супроць капіталізму, а супроць крапацтва,—у дадзеным выпадку мы падтрыманьнем дробнага сялянства даём вялікі штуршок разьвіцьцю клясавай барацьбы».[3] Бальшавікі пайшлі ў вырашэньні зямельнага пытаньня шляхам, па якому ішлі ўсе сялянскія масы. Досыць сказаць, што аснова дэкрэту была складзена на грунце 242 наказаў мясцовых саветаў сялянскіх дэпутатаў. У другім месцы Ленін аб гэтых варожых крыках па адрасу бальшавікоў сказаў наступнае: «Тут раздаюцца галасы, што сам дэкрэт і наказ складзены сацыял-рэвалюцыянэрамі. Няхай так. Ці ня ўсё роўна, кім ён складзены, але, як дэмакратычны ўрад, мы ня можам абыйсьці пастанову народных нізоў хаця-б мы з ёй былі нязгодны. У агне жыцьця, прыстасоўваючы яго на практыцы, праводзячы яго на мясцох, сяляне самі зразумеюць дзе праўда... Мы павінны ісьці за жыцьцём, мы павінны прадстаўляць поўную волю творчасьці народным масам. Стары ўрад, скінуты ўзброеным паўстаньнем, хацеў вырашыць зямельнае пытаньне з дапамогаю нязьменнай старой царскай бюрократыі. Але замест вырашэньня

[1] Ленин, т. XV. стр. 20.
[2] Ленин т. XV. стр. 18—19.
[3] Ленин т. IX. стр. 290.

пытаньня бюрократыя толькі вяла барацьбу супроць сялянства. Сяляне абы-чаму навучыліся за час нашай васьмімесячнай рэвалюцыі, яны самі хочаць вырашыць усе пытаньні аб зямле. Таму мы выказваемся супроць усякіх папрэвак у гэтым законапраэкту, мы ня хочым дэталізацыі, таму што мы пішам дэкрэт, а не праграму дзеяньняў. Расія вялікая, і мясцовыя ўмовы ў ёй розныя; мы верым, што сялянства само лепш нас зможа правільна, так, як трэба, вырашыць пытаньне. Ці ў нашым духу, ці ў духу эсэраўскай праграмы,—ня ў гэтым сутнасьць, сутнасьць у тым, каб сялянства атрымала цьвёрдую ўпэўненасьць, што абшарнікаў у вёсцы больш няма, што няхай самі сяляне вырашаюць усе пытаньні, няхай самі яны наладжваюць сваё жыцьцё». [1] У гэтых словах выкладзена ўся тая палітыка, якой кіравалася Савецкая ўлада ў гэтыя першыя месяцы ў зямельным пытаньні.

Ворагі сацыялістычнай рэвалюцыі не разумелі таго, што вырашыць усе задачы ў адзін дзень ня можа. Трэба было ў першую чаргу вырашыць галоўную задачу,—нізрынуцьцё абшарніцка-буржуазнага ладу, а гэта нізрынуцьцё прадпалагала кораное рашэньне зямельнага пытаньня—перадачу зямлі сялянам, якой яны вякамі чакалі. А рашыць гэтую першую задачу можна было толькі пры падтрыманьні ўсяго сялянства. Другой задачай у гэты пэрыяд была задача ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту. І трэцяй задачай, якую можна было вырашыць толькі на працягу некалькіх гадоў, гэта разьвіцьцё вытворчых сіл, на грунце новых эканамічных адносін і ісьці па шляху ўтварэньня сацыялістычнага ладу. Перадачай абшарніцкай зямлі ў рукі сялянства вырашалася першая і галоўная задача рэвалюцыі. Кастрычнікаўскі пераварот, гэткім чынам, аформіў тую справу, якую рабілі шматмільённыя сялянскія масы.

Канешне, ураўніцельнае землекарыстаньне ў умовах таварнай гаспадаркі не зьяўляецца элементам сацыялістычнай рэвалюцыі. Ленін аб гэтым пісаў яшчэ ў 1905 годзе, калі разьбіраў праграму сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, наступнае: «Барацьба сялян з абшарнікамі цяпер рэвалюцыйна, канфіскацыя абшарніцкіх зямель у дадзены момант эканамічнай і палітычнай эвалюцыі ва ўсіх адносінах рэвалюцыйна і мы гэтую рэвалюцыйна-дэмакратычную меру падтрымліваем. Але называць гэтую меру «сацыялізацыяй» падманьваць сябе і народ наконт магчымасьці «ураўніцельнага» землекарыстаньня пры таварнай гаспадарцы, гэта ўжо ёсьць рэакцыйная дробна-буржуазная ўтопія, якую мы прадстаўляем сацыял-рэвалюцыянэрам». [2]

Сьцьвярджэньне, што ўраўніцельнае землекарыстаньне можа зьнішчыць эксплёатацыю, ёсьць ілюзія, якая яшчэ больш шкодна, калі ёй надаюць значаньне, як меры сацыялістычнай. Пры існаваньні прыватнай уласнасьці на сродкі вытвару, пры наяўнасьці рынку і працэсаў прыватнага накапленьня, ураўніцельнае землекарыстаньне ёсьць ня больш як падман і ўтопія.

Нават праводзячы закон аб сацыялізацыі, закон «душой» якога зьяўляецца ўраўніцельнае зямлякарыстаньне, бальшавікі заяўлялі, што гэта ідэя ня наша, што мы з гэтым лёзунгам ня згодны, што гэта ня ёсьць камунізм, што гэта не адпавядае бальшавіцкім поглядам, але гэта ў інтарэсах большасьці сялянскіх мас таму мы яе і праводзім. Разам з тым бальшавікі будуць дапамагаць сялянству зьніштожыць дробна-буржуазныя лёзунгі і перайсьці да сацыялістычных. «Ідэя равенства,—піша Ленін,—дробных вытворцаў рэакцыйна, як спроба

[1] Ленин т. XV. стр. 19—20.
[2] Ленин т. IV. стр. 512.

шукаць на заду, а не ўперадзе рашэньня задач сацыялістычнай рэвалюцыі. Пралетарыят нясе з сабою не сацыялізм роўнасьці дробных гаспадарак, а сацыялізм буйнага аграмаджанага вытвару». [1]

У лёзунгу ўраўніцельнага працоўнага землекарыстаньня, землекарыстаньне без ужываньня наёмнай сілы, да чаго таксама імкнулася сялянства, сказалася тая двоістасьць, якая ўласьціва сялянству, якое можа пайсьці і к капіталізму і к сацыялізму. Канечна, ураўніцельнае землекарыстаньне, пасьля існаваўшых паўфэўдальных адносін, ёсьць мера прагрэсіўная, але пакольки народнікамі гэтая мера разглядвалася, як апошняя мэта рэвалюцыі, пастолькі гэта зьяўляецца рэакцыйнай утопіяй, з якой марксызм і вёў барацьбу.

І так, нацыяналізацыя зямлі, ураўніцельнае землекарыстаньне ў частцы прыцягненьня большасьці сялянства на бок пролетарыяту і адмена наёмнай працы ў земляробстве, усе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца эканамічнай праграмай дробных сялян у рэвалюцыі, але пры зьліяньні сялянскай рэвалюцыі з пралетарска-сацыялістычнай, як гэта было ў нашай рэвалюцыі, пры кіраўнічай ролі рабочай клясы ў гэтай рэвалюцыі, усе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца ступенькай к наладжваньню новых вышэйшых форм у сельскай гаспадарцы, ступенькай пераходу яе на сацыялістычныя рэйкі.

---

[1] Ленин т. VIII. стр. 350.

# IV. Марксызм аб шляхох разьвіцьця вёскі.

1. Перавага буйнай гаспадаркі і дробная сялянская гаспадарка. 2. Разьвіцьцё вёскі пры дыктатуры пралетарыяту. 3. Практычныя дасягненьні ў галіне аграмаджаньня сельска-гаспадарчага вытвору. 4. Падвядзеньне тэхнічнай базы пад сельскую гаспадарку.

1.

Разьвіцьцё земляробства, як і прамысловасьці, ідзе адным шляхам, на груньце агульных законаў, якія вядуць урэшце да перамогі буйнага вытвару над дробным, пры чым прамысловасьць аказвае на характар разьвіцьця сельскай гаспадаркі вялікі ўплыў. Вядома, як гэта ўжо ўстаноўлена намі ў першым разьдзеле, справа тут ідзе толькі аб агульных тэндэнцыях разьвіцьця прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Калі-ж разглядваць дэталёва, дык мы ўбачым, што земляробства мае свае ўласьцівыя яму, спэцыфічныя рысы і асаблівасьці, якія адрозьніваюць яго ад прамысловасьці. Да такіх асаблівасьцяў можна аднесьці: сувязь земляробства з хатняй гаспадаркай, сельская гаспадарка знаходзіцца пад непасрэдным уплывам прыродных фактараў, як глеба, клімат, зьвязана з сэзоннасьцю вытвару і г. д. Усё гэта накладвае сваю пячатку на разьвіцьцё сельска-гаспадарчага вытвару ў цэлым і на разьвіцьцё буйнай і дробнай гаспадаркі.

Раней чым перайсьці да разгляду пераваг, якія мае буйная гаспадарка над дробнай, мы застановімся на поглядах заснавальнікаў марксызму аб шляхох разьвіцьця вёскі.

Энгельс у сваім палітычным запаведу піша: «і Маркс і я ніколі не сумневаліся, што пры пераходзе к камуністычнай гаспадарцы нам патрэбна будзе ў шырокім маштабе скарыстаць каапэрацыйны вытвар. Толькі трэба так наладзіць, каб грамада, гэта ёсьць раней за ўсё дзяржава, захавала за сабой уласнасьць на сродкі вытвару і каб гэткім чынам прыватныя інтарэсы асобных каапэратываў не супярэчылі інтарэсам усёй грамады».[1] Цікава тое, што яшчэ ў 1884 годзе Энгельс прапанаваў сацыял-дэмакратам патрабаваць аддачы зямель таварыствам сельска-гаспадарчых рабочых для супольнай апрацоўкі. «Калі ў райхстагу будуць уносіць прапановы, дык вось адно з іх, якое ня трэба забываць. Дзяржаўныя землі ў большасьці выпадкаў аддаюцца ў арэнду буйным арэндатарам, а невялічкія кавалкі прадаюцца сялянам, гаспадарка якіх такая маленькая, што новыя ўласьнікі прымушаны прынімацца на працу ў буйныя гаспадаркі, неабходна патрабаваць аддачы у арэнду буйных неразьдзеленых дзяржаўных зямель таварыствам сельска-гаспадарчых рабочых для супольнай апрацоўкі». Энгельс пры гэтым якраз мала спадзяваўся, што пануючыя клясы ў сваём райхстагу пойдуць на гэткую меру. «Нямецкая імпэрыя ня мае гэткіх зямель, і гэта зьявіцца повадам, каб адхіліць прапанову, але я думаю, што гэтую галавешку патрэбна

---

[1] Энгельс. „Политическое завещание“ изд. 1922 г. стр. 18.

кінуць у асяродзішча сельска-гаспадарчых рабочых, а гэта не раз можна зрабіць у час частых спрэчак па пытаньнях, зьвязаных з дзяржаўным сацыялізмам. Толькі гэткім чынам можна аўладаць сельска-гаспадарчымі рабочымі. Гэта лепшы спосаб сказаць ім, што ім прадстаіць надалей весьці грамадзкую гаспадарку на буйных маентках цяперашніх паноў і дваран». [1]

Тут мы бачым Энгельс ясна выступае не за разьдзел буйных абшарніцкіх гаспадарак, а за арганізацыю на іх буйных таварыстваў з сельска-гаспадарчых рабочых. Вядома, што гэта чыста сацыялістычнае запатрабаваньне не магло ажыцьцявіцца пры буржуазным ладзе. І Энгельс прапанаваў яго высунуць зараз выходзячы з чыста агітацыйных меркаваньняў, каб прыцягнуць на свой бок сельска-гаспадарчых рабочых. Гэта патрабаваньне магло ажыцьцявіцца толькі ў пераходны к сацыялізму пэрыяд, Энгельс жа яго выстаўляў, ведаючы, што ніякі буржуазны ўрад ня можа яго правесьці, толькі для таго, каб скампромэнтаваць усе буржуазныя партыі ў вачох сельска-гаспадарчага пралетарыяту.

Энгельс разьвіваючы і падмацоўваючы думку аб неабходнасьці пераходу к буйнай аграмаджанай гаспадарцы піша: «...атрымаўшы дзяржаўную ўладу, мы ня будзем думаць аб тым, каб гвалтоўна экспрапрыіраваць дробных сялян (з узнагародай ці не—гэта ўсё роўна), як гэта мы прымушаны будзем зрабіць з буйнымі землеўласьнікамі. Наша задача ў адносінах да дробных сялян складаецца раней за ўсё з таго, каб іх прыватны вытвар і прыватную ўласнасьць перавесьці ў таварыскую, але не гвалтоўна, а праз прыклад і прапановы грамадзкай дапамогі для гэтай мэты. І тады ў нас, зразумела, будзе досыць сродкаў, каб прадставіць селяніну ўсе перавагі, якія ўжо і цяпер павінны быць яму растлумачаны». [2] Так па думцы Маркса і Энгельса, пры ўладзе ў руках пралетарыяту, дробны селянін павінен ад прыватнай уласнасьці перайсьці к калякты ўнай, і што дробныя сялянскія гаспадаркі абвернуцца ў буйныя таварыскія і зробяцца адным з элементаў сацыялістычнай грамады.

Даказваючы нямінучасьць гібелі дробных сялян пры капіталізьме, Энгельс піша, што пры пераходзе ўлады ў рукі пралетарыяту апошні павінен ім: «рэкамэндаваць і тут аб'яднаньне гаспадарак у таварыствы ў асяродзішчы якіх эксплёатацыя наёмнай працы магла-б ўсё больш і больш зьмяншацца і якія-б маглі паступова стаць галінамі вялікага вытворчага нацыянальнага таварыства з роўнымі правамі і абавязкамі. Калі гэтыя сяляне разумеюць, няўхільнасьць гібелі іх цяперашняга спосабу вытвару і ня зробяць з гэтага неабходныя вывады, дык няхай яны ідуць да нас і нашым абавязкам будзе пасільна аблегчыць таксама і ім пераход у новую форму вытвару». [3]

У тых працах, дзе Маркс крытыкаваў рыкардаўскі доказ аб тэндэнцыі нормы прыбылі да зьніжэньня, рост рэнты і рост заработнай платы, якія ў Рыкардо грунтаваліся на законе зьмяншаючай пладлівасьці зямлі, ён ня толькі разьбіў і адкінуў гэты «закон», але і лішні раз падмацаваў сваю думку аб няўхільнасьці пераходу дробнай сялянскай гаспадаркі к аграмаджанаму землятробству, што вядзеньне гаспадаркі на невялічкім кавалку зямлі нерацыянальна.

І так, «таварыствы» і «каапэрацыйны вытвар» па думцы Маркса і Энгельса, павінны быць у шырокім масштабе скарыстаны ў земля-

[1] Энгельс „Политическое завещание“ изд. 1922 г., стр. 14.
[2] Энгельс „Крестьянский вопрос“ стр. 37.
[3] Там -же стр. 41.

Бібліятэка ... імя ...

робстве пры пераходзе к камуністычнай грамадзе. Маркс і Энгельс далі асноўныя рысы пераходу сялянства да сацыялістычных форм вытвару, само-ж гэта вучэньне аб ўзаемаадносінах пралетарыяту і сялянства разьвіў і абвярнуў у супраўднае кіраўніцтва пры практычнай працы Ленін у руху Расійскай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У сваіх артыкулах аб каапэрацыі Ленін адзначыў, што разьвіцьцё сельскай гаспадаркі павінна пайсьці шляхам уцягненьня большасьці сялян у сацыялістычнае будаўніцтва праз каапэрацыю, шляхам паступовага ўрастаньня ў сельскую гаспадарку пачаткаў каляктывізму, як у галіне збыту, гэтак і ў галіне вытворчасьці.

Вось што гаварыў Ленін аб шляхох разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі: «Пры ўмове максымальнага каапэраваньня насельніцтва само сабою дасягае мэты той сацыялізм, які раней выклікаў законныя ўсьмешкі... каапэравацъ у дастатковай ступені шырока і глыбока рускае насельніцтва пры панаваньні нэпу, ёсьць усё, што нам трэба, таму што мы зараз знайшлі тую ступень злучэньня прыватнага інтарэсу, прыватнага гандлёвага інтарэсу, праверкі і кантроля яго дзяржавай, сьцепень падпарадкаваньня яго агульным інтарэсам, якая раней складала камень прытыканьня для шмат якіх сацыялістых. Запраўды, улада дзяржавы на ўсе буйныя сродкі вытворчасьці, улада дзяржавы ў руках пралетарыяту, саюз гэтага пралетарыяту з многімі мільёнамі дробных і найдрабнейшых сялян, забесьпячэньня кіраўніцтва за гэтым пралетарыятам у адносінах да сялянства і т. д.,—ці-ж гэта ня ўсё, што патрэбна для таго, каб з каапэрацыі, з аднэй толькі каапэрацыі, на якую мы раней глядзелі, як на гандлярскую справу і на якую з пэўнага боку маем права глядзець так і цяпер, пры нэпе,— ці-ж гэта ня ўсё канечнае для пабудаваньня поўнага сацыялістычнага грамадзтва? Гэта яшчэ не пабудаваньне сацыялістычнага грамадзтва, але гэта ўсё канечнае і выстарчаючае для такога пабудаваньня». [1]

Кажучы далей аб неабходнасьці фінансаваньня і падтрыманьня каапэрацыі, як новага прынцыпу арганізацыі грамадзкага ладу, пры дыктатуры пралетарыяту, Ленін заяўляе, што: «Кожны грамадзкі лад паўстае толькі пры фінансавым падтрыманьні пэўнай клясы. Ці-ж трэба напамінаць аб тых сотнях і сотнях мільёнаў рублёў, якія каштавала нараджэньне «свабоднага» капіталізму? Цяпер мы павінны зразумець і ажыцьцявіць на справе тое, што ў сучасны момант той грамадзкі лад, які мы павінны падтрымліваць звыш звычайнага, ёсьць лад каапэрацыйны». [2]

Пры капіталістычным парадку разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ідзе праз найглыбейшую дыфэнцыяцыю сялянства з утварэньнем буйных латыфундый на адным баку і масавым абядненьнем—на другім. Пры дыктатуры-ж пралетарыяту, калі нацыяналізаваны ўсе сродкі вытвару, шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі зусім іншы. «У Расіі разьвіцьцё сельскай гаспадаркі павінна пайсьці іншым шляхам, шляхам каапэраваньня мільёнаў дробнага і сярэдняга сялянства. Шляхам разьвіцьця на вёсцы масавай каапэрацыі, падтрымліваемай у парадку ільготнага крэдытаваньня... Бадай ці трэба даводзіць, што вялізарная большасьць сялянства ахвотна стане на гэты новы шлях разьвіцьця, адкінуўшы прэч шлях прыватна-капіталістычных латыфундый і наёмнага нявольніцтва, шлях галечы і зруйнаваньня». [3] Вось чаму шлях масавага каапэраваньня мільёнаў сялянскіх гаспадарак раней за ўсё па

[1] Ленин т. XVIII ч. II. стр.129—130.
[2] Там-же стр. 130—131.
[3] Сталин „Пытаньні ленінізму“ стар. 50.

лініі сельска-гаспадарчай каапэрацыі, шлях насаджэньня асноў калектывізму сярод сялянства—зьяўляецца галоўным шляхам, па якім пойдзе сельская гаспадарка да сацыялізму. Пасьля гэтага зразумела, чаму барацьба за новы шлях разьвіцьця земляробства, барацьба за уцягненьне галоўнай масы сялянства ў справу будаўніцтва новых форм жыцьця зьяўляецца чарговай задачай нашай краіны.

Шмат маецца розных відаў і форм сельска-гаспадарчай каапэрацыі, але адным з важнейшых яе відаў, ёсьць вытворчае аб'яднаньне ўсіх сіл і сродкаў дробнага сялянства для супольнага вядзеньня гаспадаркі, на аграмаджаных падставах. Такая буйная гаспадарка зьяўляецца ня толькі патрэбнай формай для пасьпяховага пераходу да сацыялізму, але дае і зараз шэраг эканамічных і тэхнічных пераваг у параўнаньні з дробнай.

У свой час ня мала было спрэчак па пытаньню аб перавазе буйнай альбо дробнай гаспадаркі ў земляробстве. Цэлая народніцкая школа ў Расіі, вядомыя рэвізіяністы Захаду, як Давід, Гэрц Фольмар і іншыя доказвалі перавагу дробнай працоўнай гаспадаркі над буйнай. Давід рашуча заяўляў: «Мы без хістаньняў выстаўляем аднэй з першых неабходных задач абвярненьня буйных сельскіх гаспадарак у дробна сялянскія».

Марксызм даказваў, што за шматлікасьцю форм народнай гаспадаркі захоўваецца адзіны працэс разьвіцьця вытворчых сіл, які няўхільна вядзе да перамогі буйнага вытвару, як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі. Марксызм сьцьвярджаў, што буйная земляробская гаспадарка мае ня толькі перавагу над дробнай, але і няўхільна яе выціскае.

Разгледзім асноўныя перавагі буйнай гаспадаркі з эканамічнага і тэхнічнага пункту погляду.

1. Важнай эканамічнай перавагай буйнай сельскай гаспадаркі над дробнай зьяўляецца непараўнаўча выгаднае становішча буйнай гаспадаркі ў галіне крэдыту. Сельская гаспадарка ня можа весьціся без капіталу, а яго набыцьцё і асабліва ў вялікім разьмеры зусім не пад сілу дробнай гаспадарцы. Буйная-ж гаспадарка, маючы вялікую маемасьць у выглядзе будоўлі, інвэнтару і прадукцыі, гэтым забясьпечвае сабе давераньне ў крэдыту. На атрыманыя грошы яна можа ўтварыць тыя ці іншыя гаспадарчыя мерапрыемствы, унесьці дадатковыя сродкі на далейшае палепшаньне сваёй гаспадаркі.

2. Самым галоўным і важным зьяўляецца тое, што буйная гаспадарка шмат выйграе ад магчымасьці падзяленьня працы, чаго ня можна зрабіць у дробнай гаспадарцы. Усім вядома, якое вялікае значэньне для прадукцыйнасьці мае падзяленьне працы.[1] Асабліва яскрава гэта відаць на прыкладзе прамысловасьці, але і сельская гаспадарка ў гэтых адносінах не прадстаўляе выключэньне. Тут падзел працы і спэцыялізацыі ідзе як унутры ўсяго прадпрыемства, так і па яго асобных галінах, буйная гаспадарка дае магчымасьць ужываць і навукова падрыхтаваных арганізатараў, ад чаго значна залежыць рацыянальная пастаноўка гаспадаркі. «Буйны вытвар атрымлівае ад ужываньня вялікай колькасьці рабочых гэты падзел працы на фізычную і інтэлектуальную. Мы бачым, як важна для

[1] Прафэсар Студэнцкі ў сваёй кніжцы „Проблемы экономии и географии сельского хозяйства" падае лічбовыя дадзеныя з практыкі фэрм Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі, якія яскрава паказваюць, што прадукцыйнасьць працы ўзрастае прапорцыянальна ўбуйненьню гаспадаркі, і калі чыстая аплата працы гаспадара да 30 акраў зямлі складае 54 даляры, дык аплата працы гаспадара пры 151—200 акрах дасягае грандыёзнай лічбы ў 934 даляры, звыш 200 акраў—1082 даляры.

сельскай гаспадаркі навуковае кіраўніцтва, што толькі яно робіць магчымым плянамернае вядзеньне гаспадаркі, пры якім абмінаецца ўсякае высільваньне глебы і дасягаюцца найлепшыя вынікі, што толькі навукова-адукаваны вясковы гаспадар пры рацыянальнай і дасканалай бухгальтэрыі заўсёды знойдзе той севазварот, угнаеньне, машыны, пароду жывёлы, род кармоў, якія ў дадзены момант будуць адпавядаць бязупынна зьменяюшчым патрабаваньням навукі і рынка. Толькі тая гаспадарка можа карыстацца паслугамі зусім адукаванага агранома, якая досыць вяліка, каб заняць яго рабочую сілу выключна кіраваньнем і наглядам за гаспадаркай». [1]

Зусім зразумела, што трымаць агранома, вэтэрынара, бухгальтара і інш., і іх можа цалкам скарыстаць толькі буйная гаспадарка. Буйная гаспадарка дае магчымасьць спэцыялістам выконваць хутка і акуратна даручаную яму працу, якую селянін без навыкаў, выконвае дрэнна і надзвычайна марудна, акрамя таго, яна можа мець свае рамонтныя майстэрні, кузьні і іншыя дапамагальныя сродкі.

3. Буйнай гаспадарцы даступны выгады каапэрацыйнай працы, плянамернага супрацоўніцтва многіх для дасягненьня пэўных вынікаў, асабліва гэта патрэбна ў крытычныя моманты, калі праца патрабуе хуткасьці выкананьня. Гэтую перавагу асабліва падкрэсьлівае Маркс у першым томе, «Капітала» ў разьдзеле «каапэрацыя».

4. Магчымасьць большага ўжываньня машын і іх больш поўнае скарыстаньне таксама мае буйная гаспадарка. Усім вядома тое вялікае значэньне, якое набывае гаспадарка пры ўжываньні розных сельскагаспадарчых машын і прылад. Машыны прыносяць вялікую карысьць, таму што яны павышаюць прадукцыйнасьць працы, паляпшаюць апрацоўку глебы і г. д., і ў выніку ўсяго павялічваюць прыбытковасьць гаспадаркі. Акрамя таго, машыны эканомяць чалавечую працу, ужываньне-ж машын магчыма толькі ў буйных гаспадарках.

Дробная гаспадарка ня можа набыць машыну за недахопам сродкаў, а таксама і належным чынам яе скарыстаць. У зьвязку з гэтым дробнаму селяніну прыходзіцца празьмерна напруджваць сваю ўласную працу, для таго каб выканаць усё неабходнае па гаспадарцы.

5. Толькі буйным сельска-гаспадарчым прадпрыемствам даступна больш рацыянальнае скарыстаньне ўласьцівасьцяў глебы і жывёлы. На прыбытак гаспадаркі вялікі ўплыў робіць яе правільнае і рацыянальнае вядзеньне, правільнае выкарыстаньне глебы. Як вядома, розныя глебы патрабуюць і розных мерапрыемстваў з боку гаспадаркі, таксама як і розныя расьліны не аднолькава адносяцца да глебы. Таму складаньне шматпалёвых севазваротаў, ужываньне штучных угнаеньняў, правядзеньне мэліарацыі зямель, дрэнажа, разьвядзеньне ў вялікіх колькасьцях новых гатункаў, разьвіцьцё спэцыяльных галін, як садоўніцтва, гародніцтва і інш., усё гэта неабходныя мерапрыемствы пры наладжваньні рацыянальнай гаспадаркі. Але няма чаго казаць аб тым, што ўсе гэтыя працы, якія ў некалькі разоў павялічваюць ураджайнасьць, зусім не пад сілу дробным гаспадаркам, іх можа ўжываць толькі буйная гаспадарка, якая мае для гэтага сродкі, сілы і неабходны тэхнічны пэрсаналь.

Буйная гаспадарка ўжывае больш складаных сельска-гаспадарчых машын, паўней іх скарыстоўвае, рацыянальней вядзецца гаспадарка, але акрамя гэтага яна мае значныя перавагі над дробнай і пры ўжываньні жывёлы, рацыянальная пастаноўка гэтай галіны таксама больш дасягаецца ў буйнай гаспадарцы. Напрыклад, па дадзеных агранаміі

---

[1]) Каутский. „Аграрный вопрос" стр. 69—70.

конь скарыстоўваецца поўнасьцю тады, калі на яго ў гаспадарцы прыпадае 7—8-га зямлі. Мы-ж ведаем, што селянінам конь трымаецца і тады, калі ў гаспадарцы налічваецца зямлі менш паловы паданай лічбы. Дробная гаспадарка мала мае кармоў, адсюль і якасьць жывёлы, а значыцца і яе прадукцыйнасьць горшая. Ад дрэннага дагляду, дрэннага памешканьня, дзе знаходзіцца жывёла і г. д., у значнай ступені залежыць і якасьць самой жывёлы. Канечна, у дробных гаспадарках усё гэта знаходзіцца на больш ніжэйшым узроўні, таму і жывёла па сваёй якасьці зусім не такая як у буйнай. Адсюль і прыбытак ад яе значна меншы.

«Буйны вытвар у землябробстве,—піша Ленін,—мае вялізарную перавагу над дробным па якасьці жывёлы наогул, па якасьці рабочай жывёлы ў прыватнасьці, па ўмовах утрыманьня жывёлы, палепшаньне яе і ўтылізацыі для ўгнаеньня». [1]

6. На кожную апрацоўваемую адзінку плошчы ў буйнай гаспадарцы прыходзіцца менш страт на машынах, будоўлі, інвэнтару і г. д., чым у дробных. Мы ўжо прыводзілі прыклад з конямі, зараз скажам, што і з іншымі сельска-гаспадарчымі прыладамі справа абстаіць ня лепш. Чым больш дробных гаспадарак, тым больш трэба будынкаў, неабходных для іх, тады як буйная гаспадарка мае значную эканомію на ўсім гэтым, да і якасьць прылад, будоўлі і інвэнтару ў буйных гаспадарках непараўнаўча лепшая.

7. Па закупцы сродкаў вытвару і іншых тавараў, па збыту вырабляемых прадуктаў і г. д., буйныя гаспадаркі пастаўлены ў значна лепшыя ўмовы ў параўнаньні з дробнымі. Маючы большыя сродкі, чым дробная гаспадарка, буйная мае магчымасьць купляць неабходныя ёй тавары і абсталяваньне вялікімі партыямі і нават выпісваць непасрэдна з месца іх вырабу. Свае прадукты, якія атрымліваюцца ў вялікай колькасьці, звычайна прадаюцца на рынак таксама вялікімі партыямі. Як у першым, гэтак і ў другім выпадку буйная гаспадарка становіцца значна менш залежнай ад рынку і ад часовых каньюнктурных зьмен. Дробная-ж гаспадарка ў галіне гандлю звычайна падпадае ў залежнасьць ад скупшчыка і прадаўца, таму што ёй самой непасрэдна не даступен вялікі рынак. У гэтым выпадку дробнаму гаспадару скупшчык плоціць таней, а прадавец прадае даражэй, вядома ад гэтага ў цэлым гаспадарка не выграе, а траціць. Вялікае значэньне мае яшчэ і магчымасьць сувязі і ўтварэньня ў буйнай гаспадарцы прадпрыемстваў для тэхнічнай пераапрацоўкі сельска-гаспадарчай сыравіны.

Вось у агульных рысах галоўныя эканамічныя і тэхнічныя перавагі буйнай сельскай гаспадаркі над дробнай. У ўмовах Савецкага Саюзу ўсе пералічаныя перавагі маюць саўгасы і калгасы над дробнымі сялянскімі гаспадаркамі.

Што ўсім гэтым перавагам буйнай гаспадаркі можа супроцьпаставіць дробная? Гэта: празьмерную працу ўсёй сям'і ў тым ліку і дзяцей, самаэксплёатацыю і недастатковае спажыцьцё. «Бясконцае раздрабленьне сродкаў вытвару і абасабленьне самых вытворцаў, калёсальнае марнатраўства чалавечай сілы. Узрастаючае пагоршаньне ўмоў вытвару і ўздаражэньне сродак вытвару,—неабходны закон парцэлярнай уласнасьці». [2]

У зьвязку з цяжкім эканамічным становішчам, вялікай большасьці дробных гаспадарак прыходзіцца працаваць у вельмі цяжкіх умовах.

---

[1] Ленин т. IX. стр. 164.
[2] Маркс „Капитал" т. III. ч. II. стр. 344.

Адсутнасьць машын і цягавай сілы прымушае працаваць селяніна рукамі, на што траціцца шмат энэргіі. Празьмерная фізычная праца сялянскай сям'і, пры дрэнных жыльлёвых умовах і пры дрэнным спажыцьці, пры адсутнасьці сродкаў, прыводзіць да высіленьня ўсёй сям'і і да вялікай абмяжаванасьці ў задавальненьні нават самых неабходных культурных запатрабаваньняў. У гэтым сэнсе становішча дробнага селяніна значна горшае, чым нават становішча наёмнага сельска-гаспадарчага рабочага.

Калі да ўсяго гэтага дадаць такія моманты, якія маюць месца быць пры капіталізьме, як дыфэрэнцыяцыя сялянства, яго клясавая барацьба і тое, што разьвіцьцё капіталізму ў прамысловасьці і земляробстве няўхільна прыводзіць да гібелі дробных гаспадарак, да іх экспрапрыяцыі буйнымі, тады будзе зусім зразумела, чаму марксызм стаіць за ўтварэньне буйных гаспадарак у земляробстве.

Вось чаму і ў нас у Савецкім Саюзе, для таго, каб узьняць вытворчыя сілы ў сельскай гаспадарцы, для таго, каб узьняць сялянскую гаспадарку з таго нізкага ўзроўню, на якім яна знаходзіцца зараз, для таго, каб накіраваць яе па сацыялістычнаму шляху, патрэбна ўбуйняць сельска-гаспадарчыя прадпрыёмствы, будаваць новыя калгасы і саўгасы, бо іншага шляху для ўзьняцьця дабрабыту сялянства—няма.

## 2.

Галоўнай прадпасылкай арганізацыі буйнага земляробства зьяўляецца аграмаджаньне сродкаў вытвару і перавага буйнай гаспадаркі над дробнай. Разьвіцьцё буйнага земляробства пры дыктатуры пралетарыяту ідзе іншым шляхам, чым пры капіталізьме.

У ўмовах буржуазнай дзяржавы, пабудаванай на прыватнай уласнасьці, разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі ідзе праз глыбокае расслаеньне селянства, праз утварэньня буйных капіталістычных гаспадарак на адным баку і разарэньня дробных гаспадарак, іх экспрапрыяцыя—на другім.

У абставінах дыктатуры пралетарыяту разьвіцьцё буйнага земляробства і выцясьненьне ім дробнага вытвару пойдзе праз каапэрацыю калгасы і саўгасы. У нас у Савецкім Саюзе працэс аграмаджаньня сельска-гаспадарчага вытвару, пры пераважнай большасьці дробных сялянскіх гаспадарак, будзе адбывацца ў параўнаўча складаных умовах. Аднак тая вялікая ўвага, якая надаецца краінай справе перабудовы дробнай сялянскай гаспадаркі і тое давер'е, якое аказвае гэтаму мерапрыемству само сялянства, ёсьць досыць сур'ёзная гарантыя пераходу да буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. У нашых умовах ёсьць два шляхі пераходу дробнай гаспадаркі да буйнай. Адзін шлях—праз кулака, калі ён згуртуе ў сябе асноўную масу прадукцыі, разаўе вытвар, зробіцца гаспадаром у вёсцы—але гэты шлях можа быць дасягнуты толькі пры разарэньні мільёнаў дробных сялянскіх гаспадарак.

Ёсьць і другі шлях пераходу ад дробнай гаспадаркі да буйнай—гэта шлях вытворчага каапэраваньня, шлях вытворчага аб'яднаньня дробных сялянскіх гаспадарак. Гэта шлях сацыялістычнага разьвіцьця вёскі праз утварэньня камун, таварыстваў і арцеляй—шлях які адчыняе перад вёскай дыктатура пралетарыяту. У пераходны пэрыяд ад капіталізму да сацыялізму вытворчае аб'яднаньне сялян, поўнае аграмаджаньне іх сродкаў—ёсьць адзіны правільны шлях у

галіне перабудовы вёскі і яе ўзьняцьця. Пасярод стаячым зьвяном, пры дапамозе якога сялянская гаспадарка ў умовах разьвіцьця таварнасьці ўцягваецца ў працэс вытворчага каапэраваньня на грунце аграмаджаньня працы і сродкаў, зьяўляецца каапэрацыйны збыт і каапэрацыйнае забесьпячэньне.

Ленін да канца свайго жыцьця вялікую ўвагу аддаваў разьвіцьцю калектывізацыі земляробства і зрабіў ясныя ўказаньні аб шляхох пераходу да аграмаджанай гаспадаркі. «Жыць па стараму, як жылі да вайны,—нельга, і такое расхішчэньне чалавечай сілы і працы, якое зьвязана з дробнай асобнай гаспадаркай, далей працягвацца ня можа. У двое і ў трое паднялася-б вытворчасьць працы, у двое і ў трое была-б захавана чалавечая праца для земляробства і чалавечай гаспадаркі, калі-б ад гэтай раздробленай дробнай гаспадаркі адбыўся-бы пераход да гаспадаркі грамадзкай». [1]

Ленін прыдаваў вялікае значэньне аграмаджаньню сялянства, як фактару ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту; ён лічыў, што селяніну патрэбна даказаць на практыцы перавагу буйнага земляробства. Вось чаму ён асабліва ўважліва адносіўся да практычных дасягненьняў самых сялян у галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Аб гэтым Ленін на першым зьезьдзе зямельных камун і сельска-гаспадарчых арцелей казаў наступнае: «Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагу грамадзкай калектыўнай таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну, пры дапамозе таварыскай, арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды дакажа сялянству сваю праўату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і належным чынам шматмільённую сялянскую масу... Толькі калі практычна, на вопыце блізкім да сялян, будзе даказана, што пераход да таварыскага, арцельнага земляробства неабходзен і магчым, толькі тады мы ў праве будзем сказаць, што ў такой вялікай сялянскай краіне, як Расія, па шляху сацыялістычнага земляробства зроблены сур'ёзны крок». [2]

Ленін бачыў у таварыскай апрацоўцы зямлі лепшы спосаб выйсьці бяднейшаму сялянству на шлях эканамічнага ўздыму. Ён указваў, што само жыцьцё, неабходнасьць палепшаньня дабрабыту сялянскіх мас прымушае іх пераходзіць да буйнага грамадзкага вытвару. «Працоўнае, бяднейшае сялянства, якое больш усяго прынесла ахвяр для рэвалюцыі і больш ўсяго пацярпела ад вайны, адабрала зямлю ў абшарнікаў не для таго, каб гэтыя землі дасталіся новым кулакам. Перад гэтым працоўным сялянствам само жыцьцё ставіць цяпер у ўпор пытаньне аб пераходзе да аграмаджанай апрацоўкі зямлі, як адзінаму сродку аднавіць тую культуру, якая зараз зруйнавана вайной, як адзінаму сродку выйсьці з той цемры, забітасьці і прыдушанасьці, на якую ўсю масу вясковага насельніцтва асуджаў капіталізм». [3]

Ленін прыдаваў вялікае значэньне таму, каб паміж сельска-гаспадарчымі калектывамі і сялянскімі гаспадаркамі была самая цесная сувязь. Ён лічыў, што калектывы павінны аказваць пасільную дапамогу сялянству і на справе садзейнічаць пераходу ўсяго сялянства да буйнай аграмаджанай гаспадаркі. Камуны, таварыствы і арцелі, па думцы Леніна, павінны даваць прыклад сялянскай гаспадарцы таго, што буйная гаспадарка нясе вызваленьне селяніну ад празьмер-

[1] Ленин т. XV стр. 551.
[2] Ленин т. XVI стр. 392.
[3] Ленин т. XV стр. 552.

най працы і дрэннага жыцьця. «Камуны павінны разьвівацца ў тым напрамку, каб пры датыканьні з імі сталі зьмяняцца ўмовы сялянскай гаспадаркі, сустракаючы гаспадарчую дапамогу і каб кожная камуна, арцель альбо таварыства ўмела пакласьці пачатак палепшаньню гэтых умоў і практычна яго ажыцьцявіць, даказаўшы на справе сялянству, што гэтыя зьмены прыносяць яму толькі карысьць».[1]

Дробнага таваравытворцу селяніна, не надта лёгка ўцягнуць у справу, якая для яго хаця і карысна, але пакуль што яшчэ ня зусім зразумела. У гэтай справе, справе замены дробнай нерацыянальнай гаспадаркі,—буйнай неабходзен селяніну практычны паказ і відавочны прыклад. У гэтым напрамку існуючыя буйныя гаспадаркі павінны быць уперадзе і зьяўляцца добрым прыкладам. І толькі ў гэтым выпадку: «мы даб'ёмся таго, што кожная з існуючых цяпер некалькіх тысяч камун і арцелей стала супраўдным рассаднікам камуністычных ідэй і прадстаўленьняў сярод сялян, практычным прыкладам, паказваючым ім, што яна, хаця і слабы, маленькі яшчэ расток, але ўсё-ж ня штучны, не парніковы, а супраўдны расток новага сацыялістычнага ладу. Толькі тады мы атрымаем моцную перамогу над цёмрай, разарэньнем і нуждой, толькі тады нам ня будуць страшнымі ніякія цяжкасьці на нашым далейшым шляху».[2] Так ставіў пытаньне аб калгасах Ленін яшчэ ў 1919 годзе. Ён ужо тады вызначаў асноўныя задачы нашай палітыкі на вёсцы і задачы ўжо аграмаджаных гаспадарак у справе перабудовы вёскі.

Сельска-гаспадарчыя камуны—гэта працэс аб'яднаньня сялянскай дробнай гаспадаркі, які ідзе зьнізу, гэта шлях, на які паказывала тэорыя марксызму у адносінах дробнага сялянства. Гэты працэс, па якім павінны пайсьці мільёны сялянскіх двароў, пасьпяшаецца неабходнасьцю аб'яднаньня сродкаў вытвару, калектыўнай апрацоўкай, фінансаваньнем і падтрыманьнем дзяржавы. Гэты шлях прагрэсу і разьвіцьця сялянства адчыняе толькі ўлада пралетарыяту. Сельска-гаспадарчая камуна мае ўсе перавагі буйнай гаспадаркі, яна ўтвараецца шляхам зьліяньня дробных гаспадарак, зямля, інвэнтар, жывёла і ў рэшце праца ў ёй робіцца агульнай, аграмаджанай.

Другі тып арганізацыі буйнага сельска-гаспадарчага вытвару ёсьць Савецкія гаспадаркі, якія вядуцца найбольш удасканаленымі машынамі і прыладамі і з усіх форм сельскай гаспадаркі найбольш цесна зьвязаны з прамысловасьцю. Саўгасы ўзьніклі непасрэдна пасьля рэвалюцыі і абумоўлены тым, што трэба было захаваць культурную каштоўнасьць абшарніцкіх маенткаў, маючую вялікае значэньне для арганізацыі ўсёй сельскай гаспадаркі. Ленін пытаньнем саўгаснага будаўніцтва надаваў таксама вялікае значэньне ў справе перабудовы і разьвіцьця масавай сялянскай гаспадаркі.

Вызначаючы шляхі перэарганізацыі сельскай гаспадаркі на новых тэхнічных і сацыяльных асновах і выясьняючы ў гэтай справе ролю саўгасаў, Ленін лічыў, што яны маюць ня толькі гаспадарчае значэньне, але і палітычнае. Ленін лічыў Савецкія гаспадаркі сродкам, зброяй абвярненьня дробнай сялянскай гаспадаркі ў буйную аграмаджаную. Саўгасы зьяўляюцца прыкладам правільна арганізаванага і культурна наладжанага сельска-гаспадарчага прадпрыемства. Калі яшчэ ў першыя месяцы існаваньня саўгасаў, сялянства, не разумеючы іх сутнасьці, выступала часта за іх разьдзел, дык Ленін прапанаваў весьці рашучую барацьбу з гэтай тэндэнцыяй. «Сярод сялянства,—

[1] Ленин т. XVI. стр. 397.
[2] Там-же стр. 400.

кажа Ленін,—вельмі часта праяўляецца надзвычайнае недавер'е і абурэньне, якое даходзіць да поўнага адмаўленьня Савецкіх гаспадарак: ня трэба Савецкіх гаспадарак, там сядзяць старыя эксплёататары мы казалі—не, калі ня ўмееце самі наладзіць гаспадарку па новаму, трэба браць на службу старых спэцыялістых, бяз гэтага з жабрацтва ня выйсьці. Тых з іх, якія будуць парушаць пастанову Савецкай улады, мы будзем бязьлітасна вылаўліваць таксама, як і ў Чырвонай арміі, барацьба працягваецца і барацьба бязьлітасная. Але большасьць з іх мы прымусім працаваць па нашаму, гэта задача цяжкая, складаная, адным ударам яе ня вырашыш. Тут патрэбна сьвядомая рабочая дысцыпліна, зблізжэньне з сялянствам: неабходна паказаць ім, што мы бачым усе злоўжываньні ў Савецкіх гаспадарках, але мы кажам, што людзі навукі і тэхнікі павінны быць пастаўлены на службу грамадзкай гаспадаркі, бо дробнай гаспадаркай з нужды ня выйсьці... Мы памаленьку і няўхільна даказваем сялянам перавагу грамадзкай гаспадаркі».[1] Гэтыя словы былі сказаны Леніным яшчэ ў 1919 годзе. З таго часу ўжо многае зьмянілася, саўгасы значна ўзмацнелі і зрабіліся сапраўднымі культурнымі асяродкамі на вёсцы.

І так, задачай аграрнай палітыкі дыктатуры пралетарыяту зьяўляецца: на раду з дапамогай індывідуальным гаспадаркам бяднейшых сялян, правядзеньне шпаркім тэмпам аграмаджаньне сельска-гаспадарчага вытвару, утварэньне на вёсцы буйных сацыялістычных эканомій. Бо толькі па шляху буйнай аграмаджанай гаспадаркі можна вывесьці сялянства, прыдушанае капіталізмам, на рэйкі, па якіх будзе рухацца ўся грамада да сацыялізму. Гэта задача ў галіне сельскай гаспадаркі, якая вызначана тэорыяй навуковага камунізму, у праграме камуністычнай партыі запісана так: «Савецкая ўлада, ажыцьцявіўшы поўную адмену прыватнай уласнасьці на зямлю, перайшла да правядзеньня ў жыцьцё цэлага шэрагу мер, накіраваных да арганізацыі сацыялістычнага земляробства. Важнейшымі з гэтых мер зьяўляюцца: 1) пабудова Савецкіх гаспадарак т. зв. буйных сацыялістычных эканомій; 2) падтрыманьне грамадзтв, а таксама і таварыств для грамадзкай апрацоўкі зямлі; 3) арганізацыя дзяржаўнага засеву ўсіх чыіх-бы то ня было незасеяных зямель; 4) дзяржаўная мабілізацыя ўсіх агранамічных сіл для энэргічных мер па падвышэньню сельска-гаспадарчай культуры; 5) падтрыманьне сельска-гаспадарчых камун, як зусім дабраахвотных саюзаў земляробаў для вядзеньня буйнай агульнай гаспадаркі». Вось той комплекс мерапрыемстваў, якія пакладзены Кампартыяй і Савецкай уладай у галіне сельскай гаспадаркі. Усе гэтыя мерапрыемствы ў сваёй аснове маюць адну мэту—перабудаваць дробную сялянскую гаспадарку ў напрамку арганізацыі буйнага аграмаджанага сельска-гаспадарчага вытвару.

### 3.

Варта зараз караценька і ў самых агульных рысах застанавіцца на тых практычных дасягненьнях, якія ўжо маюцца ў галіне аграмаджаньня сельска-гаспадарчага вытвару. Так разьвіцьцё ўсіх відаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў нас на Беларусі характарызуецца наступнымі лічбамі, якія мы бярэм з «матэрыялаў к дакладу Саўнаркому БССР Савету Народных Камісараў СССР».

[1] Ленин т. XVI стр. 378—379.

| Назва аб'яднаньняў | На I-X—26 г. | | На I-X—27 г. | | На I-X—28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік арганізацый | Лік членаў (у тыс.) | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў |
| С. Г. Крэдытных таварыстваў . . . . . | 161 | 160, 1 | 205 | 241, 8 | 230 | 266, 9 |
| Малочныя таварыствы . | 79 | 3, 8 | 156 | 11, 3 | 290 | 16, 1 |
| Калгасы . . . . . . | 391 | 5, 5 | 416 | 5, 3 | 591 | 7, 7 |
| Іншыя спэцыяльныя аб'яднаньні . . . . . | 382 | 32, 5 | 496 | 27, 3 | 928 | 41, 5 |
| Усяго. | 1013 | 201, 9 | 1273 | 285, 7 | 2039 | 332, 2 |
| Процант каапэраванасьці. | — | 25,32 | — | 35,87 | — | 41,06 |

Калі мы возьмем з усіх гэтых каапэрацыйных аб'яднаньняў і вылучым асобна калектыўныя гаспадаркі, дык колькасьць іх па асобных відах зьмянялася наступным чынам:

| | 21 г. | 22 г. | 23 г. | 24 г. | 25 г. | 26 г. | 27 г. | 28 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Камун. . . . . . . | 29 | 34 | 40 | 44 | 44 | 45 | 48 | Арганізавана новых 548 калгасаў |
| С. Г. Арцелей . . . . . | 55 | 90 | 139 | 266 | 282 | 266 | 292 | |
| Таварыств па супольнай апрацоўцы зямлі . . . . . . | 26 | 29 | 45 | 68 | 85 | 69 | 76 | |
| Усяго. | 109 | 153 | 224 | 378 | 411 | 380 | 416 | 964 |

Агульная плошча зямлі пад калгасамі ў 1927 годзе складала 55.100 гэктараў з 21.330 едакамі. У 1928 годзе гэта плошча і колькасьць душ узрасла больш як у два разы. Насельніцтва, аб'яднанае ў калектыўныя гаспадаркі, прадстаўляе з сябе па свайму сацыяльнаму стану пераважна—бедняцка-батрацкую масу. Склад членаў калгасаў характарызуецца наступнымі дадзенымі (у працэнтах):

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|
| Сялян безьзямельных. . . . . | 36,0 | 31,5 |
| „ малазямельных . . . . | 20,0 | 21,0 |
| Батракоў і рабочых . . . . . | 35,3 | 39,5 |
| Служачых і саматужнікаў . . . | 3,2 | 4,5 |
| Іншых . . . . . . . . . | 5,5 | 3,5 |

Цікава тое, што ўраджайнасьць у калгасах вышэйшая за ўраджайнасьць у сялянскіх гаспадарках. Наступныя лічбы галоўных культур аб гэтым яскрава сьведчыць:

| | У калгасах | Сялянскіх гаспадарках | У калгасах | У сялянскіх гаспадарках. |
|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1927 г. |
| Жыта ў пудох . . . . . . | 45,2 | 38,8 | 54,6 | 48,4 |
| Ячмень. . . . . . | 50,2 | 44,7 | 53,2 | 51,9 |
| Авёс . . . . . . . . | 38,7 | 39.2 | 55,6 | 55,4 |

Кантрольнымі лічбамі прадугледжана да 1933 году давесьці пасяўную плошчу пад калгасамі да 10 процантаў агульнай пасяўной плошчы БССР, а таксама павялічыць ураджай за 5 гадоў ня менш як на 50 проц.

Усіх саўгасаў на Беларусі налічваецца 156 з агульнай плошчай 87.959 гэктараў.

Па ўсяму Савецкаму Саюзу калгасы і саўгасы зараз займаюць 1.400 тыс. га. Праз пяць год, як гэта вызначана кантрольнымі лічбамі, яны займуць 18 проц. агульнай пасяўной плошчы і дадуць 27 проц. агульнай сельска-гаспадарчай прадукцыі. Дзяржава з кожным годам павялічвае асыгнаваньні на калгасы і саўгасы Так, у 1926 годзе было адпушчана 18 мільёнаў руб., у 1927 годзе—22 мільёны руб., у 1928 годзе—54 мільёны руб., на 1929 год асыгнавана 135 мільёнаў рублёў, а на працягу пяці гадоў калгасы і саўгасы атрымаюць каля мільярда рублёў. Вось тыя лічбы, якія ў самым агульным выглядзе характарызуюць аграмадджаньне сельскай гаспадаркі. Як бачым, ідэі марксызму ў Савецкім Саюзе ажыцьцяўляюцца на практыцы, буйная гаспадарка пачынае займаць належнае ёй месца.

## 4.

Для таго, каб сялянства магло перайсьці ад старых спосабаў вытвару да новых, якія грунтуюцца на высокаразьвітай тэхніцы і на рацыянальным вядзеньні гаспадаркі, для гэтага патрэбна адна важная ўмова—гэта падвядзеньне тэхнічнай базы пад сельскую гаспадарку, яе машынізацыя і мэханізацыя. Пасьпяховае будаўніцтва ў нашай краіне павінна ісьці шляхам разьвіцьця буйнай індустрыі, электрыфікацыі і каапэрацыі, на грунце злучэньня інтарэсаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прамысловасьці пры кіруючай ролі апошняй.

Пераход сялянства да каапэраваньня і калектывізацыі свайго вытвару, пераход да аграмаджаньня сельскай гаспадаркі магчым толькі пры ўмове разьвіцьця буйнай сацыялістычнай прамысловасьці. Перамога сацыялізму над капіталізмам, умацаваньне сацыялізму можа быць забясьпечана толькі тады, калі пралетарская ўлада канчаткова расправіцца з эксплёататарамі і падвядзе тэхнічную базу пад усю народную гаспадарку. Толькі разьвіцьцё буйнага каляктыўнага вытвару дае матэрыяльны грунт для павышэньня прадукцыйнасьці працы у земляробстве і зьяўляецца стымулам дробнай сялянскай гаспадаркі да буйнай аграмаджанай. «Каб перамагчы, каб утварыць і ўмацаваць сацыялізм, пралетарыят павінен рашыць дваякую альбо двуадзіную задачу: па-першае, захапіць сваім шчырым гэраізмам рэвалюцыйнай барацьбы супроць капіталу ўсю масу працоўных і эксплёатуемых, захапіць яе, арганізаваць, кіраваць ёю для нізрынуцьця буржуазіі і поўнага падаўленьня ўсякага з яе боку супраціўленьня; па-другое, павесьці за сабою ўсю масу працоўных і эксплёатуемых, а таксама ўсе

дробна-буржуазныя пласты, на шлях новага гаспадарчага будаўніцтва, на шлях утварэньня новай грамадзкай сувязі, новай працоўнай дысцыпліны, новай арганізацыі працы, якая аб'яднае апошняе слова навукі і капіталістычнай тэхнікі з масавымі аб'яднаньнямі сьвядомых працаўнікоў, ствараючых буйную сацыялістычную вытворчасьць.

Гэта другая задача, цяжэйшая за першую, бо яна ні ў якім выпадку ня можа быць вырашана гэраізмам асобнага парыву, а патрабуе самага доўгага, самага ўпартага, самага цяжкага гэраізму масавай і будзенай працы. Але гэта задача і больш істотная, чым першая, бо ўрэшце, самай глыбокай крыніцай сілы для перамог над буржуазіяй і адзіным залогам моцнасьці і неадменнасьці гэтых перамог можа быць толькі новы, больш высокі спосаб грамадзкага вытвару, буйны сацыялістычны вытвар».[1] Выказаная тут думка Леніна абумоўлена жыцьцёвымі фактамі з папярэдняй гісторыі эканамічнага разьвіцьця нашай краіны і абсалютна правільным поглядам на далейшае разьвіцьцё па шляху сацыялістычнага будаўніцтва, бо бяз разьвіцьця прамысловасьці, без разьвіцьця буйнага земляробства краіна ня зможа рухацца ўперад па шляху рэканструкцыі народнай гаспадаркі, а таксама ня зможа перарабіць эканоміку дробнай сялянскай гаспадаркі і перавесьці усё земляробства на новую тэхнічную і сацыяльную базу.

І так, ленінізм бачыць два спосабы эканамічнага ўплыву для таго, каб перарабіць капіталістычную прыроду нашай гаспадаркі на новы сацыяльны лад, гэта: па-першае, індустрыялізацыя ўсёй народнай гаспадаркі і, па-другое, вытворчае каапэраваньне дробнай сялянскай гаспадаркі. Чаму пытаньне індустрыялізацыі краіны зьвязана з пытаньнем сацыялістычнай перабудовы сялянскай гаспадаркі?

Пытаньне гэта ставіцца так таму, што для ператварэньня сялянскай, дробна-таварнай гаспадаркі, неабходны дзьве наступныя прадпасылкі. Гэта ўтварэньне такіх узаемаадносін паміж пралетарыятам і сялянствам, пры якіх перавага сацыялістычнага гаспадараньня перад існаваўшым капіталістычным была-б відавочна, і перавод самой сялянскай гаспадаркі на вышэйшую эканамічную і тэхнічную ступень. Гэтыя-ж прадпасылкі могуць быць утвораны толькі разьвіцьцём буйнага машыннага вытвару, які-б забясьпечваў сялянства ўсімі прадуктамі прамысловасьці і задаволіў усе запатрабаваньні селяніна, якія выклікаюцца павышэньнем сельска-гаспадарчай культуры і адпаведнымі зьменамі тэхнічнага грунту земляробства.

Ленін не адзін раз падкрэсьліваў рашучае значэньне буйнага машыннага вытвару ў нашых умовах, у ўмовах дробна-таварнай сялянскай гаспадаркі. «У адносінах пралетарыяту і дробных земляробаў,— казаў Ленін у 1921 годзе,—ёсьць такія цяжкія праблемы, ёсьць такія задачы, якіх мы яшчэ не рашылі. Я кажу аб адносінах пераможнага пралетарыяту да дробных гаспадароў, калі пралетарская рэвалюцыя разгортваецца ў краіне, дзе пралетарыят у меншасьці, дзе большасьць дробна буржуазная. Роля пралетарыяту ў гэткай краіне заключаецца ў кіраўніцтве пераходам гэтых дробных гаспадароў да аграмаджанай калектыўнай, супольнай працы. Гэта тэарэтычна нясумненна. Гэты пераход мы закранулі ў цэлым шэрагу законадаўчых актаў, але мы ведаем, што справа не ў законадаўчых актах, а ў практычным ажыцьцяўленьні і мы ведаем, што гэта можна забясьпечыць, калі маеш моцную буйную прамысловасьць, здольную даць дробнаму вытворцу такое дабро, што ён убачыць на практыцы перавагу гэтай буйнай гаспа-

[1] Ленин т. XVI стр. 251.

даркі». [1] Гэткім чынам мы бачым, што ўтварэньне машыннага вытвару дасьць матэрыяльную і сацыяльную базу для сацыялістычнай эвалюцыі адсталых форм нашай гаспадаркі.

У артыкуле «Лепш менш, ды лепш» Ленін па пытаньню аб індустрыялізацыі краіны піша так: «Калі мы захаваем за рабочай клясай кіраўніцтва над сялянствам, дык мы атрымаем магчымасьць цаной вялізарнай і вялізарнай эканоміі гаспадаркі ў нашай дзяржаве дабіцца таго, каб усякае малейшае зьберажэньне захаваць для разьвіцьця нашай буйнай машыннай індустрыі, для разьвіцьця электрафікацыі, гідраторфу, для пабудовы Волхастрою і інш. У гэтым, толькі ў гэтым наша надзея. Толькі тады мы зможым перасесьць кажучы фігуральна з аднаго каня на другога: іменна з каня сялянскага, мужыцкага, абяднелага, з каня эканомій, разьлічаных на зруйнаваную сялянскую краіну, на каня, якога шукае, і ня можа ня шукаць для сябе пралетарыят, на каня буйнай машыннай індустрыі, электрафікацыі і г. д.». [2] Ленін асабліва вялікае значэньне надаваў разьвіцьцю прамысловасьці ў нашай пераважна сялянскай краіне. Ён гэтым самым указваў, што далейшае разьвіцьцё Савецкага Саюзу пры капіталістычным акружэньні, павінна пайсьці не па шляху яго аграрызацыі, а па шляху індустрыялізацыі, па шляху разьвіцьця прамысловасьці і пры захаваньні яе кіруючай ролі над ўсімі галінамі народнай гаспадаркі. «Супраўднай і адзінай базай,—кажа Ленін,—для ўмацаваньня рэсурсаў, для ўтварэньня сацыялістычнай грамады, зьяўляецца адна і толькі адна—гэта буйная прамысловасьць. Без капіталістычнай буйнай фабрыкі, без высока-пастаўленай буйнай прамысловасьці ня можа быць і гутаркі аб сацыялізму наогул, і тым менш можа быць гутарка аб ім у адносінах да краіны сялянскай». [3]

Калі разглядаць эканоміку нашай краіны пад пунктам погляду яе незалежнасьці ад замежнай эканомікі, а гэта пры сучасным становішчы ёсьць адзіны правільны погляд, дык паўстае патрэба аб узгадлёным разьвіцьці прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Бо калі прамысловасьць ня можа існаваць і пасьпяхова разьвівацца без адпаведнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі, як сырызнай базы, дык тым больш разьвіцьцё сельскай гаспадаркі залежыць ад прамысловасьці. Калі разьвіваецца прамысловасьць: мэталёвая, з вырабам сельскагаспадарчых машын, хімічная, з вырабам штучнага ўгнаеньня і г. д., дык сельская гаспадарка пачынае мець у гэтай прамысловасьці свайго магутнага памочніка, сваю апору, якая толькі і зможа ўрэшце ўнесьці новыя спосабы ў апрацоўку зямлі і пасьпяхова накіраваць уперад разьвіцьцё вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы. Адсюль выходзіць, што прамысловасьць і сельская гаспадарка павінны ўзаемна друг другу дапамагаць. Для таго, каб забясьпечыць пасьпяховую працу па будаўніцтву сацыялістычнай грамады, неабходна раней за ўсё весьці такую эканамічную палітыку, якая-б у максымальнай ступені садзейнічала разьвіцьцю прамысловасьці і сельскай гаспадаркі і ўмацоўвала эканамічны і палітычны саюз пралетарыяту з асноўнымі масамі сялянства. Сваю эканоміку рабочая кляса павінна будаваць прыстасоўваючы яе да эканомікі асноўнай масы сялянства, каб буйная машынная прамысловасьць рабілася тым фактарам, які-б пераўтвараў дробную сялянскую гаспадарку ў буйную сацыялістычную гаспадарку.

---

[1] Ленин т. XVIII ч. I. стр. 108—109
[2] Ленин т. XVIII ч. II. стр. 128.
[3] Ленин т. XVIII ч. I. стр. 240.

Гэткім чынам мы бачым, што паміж разьвіцьцём прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў нашай краіне існуе цесная эканамічная ўзаемазалежнасьць.

Асабліва важна і патрэбна разьвіцьцё індустрыі для сельскай гаспадаркі, для задавальненьня яе вытворчых патрэб у час аграмаджаньня сельска-гаспадарчага вытвару. Аб тым, што толькі прамысловасьць, разьвіцьцё тэхнікі можа паставіць земляробства на новы шлях пасьпяховага руху ўперад, Ленін указваў яшчэ ў 1918 годзе. «Людзі ўпэўніліся, на чудоўных жахах сучаснай вайны,—кажа Ленін,—якія сілы ўтварыла сучасная тэхніка... і што адзіным сродкам выратавацца ад гэтых жахаў зьяўляецца тая-ж самая сіла тэхнікі. Наш абавязак і доўг накіраваць іх на тое, каб самы адсталы вытвар, земляробства, сельскую гаспадарку, паставіць на новыя рэйкі, каб яго перарабіць і абвярнуць земляробства з промысла, па старынцы, у промысел, які аснован на навуцы і заваёвах тэхнікі». [1] Ленін у сваім лісьце да VIII-га Зьезду электратэхнікаў у 1921 годзе піша, што: «Буйная машынная прамысловасьць і перанясеньне яе ў земляробства ёсьць адзіная эканамічная база, база сацыялізму, адзіная база для пасьпяховай барацьбы за збаўленьне чалавецтва ад ярма капіталу». [2] І так, адзіным матэрыяльным грунтам сацыялізму можа быць толькі буйная індустрыя, якая здольна рэарганізаваць і земляробства.

На працягу ўсяго пэрыаду існаваньня дыктатуры пралетарыяту ў нашай краіне зьвярталася вялікая ўвага на пытаньне індустрыялізацыі і аграмаджаньне сельскай гаспадаркі. Аднак, зусім натуральна, што практычна тэмп правядзеньня гэтых мерапрыемстваў вызначаецца і абумоўліваецца канкрэтнымі гаспадарча палітычнымі ўмовамі на кожным асобным этапу нашага разьвіцьця. Так, першыя гады дыктатуры пралетарыяту наша краіна разгарнула шырокую праграму аграмаджаньня сельскай гаспадаркі праз арганізацыю сеткі буйных савецкіх гаспадарак і шляхам аб'яднаньня дробных сялянскіх гаспадарак у камуны, арцелі і таварыствы. Але ўмовы разьвіцьця краіны ў той час, пры зруйнаванай прамысловасьці, пры агульным заняпадзе краіны не далі магчымасьці апраўдаць гэтымі формамі свайго прызначэньня. Было зусім ясна, што толькі ўтварэньне буйнай індустрыі і аднаўленьне сувязі гораду з вёскай здольны будуць павесьці і вёску па шляху аграмаджаньня земляробства.

Пасьля ўвядзеньня новай эканамічнай палітыкі, з аднаўленьнем і разьвіцьцём прамысловасьці пачаў назірацца працэс росту ўсіх відаў сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, але ўжо на больш высокай тэхнічна эканамічнай аснове. У дадзеным выпадку само жыцьцё паказала, што для аграмаджаньня сельска-гаспадарчага вытвару, а значыцца і для разьвіцьця ўсяго земляробства наогул, патрэбна ў першую чаргу матэрыяльная база ў выглядзе буйнай машыннай прамысловасьці. Без разьвіцьця-ж прамысловасьці, без падвядзеньня тэхнічнай базы пад усю народную гаспадарку, без электрафікацыі, як тэхнічнай асновы індустрыялізацыі, ні ў якім разе не магчыма вырваць карэньняў капіталізму з нашай гаспадаркі, немагчыма падарваць грунт гэтых элементаў капіталізму—дробную гаспадарку. Ленін аб гэтым гаварыў наступнае: «Кожны, хто ўважліва назіраў за жыцьцём вёскі, у параўнаньні з жыцьцём гораду, ведае, што мы карэньне капіталізму ня вырвалі і фундамант, аснову ўнутранага ворага не падарвалі. Апошні трымаецца на дробнай гаспадарцы, і каб падарваць яго, ёсьць адзіны

[1] Ленин т. XV. стр. 552.
[2] Ленин т. XVIII. ч. I стр. 333.

сродак,—перавесьці гаспадарку краіны, у тым ліку і земляробства, на новую тэхнічную базу, на тэхнічную базу сучаснага буйнага вытвару. Гэткай базай зьяўляецца толькі электрычнасьць.

Камунізм—ёсьць Савецкая ўлада плюс электрафікацыя ўсёй краіны. Інакш краіна застаецца дробна сялянскай, і трэба каб мы гэта асазналі. Мы больш слабыя, чым капіталізм ня толькі ў сусьветным маштабе, але і ўнутры краіны. Усім гэта вядома. Мы гэта асазналі і мы давядзем справу да таго, каб гаспадарчая база з дробна сялянскай перайшла ў буйна прамысловую. Толькі тады, калі краіна будзе электрафікавана, калі пад прамысловасьць, сельскую гаспадарку і транспарт будзе падведзена тэхнічная база сучаснай буйнай прамысловасьці, толькі тады мы пераможам канчаткова».[1] Гэтыя словы выказаны Ленінам яшчэ ў 1920 годзе, яле яны ня толькі не страцілі свайго значэньня, а наадварот, у сучасны момант яны зьяўляюцца для нашай краіны актуальнымі і першачарговымі заданьнямі.

Перад нашай краінай у галіне індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі стаяць такія задачы, вырашэньне якіх цесным чынам зьвязана з агульным ростам народнай гаспадаркі і асабліва з ростам буйнай індустрыі, электрафікацыі і сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва. Бо без разьвіцьця прамысловасьці ня можна перайсьці да вышэйшай сельска-гаспадарчай культуры, да машынізацыі земляробскага вытвару, да правядзеньня ў шырокім маштабе мэліарацый, падвышэньня тэхнікі прадпрыемстваў па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў і г. д.

І так, індустрыялізацыя Савецкага Саюзу цалкам адпавядае Ленінскаму вучэньню і мае сваёй мэтай умацаваньне саюзу паміж пралетарыятам і асноўнымі масамі сялянства, садзейнічае пераводу адсталых форм народнай гаспадаркі на вышэйшую ступень вытвару і ўтварае ўмовы для пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва.

## Агульныя вывады.

1. Сельская гаспадарка пры капіталізьме ў асноўным падпарадкоўваецца тым-жа законам разьвіцьця, што і прамысловасьць; як у той, так і ў другой галіне адбываецца канцэнтрацыя і цэнтралізацыя сродкаў вытвару, выцясьненьне дробных прадпрыемстваў і гаспадарак—буйнымі і г. д.

2. Пры панаваньні капіталістычнай сыстэмы вытвару сялянства прадстаўляе сабою эканамічна, сацыяльна і палітычна прыгнечаны пласт насельніцтва, які сваімі сіламі ня зможа вызваліцца ад капіталістычнай эксплёатацыі. Толькі пад кіраўніцтвам пралетарыяту, які ўтвораны разьвіцьцём капіталізму, сялянства можа выйсьці з таго тупіку, у які яно загнана капіталам і зможа ў саюзе і пад кіраўніцтвам пралетарыяту правесьці пасьпяхова аграрную рэвалюцыю.

3. Агульны рух разьвіцьця сельскай гаспадаркі пры капіталізьме прыводзе да глыбокай дыфэрэнцыяцыі вёскі, да разлажэньня сялянства на сельска-гаспадарчы пралетарыят, паўпралетарыят і вясковую буржуазію, да разьвіцьця клясавай барацьбы на вёсцы з ўсімі выходзячымі адсюль вынікамі.

4. Пралетарыят ня можа садзейнічаць эканамічнаму умацаваньню дробнай сялянскай гаспадаркі да захвата улады, аднак зусім не ставіць сваёй мэтай прысьпяшэньне няўхільнасьці гібелі гэтай дробнай гаспадаркі пры капіталізьме. Разам з тым, пралетарыят рашуча стаіць па баку дробнага селяніна.

[1] Ленин т. XVII стр. 428.

5. Аграрная рэвалюцыя можа быць пасьпяхова даведзенай да канца толькі пралетарыятам, толькі пасьпяховым завяршэньнем сацыялістычнай рэвалюцыі. Бо буржуазная рэвалюцыя абмяжоўваецца заменай аднэй эксплёататарскай групы другою эксплёататарскай групай, бяз зьнішчэньня старой дзяржаўнай машыны, тым самым як пралетарская рэвалюцыя праганяе ад улады ўсялякія эксплёататарскія групы і ставіць у ўлады правадыра ўсіх працоўных і эксплёатаваных— клясу пралетараў.

6. Супроць астаткаў фэадалізму і супроць капіталізму пралетарыят выступае разам з усім сялянствам, бо тут інтарэсы ўсяго сялянства супадаюць. Пры пераходзе-ж ад дэмакратычнай рэволюцыі, якая не падрывае асноў капіталізму, да сацыялістычнага перавароту, пралетарыят раскалывае сялянства па лініі яго эканамічнага расслаеньня, далучаючы да сябе ніжэйшыя яго пласты і вядзе барацьбу супроць капіталізму, у тым ліку і супроць сялянскай буржуазіі.

7. Істотным палажэньнем для ўстанаўленьня правільных ўзаемаадносін паміж пралетарыятам і сялянствам павінна быць яснае разуменьне двоістай прыроды сялянства.

8. Вялікай задачай пралетарыяту зьяўляецца задача наладжваньня эканамічнай і палітычнай сувязі, саюзу з сялянствам, мэтай якога зьяўляецца эвалюцыйнае перамаганьне сялянства, як клясы, арганізацыя з рабочых і сялян без клясавай сацыялістычнай грамады. У руху барацьбы за соцыялізм зьмест рабоча-сялянскага саюза мяняецца. Палітычны і сацыяльны блёк пралетарыяту з сялянствам у кожнай фазе свайго існаваньня мае свой асобны канкрэтны зьмест, які практычна павінен усё больш і больш садзейнічаць ўмацаваньню дыктатуры пралетарыяту.

9. Дзейнасьць сялянства ў пераходны да сацыялізму пэрыад павінна праходзіць непасрэдна пад кіраўніцтвам пралетарскай дыктатуры ў праціўным выпадку ня мінуча можа аднавіцца капіталізм, па колькі дадзеная краіна знаходзіцца ў капіталістычным акружэньні. Пры чым кіраўніцтва сялянства з боку пралетарыяту павінна быць на поўным давер'і сялянства да рабочай клясы.

10. Пры панаваньні дыктатуры пралетарыяту супярэчнасьці паміж рабочай клясай і сялянствам у асноўным могуць узьнікаць па лініі разыходжаньня інтарэсаў буйнай грамадзкай гаспадаркі і дробнага таваравытварцы.

11. Сацыялістычная рэвалюцыя і дыктатура пралетарыяту адбіраюць зямлю з прыватнай уласнасьці і перадаюць у рукі дзяржавы. Пры чым пралетарская нацыяналізацыя скарыстоўваецца з аднаго боку, як умова для максымальнага разьвіцьця вытворчых сіл у земляробстве, а з другога—зьяўляецца той умовай пры якой сельскай гаспадарцы лягчэй перайсьці ад прыватнай дробнай сялянскай уласнасьці да сацыялізму.

12. Пераход зямлі ў рукі дзяржавы, зьнішчэньне буйнага абшарніцкага землеўладаньня, зусім не азначае зьнішчэньне разьвіцьця буйнага вытвару ў сельскай гаспадарцы, наадварот гэты буйны вытвар у земляробстве набывае новыя вышэйшыя формы, пабудаваныя на калектыўных пачатках.

13. Новымі вышэйшымі формамі арганізацыі земляробства, зьяўляюцца сельска-гаспадарчыя камуны і савецкія гаспадаркі. Пры чым гэтыя камуны і саўгасы зьяўляюцца сродкам пры дапамозе якога дробныя вытворцы пераходзяць у адзіную плянавую народную гаспадарку.

14. Разьвіцьцё новых сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі патрабуе разьвіцьця буйнай прамысловасьці, як базы для задавальненьня вытворчых запатрабаваньняў земляробства. Прамысловасьць і сельская гаспадарка ў сваім разьвіцьці павінны мець цесную ўзаемазалежнасьць і друг другу дапамагаць, пры чым кіруючая роля павінна заставацца за прамысловасьцю.

15. У выніку сыстэматычнага правядзеньня мерапрыемстваў па ўзьняцьцю тэхнікі і арганізацыі буйнага вытвару у сельскай гаспадарцы, з прыцягненьнем мас да сацыялістычнага будаўніцтва, шляхам эканамічных, культурных, арганізацыйных і іншых пераваг новага сацыяльнага ладу, адбываецца зьліяньне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў адзіную плянавую народную гаспадарку гораду і вёскі— ў адзіную арганізацыю грамады на камуністычных падставах.

## Allgemeine Ergebnisse.

1. Unter dem Kapitalismus ist die Landwirtschaft im Grunde genommen denselben Entwicklungsgesetzen unterworfen wie die Industrie; auf diesem wie auf jenem Gebiete kommt es zu einer Konzentrierung nud Zentralisation der Betriebsmittel, zur Verdrängung kleiner Unternehmungen nnd Wirtschaften durch grosse u. s. w.

2. Unter der Herrschaft des kapitalistischen Betriebssystems stellt die Bauernschaft ökonomisch, sozial und politisch eine unterdrückte Bevölkerungsschicht dar, die nicht imstande ist, sich aus eigener Kraft von der Ausbeutung durch das Kapital zu befreien. Nur unter der Führung des Proletariats, das durch die Entwicklung des Kapitalismus entstanden ist, kann die durch das Kapital entkräftete Bauernschaft wieder in den Sattel gehoben werden und im Bunde und unter Führung des Proletariats die Agrarrevolution erfolgreich durchführen.

3. Die allgemeine Entwicklung der Landwirtschaft führt unter dem Kapitalismus zu einer einschneidenden Differenzierung des Dorfes, zum Zerfall der Bauernschaft in ein landwirtschaftliches Proletariat und eine ländliche Bourgeoisie, zur Entwicklung des Klassenkampfes auf dem Lande mit allen sich daraus ergebenden Folgen.

4. Das Proletariat kann die wirtschaftliche Hebung der kleinen Bauernwirtschaft vor Ergreifung der Staatsgewalt nicht fördern, verfolgt aber durchaus nicht das Ziel, den beim Kapitalismus unvermeidlichen Untergang dieser Kleinwirtschaft zu beschleunigen. Zugleich steht das Proletariat entschieden auf seiten des Kleinbauern.

5. Die Agrarrevolution kann nur vom Proletariat, und nur bei erfolgreicher gleichzeitiger sozialistischer Revolution durchgeführt werden. Eine von der Bourgeoisie ausgehende Revolution beschränkt sich euf den Ersatz der einen ausbeutenden Gruppe dnrch die andere, ohne die alte Staatsmaschine gänzlich zu vernichten, während eine proletarische Revolution allen ausbeutenden Gruppen die Macht entreisst und das Staatsruder dem Führer aller Ausgebeuteten und Werktätigen, dem Proletariat, in die Hand gibt.

6. Gegen die Reste des Feudalismus und gegen den Kapitalismus erhebt sich das Proletariat Hand in Hand mit der gesamten Bauernschaft, weil sich hier die Interessen der gesamten Bauernschaft Vereinigen. Beim Übergang von einer die Grundlagen des Kapitalismus nicht erschütternden demokratischen Revolution zu einem sozialistiscgen Umsturz spaltet das Proletariat die Bauernschaft nach ihren wirtschaftlichen Schichtungen, wobei es sich auf die Seite der niedrigsten Schicht stellt und den Kampf mit dem Kapitalismus und gleichzeitig mit der bäuerlichen Bourgeoisie aufnimmt.

7. Als Ausgangspunkt für die Auffindung richtiger gegenseitiger Beziehungen zwischen Proletariat und Bauernschaft muss das klare Verständnis der Doppelnatur der Bauernschaft gelten.

8. Es ist eine wichtige Aufgabe des Proletariats, mit der Bauernschaft wirtschaftliche und politische Beziehungen anzubahnen und mit ihr ein Bündniss einzugehen, dessen Ziel die Überwindung der Bauernschaft als Klasse auf dem Wege der Evolution sein muss, eine Organisation von Arbeitern und Bauern ohne sozialistische Klassenunterschiede Im Verlaufe des Kampfes für den Sozi-

alismus ändert sich der Inhalt des Bündnisses zwischen Arbeitern und Bauern. Der politische und soziale Block zwischen Proletariat und Bauernschaft hat in jeder Entwicklungsphase seinen besonderen konkreten Inhalt, der praktisch immer mehr und mehr zur Festigung der Diktatur des Proletariats dienen muss.

9. Die Tätigkeit der Bauernschaft muss in der Übergangsperiode zum Sozialismus unter der unmittelbaren Führung der proletarischen Diktatur verlaufen; andernfalls ist eine Erneuerung des Kapitalismus unvermeidlich, da sich das gegebene Land in kapitalistischer Umgebung befindet. Dabai muss die Führung der Bauernschaft durch das Proletariat auf vollem Vertrauen zur Arbeiterklasse fussen.

10. Unter der Diktatur des Proletariats kann es zwischen der Arbeiterklasse und der Bauernschaft dann zu grundsätzlichen Widersprüchen kommen, wenn die Interessen der grossen sozialistichen Wirtschafts betriebe und des kleinen Warenproduzenten einander gegenübertreten.

11. Die sozialistische Revolution und Diktatur des Proletariats entreissen Grund und Boden dem Privatbesitz und geben ihn in die Hände des Staates. Dabei wird die proletarische Nationalisation einerseits als Vorbedingung für die maximale Entwicklung der Produktionskräfte der Landwirtschaft benutzt, anderseits ist sie diejenige Vorbedingung, welche der Landwirtschaft den Übergang vom privaten bäuerlichen Kleinbesitz zum Sozialismus erleichtert.

12. Der Übergang von Grund und Boden in die Hände des Staats die Aufhebung des ausgedehnten Grossgrundbesitzes bedeuten durchaus nicht einen Niedergang der Grossproduktion in der Landwirtschaft, im Gegenteil, die Grossproduktion erreicht in der Landwirtschaft neue, höhere, auf kollektiver Grundlage aufgebaute Formen,

13. Neue höhere Formen der Organisation der Landwirtschaft sind die landwirtschaftlichen Kommunen und Sowjet-wirtschaftsbetriebe. Dabei bilden diese Kommunen und Sowjetwirtschaften das Mittel, kleine Betriebe in eine einheitliche planmässige Volkswirtschaft überzuleiten.

14. Die Entwicklung neuer sozialistischer Formen der Landwirtschaft verlangt die Entwicklung einer Grossindustrie als Grundlage für die Befriedigung der Bedürfnisse der Landwirtschaft an Betriebsmitteln. Industrie und Landwirtschaft müssen in ihrer Entwicklung in enger Wechselbeziehung stehen und sich gegenseitig unterstützen.

15. Als Resultat der systematischen Durchführung von Massnahmen zur Hebung der Technik und Organisation des landwirtschaftlichen Grossbetriebes unter Heranziehung der Massen zur sozialistischen Aufbauarbeit bei Benutzung wirtschaftlicher, kultureller, organisatorischer und anderer Vorzüge des neuen sozialistischen Systems wird eine Verschmelzung von Industrie und Landwirtschaft zu einer einheitlichen planmässigen Volkswirtschaft in Stadt und Land, eine einheitliche Gesellschaftsorganisation auf kommunistischer Grundlage erzeicht.

## Сьпіс выкарыстанай літаратуры.

*Маркс*—„Капитал" т. т. I и III. Изд. 1923 г.
*Маркс*—Теория прибавочной стоимости т. т. I и II.
*Маркс*—Борьба классов во Франции. Изд. 1923 г.
*Маркс*—18-е Брюмера Луи Банапарта. Изд. 1923 г.
*Маркс* и *Энгельс*—Коммунистический манифест.
*Энгельс*—Крестьянский вопрос во Франции и Германии. Изд. 1920 г.
*Энгельс*—Крестьянская война в Германии. Изд. 1926 г.
*Энгельс*—Революция и контрреволюция в Германии.
*Энгельс*—Происхождение семьи частной собственности и государства.
*Каутский*—Аграрный вопрос. Изд. 1923 г.
*Каутский*—Размножение и развитие... Изд. 1923 г.
*Каутский*—Социализм и сельское хозяйство.
*Ленин*—т. т. IX, XVII, XVIII, III. Изд. 1925 г. Из трудов Ленина взяты все работы, затрагивающие аграрный и крестьянский вопрос.
*Плеханов*—т. т. XII, XV и XVI.
*Сталін*—Пытаньні ленінізму. Выд. Бел. 1928 г.
*Маркс* и *Энгельс*—Письма. Изд. 1928 г.
*Сталин*—На путях к Октябрю. Изд. 1925 г.
*Бухарин*—Путь к социализму и рабоче-крестьянский союз. Изд. 1925 г.
*Архив Маркса и Энгельса*—т. II. Изд. 1928 г.
*Крицман*—Героический период великой русской революции. Изд. 1926 г.
*Лафарг*—Происхождение и развитие собственности. Изд. 1925 г.
*Милютин*—Аграрная политика СССР. Изд. 1927 г.
*Ларин*—Экономика досоветской деревни.
*Ларин*—Вопросы крестьянского хозяйства.
*Молотов*—Политика партии в деревне.
*Дубровский*—Столыпенская реформа. Изд. 1925 г.
*Дубровский*—Очерки русской революции (сельское хозяйство).
*Месяцев*—Аграрная политика в России. Изд. 1924 г.
*Чернышев*—Аграрный вопрос в России (1861—1917 г.).
*Батуринский*—Аграрная политика царск. правительства...
*Гайстер*—Расслоение Советской деревни. Изд. 1928 г.
Материалы к истории аграрной революции в России, т. I.
*Лященко*—Очерки аграрной эволюции в России.
*Милютин*—История экономического развития СССР. Изд. 1928 г.
*Кауфман*—Аграрный вопрос в России. Изд. 1919 г.
*Прокопович*—Аграрный кризис и мероприятельст. правит.
*Челинцев*—Русское сельское хозяйство перед революцией.
*Зеринг*—Аграрные кризисы. Изд. 1927 г.
*Шестаков*—Капитализация сельского хозяйства России. Изд. 1925 г.
*Леонтьев*—Социалистическое строительство и его критики.
*Танхилевич*—Маркс и Энгельс о крестьянстве.
*Лежнев-Фенковский*—Совхозы и Колхозы.
*Попов*—Марксизм о крестьянстве в пролетарской революции.
*Лежнев-Фенковский*—Индустриализация страны.
Марксизм и сельско-хозяйственная кооперация. Сбор. состав. Дьяков.

*Яковлев*—За колхозы. Изд. 1928 г.
*Митрофанов*—Колхозное движение.
Эконом. и социальн. роль электрофикации. Сб. с предисл. Кржижановского.
*Мануйлов*—К теории с.-х. эволюции. Изд. 1925 г.
*Коломойцев*—Крестьянство и революция.
*Попов*—Теория кооперации. Изд. 1928 г.
*Суханов*—К вопросу о с.-х. эволюц. в России. Изд. 1923 г.
*С. Маслов*—Крестьянское хозяйство.
*Давид*—Социализм и сельское хозяйство. Изд. 1906 г.
*П. Маслов*—Аграрный вопрос в России. Изд. 1926 г.
К вопросу о соц. переустройстве с.-х. Материалы Н. К. Р. К. И. СССР. Изд. 1927 г.
*Фортунатов*—Крестьянство—как союзник рабочего класса.
*Конюхов*—Коллективное земледелие.
*Ларин*—Советская деревня.
Очерки по аграрному вопросу под редакцией Е. Варги.
*Осинский*—Мировой кризис сельского хозяйства.

1964

Бел. аддзел
1994 г.

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

**1. Гістарычная неабходнасьць аграрнай рэвалюцыі.** 1. Пры капіталізьме разьвіцьцё ў земляробстве ідзе ў тым-жа напрамку, як і ў прамысловасьці. 2. Месца сялянства ў капіталістычнай эканоміцы. 3. Дыфэрэнцыяцыя сялянства. 4. Сялянства як сацыяльна-эканамічная катэгорыя. 5. Двоістая прырода сялянства. 6. Лёс сялянства пры капіталізьме. . . . . . . . 5— 35

**II. Роля сялянства ў рэвалюцыі.** 1. Аб рэвалюцыйных здольнасьцях сялянства і яго ролі ў рэвалюцыях. 2. Пралетарыят кіраўнік сялянства ў рэвалюцыях. 3. Тры этапы ў саюзе рабочай клясы з сялянствам. 4. Сялянства пры дыктатуры пралетарыяту . . . . . . . . 36— 68

**III. Разьвязаньне вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы.** 1. Прыватная ўласнасьць зьяўляецца тормазам прагрэсу ў земляробстве. 2. Права ўласнасьці, як фактар прысваеньня рэнты. 3. Абшчына перашкаджае разьвіцьцю сельскай гаспадаркі. 4. Нацыяналізацыя зямлі. 5. Як вырашыла аграрнае пытаньне сацыялістычная рэвалюцыя ў нашай краіне. . . . . . . 69— 97

**IV. Марксызм аб шляхох разьвіцьця вёскі.** 1. Перавага буйнай гаспадаркі і дробная сялянская гаспадарка. 2. Разьвіцьцё вёскі пры дыктатуры пралетарыяту. 3. Практычныя дасягненьні ў галіне аграмаджаньня сельска-гаспадарчага вытвару. 4. Падвядзеньне тэхнічнай базы пад сельскую гаспадарку. . . . 98—115

**V. Агульныя вывады.** . . . . . . . . 116

---

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ
БІБЛІЯТЭКА
БЕЛАРУСІ

